Друкуецца коштам ФУНДАЦЫІ імя ПЁТРЫ КРЭЧЭЎСКАГА
Costs of printing have been underwritten
by the KRECEUSKI FOUNDATION, Inc.



**A summary in English will be found at the end of each article.**

ADDRESS: ZAPISY
3441 Tibbet Avenue
Bronx, New York, 10463 U.S.A.

Price per copy — $ 8.00 Цана — 8.00 даляраў

УВАГА: Першыя 6 кніжак ЗАПІСАЎ былі выдадзеныя ў гадох 1952 — 1954 у Ню Ёрку; пяць далейшых у гадох 1962 — 1970 друкаваліся ў Мюнхене, Нямеччына.

NOTE: This volume is a continuation of the ZAPISY series which began its publication in 1952. Volumes 1 — 6 were published in 1952 — 1954 in New York; the consecutive 5 volumes (1-5) were printed 1962 — 1970 in Munich, Germany.

PRINTED BY:
ST. SOPHIA PRESS OF THE UKRAINIAN ORTHODOX CHURCH OF U. S. A.
166 FIRST AVENUE, NEW YORK, N. Y. 10009

# ДРУКАРНЯ ПЁТРЫ МСЬЦІСЛАЎЦА

## Да 400-годзьдзя віленскага Евангельля

**Вітаўт Тумаш**

Ды молім, не забывайцеся вы й нас,
што працавалі, шматгрэшнага Пётру,
Цімахвеявага сына, Мсьціслаўца.
З паслоўя да Евангельля 1575 году.

Чатырыста гадоў таму, 30 сакавіка 1575 году, з друку паказалася першае віленскае паскарынавае выданьне — літургічнае „напрастольнае" Евангельле. Кнігу надрукаваў у нованазаснаванай у Вільні друкарні дазнаны майстра друкарскае справы Пётра Мсьціславец. Мясьцілася друкарня ў самым цэнтры сталічнага места, непадалёк ад ратушы, пры рынку, у доме багатых купцоў Мамонічаў.

Вялікі ў ліст (фоліё) фармат Евангельля датарнаваны быў да літургічнага яго прызначэньня. Кніга аздобленая была заставіцамі, вялікімі ініцыяламі, мела ілюстрацыі з вобразамі чатырох евангелістых, ды вялікі чыткі, густоўнага рысунку, шрыфт, які праектаваў, выразаў ды адліў для свае друкарні сам Мсьціславец. Аздабляў выдатна кнігу й ужыты ў ей чырвоны кінаварны друк. Мова кнігі, як выданьня прызначанага для багаслужэбнага ўжытку ў праваслаўных цэрквах, была царкоўнаславянская.

Віленскае Евангельле 1575 году кніга сяньня вельмі рэдкая. Ёю ганарацца бібліятэкі й музэі сьвету што ў сваіх зборах яе маюць. У годзе 1576 з тае самае друкарні Пётры Мсьціслаўца выйшлі яшчэ дзьве кнігі важныя й для царкоўна-рэлігійнага, і для практычна-навучальнага тады сьвецкага ўжытку — Псалтыр ды Часоўнік.

Сяньня ведама, што выданьні Мсьціслаўца разыходзіліся ня толькі на землях Вялікага Княства Літоўскага, але й на прасторы ўсіх праваслаўнае веры краёў славянаў і ўсходніх, і паўдзённых. У выніку, хоць і кароткатрывалая, віленская выдавецкая дзейнасьць Пётры Мсьціслаўца мела вялізны ўплыў на далейшае разьвіцьцё кірылічнага друку.

Ды, не зважаючы на вялікія заслугі ў гісторыі кнігадруку, друкарска-выдавецкая спадчына Мсьціслаўца ўсё яшчэ

чакае на сваё грунтоўнае вывучэньне. Навуковая літаратура пра Пётру Мсьціслаўца наагул надта сьціплая. У ёй толькі вельмі агульна, а іраз і памылкова, прадстаўленыя тры пэрыяды ягонае друкарскае працы — маскоўскі, заблудаўскі ды віленскі. Выдатны беларускі майстра друку застаецца быццам у цяні друкароў-выдаўцоў іншых — Швайпольта Фэоля, доктара Франьцішка Скарыны, Мамонічаў, ды, асабліва, свайго сябры па друкарскай працы, Івана Федаровіча Масквіціна. На іх зьвярталася куды большая ўвага дасьледнікаў старога кірылічнага друку, як на Пётру Мсьціслаўца.

Мэта гэтага кароткага нарысу — выправіць пры нагодзе ўгодкаў некаторыя памылковыя пагляды на характар друкарскае дзейнасьці Пётры Мсьціслаўца апошняе пары ягонага жыцьця, пары віленскае, пагляды што складаліся яшчэ ў пачатку XIX стагодзьдзя, пры зараджэньні ўліку, вопісу ды кнігаведнага вывучэньня кірылічных старадрукаў, ды што часта бяскрытычна паўтараюцца й цяпер. Выправіць, абапіраючыся на паказаньні самога Мсьціслаўца ў пасьлоўях ягоных выданьняў, на ведамкі архіўных крыніцаў, ды на важныя кнігаведамі нядаўна раскрытыя факты. Коратка, толькі вельмі агульна, кранаюцца тут і некаторыя пытаньні, зьвязаныя з друкарскай працай Пётры Мсьціслаўца ў Маскве ды Заблудаве.

## Праца Мсьціслаўца ў Маскве ды Заблудаве

Як паказвае прозьвішча, Пётра Мсьціславец, сын Цімахвея, паходзіў з старавечнага беларускага места Мсьціслаўля што знаходзіцца каля ста кілямэтраў на ўсход ад Магілева. Прозьвішча „Мсьціславец", як з пастаўленых ім самым у ягоных выданьнях акцэнтаў відаць, вымаўлялася з націскам на першым складзе.

Калі, чаму, пры якой нагодзе Мсьціславец апынуўся ў Маскве, ніякіх паказаньняў не захавалася. Ды ў пасьлоўі кнігі „Апостал", друк якое пачаўся ў Маскве 19 красавіка 1563 году, а выйшла якая 1 сакавіка 1564 году, Пётра Мсьціславец названы як той, што разам з маскоўскім дыяканам Іванам Федаравым працаваў там пры складаньні й друку кнігі ды пры ўладжваньні друкарні.[1]) Як кажацца ў пасьлоўі кнігі, друкарня была заснаваная на загад ды коштам цара Івана Васілевіча (Грознага). Працаю тых самых друкароў 29 верасьня 1565 году выходзіць у Маскве й кніга другая, „Часовник". Праз месяц, 29 кастрычніка, „Часовник" быў надрукаваны другім, папраўленым выданьнем.

Хутка пасьля надрукаваньня Часоўніка друкаром даводзіцца кідаць Маскву ды ўцякаць у Вялікае Княства Літоўскае. Колькі гадоў пазьней, у пасьлоўі львоўскага Апостала 1574 году, за прычыну ўцёкаў Іван Федаровіч* падаў зайздрасьць, ліхія нагаворы ды прасьлед з боку вышэйшага маскоўскага духавенства, ды й „начальнікаў" сьвецкіх, якія ў надрукаваных кнігах пазнаходзілі „ерасі". Называе іх Іван Федаровіч людзьмі малаграматнымі, „духовым розумам" неабдоранымі.[2]). Пакідаючы Маскву, друкары захапілі з сабой некаторыя друкарскія матарыялы — заставіцы, буквіцы, хіба таксама й шрыфты, а найменш — іх матрыцы. Гэта ўсё скарысталі яны пры сваёй пазьнейшай друкарскай працы.

У Вялікім Княстве Літоўскім друкары-уцекачы былі сустрэтыя вельмі прыязна. Знайшлі яны тут шчодрую апеку ды магчымасьці друкарскае дзейнасьці. У тым-жа пасьлоўі да львоўскага 1574 году Апостала Іван Федаровіч кажа: „вяльможны пан Рыгор Хадкевіч, кашталян віленскі, гэтман найвышшы Вялікага Княства Літоўскага, староста горадзенскі ды магілеўскі, папрасіўшы шчыра гаспадара (вялікага князя й караля Жыгімонта Аўгуста — В. Т.), узяў нас пад сваю ласкавую апеку ды ўтрымліваў нас не малы час і ўсім патрэбным да жыцьця нас забясьпечваў".[3]

Гэтман Рыгор Хадкевіч пасяліў друкароў у сваім радавым Заблудаве што блізка Беластоку, з даручэньнем наладзіць тут друкарню для друку праваслаўных рэлігійных кнігаў. Сяродкаў на гэта гэтман не шкадаваў. Да палавіны 1568 году друкарня была нагэтулькі абсталяваная, што 3 ліпеня ў ёй пачаўся набор ды друк кнігі „Евангеліе оучительное". З друку евангельле паказалася 17 сакавіка 1569 году. Гэта кніга вялікага, у ліст, фармату, мае 399 балонак (798 бачынаў). Яна зьмяшчае павучэньні да евангельскіх тэкстаў айцоў царквы ды іншых аўтарытэтных царкоўных аўтараў, у гэтым ліку й Кірылы Тураўскага.

26 верасьня 1569 году ў заблудаўскай друкарні быў пачаты набор кнігі другое — Псалтыра з Часаслоўцам. Ці пры пачатку складаньня гэтае кнігі Мсьціславец у Заблудаве яшчэ быў ды ў працы памагаў, няведама. Як відаць аднак з пасьлоўя кнігі, якая з друку выйшла 23 сакавіка 1570 году, яе набор і друк канчаў ужо адзін Іван Федаровіч, бо імя Мсьціслаўца ў пасьлоўі не ўспамінаецца. Пётра Мсьціславец гэтым часам відавочна пакінуў ужо Заблудава ды пераехаў да сталічнае Вільні.

---

* Пасьля ўцёкаў на землі Беларусі сваё імя па бацьку Іван Федараў стаў ужываць на тагачасны лад беларускі з канчаткам на **-овіч**, — „Федаровіч" — замiж ужыванае ў Маскве формы маскоўскае на **-ов**, „Федоров", ды дадаваў цяпер яшчэ заўсёды мянушку „Масквіцін". Гэтак называецца ён у абодвух выданьнях, што зьявіліся на беларускай зямлі, у Заблудаве, — Евангельлі ды

## У сваёй друкарні

Праца над наладжаньнем у сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, у Вільні, першае паскарынавае друкарні заняла Пётру Мсьціслаўцу колькі гадоў часу. Прывезьці з сабой з Заблудава друкарскія прылады ці гатовыя шрыфты ён ня мог. Друкарня ў Заблудаве далей працавала, ішоў набор ды друк Псалтыра. Да гэтага, заблудаўская друкарня, якая паўстала з волі ды коштам Рыгора Хадкевіча, была ўласнасьцяй гэтмана. Толькі пасьля абарванае пазьней у ёй працы дзеля хваробы ды веку гэтмана, калі яна стаяла ўжо бязьдзейнаю, Хадкевіч дазволіў Івану Федаровічу забраць сабе абсталяваньне друкарні, якое той з часам перавёз да Львова.

Дык пачынаць друкарскую справу ў Вільні Пётру Мсьціслаўцу прыйшлося нанава, зь нічога, ды самому аднаму. Для гэтага меў ён толькі свае таленавітыя рукі, добрую ўжо веду друкарскае справы ды каштоўнае дазнаньне з гадоў папярэдняе працы ў Заблудаве ды Маскве.

Рысаваньне, вырэзваньне ды адліваньне патрэбнага камплету шрыфтоў, падрыхтова ініцыялаў, арнамэнтаў, ілюстрацыяў, друкарскіх прыладаў ды друкарскага прэсу, справа працаёмкая, вымагае шмат часу. Паважнай перашкодай у наладжаньні друку было хіба й тое, што ў гадох 1571-72 на Вільню найшла цяжкая пошасьць мору, а за ім зьявіўся й голад. Шмат жыхароў сталіцы тады вымерла, іншыя паразьбягаліся. Жыцьцё места на нейкі час было спаралізаванае.

У сваім паслоўі да першай у віленскай друкарні надрукаванай кнігі, да Евангельля 1575 году, за ўсю адвалоку зь яе ўладжаньнем сьціплы вельмі Мсьціславец вінаваціць у хрысьціянскай пакоры толькі сябе. Ён кажа, што як чалавек „грэшны й немашны" ды недастойны гэткае важнае сьвятое справы, ён доўга баяўся за яе брацца. Дзеля ягонае „няруплнасьці", „лянівасьці", „неразумнасьці" справа друку кнігі доўга адкладалася, хоць былі добрыя людзі, якія яго да гэтага ўвесь час і панукалі.[4]

---

Псалтыры. У паслоўі да Псалтыра ён сам піша: „А трудившийся многогрешный раб по имени Иван Феодорович Москвитин". І гэтман Хадкевіч у прадмове да Евангельля заве яго па бацьку „Федаровічам". Дык „Иван Федоров" гісторыі друку расейскага, у кнігах свайго друку што выйшлі на землях Беларусі, ці бо ў гісторыі беларускага друку, выступаў зь імём па бацьку толькі на **-овіч** — „Федаровіч". Шануючы волю выдатнага дзеяча ўсходнеславянскага кнігадруку, форму імя на **-овіч** тарнуем і ў гэтым тут нарысе: **Іван Федаровіч Масквіцін.**





**АПОСТАЛ ЯАН. Дрэварыт з Мсьціслаўцавага 1575 г. Евангельля. Рэпрадукцыя з экзэмпляру Евангельля што пераховўваецца ў Аддзеле рэдкае кнігі Публічнае Бібліятэкі Ню Ёрку.**

**By courtesy of the Rare Book Division, The New York Public Library, Astor, Lenox and Tilden Foundations.**

Не зважаючы на ўсе залежныя ад друкара й незалежныя перашкоды й прычыны, 14 травеня 1574 году друкарня была ўрэшце нагэтулькі абсталяваная, што можна было ў ёй пачынаць набор і друк багаслужэбнага Евангельля. Кніга, пасьля закончанага 30 сакавіка 1575 году друку, мела 396 балонак (792 бачыны).

Праз год, у годзе 1576, з друкарні выходзіць кніга другая, надрукаваная таксама для патрэбаў перш за ўсё царкоўных і таму вялікім фарматам — Псалтыр, які меў 250 балонак (500 бачынаў). Апрача ініцыялаў і заставіцаў у Псалтыры ёсьць і гравюра — вобраз цара Давіда. Выдаў Пётра Мсьціславец хутка й кнігу трэцюю, „Часовник", фармату ўжо меншага, у чацьвярціцу. Гэта асабліва рэдкая цяпер кніга. Ведамыя яе толькі тры экзэмпляры, ды ўсе не камплетныя, таму й дакладная дата выхаду не ўстаноўленая, хоць надрукаваная яна напэўна ў 1576 годзе. Часоўнік меў каля 200 балонак (400 бачынаў).

Дык, хоць наладжваньне друкарні цягнулася доўга, друк у ёй кнігаў пасьля ішоў ужо хуткімі тэмпамі. За два прыблізна гады Мсьціславец выдаў тры вялікія фарматам кнігі, што разам мелі каля 1700 бачынаў друку. Шпаркая праца друкарні довад таго, што над друкаваньнем кнігаў працаваў не адзін Мсьціславец, а што да помачы сабе патрапіў ён належна падвучыць патрэбных друкарскіх працаўнікоў.

Важна зьвярнуць увагу на тое, што віленская друкарня была першаю друкарняй у якой Пётра Мсьціславец быў сам гаспадаром. Заснаваная на загад і сяродкі цара друкарня маскоўская ў якой ён зь Іванам Федаровічам працаваў, была ў істоце друкарняй дзяржаўнай. Наладжаная-ж пазьней з даручэньня ды коштам Рыгора Хадкевіча друкарня ў Заблудаве была друкарняй гэтмана. Цяпер-жа, у Вільні, Пётра Мсьціславец здабыўся на друкарню, якую сам сваімі рукамі стварыў ды ў якой быў самастойным ужо гаспадаром. Калі тэхнічны бок друку ў Маскве ды Заблудаве быў супольнаю справаю Мсьціслаўца й Івана Федаровіча, цяпер гэта ляжала на адказнасьці аднаго Пётры Мсьціслаўца.

## Мэцэнаты віленскага кнігадруку

Калі Пётра Мсьціславец наладзіў ня лёгкую гэнымі часамі тэхнічна ды каштоўную фінансава справу друку, дык дзякуючы ня толькі сваёй працавітасьці, але й таму, што знайшоў ён гарачае ў гэтым падтрыманьне сярод багатых ды ўплывовых месьцічаў Вільні. У паслоўі да першае кнігі, да Евангельля, Мсьціславец кажа, што яна выходзіць „умышленіем і промышленіем яго міласьці пана скарбнага, старасты ўпіцкага, Івана Сямёнавіча Зарэцкага, ды брата яго, пана Зянова, бурмістра места віленскага", і што дзеля гэтага ім гэта, „пасьля Бога самога", належыцца й падзяка. Крыху далей у паслоўі Мсьціславец адзначае, што ўдзячнасьць за выхад кнігі прыслугоўвае таксама Кузьме ды Лукашу Мамонічам, „с благоволеніем нас пріемлющих, и почиха в дому их сіе дело строих".[5]

З прыведзеных словаў вынікае, што за галоўных ініцыятараў ды мэцэнатаў наладжаньня ў Вільні друкарні і выдавецтва Мсьціславец уважаў братоў Зарэцкіх. Паводле яго-нага аўтарытэтнага сьветчаньня, іх гэта „умышленіем і промышленіем", — ці бо задумам і захадамі, — друкарня паўстала, кнігі змаглі выходзіць. Дапамога-ж ад братоў Мамонічаў выражалася тым, што ў вадным з сваіх дамоў яны далі месца пад друкарню, там жыў і сам друкар.

У паслоўі да кнігі другое, да Псалтыра, Мсьціславец падзяку асаблівую выказвае ізноў Зарэцкім: „Паддаюся ўва ўсім вашаму загаду, будзьце мне міласьцівыя добрапачцівы пане скарбны й Зянові Зарэцкія ... вашым запаведзям пакарыўшыся ды вас паслухаўшы, надрукаваў гэтую кнігу, што называецца Псалтыр ... у годзе 1576, месяца студзеня 16 дня ... у слаўным месьце Віленскім, прабываючы ў доме дабрачэсных мужоў Кузьмы ды Лукаша Мамонічаў".[6]

Хто-ж гэта былі Зарэцкія „задумам і захадамі", якіх, як кажа Мсьціславец, да наладжаньня ў Вільні друкарні ды друку праваслаўных кнігаў дайшло?

Браты Зарэцкія былі багатымі й уплывовымі прадстаўнікамі тагачаснага купецкага стану Вільні. Былі яны таксама й уласьнікамі вялікіх зямельных валаданьняў, мелі шляхоцтва, дзякуючы чаму займалі высокія адказныя адміністрацыйна-дзяржаўныя становішчы. Іван Зарэцкі быў скарбным Вялікага Княства Літоўскага, ці бо разам з земскім маршалкам, канцлерам ды гэтманам належыў да ўраду Вялікага Княства. На ягонай адказнасьці былі ўсе фінансы й дзяржаўная маемасьць Вялікага Княства. Дык становішча скарбнага было міністэрскае рангі; паводле сучаснае тэрміналёгіі, быў гэта міністар фінансаў. Меў Іван Зарэцкі ў дадатку яшчэ й пасаду віленскага ключніка ды старасты ўпіцкага.

Іван Зарэцкі быў вельмі актыўным у рэлігійным і грамадзка-культурным жыцьці сталічнае Вільні, і ўсяго Вялікага Княства. У 1561 годзе ён падбаў пра тое, каб на двух віленскіх пляцох, што былі на вуліцы Савіч, каля царквы Сьвятога Спаса „дамы пабудавалі ... ку пажытку шпітальнаму". Брат Івана, Зянові, быў дзейным у самаўрадавым жыцьці места. Нейкі час быў ён райцам места, пасьля-ж бурмістрам Вільні.

Прадстаўнікамі багатае верхавіны купецкага стану Вільні былі й Мамонічы. І яны мелі шляхоцтва, свой гэрб. Паходзілі Мамонічы з Магілеўшчыны, там Мамонічаў згадваюць акты. У іхнай уласнасьці ці валаданьні было каля дзесяці маёнткаў і хвальваркаў. У Вільні-ж Мамонічы мелі пяць пляцоў на Зарэччы, склад-сьвіран на Лукішках ды ня менш сямі дамоў-камяніцаў. Дык дамоў у Вільні ў Мамонічаў хапала, і даць у вадным зь іх месца для друкарні ды на кватэру друкару для іх была справа простая.[7]) Мясьцілася друкарня праўдападобна ў тым доме Мамонічаў, што стаяў „против крамов темных, од ратуша до замку идучы по левой стороне лежачое".[8])

Мамонічы былі вельмі актыўнымі, вялі яны шырокі, міжнароданага засягу, гандаль. Лукаш Мамоніч да гэтага займаў і становішча адміністрацыйнае, быў дзісенскім старастам. Жанаты ён быў з дачкой Івана Зарэцкага Аўдоцяй. Дык Мамонічы былі ў блізкім сваяцтве з галоўнымі мэцэнатамі друкарскае дзейнасьці Мсьціслаўца, з Зарэцкімі.

Пасьля сьмерці ў 1585 годзе цясьця, Зарэцкага Івана, Лукаш Мамоніч заняў па ім і міністэрскае становішча скарбнага Вялікага Княства Літоўскага. Брат-жа Лукаша, Мамоніч Кузьма, даўжэйшы час быў бурмістрам Вільні, браў актыўны ўдзел у грамадзка-рэлігійнай працы, належыў да Сьвята-Траецкага брацтва. Справамі друку больш цікавіўся Мамоніч Кузьма, пазьней-жа й ягоны сын Лявон. Лявон Мамоніч быў чалавекам асабліва добра адукаваным. Ён пісаў прадмовы да выдаваных кнігаў, складаў і друкаваў вершы.

Дапамога Мамонічаў у друкарска-выдавецкай справе, апрача дадзенага ў сваім доме месца пад друкарню, асабліва важная была іхнымі шырокімі краёвымі ды замежнымі купецкімі сувязямі з гатоваю сеткай гандлёвых пунктаў і агентураў. Гэта выдатна спрашчала справу збыту прадукцыі друкарні. Для прадажы кнігаў важнымі былі, пэўне-ж, замежныя гандлёвыя кантакты з праваслаўнымі краямі паўдзённых славянаў ды з Маскоўшчынай.

Як бачым, зразуменьне патрэбы й вагі друкаванае кнігі, маральнае й матар'яльнае падтрыманьне для выдавецкае справы, Мсьціславец у сталічнай Вільні знайшоў не сярод праваслаўнага духавенства, але ў людзей, што канцэнтравалі ў сваіх руках фінансавыя ды зямельныя багацьці ды, дзякуючы шляхоцкім, прыналежным фэўдалам, прывілеям, займалі ў дзяржаве высокія ўрадавыя становішчы, мелі вялікія ўплывы. Як сам Мсьціславец у пасловах кнігаў адзначыў, найбольш яму дапамаглі й маральна, і хіба-ж і матарыяльна, пры наладжваньні друкарні ды выдаваньні кнігаў Зарэцкія. Гэта яны былі галоўнымі мэцэнатамі-апякунамі віленскае друкарскае працы Пётры Мсьціслаўца.



## Непаладкі з Мамонічамі

Энэргічна пачатая пасьля наладжаньня друкарні выдавецкая праца неспадзеўкі хутка абарвалася. Прычына гэтага — канфлікт Мсьціслаўца з уласьнікамі дому ў якім знаходзілася друкарня, адначасных удзельнікаў у выдавецтве, з Мамонічамі. Нялады завастраюцца хутка нагэтулькі, што спрэчку даводзіцца разглядаць судом, ды судом тымчасам не афіцыйным, але грамадзкім, „кампрамісарскім", ці бо палюбоўным. Справа разглядаецца ў сакавіку 1576 году. Апрача выбраных абодвума бакамі спасярод „людзей зацных" давераных судзьдзяў, быў на разглядзе справы й Пётра Мсьціславец, а ад Мамонічаў — Мамоніч Кузьма. На судзе дайшло да „кампраміснае" згоды бакоў, ды згоды не на далейшае супрацоўніцтва, але на ўмовы канчальнага разрыву.

Разгледзіўшы відавочна дакумэнты справы ды довады бакоў, сябры палюбоўнага суду аднагалосна пастанавілі, што Мсьціслаўцавым было „вшелякое начине друкарни належачое, штокольвек на той час при той друкарни было". Дык друкарскія прылады й шрыфты, усё тэхнічнае абсталяваньне друкарні судзьдзі прызналі за бясспрэчную ўласнасьць Пётры Мсьціслаўца. У судзьдзяў, давераных прадстаўнікоў двух бакоў ды „людзей зацных", ня было відавочна ніякага сумлеву, што друкарня была ўласнасьцяй не Мамонічаў, але Мсьціслаўца.

Усе нераспрададзеныя яшчэ экзэмпляры надрукаваных у друкарні кнігаў — Евангельля, Псалтыра ды Часоўніка, — якія паводле Мсьціслаўца „спольным накладом з Кузьмою друковали", пастановаю суду мог забраць Кузьма Мамоніч, але толькі па сплаце Мсьціслаўцу 30 копаў грошаў „личбы литовское", паколькі на друк „спольным накладом" кнігаў Мсьціславец даваў відавочна ня толькі працу сваю й свае друкарні, але й грошы. На гэткую суму згадзіўся й Кузьма Мамоніч ды тут-жа выдаў Мсьціслаўцу адпаведную расьпіску. Суд забавязаў Мамоніча заплаціць грошы Мсьціслаўцу не пазьней году. Толькі сплаціўшы належнасьць Мсьціслаўцу Мамоніч мог забраць з друкарні кнігі, Мсьціславец-жа — „ўсякае начыне" друкарні, ці бо друкарскія прылады й матарыялы.

Абодвы бакі забавязаліся таксама, што складуць на рукі „кампрамісарскіх" судзьдзяў па 200 копаў грошаў на „заруку" таго, што прынятыя судам пастановы кажны зь іх выканае не пазьней аднаго году, да 25 сакавіка году 1577. Калі-б-жа якіколечы з бакоў да гэтага тэрміну дамоўленых забавязаньняў ня выканаў, дык з уплачаных ім 200 копаў зарукі адна палавіна мела прыпасьці судзьдзям, другая-ж — боку супраціўнаму. Кнігі й уся маемасьць друкарні былі тут-жа сьпісаныя ды ў памешканьні друкарні запячатаныя.

Пададзеныя ў „кампрамісарскіх" пастановах факты вельмі цікавыя й важныя для гісторыі друку віленскага ды беларускага наагул. Яны дакумэнтальна высьвятляюць характар удзелу Мамонічаў у наладжаным Пётрам Мсьціслаўцам друкарска-выдавецкім прадпрыемстве ды, што асабліва важна, даюць ясны адказ на пытаньне: чыёй у запраўднасьці была першая віленская паскарынавая друкарня, друкарня 1574-76 гадоў, якую заснаваў ды ў якой кнігі выдаваў Пётра Мсьціславец.

З пастановаў вынікае, што ў давераных абодвух бакоў ня было ніякіх сумляваньняў у тым, што друкарня, усе яе прылады, гэта ўласнасьць Пётры Мсьціслаўца. З таго-ж, што Кузьма Мамоніч, каб мець права ўзяць нераспрададзеныя яшчэ кнігі, на судзе забавязаўся заплаціць Пётру Мсьціслаўцу 30 копаў грошаў, ды на гэтую суму выставіў і расьпіску, відаць, што справядлівымі пастановы прызнаў ды зь імі згадзіўся й ён.

Дык Пётра Мсьціславец ня быў багатырамі Мамонічамі толькі нанятым ды ад іхнае волі, ласкі й грошаў залежным друкаром, як у навуковай літаратуры традыцыйна яго прадстаўляюць, але самастойным гаспадаром свае друкарні ды адзіным яе ўласьнікам.

## Лёс Мсьціслаўцавай друкарні

Пагляд, які ад мінулага яшчэ стагодзьдзя паўтараюць аўтары й папулярнай і навуковай літаратуры, што Пётра Мсьціславец друкарню ў Вільні заснаваў не для сябе, але для Мамонічаў, ды ў іх працаваў ён друкаром, дакумэнтальныя ведамкі з крыніцаў архіўных, як бачым, станоўка запярэчваюць. Актавыя запісы сьцьвярджаюць бясспрэчны факт, што гаспадаром і ўласьнікам віленскае друкарні гадоў 1574-76 быў сам яе заснаўнік — Пётра Мсьціславец.

Пры наяве аўтарытэтнае вымовы актавых крыніцаў у пытаньні ўласнасьці друкарні важна ўсё-ж высьвятліць яшчэ тое, ці Пётра Мсьціславец сваю друкарню, яе „начыньне ўсякае", прылады ды шрыфты, з дому Мамонічаў змог запраўды забраць. Магло-ж быць і гэтак, што не зважаючы на судовыя дамовы ды пратаколы, пацьверджаныя навет подпісамі самога Мамоніча, свае друкарні зь іхнага дому Мсьціславец забраць ня мог, што яна ўсё-ж засталася ў Мамонічаў.

Мець трэба на ўвеце, што Мамонічы былі старымі ўжо месьцічамі Вільні, да гэтага-ж багатымі ды на высокіх самаўрадавых і дзяржаўных становішчах купцамі. Пётра-ж Мсьціславец тымчасам быў ад гадоў ледзь колькіх аселым у месьце чужніком з далёкага правінцыянальнага Мсьціслаўля, ды сьціплым усяго майстрам друкарскае справы. Дык



па багацьці ды ўплывах сілы двух бакоў былі вельмі-ж няроўныя.

Была па боку Мамонічаў канкрэтная перавага й тая, што друкарня, хоць і апячатаная „кампрамісарскімі" судзьдзямі, знаходзілася ўсё-ж у іхным доме, ключы ад якога мелі хіба-ж яны, як яго собсьнікі. Дзеля гэтага, хоць судовыя запісы й высьвятляюць нам, што друкарня „дэ юрэ" ня была Мамонічаў, ды мець на ўвазе трэба й магчымасьць, што Мамонічы маглі заўладаць ёю „дэ факто". А з часам, пасьля даўжэйшае судовае валакіты, пераняць яе й легальна.

Што падобную разьвязку Мамонічы маглі браць на ўвагу, наводзіць на думку тое, што хоць Кузьма Мамоніч з пастановамі палюбоўнага суду згадзіўся, бо сваім подпісам пацьвердзіў, што грошы за надрукаваныя супольным „накладам" кнігі Мсьціслаўцу вінаваты й іх яму аддасьць, пазьней з выплатай належнае Мсьціслаўцу сумы не сьпяшаўся.

Таму праз год, калі 25 сакавіка 1577 году тэрмін платы мінуў, адчакаўшы яшчэ чатыры тыдні, 22 красавіка, Пётра Мсьціславец справу кіруе ўжо на афіцыйны юрыдычны шлях, — ён складае скаргу на Мамоніча ў магістрат. Прыводзіць з сабой Мсьціславец і двух сьветкаў, ці не сваіх судзьдзяў суду палюбоўнага, на пасьветчаньне таго, што Кузьма Мамоніч ускладзеных на яго „кампрамісарскім" судом дамоваў у тэрміне не датрымаў, прынятых на сябе забавязаньняў ня выканаў. Пётра Мсьціславец дзеля гэтага дамагаўся цяпер ад Кузьмы Мамоніча ня толькі тых грошаў, „што ми винен коп тридцать водля описа своего", але таксама й „заруку в листе компромисном описаную", — ці бо даходзіў ад Мамоніча й дадатковых 100 копаў грошаў штрафных.

Тыдні два пазьней, 2 травеня 1577 году, праз урадоўца віленскага магістрату Мікалая Чамбара, Пётра Мсьціславец шле Кузьме Мамонічу афіцыйную позву. Ён кліча яго зьявіцца „перед панов бурмистров на ратуш у Вильни", ды высьніць, чаму ня выканаў ускладзеных „кампрамісарскім" судом забавязаньняў.

Як праходзіў ды чым урэшце скончыўся магістрацкі разгляд скаргі Мсьціслаўца на Кузьму Мамоніча перад „панамі бурмістрамі", ня ведама, бо акты далейшага ходу справы ці не захаваліся, ці яшчэ ня знойдзеныя. Ды апошнім часам былі выяўленыя вельмі важныя факты, якія кідаюць зыркае сьвятло на далейшы лёс шрыфтоў і друкарскіх матар'ялаў друкарні Пётры Мсьціслаўца, а разам даюць і адказ на пытаньне: дабіўся Пётра Мсьціславец ад Мамонічаў свайго друкарскага „начыньня", сваіх шрыфтоў, свае друкарні, ці не?

Ведама, што з выхадам, ці не ў сакавіку 1576 году, трэцяе й апошняе кнігі Мсьціслаўцавага выданьня, Часоўніка, больш ніякіх кнігаў ён ужо не друкаваў. На працягу сямі да-

лейшых гадоў ніякіх кнігаў не выдавалі яшчэ й Мамонічы. Толькі 24 чырвеня 1583 году выходзіць у Вільні „Служэбнік", пры канцы якога сказана: „Выдрукована сия книга Служебник у славном и столечном граде Вильни. З друкарни дому Мамоничов". Важна адзначыць, што надрукаваная была кніга ня шрыфтамі друкарні Мсьціслаўца.

Пра Пётру Мсьціслаўца ў кнізе ніякое згадкі. З гэтага вынікае, што ў наборы й друку гэтае кнігі Мсьціславец ніякага ўдзелу ня браў. Служэбнік — гэта першая кніга надрукаваная ў друкарні Мамонічаў, і дата 24 чырвеня 1583 году, гэта запраўдная дата пачатку выдавецкае прадукцыі гэтае друкарні, а ня год 1575, год выхаду Мсьціслаўцавага Евангельля, як памылкова падаецца ў літаратуры пра друкарню Мамонічаў.

На працягу далейшых сараку гадоў, пачынаючы ад Служэбніка 1583 году, зь вельмі заслужанае для беларускага кнігадруку друкарні Мамонічаў выходзіць каля ста рэлігійных і сьвецкіх выданьняў у мовах беларускай, царкоўнаславянскай, польскай. Друкарня на іх абазначаецца словамі, якіх ніколі ня ставіў на сваіх выданьнях Мсьціславец: „В друкарни Мамоничов", „В друкарни Дому Мамоничов".

Тры выданьні Мсьціслаўца — Евангельле, Псалтыр і Часоўнік — ды кірылічныя выданьні друкарні Мамонічаў, пачынаючы ад Служэбніка 1583 году, нядаўна ўважна па арыгіналах вывучыла маскоўская дасьледніца старадрукаў А .С. Зярнова. Супаставіўшы шрыфты, ініцыялы, заставіцы ды іншыя скарыстаныя ў гэтых выданьнях графічныя матар'ялы, яна зрабіла гэткі высноў:

> Прыраўнаўшы выданьні кідаецца адразу ў вочы розьніца між неахайным крыху шрыфтом Мамонічаў і нязвычайна чыткім шрыфтом Мсьціслаўца. Пры вывучэньні пазьнейшых выданьняў Мамонічаў высьняецца дакладна, што ў іх не засталося ня толькі шрыфта, але й ніводнае дошкі з арнамэнту Мсьціслаўца.[9]

Свае важныя для гісторыі віленскага кірылічнага друку высновы А. С. Зярнова завяршае гэткімі разважаньнямі:

> Пра далейшы ход справы (судовае справы Мсьціслаўца з Мамонічамі — В. Т.) не захавалася ніякіх дакумэнтаў. Усё гэта дало повад гісторыкам кнігадруку гаварыць, што мясцовы багатыр Мамоніч мог ня лічыцца з пастановаю суду й што, захапіўшы друкарскую маемасьць, Мамонічы працягвалі працу ў сваёй друкарні. Гарадзкі суд у Вільні XVI стагодзьдзя, відавочна, меў дастаткова аўтарытэту, каб абараніць інтарэсы прыежджага друкара, і ягонай пастанове павінен быў падпарадкавацца й мясцовы багатыр; апячатаны друкарскі матар'ял быў урэшце выдадзены майстру.[10]



Як высьніла тая-ж Зярнова, ні шрыфты, якімі Мсьціславец надрукаваў свае тры віленскія выданьні, ні якіяколечы скарыстаныя пры іх друку арнамэнты ня сустракаюцца больш ня толькі ў кнігах выдадзеных друкарняй Мамонічаў, але й у ніякіх іншых віленскіх выданьнях. З гэтага вынікае, што хоць судовую справу Мсьціславец выйграў ды сваіх шрыфтоў і друкарскіх прыладаў ад Мамонічаў дамогся, але ці дзеля немаладога хіба ўжо веку, ці мо хваробы, або навет і сьмерці, да друкарска-выдавецкае справы больш ён ужо не вярнуўся.

Толькі гадоў праз дваццаць ад часу судовае справы Мсьціслаўца з Мамонічамі віленскія шрыфты ды друкарскія матар'ялы друкарні Мсьціслаўца зьяўляюцца на Валыні, у друкарні Астроскай. Там, надрукаваная шрыфтамі Мсьціслаўца, у 1594 годзе выходзіць „Книга о постничестве", у 1598 годзе „Грамматика", у годзе 1602 „Часословец". І гэта выявіла А. С. Зярнова, якая адначасна зазначыла, што факт гэты — найбольш пераконлівы довад таго, што шрыфтоў і друкарскіх матар'ялаў свае віленскае друкарні Пётра Мсьціславец ад Мамонічаў усё-ж дабіўся.[11]

Прычыны, чаму Пётра Мсьціславец друкарскае й выдавецкае працы пасьля разрыву з Мамонічамі нанава не пачынаў, ня ведамыя. Ды няма падставаў уважаць, што на перашкодзе гэтаму стаялі нейкія фінансавыя цяжкасьці, што бяз былых супольнікаў у выдавецтве, Мамонічаў, выдаваць кнігі самому было яму не пад сілу. Зь віленскіх магістрацкіх запісаў відаць, што Мсьціславец у патрэбе мог скласьці „кампрамісарскаму" суду й паважную суму, бо 200 копаў літоўскіх грошаў „зарукі". Як пададзена ў Літоўскім Статуце 1588 году, 2 капы грошаў гэнымі часамі гэта цана аднаго каня. Дык за 200 копаў тады можна было купіць стогаловы табун коняў. З гэтага відаць, што Пётра Мсьціславец дыспанаваў паважным капіталам і нястача грошаў не магла быць яму перашкодай у аднаўленьні свае друкарні.

Прычынаю не магла быць і нейкая незараднасьць. Віленская друкарская дзейнасьць Мсьціслаўца паказвае, што быў ён ня толькі дасканалым майстрам друку, але й здольным адміністратарам прадпрыемства. Ягоная віленская друкарня была шмат спраўнейшая, фінансава-ж мацнейшая за падобную таго часу самастойную друкарню Івана Федаровіча Масквіціна ў Львове.

Дзейнасьць абедзьвюх друкарняў двух былых сяброў друкарскае справы трывала прыблізна па два гады: друкарня Масквіціна працавала ад лютага 1573 году да году 1575-га, друкарня-ж Мсьціслаўца ад травеня 1574 году да сакавіка 1576 году. Калі за ня цэлыя два гады Мсьціславец набраў ды надрукаваў тры вялікія кнігі, разам 1700 бачынаў,

друку, дык Масквіцін за гэты самы час выдаў толькі Апостала ды фарматам невялікім буквар, разам 716 бачынаў.

Што віленская прадпрыемства Мсьціслаўца стаяла на мацнейшай фінансавай базе за львоўскае Масквіціна, паказваюць факты ведамыя з архіўных актаў. Хоць усё выснашчэньне друкарні Іван Федаровіч прывёз да Львова з Заблудава гатовае, на другім ужо годзе свае самастойнае друкарскае дзейнасьці ў Львове ягоная друкарня фінансава заламалася. На пакрыцьцё параблених даўгоў яму давялося пазычыць, пад заклад друкарні, 700 злотых у Сенькі Седляра з львоўскага Падзамча.[12]

Мсьціславец-жа тымчасам, як відаць зь віленскіх судовых запісаў, па двух гадох самастойнае друкарска-выдавецкае працы ня толькі захаваў за сабой у цэласьці друкарню, друкарню зусім нанава створаную, але ня меў ніякае патрэбы даваць яе каму небудзь у заклад. Паважную суму, 30 копаў грошаў „літоўскае лічбы" быў вінаваты яму яшчэ ягоны супольнік у выдавецтве Кузьма Мамоніч. Да гэтага, у стане ён быў скласьці ў патрэбе палюбоўнаму суду вялізную суму зарукі ў вышыні 200 копаў літоўскіх грошаў.

З гэтага вынікае, што віленская друкарня й выдавецтва ў асобе Пётры Мсьціслаўца мелі здольнага, зараднага гаспадара, яны добра разьвіваліся, ды што ён быў лепшым і арганізатарам, і адміністратарам друкарскага прадпрыемства за Івана Федаровіча Масквіціна.

### Удзел Мамонічаў у выдавецтве Мсьціслаўца

Як выясьніла А. С. Зярнова, ні сваімі шрыфтамі, ні заставіцамі, ні ініцыяламі друкарня Мамонічаў ня была зьвязаная з друкарняй Мсьціслаўца. Гэта значыць, што пазьнейшая на гадоў восем за Мсьціслаўцаву друкарня Мамонічаў была друкарняй наладжанай зусім нанава, безь ніякое тэхнічнае апоры на сваю віленскую папярэдніцу, на друкарню Мсьціслаўца. Сваю друкарню Мамонічы ад пачатку абсталявалі зусім новымі шрыфтамі, друкарскімі матар'яламі й прыладамі.

На аснове архіўных дадзеных цяпер ведама й хто Мамонічам шрыфты выканаў. Для гэтага на пачатку 1582 году, на запросіны Мамонічаў, да Вільні прыяжджаў з Львова заблудавец Грынь Івановіч, памочнік Івана Федаровіча Масквіціна ў друкарскай працы.[13] Ён нарэзаў і адліў Мамонічам два камплеты шрыфтоў — адзін буйнейшы, другі меншы, курсыўны, які сваімі формамі быў абаснаваны на скарапісе віленскае вялікакняжае канцылярыі. Гэтак паўстала беларуская курсыва, першая ды даўжэйшы час адзіная кірылічная курсыва. Расейская курсыва зьявілася толькі ў трыццатых гадох XVIII стагодзьдзя. Кірылічная курсыва друкарні Мамонічаў гэта той шрыфт, якім, між іншага, колькі газоў пазьней быў надрукаваны ведамы Літоўскі Статут 1588 году.

Толькі здабыўшыся на свае шрыфты, Мамонічы змаглі пачаць урэшце працу над наборам ды друкам першае кнігі свае друкарні, Служэбніка 1583 году. Ад гэтага часу друкарня Мамонічаў працавала бесьперапынна гадоў больш сорак. Аўтары, што друкарню Мсьціслаўца 1574-76 гадоў лічаць за друкарню Мамонічаў, а віленскую друкарска-выдавецкую дзейнасьць Пётры Мсьціслаўца памылкова ўважаюць за працу ў Мамонічаў, мусяць адзначаць незразумелы ім ды нічым не апраўданы час „застою" або „перарыву" ў працы друкарні ў гадох 1577-82, калі зь яе ня выйшла ніводная кніга. Пазьнейшы-ж выхад у 1583 годзе Служэбніка Мамонічаў называюць яны „аднаўленьнем" працы друкарні.

У сьвятле разгледжаных, на дакумэнтах абгрунтаваных фактаў няма ніякіх падставаў гаварыць пра „перарыў" ці „застой" у працы друкарні Мамонічаў дзеля тае простае прычыны, што друкарня Мамонічаў у гады „перарыву" наагул яшчэ ня існавала. У годзе-ж 1583 было не „аднаўленьне", але пачатак працы „Друкарні Дому Мамонічаў".

Калі сяньня няма ўжо сумлеву, што Мсьціславец, хоць друкаваў у доме Мамонічаў, бо там мясьцілася ягоная друкарня, але друкаваў у друкарні сваёй, а не Мамонічаў, дык крыху накш было з выдавецтвам, у якім Мамонічы ўдзел мелі. Але й пра выдавецтва няма падставаў казаць, што яно было Мамонічаў, а ня Мсьціслаўца. Як судовыя акты паказваюць, Кузьма Мамоніч быў толькі супольнікам Мсьціслаўца ў выдавецтве, толькі сувыдаўцом кнігаў. Мсьціславец апрача свае друкарні, свае працы друкара ды кіраўніка друкарні, даваў яшчэ на друк кнігаў і свой капітал: „спольным накладом з Кузьмой друкавалі", заявіў ён у сваёй скарзе на Мамоніча віленскаму магістрату.

З боку Мамонічаў, як уклад у выдавецтва, улічаліся напэўна й кошты памяшчэньня пад друкарню ў іхным доме ды кватэра для друкара. Наіўна было-б дапушчаць, каб гэткія дасужыя купцы, як Мамонічы, давалі гэта Мсьціслаўцу дарма, бескарысьліва, ды што кошты гэтыя ня былі ўзятыя пад увагу ў часе разьліку на палюбоўным судзе пры ліквідацыі выдавецкае супалкі.

Усё-ж, не зважаючы й на гэта, каб узяць сабе нераспрададзеныя яшчэ кнігі „спольнага накладу", Кузьме Мамонічу давялося заплаціць даволі паважную суму, 30 копаў грошаў, што, паводле Літоўскага Статуту, раўнялася тады цане 15-ёх коняў. З гэтага відаць, што удзел Мамонічаў у выдавецтве ня быў і гэткі вялікі ды што супольнікам галоўным, зь пераважаючым капіталам, быў Мсьціславец.

Кідаецца ў вочы, што ў судовых запісах зусім ня згадваюцца спагадлівыя асабліва Пётру Мсьціслаўцу браты Зарэцкія, якія былі галоўнымі ініцыятарамі ды апякунамі справы друку праваслаўных кнігаў у Вільні. Як з Мсьціслаўцавых паслоўяў відаць, браты Зарэцкія былі душою віленскага друкарскага пачыну. Славіў іх за гэта Мсьціславец шчодра ў паслоўі кажнае выдадзенае ім кнігі. Паколькі Зарэцкія былі ў блізкім сваяцтве з Мамонічамі, а з другога боку вельмі прыхільнымі Мсьціслаўцу, канфлікт ягоны з Мамонічамі відавочна паставіў іх у нязручнае палажэньне, і ў часе спрэчкі яны трымаліся збоку. Вымоўны вельмі факт, што хоць друкарскую працу й выдавецтва Мсьціслаўца Зарэцкія горача падтрымлівалі, нічога ня ведама пра нейкі іхны удзел у пазьнейшай друкарска-выдавецкай дзейнасьці спароднеых зь імі блізка Мамонічаў.

Калі няма падставаў адмаўляць і Мамонічам, што й яны, як Зарэцкія, зацікаўленыя былі кнігадрукам і з рэлігійна-ідэйных меркаваньняў, ды ўсё-ж, як купцоў вельмі апэратыўных, кнігі іх напэўна моцна цікавілі й з гандлёвага боку, як тавар. Дзеля гэтага яны хіба хацелі ўзалежніць Мсьціслаўцава выдавецтва, а магчыма й друкарню, ад свайго капіталу. Ды Мсьціславец ня меў ніякага жаданьня выпускаць з рук выдавецтва, што добра разьвівалася, ды працаю сваіх рук створаную друкарню. А што Мамонічы мелі ахвоту займець сваю друкарню, відаць гэта з таго, што калі ўзалежніць ад сябе Мсьціслаўца як друкара ім не ўдалося, яны не шкадавалі захадаў і грошаў на тое, каб заснаваць друкарню сваю.

Важна адзначыць, што хоць Мамонічам друкарскае вынашчэньне для свае друкарні давялося ствараць самым, гэта ня значыць, што віленская дзейнасьць Мсьціслаўца нічым ня прычынілася да паўстаньня іхнае друкарні. Перш за ўсё ніхто іншы, як Пётра Мсьціславец працаю свае друкарні ў доме Мамонічаў раскрыў ім, галоўна Мамонічу Кузьме, тэхнічныя сакрэты друкарскага майстроўства.

Друкарскае дазнаньне ў Мсьціслаўца напэўна здабывалі й тыя працаўнікі, што пазьней працавалі ў друкарні Мамонічаў. Паказвае на гэта тое, што пасьля выразаньня ды адліцьця Грынем Івановічам Заблудаўцам шрыфтоў Мамонічам, яны яго для працы ў сваёй друкарні ўсё-ж не затрымалі, змаглі абыйсьціся й без яго. Працу свае друкарні — набор і друкаваньне кнігаў — Мамонічы бяз труду маглі павесьці пры дапамозе з друкарскай справай ужо абазнаных, Мсьціслаўцам узгадаваных, мясцовых віленскіх працаўнікоў.

Дык друкарская дзейнасьць Пётры Мсьціслаўца ў Вільні падрыхтавала грунт для пазьнейшае друкарні Мамонічаў, справу заснаваньня ды працы гэтае друкарні яна Мамонічам выдатна ўпрасьціла. Навет і большы шрыфт друкарні Мамонічаў Грынь Івановіч выразаў бяручы за ўзор шрыфт Мсьціслаўца, хоць копія, як адзначыла гэта Зярнова, ня была на вышыні арыгіналу.



### Сьлядамі памылкі бібліяграфаў

Хоць багатыя ўплывовыя Мамонічы не далі калісьці рады перабраць у сваё валаданьне не сваю друкарню, пару сот гадоў пазьней яе ўсё-ж Мсьціслаўцу забралі ды Мамонічам прыпісалі бібліяграфы, што віленскія Мсьціслаўцавы выданьні гарталі, апісвалі, друкарскім іх майстроўствам захапляліся. Бяскрытычна паўтаралі гэта за імі й гісторыкі кнігадруку. Пра віленскі пэрыяд дзейнасьці Пётры Мсьціслаўца, як правіла, выказваецца пагляд, што ён быў тады друкаром друкарні Мамонічаў.

Гэтак інфармавалі, пачынаючы ад В. Сопікава ў 1813 годзе, усе бібліяграфы. Сопікаў, які знаў яшчэ толькі Псалтыр Мсьціслаўца, пра яго пісаў: „Псалтыр . . . напечатана Лукою Мамоничем в собственной типографии, Вильна, 1575 ?”.[14] В. Ундольскі ў 1848 годзе падаваў: „Псалтырь, напеч. в Вильне, у Л. Мамонича, 1575”,[15] у годзе-ж 1871 паўтарыў: „Псалтырь, напеч. Петр. Тим. Мстиславцем . . . у Л. Мамонича”.[16] Ведамы бібліяграф Іван Каратаеў, рэгіструючы ў 1883 годзе Мсьціслаўцава Евангельле ды Псалтыр, пра кажную з гэтых кнігаў падае: „надрукаваная ў Вільні Пётрам Цімафеявым Мсьціслаўцам у друкарні Мамонічаў”.[17]

Сьледам за расейскімі паўтаралі тоесамае й бібліяграфы польскія, між імі й выдатны К. Эстрайхэр,[18] а ў часох ужо паваенных і аўтары кнігі 1959 году “Drukarze dawnej Polski”, хоць яны й адцемілі, што „Пётра й Кузьма былі ўласьнікамі друкарні”.[19] Зь бібліяграфаў беларускіх Вацлаў Ластоўскі ў сваёй „Гісторыі беларускай кнігі” 1926 году пісаў: „Псалтыр . . . друк Пятра Мсьціслаўца ў Вільні, у друкарні дому Мамонічаў”. Адно пра Евангельле інфармацыя ў Ластоўскага без „Мамонічаў”: „друкавана ў 1575 годзе ў Вільні Пятром Цімафеевічам Мсьціслаўцам”.[20]

На апраўданьне даўнейшых бібліяграфаў можна было-б паклікацца на тое, што актаў судовае справы Мсьціслаўца з Кузьмою Мамонічам яны ня зналі, бо-ж апублікаваныя яны былі толькі ў 1883 годзе. Ды й гэта, строга бяручы, іх усё-ж не апраўдвае. Апісвалі-ж яны, як правіла, старыя кнігі „дэ візу”, паводля арыгіналу, а на выданьнях Пётры Мсьціслаўца нідзе ні разу не напісана, што надрукаваныя яны **ў друкарні** Мамонічаў. Там кажацца толькі, што друкаваў іх Пётра Мсьціславец **у доме** Мамонічаў.

Бібліяграфаў ды гісторыкаў беларускіх старадрукаў выяўна бянтэжыла ды й усё яшчэ бянтэжыць тое, што друкар-

ня Пётры Мсьціслаўца 1574-76 гадоў мясьцілася ў тымсамым доме, доме Мамонічаў, у якім пазьней, ад году 1582, была й друкарня Мамонічаў. Знарок ці не, але да блытаніны спрычыніліся й Мамонічы, калі на выданьнях, што выходзілі пазьней зь іхнае ўжо друкарні, пісалі, што кніга друкавалася ў „Друкарні Дому Мамонічаў". Прыкладам, на першым выданьні, Служэбніку 1583 году, надрукавана: „З друкарни Дому Мамоничов".

Калі ў сваіх паслоўях Мсьціславец пісаў, што кнігу ён надрукаваў „у доме Мамонічаў", дык меў, зразумела, на ўвеце дом-будынак, у якім мясьцілася друкарня. У фразе-ж на выданьнях Мамонічаў „з Друкарні Дому Мамонічаў" ход выяўна не пра будыніну. Гэта ўжо фірмовы назоў, што паказвае на супалку, уласьнікі якое паходзілі з аднаго „дому", ці бо аднаго роду. Як ведама, супалка складалася спачатку з братоў Кузьмы ды Лукаша Мамонічаў, пазьней-жа актыўным у ёй быў і сын Кузьмы, Мамоніч Лявон.

Абедзьве друкарні — спачатку Пётры Мсьціслаўца, пасьля-ж Мамонічаў, — знаходзіліся відавочна ў тымсамым доме з колькіх віленскіх дамоў Мамонічаў. Ды гэты факт зусім ня істотны ў пытаньні ўласнасьці друкарні. Віленская друкарня гадоў 1522-1525 Францішка Скарыны хоць мясьцілася ў доме найстаршага бурмістра Вільні Якуба Бабіча, была ўсё-ж друкарняй ня Бабіча, але доктара Скарыны.[21] Гэтаксама й друкарня Мсьціслаўца хоць знаходзілася ў доме Мамонічаў, ня сталася дзеля гэтага друкарняй уласьнікаў дому.

Памылковы пагляд, які стварыўся ў першых бібліяграфаў кірылічных старадрукаў ды трымаецца й да сяньня, а паводле якога й друкарня, і выданьні Мсьціслаўца прыпісваюцца Мамонічам, нейк ніхто не паруліўся папраўляць і пасьля таго, калі былі апублікаваныя акты судовае справы Мсьціслаўца з Кузьмой Мамонічам, цытаты зь якіх вышэй прыводзіліся, ды якія, здавалася, выясьнялі ўжо дакладна, хто быў запраўдным уласьнікам створанае Мсьціслаўцам друкарні.

Актавыя магістрацкія запісы пра скаргу Мсьціслаўца на Кузьму Мамоніча яшчэ ў мінулым стагодзьдзі знайшоў у віленскім архіве ды іх і надрукаваў археограф Іван Спрогіс. Калі на важную для гісторыі віленскага друку публікацыю ня была зьвернутая належная ўвага ні тады, ні пазьней, былі на гэта й некаторыя аб'ектыўныя прычыны. Адна зь іх гэта тое, што Спрогіс гэтыя акты надрукаваў у выданьні, якое навукоўцам рэдка трапляе ў рукі, а цяпер і наагул цяжка даступнае.

Іван Спрогіс быў вельмі працавітым даўгагадовым сябрам Віленскае Археаграфічнае Камісіі, якая выбірала ды вялікімі тамамі публікавала акты зь віленскага архіву, акты датычныя пераважна да земляў і гісторыі Беларусі. Пачынаючы ад году 1865 й да году 1915, выйшла 39 тамоў гэтых актаў.

У часе, калі Спрогіс натрапіў на віленскія магістрацкія запісы з скаргаю Мсьціслаўца на Кузьму Мамоніча за нявыконваньне дамоўленых на „кампрамісарскім" судзе пастановаў, з друку паказаўся якраз 12-ы том гэтых „Актаў". Каб публікацыю цікавых дакумэнтаў не адкладаць на гады, да часу, пакуль будзе падрыхтаваны да друку чародны том Актаў Археаграфічнае Камісіі, Спрогіс надрукаваў іх у 1883 годзе ў віленскім царкоўным часапісе „Литовские Епархиальные Ведомости".

На рэлігійна-царкоўныя часапісы, як ведама, ня гэтак часта зьвяртаюць увагу гісторыкі, менш імі цікавяцца й навуковыя бібліятэкі. Калі тамы „Актаў" Віленскае Археаграфічнае Камісіі сяньня можна знайсьці блізу ў кажнай вялікай цэнтральнай бібліятэцы сьвету, дык натрапіць у гэтых бібліятэках на віленскія „Литовские Епархиальные Ведомости" немагчыма. Вось гэта было вялікаю перашкодаю дасьледнікам у азнаямленьні з арыгінальным тэкстам актавых запісаў гэткае важнае для гісторыі віленскага друку судовае справы. І прыведзеныя ў гэтым нарысе цытаты з гэтых запісаў узятыя не беспасярэдня з публікацыі Спрогіса, але з выпісак зь яе, пададзеных у манаграфіях Хведара Ільляшэвіча[22] ды А. С. Зярновай.[23]

Што на апублікаваныя ў 1883 годзе дакумэнты не зьвярнулі ўвагі гісторыкі кнігадруку ды значаньня іх належна неасэнсавалі, вінаваты шмат і сам Спрогіс. Паводля агульна прынятага тады пагляду, заснаваная ў Вільні Мсьціслаўцам друкарня ўважалася за друкарню Мамонічаў. Пад уражаньнем гэтага І. Спрогіс, калі публікаваў дакумэнты, не зьвярнуў увагу хоць-бы на словы аб тым, што „ўсякае начыньне друкарні" належыла не Мамонічам, але Мсьціслаўцу, і загаловак сваёй публікацыі даў неспадзеўкі гэткі: „Документы касательно древней русской типографии Луки Мамонича по претензии с оной Петра Мстиславца".[24]

Дык памылковы, але агульна ў літаратуры замацаваны пагляд, зацьміў зыркасьць археографа нагэтулькі, што ў самым загалоўку свае публікацыі чытачу ён навязваў інфармацыю кардынальна супярэчную зьместу дакумэнтаў, ці бо хвальшывую. З актавых запісаў відаць-жа ясна, што ўсякае друкарскае „начыньне", ці бо шрыфты й прылады, належалі якраз толькі Мсьціслаўцу. Пастанова судзьдзяў абодвух бакоў „кампрамісарскага" суду была ў гэтым адназгодная. Дык калі мо й узьнімаліся на судзе нейкія беспадстаўныя „прэтэнзіі" да друкарні, дык ня збоку Мсьціслаўца, як напісаў Спрогіс, але збоку Кузьмы Мамоніча, хоць пра гэта ў актавых запісах і ня згадваецца.

Вось кансэквэнцыі памылковага асэнсаваньня зьместу дакумэнтаў І. Спрогісам адчуваюцца ў літаратуры пра Мсьціслаўца ды друкарню Дому Мамонічаў аж дагэтуль, блізу сто гадоў пасьля іх публікацыі. Гэта была бадай галоўная прычына таго, што й пасьля надрукаваньня Спрогісам актавых запісаў віленскага магістрату друкарню Мсьціслаўца ўсё яшчэ лучаць у вадно з друкарняй колькі гадоў пазьнейшай, заснаванай іншымі людзьмі, на іншым друкарскім матар'яле, друкарняй Мамонічаў.

Наколькі глыбака гэткі памылковы пагляд закараніўся, можна бачыць з таго, што й гадоў колькідзесят пасьля публікацыі І. Спрогісам актавых запісаў, навет і аўтары, якія даволі грунтоўна вывучалі віленскую друкарска-выдавецкую працу Мсьціслаўца ды Мамонічаў, хоць зьмест судовых актаў і зналі, ды друкарню Мсьціслаўца ўвесь час называлі друкарняй Мамонічаў.

Было-б несправедлівым казаць, што ніхто з аўтараў не адчуваў супярэчнасьці традыцыйнага пагляду зь ведамымі архіўнымі фактамі. Набліжаўся да праўды, хоць і вельмі нясьмела, прыкладам, Ул. Пічэта, які ў 1926 годзе пісаў: „Магчыма дапусьціць, што першая заснаваная друкарня была ўласьнасьцяй і Мамонічаў, і Пётры Мсьціслаўца".[25] Тры гады пазьней І. І. Лаппо дачыненьні да віленскае друкарні паасобных асобаў у 1576 годзе разьмеркаваў гэтак: „кіраўніцтва друкарні належыла Зарэцкім, сама друкарская справа — Пётру Мсьціслаўцу, памяшчэнне друкарні — Мамонічам".[26] Хоць Лаппо, як бачым, прызнаваў Мамонічам — ды правільна — толькі „памяшчэньне", ды друкарню ня ўважаў усё-ж і за Мсьціслаўцаву.

Хведар Ільляшэвіч, аўтар манаграфіі 1938 году пра друкарню Мамонічаў, падобна да Пічэты пісаў: „друкарня была ў супольным валаданьні Мамонічаў, капіталістаў, і Мсьціслаўца, друкара".[27] Пісаў ён гэтак, хоць адзначыў адначасна й пастанову палюбоўнага суду аб тым, што Мсьціслаўцу належыцца „ўсякае начыньне друкарні",[28] ды выказаў навет вельмі правільную думку: „перапынак у працы друкарні дазваляе дапушчаць, што Мсьціславец начыньне аднак-жа забраў".[29] Не зважаючы на гэта, пра 1574-76 гадоў друкарню Ільляшэвіч у сваёй манаграфіі ўвесь час гавора як пра друкарню Мамонічаў.

Асабліва ўражае становішча ў гэтым пытаньні гэткае выдатнае маскоўскае дасьледніцы старадрукаў як А. С. Зярновай, якая ўнікліва ўчыталася ў зьмест магістрацкіх актавых запісаў, а да гэтага ўважлівым кнігаведным аглядам ды супаставаю выданьняў Мсьціслаўца з выданьнямі Мамонічаў выясьніла дакладна, што ані шрыфтоў, ані іншых друкарскіх матар'ялаў друкарні Мсьціслаўца Мамонічы ў сваёй друкарні ніколі ня мелі, з чаго вынікае, што іх яны й не да-



сталі. Хоць Зярнова гэтым выэлімінавала канчаткова ўсякую магчымасьць якоеколечы тэхнічнае сувязі друкарні Мамонічаў з друкарняй Мсьціслаўца, ды апошніх лягічных высноваў з сваіх важных назіраньняў нейк і яна не парабіла, „пунктаў над і" не паставіла.

Наадварот. У тымсамым артыкуле, у якім Зярнова выясьняе, што віленскі суд меў дастаткова аўтарытэтнасьці на тое, каб не дазволіць багатыром Мамонічам забраць ад Мсьціслаўца ягоную друкарскую снасьць, пра друкарню 1574-76 гадоў яна ўвесь час піша як пра друкарню Мамонічаў! У вадным-жа з падразьдзелаў артыкулу ёсьць загаловак кардынальна супярэчны з высновамі самое працы: „Издания напечатаные Мстиславцем в типографии Мамоничей"![30] Дык, падобна як у І. Спрогіса, у загалоўку дадзенае запярэчаньне фактам, што прыводзяцца ў самым артыкуле.

Як бачым, глыбока закарэненыя пагляды, калі й выяўна памылковыя, ціраз вельмі жывучыя. Па інэрцыі традыцыі трымаюцца яны доўга й пасьля таго, як выяўленыя факты й дакумэнты раскрываюць іхную беспадстаўнасьць.

Калі ў літаратуры гэтак доўга трымаецца памылковы пагляд пра час заснаваньня ды пачатак працы выдатнае ды вельмі заслужанае ў гісторыі беларускага друку друкарні Мамонічаў, а ейная важная папярэдніца, друкарня Мсьціслаўца, як самастойная й зусім ня ўлічаецца, галоўная прычына гэтага — слабое ўсё яшчэ вывучэньне гісторыі беларускага кнігадруку XV-XVIII стагодзьдзя.

Няма й да гэтае яшчэ пары ўліку ўсіх друкарняў і друкароў, што ў гэным часе дзеілі на тэрыторыі Беларусі. Няма бібліяграфічнае рэгістрацыі й вопісу ўсіх кнігаў, што былі імі выдадзеныя. Наколькі няпоўны ўлік выданьняў старога беларускага друку, паказвае тое, што ў паваенныя гады й толькі ў бібліятэках Англіі было выяўлена каля дваццаці няведамых раней кнігаў, што былі надрукаваныя на землях Беларусі.

Не напісаная ўсё яшчэ й гісторыя беларускага друку. Існуюць толькі кароткія вельмі агульныя нарысы ды манаграфічныя працы пра некаторых друкароў ці друкарні, прыкладам, пра доктара Скарыну П. В. Валадзімірава або пра друкарню Мамонічаў Хв. Ільляшэвіча.

Вельмі каштоўная сабранымі матар'яламі „Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі" В. Ластоўскага 1926 году, гэта ў запраўднасьці ня гісторыя беларускае кнігі й ня гісторыя беларускага друку. Яе зьмест азначыў правільна ў яе-ж падзагалоўку сам аўтар: „Спроба паясьніцельнай кнігапісі". Гэта анатаваная бібліяграфія старое беларускае кнігі, кнігі й друкаванае, і рукапіснае. Інфармацыі-ж пра дзейнасьць друкароў і друкарняў у Беларусі ў ёй, як правіла, канспэктыўныя, некамплетныя, з другое рукі.

важна гісторыкі друку народаў суседніх, пераважна расейскага або польскага, і пісалі, зразумела, з ар'ентацыяй у першую чаргу на пытаньні гісторыі друку расейскага або польскага. Кнігадрук Беларусі краналі яны толькі пабочна, як пэрыфэрыйную зьяву расейскага або польскага друкарства. Вось гэта прычына таго, што ў гісторыі старога друку Беларусі ўвесь час натыкаемся на праблемы ці яшчэ ня высьненыя, ці памылкова інтэрпрэтаваныя, ці й зусім ня кранутыя.

Яскравы прыклад гэтага й разгледжанае вышэй пытаньне дачыненьняў у галіне друкарска-выдавецкае дзейнасьці Пётры Мсьціслаўца з Мамонічамі.

## Пасьлядоўнікі Пётры Мсьціслаўца

Як дагэтуль, пра стары кнігадрук Беларусі пісалі пера-

Калі ад вясны 1577 году, году складзенае Мсьціслаўцам у віленскі магістрат скаргі на Кузьму Мамоніча, усякія сьляды пра далейшы лёс выдатнага друкара-выдаўца абрываюцца, дык ведама затое, што кнігі ягонага друку й выданьня былі ў асаблівай пашане ды вельмі шырокім ужытку на землях усіх праваслаўных краёў, што ў літургіі карысталіся царкоўна-славянскай мовай. Мсьціслаўцавы кнігі захаваліся й да нашых часоў на землях Беларусі, Расеі, Украіны, паўдзённых славянаў. У Баўгарыі, прыкладам, у бібліятэцы Плоўдзіва, перахоўваюцца Евангельле ды Псалтыр віленскага Мсьціслаўцавага друку з напісамі на іх, якія сьветчаць пра шырокае практычнае карыстаньне гэтымі кнігамі сярод балканскіх славянаў.[31]

Раскошна выдадзенае „напрастольнае" Мсьціслаўцава Евангельле стагодзьдзямі перавыдавалі ў Вільні, Магілеве, Куцейне, Чарнігаве, Кіеве, Львове ды ў румунскіх Ясах.[32] Пачынаючы-ж ад 1627 году й аж да палавіны XVII стагодзьдзя, Евангельле гэтае служыла за недасягальны графічна ўзор для больш дзесяці перавыданьняў маскоўскіх. Псалтыр-жа Мсьціслаўца ў Маскве перавыдаваўся разоў колькідзесят аж да году 1762-га.

Ад Мсьціслаўца ў гравюрах маскоўскіх друкаваных евангельляў была перанятая й традыцыя рысаваць евангеліста Марка з арлом, а Яана з львом, ці бо на лад заведзены ад II стагодзьдзя сьвятым Ірэнеем. Толькі ў адзінаццатым выданьні 1657 году, у часе Ніканаўскіх рэформаў, сымвалы евангелістых былі перастаўленыя на лад Гераніма ды гравюры Марка пачалі даваць з львом, а Яана з арлом.

Друкарска-графічныя прыёмы з Мсьціслаўцавых кнігаў пераймаюць ды паўтараюць у друкарнях Беларусі, Украіны, Маскоўшчыны, Румуніі. Капіююць там ягоныя шрыфты, ініцыялы, заставіцы, гравюры. За ўзор выданьні Мсьціслаўца



служылі навет і для друкарні варожых яму Мамонічаў, хоць з графічна-друкарскага боку кнігі іхнага выданьня не маглі ніколі раўняцца з Мсьціслаўцавымі.

Як адцеміла А. С. Зярнова, „выданьні Мсьціслаўца ўражаюць сваім раскошным выглядам; дасканальная папера з шырокімі палямі ўва ўсіх ягоных выданьнях выгадна вырозьнівае іх ад пазьнейшых выданьняў Мамонічаў".[33] Як тая-ж Зярнова кажа, у прыраўнаньні да Мсьціслаўцавых, шрыфты Мамонічаў разяць некаторай неахайнасьцяй у сваіх формах.[34] Тоесамае кідаецца ў вочы калі ход пра набор, ломку, графічнае аздабленьне ды афармленьне кнігаў. „Усе гэтыя драбніцы выяўляюць у Мамонічах ня любіцеляў кнігі, але прадпрыемцаў; на першым месцы для іх — збыт, а не мастацкае афармленьне кнігі . . . для іх дастаткова было, калі выданьні аформленыя былі больш-менш здавальняюча".[35]

Зыркі сьлед Пётра Мсьціславец пакінуў і ў гісторыі беларускага графічнага мастацтва сваімі знакамітымі дрэварытнымі ілюстрацыямі. Пасьля доктара Скарыны, зь беларускіх выдаўцоў ён першы, што патрэбу добрае мастацкае ілюстрацыі для кнігі разумеў, у сваіх выданьнях пра іх дбаў, магчыма сам іх рысаваў ды выразаў. Ягоныя дрэварытныя вобразы чатырох евангелістых ды цара Давіда ў Псалтыры, у розных віленскіх выданьнях капіявалі аж да сярэдзіны XVII стагодзьдзя. Віленскі стыль граюраў Мсьціслаўца паўтараў і кіеўскі мастак Дарафей у Евангельлі 1670 году ды мастак Евангельля львоўскага 1644 году й іншыя друкары Украіны.

Але асабліва вялікі ўплыў Мсьціслаўцавых гравюраў ды іхнага мастацкага стылю даецца заўважыць у Маскоўшчыне, дзе іх вельмі доўга перарысоўвалі й перадрукоўвалі. Як кажа А. І. Някрасаў, „пышная архітэктурная ды мастацкая дэкарацыя ў маскоўскім мастацтве канца XVII стагодзьдзя, ведамая пад умоўным імём маскоўскага бароку, сваім існаваньнем абавязаная ў вялікай меры віленскім гравюрам Пётры Мсьціслаўца".[36]

Дык Пётра Мсьціславец мае вялікія заслугі й як выдатны, шырокага тэрытарыяльнага й гістарычнага ўплыву майстра друкарскае справы, і як таленавіты мастак-графік, творчасьць якога доўга клала свой адбітак на манеру й стыль графічнага афармленьня кірылічных выданьняў XVI-XVIII стагодзьдзяў ня толькі Беларусі, але й усей усходняй Эўропы. Трэба ўрэшце незабывацца й пра тое, што быў ён аўтарам хай простых і сьціплых, але гістарычна важных і цікавых пасьлоўяў да сваіх віленскіх выданьняў. Дзеля гэтага належыцца яму шмат большая чым дагэтуль увага ў гісторыі беларускага друку ды беларускае культуры пары „залатога" яе веку наагул, адным з заслужаных выдатных дзеячоў якога ён быў.

## Друкарні Беларусі XVI стагодзьдзя

Калі ўлічыць факт сяньня пэўны існаваньня ў 1574-76 гадох у Вільні друкарні Пётры Мсьціслаўца як друкарні зусім самастойнае, а з другога боку тое, што друкарня Мамонічаў сваю кніжную прадукцыю распачала толькі ў 1583 годзе, а ня ў годзе 1575, як памылкова дагэтуль уважалася, кардынальна мяняецца храналягічная чароднасьць зьяўленьня беларускіх друкарняў XVI стагодзьдзя й у сталічнай Вільні, і на ўсёй беларускай тэрыторыі.

Найперш сам лік друкарняў павялічаецца на адну, на Мсьціслаўцаву. Друкарня-ж Мамонічаў, якая ўважалася за другую друкарню Вільні пасьля першае 1522-25 гадоў Скарынавае, як цяпер выяўляецца, была зь кірылічных друкарняў аж чацьвертай, пасьля другой Пётры Мсьціслаўца ды трэйцяй Васіля Гарабурды (пачатак дзейнасьці каля 1580 году). Калі-ж узяць яшчэ на ўвет што ў 1576 годзе пачала ў Вільні працу першая друкарня з шрыфтом лацінічным, друкарня князя Мікалая Радзівіла Сіроткі, якая друкавала кнігі лацінскія ды польскія, дык сярод віленскіх друкарняў друкарні Мамонічаў прыпадзе тады месца аж пятае.

У ліку-ж беларускіх друкарняў што дзеілі на ўсёй, уключна з сталічнай Вільняй, тэрыторыі Беларусі ў XVI стагодзьдзі, пры ўліку самастойнасьці друкарні Мсьціслаўца, друкарня Мамонічаў храналягічна перасоўваецца зь месца чацьвертага на сёмае.

У выніку новых архіўных знахадак і навейшых кнігаведных дасьледваньняў, падаваныя ў адпаведнай літаратуры гады паўстаньня й некаторых іншых беларускіх друкарняў, вымагаюць сяньня ўдакладненьня. Гэтак, ад колькі ужо гадоў, ведама, што зь віленскае Скарынавае друкарні першая кніга выйшла ня ў 1525 годзе, як раней уважалася, але ў годзе 1522. Была гэта „Малая падарожная кніжка".

Таксама год выхаду першае кнігі з друкарні нясьвіскай можна перасунуць на год назад — з году 1562 на 1561, — бо маем паважныя падставы ўважаць, што першаю кнігаю гэтае друкарні быў не „Катихисіс" Сымона Буднага, які выйшаў з друку 12 чырвеня 1562 году, але, кніга Буднага таксама, „О оправдании грешнаго человека пред Богом". Кніга гэтая, як і „Катихисіс", была прызначаная галоўна праваслаўным чытачом, якія на землях Беларусі трымаліся тады календара зь верасьнёвым пачаткам новага году, ці бо новы год пачыналі ня ад 1 студзеня, але чатыры месяцы раней, ад 1 верасьня. Вось 11 кастрычнік 1562 году, дата пададзеная на кнізе „О оправдании", як час яе выхаду, гэта паводле ўжыванага цяпер гадаліку ад 1 студзеня, будзе 11 кастрычнік 1561 году.



І няведамы раней час друкаваньня Цяпінскім ягонага „Евангелія", які паасобнымі аўтарамі вызначаўся розна, ў гадох 1560 — 1580, маем сяньня падставу зьвязаць з годам выкананьня й надрукаваньня дрэварытнага партрэту Васіля Цяпінскага, годам пададзеным на гэтым партрэце — 1576.

Дык гады пачаткаў дзейнасьці беларускіх друкарняў XVI стагодзьдзя на землях Беларусі, калі за пачатак гэты будзем лічыць час зьяўленьня першае друкаванае зь іх кнігі, у сьвятле сучасных навуковых паказаньняў укладаецца ў гэткую храналягічную чароднасьць:

| | |
|---|---|
| Віленская Скарыны | 1522 |
| Нясьвіская | 1561 |
| Заблудаўская Хадкевіча | 1569 |
| Віленская Мсьціслаўца | 1575 |
| Цяпінская Цяпінскага каля | 1576 |
| Віленская Гарабурды каля | 1580 |
| Віленская Мамонічаў | 1583 |
| Віленская Брацкая | 1595 |

Калі-ж да васьмі пералічаных тут друкарняў дадаць яшчэ друкарні ранейшыя, што друкавалі кнігі таксама для земляў Беларусі, хоць заснаваныя былі й у краёх Захаду, — Скарынаву 1517-19 гадоў друкарню праскую ды на 25 гадоў яшчэ ранейшую кракаўскую Швайпольта Фэоля, што працавала каля 1591 году, — лік усіх друкарняў узрастае да дзесяці.

З-пад друкарскіх прэсаў вось гэтых дзесяцёх друкарняў выйшла больш ста кнігаў на мовах царкоўнаславянскай і беларускай, зьместу і рэлігійнага, і сьвецкага. Сярод іх былі й гэткія выдатныя памяткі старога беларускага друку, як Біблія доктара Францішка Скарыны 1517-19 гадоў, Мсьціслаўцава Евангельле 1575 году, Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 году.

Лікам і друкарняў і надрукаваных у іх кнігаў беларускія землі ў XVI стагодзьдзі займалі вядучае месца сярод краёў усходу Эўропы. З гэтага гледзішча яны асабліва далёка пакідалі за сабой землі Маскоўшчыны, дзе да канца таго самага стагодзьдзя выйшла толькі 18 кнігаў у мове царкоўнаславянскай, кнігаў толькі літургічных.

Высокае разьвіцьцё друкарскае справы на беларускіх землях таго часу зьява, пэўна-ж, не прыпадковая, але гістарычна абумоўленая, заканамерная. Гэта адбітак толькі важнага тады палітычна значаньня Беларусі, як Вялікага Княства Літоўскага, ды вядучае яе культурна-духовае ролі на праваслаўным усходзе Эўропы.

## THE PRINTING HOUSE OF PIOTRA MSCISŁAVIEC by Vitaut Tumash

**Summary**: On the occasion of the 400th anniversary o the publication in Vilnia by Piotra Mścisłaviec (Mstislavets) of his 1575 Gospel-book, the article examines the activity in Vilnia of this outstanding Byelorussian printer. On the basis of archival documents and an analysis of type faces and printing materials of the books published both by P. Mścisłaviec and those put out by the publishing house belonging to the Mamoničy family, it is clear that the Vilnia printing house in the years 1574-1576 belonged to Mścisłaviec, and not to Mamoničy. The hitherto accepted view that P. Mścisłaviec did not have his own printing house in Vilnia, but worked in one owned by the Mamoničy, is shown to be erroneous.

The Mamoničy established their own printing house only at the beginning of the 1580's with quite different type faces and printing materials. The first publication of the Mamoničy printing house was a "Služebnik" which appeared on June 24th, 1583. The year 1583, rather than 1575, should be regarded as the date when the Mamoničy printing house began to function.

---

[1] Фатарэпрадукцыі тэкстаў паслоўяў Апостала маскоўскага 1564 году ды львоўскага 1574 году можна знайсьці ў: М. В. Щепкина. Переводы предисловий первопечатных книг. (У зборніку: У истоков русского книгопечатания. Москва, АН СССР, 1959, б. 218-219).

[2] М. В. Щепкина, тамсама, б. 237.

[3] Тамсама, б. 238.

[4] И. Каратаев. Описание славяно-русских книг напечатаных кирилловскими буквами. Том 1, с 1491 по 1652 год (Сборник Отделения русского языка и словесности Императорской Академии наук, т. 34, № 2. Санкт Петербург, 1883, б. 190).

[5] Тамсама, б. 190-191.

[6] Тамсама, б. 192-193.

[7] Teodor Iljaszewicz. Drukarnia Domu Mamoniczów w Wilnie, 1938, b. 35-36.

[8] Акты Виленской Археографической Коммиссии, т. XX. Вильна, 1893, б. 102.

[9] А. С. Зернова. Первопечатник Петр Тимофеев Мстиславец („Книга", сб. IX. Москва, 1964, б. 103).

[10] Тамсама.

[11] Тамсама, б. 103-104.

[12] A. Kawecka_Gryczowa, K. Korotajowa i W. Krajewski. Drukarze dawnej Polski. Zeszyt 6: Małopolska — Ziemie Ruskie. Wrocław — Kraków, 1960, b. 84.



[13] Stanisław Ptaszycki. Iwan Fedorowicz, drukarz ruski we Lwowie z końca XVI wieku (Rozprawy i sprawozdania z posiedzeń Wydziału filologicznego Akademii Umiejętności, t. XI. W Krakowie, 1886, b. 31).

[14] Василий Сопиков. Опыт Российской библиографии, ч. 1. Санктпетербург, 1813, б. 185.

[15] В. Ундольский. Каталог славяно-русских книг церковной печати библиотеки А. Н. Кастерина. Москва, 1848, б. 2.

[16] В. М. Ундольский. Очерк славяно-русской библиографии. Москва, 1891, б. 13.

[17] И. Каратаев, тамсама, б. 189, 191.

[18] Karol Estreicher. Bibliografia polska, cz. II, t. I. Kraków, 1882, b. 65.

[19] A. Kawecka-Gryczowa, K. Korotajowa i W. Krajewski. Drukarze dawnej Polski. Zeszyt 5: Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław—Kraków, 1959, б. 148.

[20] Вацлаў Ластоўскі. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўня, 1926, б. 419, 420.

[21] Для дакладнасьці адцеміць тут трэба, што ў XIX ст. быў выпадак, калі бібліяграф віленскую друкарню Скарыны трактаваў як друкарню „бурмистра Якова Бабича", глядзі: И. П. Сахаров Образцы Славяно-Русского книгопечатания с 1491 года. Санктпетербург, 1849.

[22] T. Iljaszewicz, тамсама, б. 46-52.

[23] А. С. Зернова, тамсама, б. 102-103.

[24] Литовские Епархиальные Ведомости. Вильно, №. 41, 1883, б. 366-368.

[25] Уладзімер Пічэта. Друк на Беларусі ў XVI і XVII сталецьцях. (У зборніку: Чатырохсотлецьце беларускага друку. Інстытут Беларускае Культуры. Менск, 1926, б. 246).

[26] И. И. Лаппо. К истории русской старопечати. Виленская типография Мамоничей (Сборник Русского Института в Праге, т. I. Прага, 1929, б. 165).

[27] T. Iljaszewicz, тамсама, б. 46.

[28] Тамсама, б. 51.

[29] Тамсама, б. 53.

[30] А. С. Зернова, тамсама, б. 89.

[31] Б. Цонев. Славянски ръкописи и старопечатни книги на Народната Библиотека в Пловдивъ. София, 1920, б. 245-248.

[32] А. С. Зернова. Первопечатник П. Т. Мстиславец ... б. 110-111.

[33] А. С. Зернова, Типография Мамоничей в Вильне. („Книга", сб. I. Москва, 1959, б. 168).

[34] А. С. Зернова. Первопечатник Петр Тимофеев Мстиславец... б. 103.

[35] А. С. Зернова. Типография Мамоничей ... б. 205.

[36] А. И. Некрасов. Первопечатная русская гравюра. (У зборніку: Иван Федоров первопечатник. Москва-Ленинград, АН СССР, 1935, б. 31).

# БЕЛАРУСЬ У ПАРУ ДЗЯРЖАЎНЫХ ДУМАЎ РАСЕІ

**Янка Запруднік**

**Тэрміналёгія: „Паўночна-Заходні Край"**

Пра мінуўшчыну Беларусі, хоць сабе й недалёкую, нельга пачынаць гаварыць, не паясьніўшы тэрміналягічнае праблемы. У пэрыядзе Дзяржаўных Думаў Расеі, г. зн. у гадох 1906 — 1917, вельмі часта, асабліва ў расейскіх афіцыйных колах, у дачыненьні да Беларусі ўжываўся тэрмін „Северо-Западный Край" — „Паўночна-Заходні Край". Тэрмін гэты меў рознае тэрытарыяльнае значаньне, але найчасьцей улучаў у сябе шэсьць губэрняў: Віцебскую, Магілеўскую, Менскую, Горадзенскую, Віленскую й Ковенскую. Губэрні гэтыя часта зваліся таксама „губэрнямі 'беларускімі й літоўскімі". Прыгэтым паняцьці „беларускія" й „літоўскія" ўжываліся тут ня ў іхным этнічным значаньні, а ў гістарычным, што было тэрміналягічным рэхам тае далёкае пары, калі ў цэнтры Вялікага Княства Літоўскага, кажучы словамі Францішка Багушэвіча з 1891 году, „як тое зярно ў гарэху была наша зямліца — Беларусь!"[1]

Тэрмін „Заходнія губэрні", што таксама часта ўжываўся ў пэрыядзе Дзяржаўных Думаў, абазначаў пераважна дзевяць губэрняў: Ковенскую, Віленскую, Горадзенскую, Віцебскую, Менскую, Магілеўскую, Валынскую, Падольскую й Кіеўскую — тыя, што былі захопленыя („вернутыя") Кацярынай II. Тры ўкраінскія губэрні — Валынская, Падольская й Кіеўская — часамі абазначаліся тэрмінам „Паўдзённа-Заходнія" ў вадрознасьць ад шасьцёх „Паўночна-Заходніх" губэрняў.

У паняцьце „Паўночна-Заходняга Краю" часамі ўлучалася й губэрня Смаленская. Для некаторых-жа тэрмін „Паўночна-Заходні Край" меў яшчэ шырэйшы абсяг. Гэтак, у чацьвертай Дзяржаўнай Думе дэпутат А. П. Фацінскі, сябра думаўскае Сельскагаспадарскае Камісіі, тлумачыў:

> Паўночна-Заходні Край, да якога могуць быць залічаныя губэрні Беларускія: Магілеўская, Віцебская, Менская, Смаленская; Літоўскія: Віленская, Ковенская й Горадзенская ды частка прывазёрных Ноўгарадзкае й Пскоўскае, становіць у эканамічным і гаспадарскім дачыненьні асобны раён, што мае свае асаблівасьці.[2]



**Польскі каталіцызм супраць расейскага праваслаўя**

У красавіку 1905 г. сярод рэвалюцыйнага ўздыму, што ўстрасянуў царскае самаўладзтва, расейскі ўрад прыняў пастанову, якая сталася вехавой для далейшага разьвіцьця падзеяў у дзевяцёх „Заходніх губэрнях" імпэрыі, асабліва ў „Паўночна-Заходнім Краі". Пастановай гэнай быў „Іменны Высачэйшы Ўказ", датаваны 17 красавіка 1905 году[3] — „Аб умацаваньні прынцыпаў верацярпімасьці".

Пасьля стагодзьдзяў рэлігійнага ўціску імпэратар Мікалай II заяўляў сваім рознаверным падданым: „Мы заўсёды мелі шчырае імкненьне забясьпечыць кажнаму з нашых падданых свабоду веры й малітваў паводля наказу ягонага сумленьня".[4] Цар дэкрэтаваў: „Прызнаць, што адыход ад праваслаўнае веры ў іншае хрысьціянскае веравызнаньне ці веравучэньне не падлягае перасьледу й не павінен цягнуць за сабою якіх-небудзь вынікаў, нявыгодных у дачыненьні да асабістых ці грамадзкіх правоў".[5] Імпэратар загадваў „адпячатаць усе малітоўныя дамы, зачыненыя як у адміністрацыйным парадку, ... гэтак і паводля пастановаў судовых уладаў".[6] І асабліва важным у тым-жа ўказе быў дазвол на навучаньне ў школах, „у выпадку выкладаньня ў іх Закону Божага іншых хрысьціянскіх веравызнаньняў", „у прыроднай мове навучэнцаў".[7] У тым-жа духу верацярпімасьці былі сфармуляваныя „Высачэйша ўстаноўленыя 17 красавіка 1905 году правілы Камітэту Міністраў", якімі даваліся, хоць і абмежаныя, магчымасьці будаваць і аднаўляць будынкі сьвятыняў:

> Прызнаць у выглядзе агульнага правіла, што для дазволу пабудовы, аднаўленьня й рамонту цэркваў і малітоўных дамоў усіх хрысьціянскіх веравызнаньняў канечна патрэбныя: а) згода духоўнае ўлады адпаведнага іншаслаўнага веравызнаньня, б) наяўнасьць патрэбных грашовых сродкаў і в) датрыманьне тэхнічных вымогаў будаўлянага рэгуляміну. Выняткі з гэтага агульнага правіла, калі гэткія будуць прызнаныя для асобных мясцовасьцяў як канечна патрэбныя, могуць быць устаноўленыя толькі ў заканадаўным парадку.[6]

Для бальшыні жыхароў і ўрадаўцаў тагачаснае Беларусі праваслаўе або каталіцтва цягнулі за сабою аўтаматычна расейскую або польскую мову, а сьледам паняцьце расейскае або польскае нацыянальнасьці ды, у канчальным выніку, расейскія або польскія гістарычныя „правы" на „Паў-

ночна Заходні Край", або „Крэсы Всходне". Вось чаму вышэйадзначаныя царскія ўказы й пастановы сталіся адразу-ж аб'ектам гарачых супярэчак і крыніцай канфліктаў, што ахапілі сабой ня толькі Беларусь, але й Дзяржаўную Думу на працягу ўсіх гадоў ейнага існаваньня.

Паслабленьне абмежаваньняў Каталіцкае Царквы ў „Заходніх губэрнях" неўзабаве дапоўнілася прызнаньнем пэўных правоў польскай нацыянальнасьці ў гэтых губэрнях у галіне асьветы, эканомікі й палітыкі. Мікалай II, дбаючы, як ён казаў, „пра дабрабыт народнасьцяў, што засяляюць Нашу прасторную Імпэрыю", указам ад 1-га травеня 1905 году касаваў шэраг папярэдніх дыскрымінацыйных законаў (ад 10.XII. 1865; 27. XII. 1884; 2. II. 1891; 27. II. 1901 ды інш.) і дазваляў паляком у дзевяцёх „Заходніх губэрнях" „арандаваць на агульнай, без асаблівага абмежаваньня ў тэрмінах, аснове зямельную маемасьць, а таксама набываць усімі дазволенымі законам спосабамі на собскасьць і пажыцьцёвае валоданьне ды браць у заклад гэткую маемасьць ад асобаў польскага паходжаньня".[9]

Указ ставіў таксама на парадак дня справу аднаўленьня ў дзевяцёх „Заходніх губэрнях" дваранскіх (шляхоцкіх) выбараў, даручаў міністру нутраных справаў „у магчыма кароткім часе" падаць свае прапановы што да дваранскіх сходаў. Урэшце, указ ад 1-га травеня 1905 г. клаў фармальны пачатак задавальненьню даўгагадовых намаганьняў польскага нацыянальнага актыву на Беларусі: дазваляў навучаць польскую або літоўскую мовы ў школах Краю „з праграмамі пачатковых двуклясовых і гарадзкіх школаў, а таксама ў сярэднянавучальных установах у тых мясцовасьцях, дзе бальшыня навучэнцаў належыць да літоўскае або польскае народнасьці". Міністру народнае асьветы даручалася „ўвайсьці ў вабмеркаваньне безадкладнага ўжыцьцёўленьня гэтага".[10]

Усе гэтыя суступкі суправаджаліся, аднак, важнай, хоць і агульнай засьцярогай, што стала ўпоперак справе ўжыцьцёўленьня новых магчымасьцяў ды адно падвысіла напружаньне ад узбуджаных ды нерэальных спадзяваньняў. Рэч у тым, што пералічаючы дзевяць „Заходніх губэрняў", да якіх указ датычыў, царскі дакумэнт характарызаваў гэтыя губэрні, як „искони русские области", заселеныя „русскими по происхождению местными жителями".[11]

Агульныя сфармуляваньні ўказу чыталіся кажным бокам на сваю карысьць. Палякі на Беларусі, хоць і ў меншыні лікава, але моцныя эканамічна зь лепшай асьветай, баёвейшыя рэлігійна ды прэстыжовейшыя сацыяльна, пачалі актыўна выкарыстоўваць усялякую новую магчымасьць да нацыянальна-палітычнага дзеяньня. Асабліва пажвавілася рэлігійная дзялянка, на якой польскі, расейскі ды слабы яшчэ



беларускі нацыяналізмы пачалі інтэнсыўней змагацца за ўплывы сярод шырокіх масаў жыхарства. Важнасьць рэлігійнага фактару падвысілася, калі 26 сьнежня 1905 году царскі ўрад прызнаў права каталіком 9-х „Заходніх губэрняў" на публічныя рэлігійныя працэсіі, паховіны, паломніцтвы — пры ўмове сваячасовага паведамленьня пра гэта мясцовых паліцыйных уладаў.[12]

Усе гэтыя суступкі, хоць і вельмі абмежаныя, прывялі да масавых выпадкаў пераходу беларусаў у каталіцтва, узьняўшы гэтым у асяродзьдзі манархістых паніку, што землі „спрадвеку расейскія" пераходзяць у польскія рукі. Карэспандэнт пецярбурскае манархістычнае газэты „Окраины России", што асабліва пільна сачыла ход падзеяў на Беларусі, паведамляў зь Ліды: „Рыма-каталікі пераконваюць праваслаўнае жыхарства пераходзіць у польскую (каталіцкую) веру... Кажны раз пры сустрэчы праваслаўны толькі чуе: „Прыймай польскую веру! Наш ксёндз кажа, што ўсіх вас выганяць адсюль".[13] За тры тыдні „Окраины России" паведамлялі пра масавасьць пераходу ў каталіцтва: „Указ быў абвешчаны 17 красавіка 1905 году, а па двух месяцах у шмат якіх прыходах недалічваліся сотняў праваслаўных прыхаджанаў, уцягнутых ашуканствам, гвалтам у лацінства".[14]

Указ 17. IV. 1905 году адчыніў нацыянальна-рэлігійныя й палітычныя шлюзы на Беларусі ды ўзьняў адну з найвайстрэйшых спрэчах, што ўзьвіхрылася асабліва ў трэйцяй (1907 — 1912 гг.) і чацьвертай (1912 — 1917 гг.) Дзяржаўных Думах Расеі. Некаторыя выказваньні ў гэных спрэчках кідаюць сьвятло на падзеі 1905 году, выкліканыя апублікаваньнем згадванага ўказу. Гэтак, дэпутат Віленскае губэрні Г. І. Сьвяньціцкі падаваў прыклад:

> У 1865 годзе рымска-каталіцкі прыход у в. Рубяжэвічы быў зачынены, касьцёл быў перароблены ў царкву й бальшыня прыхаджанаў запісаная праваслаўнымі... Але запісаныя ў праваслаўе заставаліся ў існасьці каталікамі і ў афіцыйных рубрыках фігуравалі ў ліку „упорствующих". У 1905 годзе ўсе яны вярнуліся ў каталіцтва.[15]

Колькі было ўсіх, што вярнуліся ў выніку ўказу 17. IV. 1905 г. да польскае каталіцкае царквы, даў зразумець заступнік міністра нутраных справаў Залатароў. Адказваючы на запытаньне пра перасьлед каталіцкага сьвятара ў Менскай губэрні, Залатароў апраўдваў дзеяньні свайго міністэрства:

> Ці магло міністэрства нутраных справаў... забыцца, што ў 1905 годзе ў ваднэй Менскай губэрні з праваслаўя перайшло ў каталіцтва больш за 8000 асобаў, што на працягу апошніх васьмёх гадоў у тэй-жа Менскай губэрні перайшло з права-

слаўя ў каталіцтва больш за 16 тысячаў чалавек? Ці магло міністэрства нутраных справаў заплюшчыць вочы на тое, што духавенства намагалася выкарыстаць Указ 17. IV. 1905 г. для перацягненьня ў каталіцтва й палянізацыі рускіх людзей?[16]

Кажны з бакоў у гэтай спрэчцы, што вялася на ўсіх узроўнях грамадзтва, карыстаўся гістарычнымі сьветчаньнямі, праўнымі аргумэнтамі, статыстыкай, а шмат дзе й гвалтам, у падтрыманьне свайго права й свае справы.

Калі 11 сьнежня 1905 году былі абвешчаныя выбары ў Дзяржаўную Думу, рэлігійна-нацыянальныя спрэчкі ў „Паўночна-Заходнім Краі" набылі завойстранага палітычнага характару. Духавенства абодвух веравызнаньняў, праваслаўнага й каталіцкага, з запалам узялося за перадвыбарную кампанію. Адзін з выдатных дзеячоў першае Дзяржаўнае Думы, дэпутат Менскае губэрні, паляк Аляксандар Лядніцкі, гэтак апісаў у сваім дзёньніку ролю каталіцкага духавенства ў выбарах:

> Ксяндзы заклікалі з амбонаў, каб людзі бралі дзейны ўдзел у выбарах, тлумачылі іхнае значэньне, ды ўрэшце, у імя хрысьціянскае любасьці, у імя патрэбаў Краю й справядлівасьці, забавязвалі, каб каталіцкае жыхарства выбірала двух палякоў, мяне й Янчэўскага, аднаго праваслаўнага й чатырох жыдоў, гэта значыцца паводля супольна складзенага сьпісу. Запраўды, каталіцкая сьвятыня магла быць гордая з тых узвышшаў, на якіх сталі ейныя капэляны. Словы найвышэйшае праўды, што гаіла адвечныя раны, падалі з вуснаў нашых ксяндзоў.[17]

Вацлаў Лядніцкі, пішучы пра свайго бацьку, дэпутата Дзяржаўнае Думы, адзначыў: „Каталіцкая Царква ў ягоным ваччу была вялікім польскім вогнішчам — ня толькі рэлігійным".[18] Гэткім было каталіцтва ўваччу шмат якіх думаўскіх прадстаўнікоў зь „Літвы й Русі", гэтак-жа як праваслаўе для бальшыні праваслаўных дэпутатаў „Паўночна-Заходняга Краю" было крыніцай расейскіх рэлігійных, культурных і палітычных вартасьцяў.

## Памяць мяжы 1772 году

У пэрыядзе 1906 — 1917 гадоў польская палітыка на Беларусі (у дачыненьні да якое палякі ўжывалі тады часта тэрмін "Litwa i Ruś") натхнялася й кіравалася памяцяй пра гістарычную веліч Рэчыпаспалітае і ейную тэрытарыяльную прасьцяжнасьць на ўсходзе. Усходняя мяжа 1772 году, дзеля якое Кацярына II пачала свой Drang nach Westen, нязьменна маячыла на даляглядзе польскіх палітычных асьпірацыяў. У 1905 годзе думка гэтая была яшчэ нясьмелая, здушаная дзесяцігодзьдзямі паліцыйных перасьледаў і русыфікацыйных намаганьняў царскага рэжыму. Дзеля гэтага палітычныя вымогі польскіх колаў напярэдадні расейскага „канстытуцыйнага экспэрымэнту" былі сьціплыя, не сягаючы далей за аўтаномію Каралеўства Польскага ды грамадзянскія правы паляком у дзевяцёх „Заходніх губэрнях".[19]

Польскі гісторык і палітычны дзеяч Леон Васілеўскі пісаў у 1906 годзе, што адразу па апублікаваньні царскага Маніфэсту 17 кастрычніка 1905 году „ніхто ня думаў пра які-б там ні было сэпаратызм, і лёзунгам бальшыні польскага грамадзтва была **аўтаномія** на асновах, выпрацаваных варшаўскім соймам, што меў-бы правы ўстаноўнага сходу".[20]

Але за думаўскімі часамі „канстытуцыйных ілюзіяў" (Ленін) палітычныя асьпірацыі разьвіваліся хутка. І калі польскія прэтэнсіі на „Крэсы Всходне" не выяўляліся ў 1905 годзе ў катэгорыях партыйных палітычных праграмаў, дык яны, як у капсулі, былі ўнятыя ў самым тэрміне „Крэсы". Разуменьне месца гэтых „Крэсаў" у працэсе адроджваньня новае Польшчы ў 1906 годзе даў Вацлаў Лядніцкі, характарызуючы сяброўства ягонага бацькі, дэпутата Менскае губэрні ў першай Думе, з польскім дзеячом Спасовічам:

> Лучыў іх таксама Менск, дзе яны правялі школьныя гады, лучылі іх Крэсы й глыбокая прывязанасьць да іх. Абодвы адчувалі й бачылі, што якраз там перахаваліся найлепш і найдакладней найпрыгажэйшыя палітычныя традыцыі Рэчыпаспалітае, і традыцыі гэныя натхнілі абодвых гэтых людзей у іхным змаганьні за Польшчу . . .[21]

Ідэя незалежнае Польшчы й лятуценьне пра ейны зварот да мінулае велічы падтрымваліся на „Крэсах" літаратурай і культурнай дзейнасьцяй польскіх патрыятычных таварystваў. Сталыпінская рэакцыя, што настала пасьля першых дзьвюх кароткатрывалых Думаў (1906 — 1907 гг.), не магла здушыць польскіх нацыяналістычных асьпірацыяў, бо, як трапна адзначыў адзін з кадэцкіх лідэраў В. А. Маклакоў, характарызуючы сталыпінскую палітыку нацыянальнага ўціску, „у рознапляменнай Расеі агрэсыўны нацыяналізм збольшваў ейны разьдзел".[22]

У 1910 годзе Ўладыслаў Студніцкі, польскі гісторык і палітычны тэарэтык, апублікаваў працу, у якой выказвалася існасьць паглядаў бальшыні польскіх дзеячоў на беларускія землі на працягу ўсяго думаўскага пэрыяду: „Здаваньне пазыцыяў ворагу паслабляе нас. Літва й Русь уваходзілі й могуць яшчэ ўвайсьці ў склад польскае дзяржавы. Польскасьці зь іх яшчэ ня выгрыз расейскі ўрад".[23]

Расейскім манархістым і нацыяналістым ня трэ было чакаць да 1910 году каб пачуць гэта. Яны бачылі ў „Паўночна-Заходнім Краі" пагрозу распаду „адзінай і недзялімай" Расеі ўжо ў 1906 годзе. За месяц зь нечым да адчыненьня першае Дзяржаўнае Думы пецярбурскі манархістычны тыднёвік „Окраины России" пісаў пра адмову менскага Таварыства сельскае гаспадаркі трымацца забароны ўжываць польскую мову ў праводжаньні афіцыйных паседжаньняў Таварыства і ў ліставаньні, хоць у ліку сяброў Таварыства, паводля „Окраин России", было „цімала й рускіх".[24]

Таварыствы сельскае гаспадаркі дзеілі па цэлай Беларусі напрацягу дзесяцігодзьдзяў і выкарыстоўваліся ў вялікай меры для польскае грамадзкае й культурнае дзейнасьці. Да 1911 году дзевяць „Заходніх губэрняў" ня мелі сваіх земстваў (самаўрадаў), паколькі бальшыня дваранства ў гэтых губэрнях была каталіцкага веравызнаньня й польскіх перакананьняў, хоць і мясцовага паходжаньня. Дваранству-ж у земствах, ад часу іхнага ўводу ў Расеі ў 1864 годзе, належала вядучая роля. Каб не даваць гэтае ролі польскім абшарнікам, царскі ўрад у дзевяцёх „Заходніх губэрнях" земстваў ня ўвёў. Антырасейскае паўстаньне 1863 году ў Польшчы, на Беларусі й Ліцьве паказала, у якіх мэтах можа быць выкарыстаная ўсякая ўлада, дадзеная мясцоваму жыхарству. Таварыствы сельскае гаспадаркі занялі, такім парадкам, дакладней — імкнуліся заняць — месцы земстваў. Фармальна таварыствы сельскае гаспадаркі існавалі як прафэсійныя арганізацыі ды не маглі быць забароненыя. У запраўднасьці-ж яны былі цэнтрамі зарганізаванага польскага жыцьця на Беларусі. Рэвалюцыя 1905 году надала новага імпэту іхнай дзейнасьці.

Як раптоўна сьляды русыфікацыі змываліся з паверхні „Заходніх губэрняў", прынамся ўваччу манархістых, можна пабачыць на прыкладзе паведамленьня „Окраин России" пра замену расейскае мовы польскаю, асабліва ў гэткіх кідкіх у вочы месцах, як гандлёва-камэрцыйная рэклама: „Навет некаторыя расейскія магазыны імкнуліся не аставацца ад польскіх . . . Калі-б да гэтае справы мясцовая адміністрацыя паставілася абыякава", — пісаў жахаючыся карэспандэнт Эльфі (псэўдонім) з „Паўночна-Заходняга Краю", — дык аднаго дня зьніклі-б усе тэксты ў расейскай мове".[25] Апрача свае культурнае вымовы, вестка гэтая становіць красамоўны камэнтар пра эканамічную сілу польскага элемэнту на „Крэсах".

Культурна, эканамічна, псыхалягічна, палякі на Беларусі, як толькі рэвалюцыйныя вятры пачалі хістаць імпэрыю Раманаваў, пачуліся пэўнейшымі свае палітычнае справы. І калі не ў партыйных праграмах, дык у сьведамасьці польскіх палітычных дзеячоў, галоўным стаяла пытаньне аднаўленьня старое Рэчыпаспалітае зь Літвой і Русяй у ейных межах. Рэха гэтых асьпірацыяў гучыць і сяньня яшчэ ў савецка-польскіх гістарыяграфічных спробах прааналізаваць „аб'ектыўныя цяжкасьці, што былі на шляху да расейска-польскага рэвалюцыйнага саюзу".[26] Як адзначыў сучасны польскі гісторык С. Кеневіч на сымпозіюме 1966 году пра „Рэвалюцыйныя сувязі народаў Расеі й Польшчы ў XIX стагодзьдзі", гэныя цяжкасьці былі абумоўленыя наяўнасьцяй польскага нацыянальнага пытаньня, якое ўлучала ў сваю праграму й лёзунг „мяжы 1772 году". Прадстаўнік гістарычнае навукі сацыялістычнае Польшчы паясьніў, праўда, што ў лёзунгу гэным ход быў не пра мяжу паміж Расеяй і Польшчай, а пра дачыненьне расейскага й польскага рэвалюцыйнага руху да пытаньня незалежнасьці Літвы, Беларусі ды Украіны. І калі расейскія рэвалюцыянеры, паводля Кеневіча, выступілі ў гэтым пытаньні „з больш справядлівых пазыцыяў", дык „для польскага рэвалюцыйнага руху гэта было цяжэй, бо на беларускіх, украінскіх і літоўскіх землях жыў польскі элемэнт, у бальшыні сваёй патрыятычны".[27] Хоць Кеневіч казаў пра гады 1870 — 1880, але розьніцы ў гэтым сэньсе ніякае ня было і ў 1906 годзе, калі рэвалюцыя яшчэ больш узмоцніла патрыятычныя спадзяваньні польскага элемэнту на „Крэсах". Расейскія манархістыя, аналізуючы напярэдадні адчыненьня Дзяржаўнае Думы дачыненьні расейцаў з палякамі, сьвярджалі, што „нас дзеліць пытаньне пра дзяржаўнасьць" і, пратэстуючы супраць „ляманту" палякоў пра Польшчу „ад мора да мора", у роспачы ўсклікалі: „Трэба шукаць шляхоў да мірнага сужыцьця, але як — і дзе?"[28]

Шуканьнем гэных шляхоў і занялася першая Дзяржаўная Дума Расеі, што пачала сваю працу ў травені 1906 году.

### Беларусь і нацыянальныя праграмы расейскіх палітычных партыяў

Актуальнасьць нацыянальнае праблемы была відавочнай усім расейскім палітычным партыям, якіх урэшце „легалізавала" або ўпяршыню паклікала да жыцьця рэвалюцыя 1905 году ды Маніфэст 17 Кастрычніка.

Зь дзьвюх расейскіх сацыялістычных партыяў — сацыял-дэмакратычнае й партыі сацыялістых-рэвалюцыянераў (эсэраў) — апошняя асабліва была дзейнай на Беларусі, пачаўшы ад 1901 году. Абедзьве гэтыя партыі — першая ад часу ейнага заснаваньня на першым ейным зьезьдзе ў 1898 годзе, а другая ад ейнага першага арганізацыйнага зьезду ў 1905 годзе — мелі ў сваіх праграмах прынцып нацыянальнага самавызначэньня.[29]

Савецкія партыйныя гісторыкі хвальсыфікуюць цяпер становішча эсэраў у нацыянальным пытаньні ды цьвердзяць, што эсэры „не давалі канкрэтнага адказу на пытаньне аб праве нацыяў на самавызначэньне”.[30] Тымчасам і Ленінавы сацыял-дэмакраты і эсэры Віктара Чарнова сваё прынцыповае настаўленьне на нацыянальнага пытаньня выказвалі блізу ў ідэнтычных словах. Сфармуляваная ў 1905 годзе эсэраўская праграма казала пра „магчыма больш шырокае выкарыстаньне фэдэрацыйных дачыненьняў між паасобнымі нацыянальнасьцямі, прызнаньне ім бязумоўнага права на самавызначэньне... увод роднае мовы ўва ўсе мясцовыя, грамадзкія й дзяржаўныя ўстановы”.[31]

Партыя сацыялістых-рэвалюцыянераў, што бачыла галоўную рэвалюцыйную сілу ў сялянсьцьве, карысталася шырокім падтрыманьнем на Беларусі ды сваім парадкам сама ўплывала на беларускі нацыянальны рух. У 1903 годзе эсэры арганізавалі Сялянскі Саюз, што асабліва быў дзейны на Беларусі.[32] Пад уплывам гэтага Саюзу ў сакавіку 1905 году адбыўся й першы беларускі сялянскі зьезд, аднэй з пастановаў якога было „змагацца за краёвую аўтаномію Беларусі з соймам у Вільні”.[33]

У меру таго, як лібэралізм, сацыялізм і нацыянальныя рухі пачалі выяўляць сябе арганізацыйна — асабліва актыўнымі былі польскі нацыянальны рух і расейскі лібэралізм — пачаліся спробы наладжаньня расейска-польскага дыялёгу, што меў беспасярэднае дачыненьне й да Беларусі. Як тлумачыў пасьля адзін зь ініцыятараў і ўдзельнікаў гэтага дыялёгу лідэр расейскіх кадэтаў Павел Мілюкоў: „польскі нацыяналізм **канкураваў** з расейскім на шырокай паласе ўзьмежных тэрыторыяў (заселеных беларусамі й маларосамі). Гэта было змаганьне двух цэнтраў перайманьня, і ўжо ад 17-га стагодзьдзя яно набрала вельмі гвалтоўных формаў, што й захаваліся аж да цяперашніх часоў”.[34]

На пачатку дваццатага стагодзьдзя расейска-польская „канкурэнцыя” на беларускіх і ўкраінскіх землях ускладнілася ростам мясцовых нацыянальных рухаў і пэўнай дэмакратызацыяй грамадзкага жыцьця. Месяц перад адчыненьнем першае Дзяржаўнае Думы пецярбурскія „Окраины России” слушна схарактарызавалі расейска-польскія дачыненьні як „адно з самых важных пытаньняў, а сваім характарам, сваёй гістарычнай даўнасьцяй, складанасьцяй, бадай, самае істотнае”.[35]

Расейска-польскія спробы дасягнуць памяркоўнага разьвязаньня свайго гістарычнага канфлікту пачаліся ў лістападзе 1904 году на кансьпіратыўным зьезьдзе ў Парыжы прадстаўнікоў розных нацыянальнасьцяў Расейскае імпэрыі. Паводля ўдзельніка гэнае нарады П. Мілюкова, „з палякамі былі пачатыя перамовы аб умовах польскае аўтаноміі”.[36] Перамовы вяліся далей у Расеі. 20-21 красавіка (н. ст.) 1905 году каля 80 прадстаўнікоў расейскіх і польскіх лібэральных колаў сабраліся ў Маскве на польска-расейскі зьезд дзеля абмеркаваньня ўзаемадачыненьняў і аўтаноміі Польшчы. Пастанова зьезду прызнавала „канечную патрэбу аўтаномнага Каралеўства Польскага з захаваньнем дзяржаўнага адзінства й удзелам у агульна-расейскім прадстаўніцтве”.[37] Зьезд не забыўся й пра палякоў „на шырокай паласе ўзьмежных тэрыторыяў (заселеных беларусамі й маларосамі)”. Пункт другі пастановы казаў пра польскую меншыню вонках Польскага Каралеўства:

> У правінцыях (вобласьцях), у якіх палякі — адна з нацыянальнасьцяў, гэта значыць на Ліцьве й Ускраіннай Русі, ім павінны быць прызнаныя поўнасьцяй усе грамадзянскія й нацыянальныя правы, бязь ніякіх адміністрацыйных і праўных абмежаваньняў, а таксама праўнае забясьпечаньне свабоднага нацыянальна-культурнага разьвіцьця.[38]

Паколькі ўдзельнікі польска-расейскага зьезду ў Маскве, як і наагул польскія й расейскія палітыкі, гаварылі пра Расею й Польшчу, як пра краі сумежныя, ад самога пачатку абодвы бакі мусілі займацца пытаньнем, дзе-ж ляжыць тая мяжа, як яе правесьці — падводны рыф, які абодвы бакі тымчасам стараліся абмінуць. Польска-расейскі зьезд у Маскве прадбачліва пастанавіў адкласьці „больш дэтальнае азначэньне межаў і зьместу аўтаноміі да часу ўсебаковага распрацаваньня праблемы”[39] Як паясьніў пасьля Мілюкоў, удзельнік зьезду, „Польшча ў гэтых перамовах мысьлілася абодвума бакамі ў этнаграфічных межах, прычым палякі не пярэчылі супраць перагляду межаў аўтаномнага краю із зьменамі як у той, гэтак і ў другі бок”.[40]

Этнаграфічны крытэры для разьвязаньня гэтага пытаньня не рабіўся аднак выразьнейшым ад намнажэньня літаратуры на гэтую тэму, што інтэнсыўна й масава выдавалася з усіх бакоў. Спрэчнай была ўжо сама дэмаграфічная статыстыка.

Паводля першага перапісу жыхарства Расеі 1897 году, вынікі якога былі апублікаваныя ў 1905 годзе, беларусаў у царскай імпэрыі налічвалася 5.886.000 (4,57% усяго жыхарства дзяржавы).[41] Прафэсар Аўхім Карскі, аднак, у 1903 годзе налічваў куды больш беларусаў — 8.317.961.[42] З польскага-ж боку праводзілася крытыка перапісу 1897 году з настойлівымі цьверджаньнямі, што лік палякоў у „Паўночна-Заходнім Краі” быў заніжаны блізу ў тры разы, што іх там ня 424.000, як падавала статыстыка, а прынамся паўтара мільёна[43]

Да галасоў расейска-польскага дыялёгу й спрэчак у „Паўночна-Заходнім Краі” (або „Крэсах Усходніх”), пасьля

заснаваньня ў 1903 годзе Беларускае Сацыялістычнае Грамады (БСГ) зь ейнай праграмай „тэрытарыяльнае незалежнасьці"[44]), палітычна далучыўся й голас беларусаў. Беларускія асьпірацыі, бясспрэчна, былі ведамыя расейскім і польскім дзеячом, паколькі БСГ была прадстаўленая на міжнацыянальных канфэрэнцыях у Парыжы ў лістападзе 1904 году ды ў Жэнэве ўвесну 1905 году, на якіх абмяркоўваліся й дачыненьні паміж Расеяй ды Польшчай.[45] У лістападзе (19-21) 1905 году дэлегаты БСГ узялі ўдзел у пецярбурскай канфэрэнцыі Саюзу Фэдэралістых-Аўтанамістых, на якой была прынятая пастанова пра „канечнасьць арганізацыі ў Расеі дэмакратыі на пачатках фэдэрацыйнага ладу".[64]

Калі палітычнае жыцьцё ў Расеі было пашыранае й паглыбленае рэвалюцыйным уздымам ды царскай пастановай пра скліканьне Дзяржаўнае Думы, актуалізавалася ды завайстрылася й пытаньне нацыянальнае, асабліва пытаньне польска-расейскіх дачыненьняў. У справе разьвязаньня гэтае праблемы ўважала за патрэбнае выказацца кажная палітычная партыя. Некаторыя з гэтых выказваньняў, у форме партыйных праграмаў, былі вынікам нарадаў і канфэрэнцыяў з удзелам у іх прадстаўнікоў „Паўночна-Заходняга Краю". Былі між гэтых прадстаўнікоў і гэткія, што пасьля трапілі ў Дзяржаўную Думу як дэпутаты: князь Г. Друцкі-Любецкі і В. Янчэўскі зь Менскае губэрні ды А. Хамянтоўскі з Магілеўскае губэрні. Усе трох бралі ўдзел у маскоўскай нарадзе (12-14. IX. 1905 г.) земскіх і гарадзкіх дзеячоў, на якой закладаліся асновы праграмы Канстытуцыйна-Дэмакратычнае („кадэцкае") партыі. Бачачы ў Дзяржаўнай Думе „пункт апоры для грамадзкага руху, што імкнецца да дасягненьня палітычнае свабоды",[47] у пытаньні нацыянальных правоў зьезд аднагалосна пастанавіў:

> Асноўны закон Расейскае Імпэрыі павінен гарантаваць усім жыхаром і народнасьцям, што насяляюць Імпэрыю, права культурнага самавызначэньня, поўную свабоду ўжываньня розных моваў і дыялектаў у грамадзкім жыцьці й свабоду сходаў, саюзаў, навучальных установаў і ўсялякага роду ўстановаў, што маюць за мэту захаваньне й разьвіцьцё мовы, літаратуры й культуры кожнае народнасьці.[48]

Гэтая-ж дэклярацыя блізу даслоўна была паўтораная ў праграме Канстытуцыйна-Дэмакратычнае партыі, калі месяц пасьля адбыўся ўстаноўчы сход гэтае партыі пры масавым удзеле ў ім прадстаўнікоў ад земстваў і гарадоў.

Пасьлейшая тактыка кадэтаў што да нацыянальнага пытаньня ў самой Думе выявілася, праўда, ня зусім у згодзе з вышэй паданай дэклярацыяй. Гэтак, прыкладам, прадстаўнік Чарнігаўскае губэрні трудавік Локаць, кажучы пра сваю губэрню, адзначыў, што „настроі кадэцкіх кандыдатаў у іхных праграмных прамовах на перадвыбарных сходах (былі) куды больш бадзёрыя й наважаныя, чымся яно выявілася ў Думе". [49]

У няшчырасьці вінавацілі кадэтаў і правыя партыі. У кастрычніку 1905 году Партыя Праўнага Парадку выкрывала ў сваёй праграме кадэцкую дэклярацыю што да нацыянальнага пытаньня, прынятую месяц перад тым:

> Цяпер удзельнікі згаданага зьезду (кадэцкае партыі — Я. З.) стараюцца ў друку й вусна запэўняць, што пад прынятымі на Маскоўскім зьезьдзе рэзалюцыямі аўтаномія для паасобных мясцовасьцяў Расеі разумеецца толькі ў культурным, а не ў палітычным сэньсе.[50]

Партыя-ж Праўнага Парадку адкідала нат і гэткую зрэдукаваную свабоду нацыянальнасьцям, якую кадэты прызнавалі хоць на паперы — адкідала на тэй аснове, што „слова ,аўтаномія' — гэта зусім азначаны тэрмін, і толькі палітычны, а ня культурны, як ведама кажнаму, менш-больш абазнанаму зь дзяржаўным правам". У сувязі з гэтым Партыя Праўнага Парадку заяўляла, што яна „бязумоўна адкідае ўсялякую ідэю што да перабудовы Расеі паводля фэдэрацыйнага тыпу".[51]

У лістападзе 1905 году была заснаваная ў Пецярбургу Партыя Свабодамысных з мэтай ператварэньня Расеі ў канстытуцыйную манархію. Свабодамысныя стаялі блізка да кадэтаў і прызнавалі „канечную патрэбу ўсемагчымае абароны нацыянальных моваў і культураў, наколькі гэткая абарона адказвае інтарэсам народных масаў".[52] Што да пытаньня нацыянальнае аўтаноміі, Свабодамысныя выказваліся „супраць усялякае недаказанасьці ў пытаньні пра аўтаномію, вельмі нявыразна азначаную Канстытуцыйнымі-Дэмакратамі".[53] І запраўды, Свабодамысныя даказвалі каротка тое, што ім здавалася няясным у кадэтаў:

> Для народнасьцяў, што займаюць малыя тэрыторыі, жывуць ня суцэльнай масай і не валодаюць яшчэ шырока разьвітой нацыянальнай культурай, аўтаномія павінна мець вылучна народны характар і, параўнальна, абмежаныя памеры: яна выявіцца ў прызнаньні правоў роднае мовы ў дзяржаўнай і грамадзкай пачаткавай школе (у літоўцаў, маларосаў, беларусаў, эстаў, латышоў, румынаў); часамі — у сярэдняй школе (у армянаў, грузінаў, немцаў); у ніжэйшых інстанцыях суда й адміністрацыі; у драбнейшых земскіх адзінках; урэшце, у грамадзкім жыцьці, у шырокім сэньсе гэтага слова.[54]

Да палякоў Свабодамысныя ставіліся вялікадушней: у Каралеўстве Польскім прызнавалі ім „найбольш поўную

форму аўтаноміі, блізкую да аўтаноміі фінляндзкай" — „у сувязі зь іхнай колькасьцяй, займаньнем суцэльнае тэрыторыі, сваеасаблівасьці эканамічнага быту, і нарэшце, пэўнае жывучасьці гістарычнае дзяржаўнае традыцыі".[55]

Што да правых партыяў — Саюзу 17 Кастрычніка (акцябрыстых — Я. З.), Усерасейскага Гандлёвапрамысловага Саюзу, Прагрэсыўнае Эканамічнае Партыі, Расейскае Партыі Народнага Цэнтру — усе яны, кажучы словамі Саюзу 17 Кастрычніка, імкнуліся „супрацьдзеіць усялякім прапановам, сьціраваным проста ці ўскосна на падзел Імпэрыі й на падмену адзінае дзяржавы дзяржаваю саюзнай ці саюзам дзяржаваў".[56]

Як бачым, нацыянальная праблема была страшэнна заблытаная — гэта значыцца кажнай партыяй трактавалася паразнаму — патэнцыяльна выбуховая. Намаганьне знайсьці выхад з дылемы — з аднаго боку, лібэралізаваць нацыянальную палітыку зь небясьпекай выклікаць сэпаратызм, а з другога, захаваць адзінства імпэрыі — асабліва зырка выявілася ў праграме клерыкальнае й антысэміцкае Расейскае Народнае Партыі (РНП).

Узяўшы сабе за лёзунг прынцып „жыць і даваць жыць іншым", партыя гэтая асуджала „катэгарычна ўсялякае гвалтоўнае абрусеньне ўскраінаў" ды сьцьвярджала, што „свабода й пашана да нацыянальных асаблівасьцяў ды імкненьняў іншародцаў створаць нам усюды сяброў".[57] Гэтая дабразычлівасьць грунтавалася на меркаваньні — якое пераняў пасьля й Ленін! — што „асыміляцыйная культурная сіла расейскага народу выстачальна вялікая, і расейская культура пашырыцца нястрымна сама, калі ёй даць прастор і зьняць апеку й бюракратычны цэнтралізм", бо гэта яны „стварылі нам ворагаў на ўсіх ускраінах і паслабілі давер і пашану да нас іншародцаў, паралізаваўшы гэтым прыродную гегемонію расейскага племя".[58] Зусім лягічна з гэтым разуменьнем свае „прыроднае гегемоніі" РНП перасьцерагала: „пра ніякі сэпаратызм ускраінаў ня можа быць і мовы", што ішло ў духу аднаго з асноўных перакананьняў партыі: „Ускраіны павінны заставацца ў дзяржаўным падпарадкаваньні расейскаму народнаму ядру".[59]

Пакідаючы збоку іншыя ідэйныя й тэрміналягічныя розьніцы, трэба адзначыць блізіню паглядаў на нацыянальнае пытаньне рэакцыйнае Расейскае Народнае Партыі й Леніна, правадыра бальшавіцкага крыла расейскае сацыял-дэмакратыі й пасьлейшага спадкаемца царскага цэнтралізму й русыфікацыі. Восем гадоў пасьля таго, як РНП выказалася ў нацыянальным пытаньні, у 1914 годзе, калі гэтае пытаньне набыло асаблівую вайстрыню, Ленін сьцёбаў правага кадэцкага лідэра Какошкіна за ягонае перакананьне, што „прызнаньне права на адлучэньне пабольшвае небясьпеку ‚распаду дзяржавы' ". Ленін павучаў неразумнага кадэта: „З гледзішча дэмакратыі наагул якраз наадварот: прызнаньне права на адлучэньне **зьмяншае** (падчыркнена Ленінам—Я. З.) небясьпеку ‚распаду дзяржавы' ".[60] Што да самое небясьпекі адлучэньня й „распаду дзяржавы", дык Ленін прадбачліва перагароджваў гэтаму дарогу ў паясьняльнай зносцы да свайго „прызнаньня права":

> Ня цяжка зразумець, што прызнаньне марксыстымі **ўсяе Расеі** (усюды падчыркненьні ў арыгінале — Я. З.) ды перш-наперш Вялікаросамі **права** нацыяў на адлучэньне аніяк **ня** выключае **агітацыі** супраць адлучэньня збоку марксыстых тае ці іншае **прыгнечанае** нацыі, як прызнаньне права на развод ня выключае агітацыі ў тым ці іншым выпадку супраць разводу.[61]

Гэткай вось казуістыкай — Вялікарос прызнаў, а нацыянал-марксысты адмоўся — палітыка скрайня левых зьлівалася з палітыкай скрайня правых у вадну праграму далейшага ўжыцьцяўляньня традыцыйнага вялікадзяржаўніцкага пастуляту, што, кажучы словамі Расейскае Народнае Партыі, „ускраіны павінны заставацца ў дзяржаўным падпарадкаваньні расейскаму народнаму ядру". У васобе Леніна адно, на зьмену гістарычна зношанаму мэсіянству цароў і маскоўскаму рэлігійнаму фанатызму, ішло мэсіянства пралетарскае, фанатызм матар'ялістычны, разам з цынічным бачаньнем сьвету ды зь верай у сілу эканомікі. Свае пагляды на тактыку, пры дапамозе якое найлепш было-б забясьпечыць Расеі ейны вялікадзяржаўны характар, Ленін выказаў у лісьце да армянскага бальшавіка Шаўмяна ў сьнежні 1913 году. Ленін дакараў Шаўмяна, што той не разумее дыялектыкі нацыянальнага пытаньня:

> Як Вы ня хочаце зразумець тае **псыхалёгіі** (усюды падчыркненьні ў арыгінале — Я. З.), якая асабліва важная ў нацыянальным пытаньні й якая пры найменшым прымусе паганіць, паскудзіць, зводзіць на нічога бясспрэчнае прагрэсыўнае значаньне цэнтралізацыі, вялікіх дзяржаваў, адзінае мовы? Але **яшчэ** важнейшая эканоміка, **як** псыхалёгія: у Расеі **ўжо** ёсьць **капіталістычная** эканоміка, што робіць **расейскую** мову канечна патрэбнай... Няўжо адпад паршывае паліцэйшчыны ня збольшыць у дзесяць (у тысячу) разоў вольныя саюзы аховы й пашырэньня расейскае мовы??[62]

Неўзабаве пасьля гэтага Ленін ізноў выказваўся на гэтую самую тэму ў сваім партыйным органе газэце „Правда":

> Мы перакананыя, што разьвіцьцё капіталізму ў Расеі, наагул увесь ход грамадзкага жыцьця вядзе да зьбліжэньня ўсіх нацыяў паміж сабою. Сотні тысячаў людзей перакідаюцца з ад-

нага канца Расеі ў другі, нацыянальны склад жыхарства перамешваецца, адасобненасьць і нацыянальная закарэласьць павінны адпасьці.[63]

Задоўга, аднак, да таго, як савецкія кіраўнікі самі пачалі перакідаць „сотні тысячаў людзей з аднаго канца Расеі ў другі", увесну 1906 году, напярэдадні першага расейскага канстытуцыйнаа экспэрымэнту, надзеі на палепшаньне стану нерасейскіх нацыянальнасьцяў сягалі высака. І тымчасам як і абаронцы і далакопы нацыянальных правоў з усіх канцоў імпэрыі сплываліся ў пецярбурскі Таўрыдзкі Палац, каб пачаць узгодніваць свае разыходжаньні, шукаць выхаду з заблытанага гісторыяй шматнацыянальнага лябірынту, праніклівы назіральнік і камэнтатар гэтае гістарычнае драмы Аляксандра Цытрон запісаў у сваім дзёньніку: „Я гутарыў зь некаторымі польскімі дэпутатамі пра аўтаномію Польшчы... Вось пытаньне, дзе будзе зламана шмат дзідаў, дзе нат сучасная аднагалосная Дума расколецца".[64]

## BYELORUSSIA IN THE PERIOD OF THE RUSSIAN STATE DUMAS by Jan Zaprudnik

**Summary:** A discussion of tsarist legislation in the revolutionary year 1905 which was aimed at easing tension among the national and religious minorities and resulted in a scramble for influence on the popular masses in Byelorussia. Particular attention is paid to the activity of the Polish landlords and the Catholic Church as it was influenced by Polish interests. The article also examines the nationality platforms of various political parties in Russia which sprang up as a result of the October Manifesto and vied for votes among the nationalities of the Empire. A striking similarity is pointed out between the programmatic approaches to the nationality problem of the rightist Russian People's Party and Lenin's Russian Social Democratic Labor Party.

---

[1] Ф. Багушэвіч. Творы. Мінск, Беларусь", 1967, б. 17.

[2] Государственная Дума. Стенографические отчеты. Созыв IV, сессия 2, часть 2, С.-Петербург, Госуд. издат., 1914, б. 1874, 18. III. 1914 г.

[3] Усе даты ў гэтым артыкуле паводля старога стылю.

[4] Н. И. Лазаревский, ред. Законодательные акты переходного времени. 1904 — 1908 гг. Издание 3-е, С.-Петербург, издат. юридического книжного склада „Право", 1909, б. 34.

[5] Тамсама.

[6] Цыт. пр., б. 37.



[7] Тамсама.

[8] Цыт. пр., б. 45.

[9] Цыт. пр., бб. 52-53.

[10] Цыт. пр., бб. 53-54.

[11] Цыт. пр., 52.

[12] Цыт. пр., бб. 223-224.

[13] „Окраины России" С.-Петербург, № 9, 30. IV. 1906, б. 162.

[14] „Окраины России", № 12, 21. V. 1906, б. 214.

[15] Государственная Дума. Стенографические Отчеты. Созыв IV, сессия I, часть I, С.-Петербург, Госуд. издат., 1913, б. 1917, I. III. 1913.

[16] Госуд. Дума. Стеногр. Отч., Созыв IV, сессия I, часть 2, б. 864, 8. V. 1913.

[17] W. Lednicki. Pamiętniki. Londyn, B. Świderski, 1967, t. II. s. 537.

[18] W.Lednicki. Pamiętniki. Londyn, 1963, t. I, s. 528.

[19] К. Залевский. Национальные движения (у кн.: Ю. Мартов, ред.. Общественное движение в России в начале XX века. С.-Петербург, 1911, т. IV, б. 159); П. Н. Милюков. Национальный вопрос. Происхождение национальности и национальные вопросы в России. Прага, 1925, б. 165.

[20] Л. Василевский. Современная Польша и ее политические стремления („Оцественная польза", С.-Петербург, 1906, б. 212).

[21] W. Lednicki. Pamiętniki. Londyn, 1963, t. I. s. 335.

[22] В. А. Маклаков. Вторая Государственная Дума, „Возрождение", Париж, 194?, б. 13.

[23] W. Studnicki. Sprawa Polska. Poznań, 1910, s. 496.

[24] „Окраины России", № 4, 26. III. 1906, бб. 73-74.

[25] „Окраины России", № 6, 9. IV. 1906, б. 106.

[26] „История СССР", Москва, № 3, 1967, б. 221.

[27] Тамсама.

[28] „Окраины России", № 4, 26. III. 1906, бб. 66, 67.

[29] Для РСДРП гл. юбілейны зборнік „25 лет Р. К. П. (большевиков)" Москва-Ленинград, Госиздат, 1923, б. 13; а таксама „Протоколы второго с'езда РСДРП", Женева, 1904, бб. 3-4; для эсэраў гл. „Программа Партии Социал-революционеров" (бязь месца выд., выданьне ЦК. П. С.-Р., 1906, б. 25).

[30] Гл. В. И. Ленин. О национальном и национально-колониальном вопросе (Москва, Гос. издат. полит. литературы, 1956, б. 570, зн. 70).

[31] Партия Социалистов-Революционеров. Программа и организационный устав Партии Социалистов-Революционеров, утвержденная на первом партийном с'езде (бяз месца выд., Изд. ЦК. П. С. Р., 1906, б. 25).

[32] Н. Недасек. Большевизм в революционном движении Белоруссии. Мюнхен, Институт по изучению СССР, 1956, бб. 75-76.

[33] А. Бурбіс. Беларуская Сацыялістычная Грамада ў першым пэрыядзе яе працы, 1903 — 1907 гг. (у зб. пад. рэд. А. Сташэўскага „Беларусь. Нарысы гісторыі, эканомікі і рэвалюцыйнага руху"

Менск, выд. ЦВК БССР, 1924, б. 180).

[34] П. Милюков, цыт. пр., б. 154.

[35] „Окраины России", № 4, 26. III. 1906, б. 65.

[36] П. Милюков, цыт. пр., бб. 163-164.

[37] Polsko-Rosyjski zjazd w Moskwie. Kraków, wyd. "Przedświt", 1905, б. 18.

[38] Тамсама.

[39] Тамсама. Гл. таксама W. Lednicki. Pamiętniki, II, 521.

[40] П. Милюков, цыт. пр., б. 164.

[41] К. Фортунатов. Национальные области России „Труд и Борьба", (С.-Петербург, 1906, б. 4).

[42] Е. Карский. Этнографическая карта белорусского племени. Петроград, 1917, б. 25.

[43] У трэйцяй Думе дэпутат Віленскае губэрні ксёндз С. Мацеевіч казаў пра паўтара міліёна палякоў у губэрнях „Паўночна-Заходняга Краю" — гл. Гос. Дума. Стеногр. Отчеты, Созыв III, сессия 4, часть I, бб. 1317-1318, 15. XI. 1910. Ул. Студніцкі ў сваёй кнізе „Справа Польска" (Познань, 1910, б. 493) пісаў, што ў афіцыйным ліку беларусаў фігуруе „блізу міліён палякоў".

[44] Протоколы Конференции Российских Национально-Социалистичесих Партий 16-20 Апреля 1907 г." С.-Петербург, изд. „Сейм", 1908, б. 92.

[45] А. Бурбіс, цыт. пр., б. 181; Л. Василевский, цыт. пр., б. 204.

[46] „Окраины России" № 22, 30. VI. 1906, б. 383.

[47] А. Башмаков. Справочная книга избирателя в Государственную Думу. С.-Петербург, „Слово", 1906, б. 292.

[48] А. Башмаков, цыт. пр., б. 297.

[49] Т. Локоть. Первая Дума. Москва, „Польза", 1906, б. 105.

[50] А. Башмаков, цыт. пр., б. 357.

[51] Тамсама, б. 358.

[52] Тамсама, б. 335.

[53] Тамсама.

[54] А. Башмаков, цыт. пр., б. 309.

[55] Тамсама.

[56] А. Башмаков, цыт. пр., бб. 381, 397, 412, 429.

[57] Тамсама, б. 447.

[58] Тамсама.

А. Башмаков, цыт. пр., бб. 447, 429.

[60] В. Ленин, цыт. пр., б. 199.

[61] Тамсама, б. 228.

[62] В. Ленин. Полное собрание сочинений. Москва. Издат. полит. литературы, 1964, т. 48, б. 234.

[63] В. Ленин. О национальном и национально-колониальном вопросе, б. 148.

[64] А. Цитрон. 72 дня первого Русского Парламента. С.-Петербург, издат. Баума, 1906, б. 18.



# ГІСТАРЫЧНАЯ КАНЦЭПЦЫЯ ВАЦЛАВА ЛАСТОЎСКАГА

## у працах сучасных гісторыкаў

**Рыгор Максімовіч**

### 1

У гістарычнай навуцы даўно ведама, што назовы РУСЬ, РУСКІ, на ўсходнеславянскіх прасторах не спрадвечныя. Спачатна існавалі там, ад часоў дагістарычных, толькі назовы пляменныя — Крывічы, Дрыгвічы, Радзімічы, Севяране, Вяцічы, Дзераўляне, Паляне, Славене ды іншыя. Плямёны гэтыя называюць, месцы іхнага расьсяленьня падаюць старыя ўсходнеславянскія летапісы. Ад дагістарычных часоў існаваў і назоў агульны, што абыймаў усе плямёны славянскае мовы, назоў СЛАВЯНЕ.

Нейкага адмысловага агульнага назову для плямёнаў толькі ўсходнеславянскіх ня было, як ня было й агульных назоваў якія абыймалі-б у асобную групу плямёны, ці народы, паўдзённа або заходнеславянскія. Сучасны падзел славянскіх народаў і іх моваў на тры групы — паўдзённую, заходнюю й усходнюю — навуковы, габінэтны ды даволі новы. Шырэй ён замацаваўся толькі ад мінулага стагодзьдзя.

Што да назову РУСЬ, дык паводле аўтарытэтнага сьветчаньня першага ведамага, і найвыдатнейшага, усходнеславянскага летапісца Нестара, які жыў у другой палавіне XI і пачатку XII стагодзьдзяў (1056 — 1114?), РУСЯЙ калісьці называліся не славяне, а тыя скандынаўскія варагі, што запанавалі спачатку ў недалёкім ад Скандынавіі Ноўгарадзе, а пасьлей у Кіеве. У „Повести временных лет", Нестаравым летапісе, пад годам 862 кажацца, што плямёны Чудзь, Славене, Мэр і Крывічы, зь якіх заморскія скандынаўскія варагі бралі тады дань, у гэтым годзе:

> Прагналі варагаў за мора, і не далі ім дані, і пачалі самі ў сябе ўладаць. І ня было між імі праўды, і ўставаў род на род, і была між імі нязгода, і сталі ваяваць самі з сабой. І сказалі сабе: „Пашукаем сабе князя, які ўладаў-бы намі ды судзіў-бы па

праву". І пайшлі за мора, да варагаў, да Русі. Русяй бо называліся гэтыя варагі, падобна як іншыя называюцца шведы, а іншыя нарманы, англы, а яшчэ іншыя готляндцы... Чудзь, Славене, Крывічы й Весь сказалі Русі: „Зямля нашая вялікая й багатая, ды парадку ў ёй няма. Прыходзьце княжыць і ўладаць намі". І выбралася трох братоў з сваімі родамі, і ўзялі з сабою усю Русь, і прыйшлі да Славенаў, і сеў старшы Рурык, у Ноўгарадзе, а другі, Сінеюс, на Белавозеры, а трэйці Трувар, у Ізборску. І ад варагаў гэтых празвалася Руская зямля... Варагі ў гэтых гарадох находнікі, а першыя пасяленцы ў Ноўгарадзе — Славене, у Полацку — Крывічы, у Роставе — Мер'я, у Белавозеры — Весь, у Мураме — Мурама.

Дык, паводле расказу Нестара, РУСЯЙ называліся спачатна тыя варагі, што прыбылі з Рурыкам з Скандынавіі й запанавалі ў Ноўгарадзе ды іншых племенных палітычна-эканамічных цэнтрах і славянскіх, і фінскіх. Паводле таго-ж Нестара наўгародзкія варагі-Русы пазьней, па сьмерці ўжо Рурыка, накіраваліся пад правадырствам ягонага дружыньніка Алега, апякуна малога Рурыкавага сына Ігара, на поўдзень ды захапілі подступам Кіеў ад варагаў іншых, што Кіевам валадалі. Князем у Кіеве Алег пасадзіў Ігара, ад якога й пачаўся род кіеўскіх князёўРурыкавічаў. З захопам варагамі-Русамі Кіева яны сталі поўнымі гаспадарамі важнага тады вельмі гандлёва-камунікацыйнага шляху „з варагаў у грэкі".

Паколькі Алегавай дружыне варагаў-Русаў у Кіеве ўдалося пры ўладзе ўтрымацца, горад ды бліжэйшыя сумежныя землі Палянаў і сталі называць зямлёю Русаў — РУСКАЙ зямлёй. Даўжэйшае панаваньне ў славянскім Кіеве неславянскіх скандынаўскіх варагаў-Русаў па колькіх пакаленьнях давяло да іх зьліцьця зь мясцовым славянскім жыхарствам, да іх славянізацыі па звычаях, мове, ды, шляхам жанімстваў, і па крыві.

Гэткім спосабам князі спачатку чужыя, РУСКІЯ, князі „находнікі" ды захопнікі, сталі з часам для кіяўлянаў князямі сваймі ня толькі па ўладзе, але й па крыві. Далейшым вынікам гэтага было, што РУСКІМІ сталі называцца ўжо ня толькі „находнікі варагі" ды іх нашчадкі, але й славяне — усе іхныя падданыя жыхары РУСКАЕ ЗЯМЛІ.

Вось гэткім шляхам, паводле аўтарытэтнага сьветчаньня Нестара, прынесены з Скандынавіі заваёўнікамі Кіева этнанім РУСЬ перашчапіўся з часам на этнічна не варскае, не германскае, але славянскае жыхарства, ды стаў назовам геаграфічным, спачатку праўда, вельмі абмежанае, але славянскае этнічна тэрыторыі. РУСКАЯ ЗЯМЛЯ ў X-XI стагодзьдзях прасторам была невялікая, бо абыймала толькі Кіеў ды блізкія ад яго землі Палянаў.



Пры канцы X стагодзьдзя, ад часу княжаньня ў Кіеве князя Валадзімера (978 — 1015) і да сьмерці князя Яраслава Мудрага ў 1054 годзе, Кіеўскае княства Рурыкавічаў на час кароткі вырастае ў магутную сілу. У залежнасьці ад кіеўскіх князёў трапляюць суседнія ўсходнеславянскія плямёны й землі, якія нейкі час мусяць плаціць кіеўскім князём дань. Не зважаючы на гэтую залежнасьць, ні ў стагодзьдзі X, ні ў XI, як сьветчаць летапісы, назовы РУСЬ, РУСКІ, далей самое Кіеўшчыны, ці бо РУСКАЕ ЗЯМЛІ ня былі пашыраныя, ня ўжываліся. Назовы гэтыя тарнаваліся ўсё яшчэ толькі да дынастыі кіеўскіх князёў, іхнае кіеўскае РУСКАЕ ЗЯМЛІ, кіеўскага княства, і толькі рэдчас яшчэ да тых іхных блізкіх памежных валаданьняў, што былі ў больш трывалай залежнасьці ад Кіева.

У летапісах ёсьць шмат прыкладаў на тое, што яшчэ аж пад канец стагодзьдзя XII, як правіла, Галіч, Валынь, Смаленск, Полацак, Пскоў, Ноўгарад, Суздаль, Уладзімер, Клязьма РУСЯЙ не называліся. Не называліся РУСЯЙ плямёны Крывічоў, Дрыгвічоў, Радзімічаў, Вяцічаў, ноўгарадзкіх Славенаў.

Калі ход пра беларускія прасторы, тут племенныя назовы захаваліся асабліва доўга. Дрыгвічы ў летапісах ўспамінаюцца яшчэ да 1149-га, Радзімічы да 1169-га, Вяцічы да 1197-га году. Крывічы-ж у хроніках Захаду ведамыя яшчэ аж да пачатку стагодзьдзя XIV. Прыкладам, нямецкая, пісаная палацінску, хроніка Дусбурга апісваючы пад годам 1314 паход крыжакоў на Наваградак падае, што тады "frater Henricus... venit ad terram Crivicie et civitatem illam, que parva Nogardia dicitur, cepit". Толькі ад стагодзьдзя XIII поймы РУСЬ, РУСКІ пашыраюцца й на далейшыя ад Кіева ўсходнеславянскія прасторы.

Што працягам трох стагодзьдзяў гісторыі ўсходняе Эўропы — стагодзьдзяў X-XII — РУСЯЙ называлася толькі Кіеўшчына, і што толькі шмат пазьней назоў гэты пашырыўся й на іншыя ўсходнеславянскія землі, ведалі паважнейшыя гісторыкі даўно. Ніхто зь іх аднак-жа ня даў задавальняючага, навукова абгрунтаванага, выясьненьня, як, якім спосабам і чаму назовы РУСЬ, РУСКІ, зь Кіева перанесеныя былі з часам на ўвесь ўсходнеславянскі прастор, аж да Ноўгараду на поўначы.

Уражала асабліва гісторыкаў тое, што, як сьветчылі летапісы, назовы РУСЬ, РУСКІ зь Кіеўшчыны шырыліся не, як можна было-б спадзявацца, у часы найбольшае палітычнае сілы Кіеўскага княства, калі Кіеў быў дамінуючым цэнтрам усходу Эўропы ня толькі палітычна, але й эканамічна ды культурна, не за князёў Валадзімера ды Яраслава Мудрага, але шмат пазьней, калі Кіеў згубіў ужо сваё палітычнае значаньне. Факты паказваюць, што пашырэньне зь Кіева на-

зову РУСЬ адбывалася перш за ўсё якраз пасьля палітычнага ўпадку Кіева дзеля няспынных змаганьняў князёў, прэтэндэнтаў на кіеўскі князёўскі пасад, ды асабліва пасьля захопу й зьнішчэньня Кіева ў 1240 годзе татарамі, што канчаткова пазбавіла Кіеў усякага і палітычнага, і эканамічнага, і культурнага значаньня.

2

У 1954 годзе ў Лёндане, у выдавецтве George and Unwin, выйшла з друку паангельску кніга польскага гісторыка Гэнрыка Пашкевіча "The Origin of Russia". У ёй, між іншага, шмат месца адведзена разгляду паходжаньня, колішніх значаньняў назоваў РУСЬ, РУСКІ, ды гістарычным зьменам гэтых значаньняў.

Што да спосабу пашырэньня гэтых назоваў зь Кіеўшчыны на іншыя ўсходнеславянскія прасторы, ключавая, разьвітая ў кнізе, тэза аўтара тая, што вырашальную ролю ў гэтым адыграла прыймо ў 988 годзе кіеўскім князем Валадзімерам хрысьціянства. Паколькі хрысьціянства на славянскім усходзе прынялося спачатку ў Кіеве Русаў і Кіеў стаў цэнтрам новае веры, сядзібай праваслаўнай мітраполіі, дык і веру гэтую на ўсходзе Эўропы сталі называць вераю РУСАЎ — РУСКАЮ ВЕРАЙ, назовам, які дажыў аж да нашых часоў.

Калі гэтая новая РУСКАЯ ВЕРА шырылася пазьней і на далёкія ад Кіева землі й плямёны, як яе прыймалі пагане жыхары Полацка, Ноўгараду ці Суздальшчыны, дык пасьля прыйма новае веры й палачанаў ды ноўгарадцаў сталі называць — спачатку толькі па веры — РУСКІМІ, ці бо людзьмі РУСКАЕ веры. У выніку па некаторым часе стварыўся гэткі стан, што хоць назоў РУСКАЯ ЗЯМЛЯ тарнаваўся й далей толькі да канкрэтнай абмежанай прасторы, да тэрыторыі кіеўскіх Палянаў, па веры РУСКІМІ ставалі й жыхары Смаленска, Полацка, Ноўгарада, Суздалі, Пскова, Валыні, Галіча.

Паводле Г. Пашкевіча гэткім гэта шляхам з часам дайшло да таго, што слова РУСЬ набыло падвойнае значаньне. Палітычна й геаграфічна РУСЬ, РУСКАЯ ЗЯМЛЯ, азначалі яшчэ ўсё толькі Кіеў з блізкімі прылежнымі да яго тэрыторыямі. У сэньсе-ж рэлігійным РУСЬ, РУСКІ, ахоплівалі ўжо ўсіх славянскіх і не славянскіх пасьлядоўнікаў РУСКАЕ ВЕРЫ, праваслаўнае веры. Зь неславянскіх плямёнаў назоў гэты перайшоў галоўна на тыя фінскія плямёны на поўначы, што прынялі праваслаўе.

У выніку паўстала гэткае палажэньне, што хоць Ноўгарад, Суздаль, Смаленск, Валынь, Галіч да Кіеўскае Русі ў палітычна-геаграфічным сэньсе й не залічаліся, але дзеля свае РУСКАЕ ВЕРЫ яны былі зьвязаныя з Кіевам назовам РУСЬ у галіне рэлігійнай ды падпарадкаваньня навет кіеўскім мітрапалітам. Дык паводле Г. Пашкевіча, ня руская дынастыя кіеўскіх Рурыкавічаў ды іхныя палітычныя ўплывы, але праваслаўная вера й Царква былі тэй сілай, што шырыла назовы РУСКІ, РУСЬ на ўсходзе Эўропы далёка й за межы кіеўскае РУСКАЕ ЗЎМЛІ. І назовы гэтыя шырылі яны й тады, калі Кіеў ды Кіеўскае княства даўно ўжо заліла ды зруйнавала татарская навала.

Свой гэткі пагляд Г. Пашкевіч у кнізе абгрунтаваў на аграмадным славянскім і заходняэўрапейскім гістарычным матар'яле, на дадзеных жаролаў — летапісаў, актаў, дакумэнтаў. На ўвагу ён узяў і вялізную папярэднюю навуковую літаратуру. Дзеля гэтага ягоная кніга мела шырокі, інтэрнацыянальны водгук сярод тых гісторыкаў і моваведаў, што цікавяцца славянскім усходам Эўропы. На ўсіх кантынэнтах сьвету, ад Амэрыкі да Японіі, ды найперш у краёх Эўропы і ў СССР, паказалася каля ста рэцэнзійных, і прыхільных, і крытычных, яе аглядаў.

У 1963 годзе Г. Пашкевіч выдае другую кнігу — "The Origin of Russian Nation". Зьмест гэтае кнігі, гэта далейшае распрацаваньне й удакладненьне паглядаў выказаных у кнізе папярэдняй, з адначасным разглядам пастаўленых ёй крытыкамі закідаў. У гэтай вось кнізе Г. Пашкевіч, між іншага, піша:

> Якабсан крытыкуе галоўную тэзу "The Origin of Russia", што датычыць да царкоўнае й рэлігійнае вагі тэрміну „Русь"... Трэба тут падчыркнуць, што тая самая інтэрпрэтацыя значаньня РУСЬ была сфармуляваная беларускімі навукоўцамі...

Далей, у зносцы пад тэкстам, Пашкевіч дадае:

> Мушу выясьніць, для акуратнасьці, што я да свайго выснаву дайшоў зусім незалежна ад аўтараў беларускіх. Калі я ўжо канчаў "The Origin of Russia", я натрапіў на два артыкулы з аналягічнымі паглядамі да тае тэзы, якую высоўваў, паймена: **Ю. Верашчака.** Аб найменьнях „Гуды", „Крывічы", „Русь", („Крывіч",, 1923, I, б. 17-24), ды **Л. А.** Што такое „РУСЬ" смаленскай targовай граматы 1229 г. (тамсама, 1923/6, б. 23-24).[1]

Дык Г. Пашкевіч прызнаў, што гэта „беларускія навукоўцы" даўно перад ім сфармулявалі пагляд, які зьяўляецца ключавым для выснаваў ягонае кнігі, пагляд пра спосаб пашырэньня зь Кіева назову РУСЬ. Заяву Пашкевіча можна яшчэ ўдакладніць гэтым, што гаварыць у запраўднасьці трэба не пра двух, а пра аднаго толькі беларускага навукоўца.

Псэўдонім і крыптонім, якімі падпісаныя артыкулы ў „Крывічы" — „Юры Верашчака" ды „Л. А." — належыць адной асобе: выдаўцу й рэдактару ковенскага часапісу „Крывіч", Вацлаву Ластоўскаму. Дык тэза пра рэлігійнае значаньне назоваў РУСЬ, РУСКІ, як важнага фактару для справы пашырэньня гэтых назоваў зь Кіева на ўсю усходнеславянскую прастору, была пастаўленая Ластоўскім, гэта ягоная гістарычная канцэпцыя. І выказаная яна была ў друку трыццаць і адзін год перад зьяўленьнем кнігі Г. Пашкевіча "The Origin of Russia".

Адцеміць для дакладнасьці трэба, што ў першай кнізе Пашкевіча, "The Origin of Russia", нічога ня сказана пра гэта, што галоўная яе тэза была сфармуляваная ўжо раней „беларускімі навукоўцамі", хоць паказаныя вышэй артыкулы там і пададзеныя пры канцы кнігі ў сьпісе скарыстанае да працы літаратуры, ды раз і ў зносцы пад тэкстам кнігі. Калі цяпер Г. Пашкевіч гэта ў другой сваёй кнізе раскрывае, з адначаснай заявай, што да падобных выснаваў ён дайшоў „незалежна ад аўтараў беларускіх", дык гэта таму, што гэтым часам зьвярнуў на гэта ўвагу адзін з рэцэнзэнтаў ягонае першае кнігі.

У 1955 годзе ў часапісе, што выходзіць у Ню Ёрку, "The Ukrainian Quarterly", П. Грыцак адцеміў, што галоўная тэза Пашкевічавай працы "The Origin of Russia", тэза пра рэлігійнае значаньне тэрміну РУСКІ, РУСЬ, як важнага фактару ў пашырэньні гэтага назову зь Кіева на далейшыя славянскія прасторы, ані новая, ані арыгінальная. У гэтым пытаньні, паводле П. Грыцака, Пашкевіч толькі „сьведама ці ня сьведама ідзе за тэзаю прадстаўнікоў крывіцкага крыла беларускае інтэлігенцыі". На прыклад гэтага ён прывёў друкаваны ў 1951 годзе „Кароткі начырк гісторыі Крывіч-Беларусі", Я. Станкевіча.[2] Дык да прызнаньня, што галоўную канцэпцыю кнігі "The Origin of Russia", сфармулявалі шмат раней беларускія навукоўцы, Г. Пашкевіч у некаторай меры быў змушаны тым, што ўвагу на гэта зьвярнуў рэцэнзэнт ягонае кнігі.

## 3

Калі сам Г. Пашкевіч прызнаў, што „тая самая інтэрпрэтацыя значаньня РУСЬ была сфармуляваная беларускімі навукоўцамі", ды падаў і канкрэтныя публікацыі дзе, цікава будзе пазнаёміцца з арыгінальным іх тэкстам. Як ужо ўспаміналася, абодва артыкулы, — адзін падпісаны псэўдонімам, а другі крыптонімам, — належаць пяру ведамага беларускага пісьменьніка, навукоўца й выдатнага грамадзка-палітычнага дзеяча Вацлава Ластоўскага.



Першы арыткул, падпісаны псэўдонімам ЮРЫ ВЕРАШЧАКА, мае назоў „Аб найменьнях ,Гуды', ,Крывічы', ,Русь' ". На пачатку артыкулу дадзеная агульная заява, што:

> няма ніводнага народу, які-б на працягу ўсёй сваёй гісторыі заўсёды насіў адно й тое самае імя. Пад уплывам перасяленьняў... чужаземных заваяваньняў, зьмены пануючай дынастыі, або веры, заснаваньня новага нацыянальнага цэнтру й гэтаму падобных прычынаў, найменьні народаў і дзяржаваў зьмяняліся.

Першым у артыкуле разглядаецца назоў ГУДАЙ, якім аж да нашых дзён Беларусаў называюць суседзі Лятувісы. Далей ідуць разважаньні пра назоў КРЭВУ, якім таксама аж да сяньня, называюць Беларусаў Латышы. Пасьля гэтага аўтар прыводзіць розныя летапісныя весткі, пачынаючы ад сьветчаньняў Нестаравай „Повестй временных лет", што датычаць да зьяўленьня й да пашырэньня на землях Беларусі назоваў РУСЬ, РУСКІ. Пра гэта ў артыкуле напісана:

> Пашырэньне імя „Русь" на тэрыторыю Крывічоў, адбывалася не дынастычным парадкам, а шляхам пашырэньня хрысьціянства. Прыняцьце хрысьціянства вялікім князем кіеўскім Валадзімерам мела вельмі важныя вынікі для дынастыі Русаў і іхных дружын. Дынастыя, з дружынай, пад уплывам славянскай граматнасьці, асымілявалася з падбітымі славянамі (таксама, як раней было ў Баўгарыі), прыняла іх мову. У свой чарод хрысьціянства, якое, сьпершапачатку, было верай пануючае клясы, князёў і дружыны, верай Русаў, атрымала найменьне „рускай веры". „Рус" і „хрысьціянін" былі найменьні ўзаемна сябе пакрываючыя. Ад гэтага часу „прымучваньне" славянаў варагамі, пакрывалася высокімі мэтамі пашырэньня „рускай веры", пашырэньня хрысьціянства. Манаполь хрысьціянства ў руках Кіеўскіх Русаў сыграў грамадную ролю ў сэньсе ўгрунтаваньня іх улады й пашырэньня ўплываў. Па іхным боку была цяпер хрысьціянская царква зь яе арганізацыяй і граматнасьцю, ды, у дадатку, цэнтрам гэтай царквы быў іх-жа „богоспасаемы" горад Кіеў. Хрысьціянства, што ўжо перад гэтым мела карані між гарадзкога жыхарства ўсяго абшару ўсходняй славяншчыны, пачало скора шырыцца, і ... за 200 гадоў увесь усходнеславянскі абшар становіцца хрысьціянскім і прыбірае імя Русь. Старыя пляменныя дзяржаўныя найменьні прасьледуюцца, як азнака зваяванага паганства, як азнака адсталасьці й някультурнасьці. У пераходны час ад паганізму да хрысьціянства, прыймаецца імя „Русь" і Крывічанскім народам. Аднак найменьне „Крывічы", як моцна ўкаранiўшаеся, уступае сваё месца новаму тэрміну не адразу. Мы ўжо бачылі вышэй, што ў XI ст. кіеўскі летапісец не расьцягвае імя Русь

на Крывічоў. Латышы да сяньня ня ўжываюць імя „Беларусы", а называюць, па старой памяці, нас Крывічамі (Крээву). Найменьне гэтае да нядаўна, фігуравала ў статыстыцы (Н. Столпянский „Девять губерний Западного Края", СПБ, 1866 год), а знача ў памяці народнай, як найменьне нацыянальнае.

З гэтага вынікае, што: а) найменьне „Русь" не славянскага паходжаньня, занесена яно на славяншчыну Норманамі ў IX стагодзьдзі; б) пашыралася яно між славянскіх плямёнаў як тэрмін дынастычны і, галоўна, як веравызнаўчы; у гэтым апошнім значаньні яно ўмацавалася й сярод Крывічоў.[3]

Гэткі вось быў арыгінальны пагляд В. Ластоўскага на спосаб пераносу на беларускія землі назоваў РУСЬ, РУСКІ. Як бачым, ён у істоце ідэнтычны з паглядам выказаным у гэтым пытаньні Г. Пашкевічам. Адзначыць можна толькі невялікія розьніцы ў самым сфармуляваньні. Калі Ластоўскі кажа ,што найменьне „Русь" пашыралася „між славянскіх плямёнаў як тэрмін дынастычны і, галоўна, як веравызнаўчы", дык Пашкевіч думку гэтую фармулюе гэтак:

> У гістарычных часох слова „Русь" мела падвойнае значаньне. Геаграфічна й палітычна яно азначала Кіеў з прылеглымі тэрыторыямі, у рэлігійным-жа сэньсе яно ахоплівала ўсіх славянскіх і не славянскіх пасьлядоўнікаў веры Русаў... Гэты факт паказвае, што не заснованая Рурыкам дынастыя, але Праваслаўная Царква была галоўным пашыральнікам найменьня Русь у ўсходняй Эўропе.[4]

Калі Ластоўскі, як бачым, гавора пра „Русь", як тэрмін толькі дынастычны, дык Пашкевіч адцемлівае стадыю ягонага ўжо шырэйшага сэмантычнага засягу, бо кажа пра „геаграфічны й палітычны" зьмест гэтага слова. Калі Ластоўскі пашырэньне назову „Русь" дзякуючы ягонаму рэлігійнаму значаньню абмяжоўвае толькі ўсходнеславянскаю прастораю, Пашкевіч фармулюе шырэй, бо кажа, што „ў рэлігійным сэньсе яно ахоплівала ўсіх славянскіх і не славянскіх пасьлядоўнікаў веры Русаў", ці бо праваслаўнае веры. Удакладненьне гэтае гістарычна й апраўданае, і важнае, бо славянізацыя хоць-бы вялікіх масаў жыхарства плямёнаў фінскіх на поўначы пачыналася якраз зь іхнага наварочваньня на „рускую" веру. За гэтым ішла ўжо русыфікацыя.

У другім артыкуле, азагалоўленым „Што такое РУСЬ смаленскай тарговай граматы 1929 г.", Ластоўскі зьвярнуў увагу, што ў грамаце гэтай нямецкія купцы Рыгі й Готлянду ўвесь час называюцца „лацініянамі", купцы-ж смаленскія — „русяй". Дык слова РУСЬ даецца ў супаставе да слова „лацініяне", ці бо пайма характару рэлігійнага. Відавочна пад уплывам артыкулу Ластоўскага, тэкст гэтае граматы асабліва шырака, у ангельскім перакладзе, цытуе ў сваёй кнізе Пашкевіч ды цытаты папярэджае заўвагай:



> Праўдападобна найважнейшы дакумэнт датычны да нашага пытаньня гэта ўмова паміж смаленскім князем з аднаго боку й Рыгай ды Готляндам з другога.[5]

Вышэй прыведзеныя свае пагляды В. Ластоўскі пазьней коратка пераказаў і на пачатку свае кнігі „Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі" (Коўня, 1926, б. 7) словамі:

> У 988 — 990 гадох Валадзімер прыняў хрысьціянства і, пры помачы грэцкіх сьвятароў, ахрысьціў сваю дружыну й кіеўскіх мяшчанаў. Гэты крок Валадзімера меў страшэнна важныя вынікі: Варагі-Русь узялі ў свае рукі ініцыятыву хрышчэньня ўсходніх славянаў, або, іначай кажучы, набылі сабе права рабіць падбоі славянскіх плямёнаў пад відам навaрачваньня ў хрысьціянства. Больш таго, крыж у руках варагаў-Русі акружыў іх аўрэоляй носьбітаў і пашырыцеляў вышэйшай культуры. Кіеў стаўся асяродкам распашырэньня хрысьціянства, а кіеўскі князь, параўне зь мітрапалітам-грэкам, стаўся галавой гэтага хрысьціянства, якое на ўсходня-славянскіх абшарах заслыло пад назовам „рускай" веры. У справе замацаваньня вараскіх заваяваньняў на ўсходняй славяншчыне прынятцце хрысьціянства варагамі-Русьсю адыграла першарадную ролю... Пераход у новую „рускую" веру разглядаўся ў тыя часы, як адначасны пераход у новую нацыянальнасьць „рускую"..."

Розьніца ў паданьні тае самае гістарычнае канцэпцыі Ластоўскім і Пашкевічам галоўна толькі ў шырыні абгрунтаваньня тае самае тэзы. Ластоўскі яе падае ляканічна, коратка, як гатовы пастулят лёгікі, ды ілюструе яе правільнасьць невялікім толькі лікам прыкладаў зь летапісаў ды дакумэнтаў. Пашкевіч-жа той самы пагляд абгрунтоўвае на вялізным, зачэрпнутым з гістарычных жаролаў усходу й захаду Эўропы, давадовым матар'яле. І самую думку ён кладзе вуглавым каменем пры абгрунтаваньні галоўных высноваў свае вялікае навуковае працы, тымчасам як Ластоўскі выказаў яе толькі ў артыкулах.

Гістарычная канцэпцыя, распрацаваная з гэткім акадэмічным размахам і пададзеная ў вялікім кніжным выданьні, ды ў мове першараднае міжнароднае важнасьці, паангельску, паставіла для навуковага абмеркаваньня ўзьнятае ў 1923 годзе Ластоўскім пытаньне на шырокі інтэрнацыянальны форум. І ў гэтым, бясспрэчна, вялікая заслуга Г. Пашкевіча.

Ды як-бы шырака й грунтоўна, і сяньня, і ў будучыні, не абмяркоўвалася й не разбудоўвалася ці Пашкевічам, ці

іншымі навукоўцамі, гэтая тэза, фактам застаецца, што гэта далейшае распрацоўваньне канцэпцыі беларускага гісторыка Вацлава Ластоўскага.

У гістарыяграфіі ведамая старая спрэчка „нарманістаў" з „антынарманістамі" ў пытаньні зьяўленьня назоваў „Русы", „Руская зямля", „Русь". Адзначыць важна, што разгледжаная тут канцэпцыя В. Ластоўскага спрэчкі гэтае не кранае, бо паясьняе яна не **зьяўленьне** гэтых назоваў у Кіеве, а толькі **пашырэньне** стуль на іншыя ўсходнеславянскія прасторы. Галоўным фактарам у гэтым пашырэньні, паводля Ластоўскага, была новая хрысьціянская вера Русаў Кіева, якая набыла назоў „рускае веры", і, пры далейшым праніканьні хрысьціянства на ўсходнеславянскія землі, разносіла адначасна ды замацоўвала назовы „рускі", „Русь".

**THE CONCEPT OF V. LASTOUSKI IN WORKS OF CONTEMPORARY HISTORIANS by Ryhor Maksimovich**

**Summary:** It has been known to historians for some time that the terms, **Ruś** and **Ruskaya Zemlya,** were first applied only to the territories of the Polyanye near Kiev. It was only from the beginning of the 12th century that the scope of these terms spread to include other East European lands. For a long time, however, no explanation was offered for the cause of that spread to territories remote from the Kievan center of power and influence. In 1923, the Byelorussian historian, Vacłau Łastouski, advanced the thesis that the principal factor of that diffusion was the Orthodox Church, since that faith, after Kiev's conversion, was referred to as the **faith of Rusy, Russian faith.** Łastouski's thesis has since then been accepted by other historians. In recent years it has received considerable development and substantiated treatment in the works of Henryk Paszkiewicz.

[1] H. Paszkiewicz. The Origin of Russian Nation. London, 1963, p. 325.
[2] "The Ukrainian Quarterly". New York, 1955, p. 181.
[3] Юры Верашчака. Аб найменьнях „Гуды", „Крывічы", „Русь", („Крывіч", Коўня, № 1, 1923, б. 23-24).
[4] H. Paszkiewicz. The Origin of Russia, p. 146.
[5] The Origin of Russia, pp. 13-14.



# ВЯСЕЛЬЛЕ НА ЛАГОЙШЧЫНЕ

**Адам Варлыга***

Вясельлі ў нашай ваколіцы Лагойшчыны — паўночнай Меншчыны — сваімі старавечнымі абраднасьцямі, звычаямі й забабонамі, у даўныя гады былі надта цікавыя. Тут падаю тыя весткі, якія пра вясельлі чуў у сваім маленстве з апавяданьняў старых людзей.

Вясельныя звычаі на працягу гадоў зьмяняліся, упрашчаліся. Закрануць тут хачу гэткія тры адрэзкі часу: ад пачатку XIX стагодзьдзя да 70-х яго гадоў, калі дзевак сваім сыном сваталі бацькі; тры апошнія дзесяткі гадоў таго стагодзьдзя ды першыя два дзесяткі гадоў XX стагодзьдзя. Ня буду тут кранаць тых выпадкаў, калі, ад прыблізна 1830 году й да канца прыгону, паны-абшарнікі маглі прымусова жаніць сваіх прыгонных сялянаў.

У першай палавіне XIX ст., калі дзяцюку падыходзіў час жаніцца, сваякі наказвалі бацьку, матцы ці й хлопцу, дзе ёсьць добрая на жонку дзеўка. Пры гэтым асаблівую ўвагу зьвярталі й на добрае імя бацькоў ды радні дзеўкі. Часамі хлопцы й самі наглядалі сабе дзевак на кірмашох, вясельлях ці ігрышчах. Але радня гэтага хлопца пасьля распытвалася пра гэтую дзяўчыну, пра ейных бацькоў, пра радню. Аб якасьці сватанай дзяўчыны ў залежнасьці ад радні склалася шмат прыказак: „З благога куста благая й птушка вылятае", „Сава ня родзе сакала", „Выбірай сабаку па псярні, а жонку па радні", „Родам куркі хахлатыя", „Які сьвярдзел, такая й дзюрка, якая маці, такая й цурка".

Радня славілася не з матарыяльнага багацьця, а з цнатлівасьці й грамадзкіх дачыненьняў. Бацькі, ды й самі дзяцюкі асьцерагаліся, каб ня ўзяць за жонку гультайкі, язычніцы, пляткаркі, неахайніцы, распусных паводзінаў і злосьніцы. Як хлопцы выбіралі дзяўчат за жонак на кірмашы, ці пры прыпадковым спатканьні, я тут хачу падаць два выпадкі. Вось апавяданьне старога Куніцкага зь вёскі Родзевічы Гаенскай парахвіі:

* Друкуецца з рукапіснае спадчыны Адама Варлыгі (1890 — 1972).

„Мне бацькі сказалі наглядаць сабе дзяўчыну, бо маюць мяне жаніць. Я з сваімі хлопцамі пайшоў у Карэншчыну на кірмаш (было гэта каля гадоў 1825 — 1830). Там на пляцы ігралі дудары й танцавалі хлопцы зь дзеўкамі, а навокала іх стаялі хлопцы й дзяўчаты. Я нагледзеў сабе дзеўку й станаўкую, і з твару надта харошую. Прыкінуўся п'яным ды іду каля яе хістаючыся. Падыйшоў да яе, пахіснуўся, ды ўступіў ей на нагу. А яна калі сыкне на мяне: ‚Калі заліў вочы, дык валіся дзе за плот ды ляжы каменем!' Я адыйшоўся да сваіх хлопцаў ды кажу: ‚Не, хлопцы, гэта не мая — надта злосная'. Мы закруціліся ў другі бок, там я нагледзеў другую дзяўчыну — высокую, танклявую, беленькую, ды пайшоў да яе. Іду я хістаючыся, а калі параўняўся зь ёй, дык шалтыхнуўся, ды ёй на нагу. А яна як крутнецца, каб адхінуцца ад мяне, але ейны хадачок застаўся пад маім ботам. Гэтая дзяўчына аб аднэй назе адскочыла ад ‚п'янага'. Калі я пахіснуўся ў другі бок, дык яна пачырванеўшы, як бурак, скочыла, схапіла свой хадачок, ды схавалася ў грамадзе людзей. Я тады кажу да сваіх хлапцоў: ‚‚Калі пашанцуе, дык гэтая будзе мая, але толькі ня трэба яе з вачэй спускаць. Мы пасьля распыталіся ў людзей, адкуль яна й чыя. Скора пасьля гэтага бацька паехаў із сватам і запіў яе, і я зь ёй ажаніўся. Дай Божа ўсім добрым людзям гэткіх жонак. Я зь ёй дзяцей пагадаваў і ўнукаў даждаўся".

Адаму Акулічу паказалі Астравікову Еўку, якая яму падабалася. Раз ён вёз зімой калоду, а Еўка ішла яму на спатканьне й нясла суды вады. Яна была прымушаная зыйці з дарогі й пачакаць, пакуль ён пераедзе. Адам, каб праверыць Еўчыну натуру, ці злосная яна, піргнуў яе з вадой у сьнег. Дзяўчына засаромілася, ускочыла з сьнегу, абтраслася, схапіла вёдры ды пабегла. Праз нейкі час Адамаў бацька з сватам паехалі й запілі Еўку. Гэта былі мае дзядуля й бабуля. Адбывалася гэта каля 1845 году.

Вясельле пачыналася ад першай „гарэлкі". У першай палове XIX ст. ішоў, ці, калі далёка, ехаў, да дзеўкі бацька маладога з сватам. Тры-ж апошнія дзесяткі гадоў XIX ст. й блізу тры першыя дзесяткі XX ст., ішоў ці ехаў да дзеўкі сам малады з сватам. У даўныя гады найболей сваты прыяжджалі нечакана, а ў апошнія гады XIX ст., і першыя гады XX ст., папяраджалі дзеўку, а навет і хацелі ад яе даведацца перш, ці згодна яна выйсьці за гэтага хлопца, бо калі сваты прыедуць да дзеўкі, а яна адмовіцца выйсьці, дык гэтаму хлопцу робіцца няслава, зь яго сьмяюцца: „Таўкач аблізаў!" Апрача сватоў, перад ці пасьля іх, прыходзіла маці маладога да маці дзеўкі, каб гэтым паказаць, што бацькі маладога нічога ня маюць процій гэтага вясельля.

Сваты прыяжджалі да дзеўкі з гарэлкай. Пасьля доўгай гутаркі й угаварваньня, калі дзеўка й ейныя бацькі згодныя,



п'юць гарэлку што прывязьлі сваты, а гаспадыня ладзе пачастунак. На гэтую гарэлку маладая з сваёй кумпанкай запрашаюць бліжэйшых суседзяў. Калі вып'юць гарэлку, дык пляшкі насыпаюць жытам. Маладая ўверчвае гэтыя пляшкі кужалем — каля 4 локцяў — і абвязвае поясам.

Калі гарэлку папілі, дык уважаецца, што вясельная справа распачатая. Праз тыдзень пасьля гэтага прыяжджаюць зь „пірагамі". Гэты раз сваты таксама прывозяць гарэлку й хлеб. Здаецца, тут мусіў быць і жытні хлеб і пшонны пірог. Да гэтай гарэлкі бацькі маладой ладзяць пачастунак. На гэтай „гарэлцы", калі багатыя гаспадары, дык дамаўляліся аб пасазе. Тут дамаўляюцца й аб вясельлі калі яно будзе, якая ў каго будзе дружына.

Але пасьля першай „гарэлкі", ці й пасьля другой, вясельле магло й „рассохнуцца", — маладая магла раздумацца ды заплаціць маладому за выпітую гарэлку. Мог і малады раздумацца ды адрачыся. Калі адракаўся малады, дык ніхто нікому не плаціў. Калі сваты прыехалі, а дзеўка не дазволілася гарэлкі папіць, дык сваты гневаюцца. Выехаўшы з двара, яны за сабой зачыняюць вароты. Гэта забабон на тое, каб да гэтай дзеўкі болей сваты не прыяжджалі, каб яна дзеўкай і састарэлася.

На „другую гарэлку" гэтаксама запрашалі, і яшчэ болей, суседзяў. У даўныя часы, калі прыяжджалі ў сваты бацька маладога з сваім сватам, дык яны гаварылі толькі з бацькамі маладой, а сама маладая навет ня мусіла быць прысутнай. Апошнія-ж гады XIX і ў пачатку XX ст., бацькі маладой зdaваліся на самую маладую: „Як сабе яна хоча", адказвалі яны.

Вясельлі ў нашай ваколіцы адбываліся толькі ў нядзелі й пачыналіся зраньня. Часамі ў суботу ў маладой зьвечара ладзіўся „паненскі вечар", гэта знача адбывалася звычайнае невялікае ігрышча.

У нядзелю рана, каля 8-ай гадзіны, у маладога адбывалася „блаславеньне". Тут зьбіралася дружына маладога з прыгатаванымі вазамі й музыкамі. Тут былі й госьці, сваякі маладога, якія прыехалі зь іншых вёсак, і запрошаныя суседзі. Усіх запрошаных садзілі за стол на сьнеданьне. Выпівалі тут і частаваліся. Беларускім звычаем на вясельле прыходзілі й ня прошаныя — усе, хто хацеў. Жанчыны сьпявалі „блаславеньне", адумысныя вясельныя песьні. Ніякіх тут цырымоніяў не адбывалася, хіба толькі малады як-бы разьвітаўся з бацькамі, а яны жадалі свайму сыну шчасьлівага жанімства. Дружына садзілася тады на вазы ды ехала да маладой.

Дружына ў маладога была гэткая: два „сваты" — першы й другі. Першы сват быў гаспадаром усяго вясельля. Сваты мусілі быць сталыя мужчыны, жанатыя. „Піродnік", гэта быў дзяцюк брат маладога, ці сваяк, або кумпан. У апошнія

гады XIX ст., піражніка сталі называць „маршалкам". У маладога дружыне была й „свацьця". Гэта была дзеўка, ці сястра маладога, ці так з радні. У даўнейшыя гады — канец XIX і пачатак XX ст., быў яшчэ й „булачка". Гэта брат маладога, ці зь ягонай радні, хлапец 16-17 гадоў. Ён выконваў службу пасланца.

У дружыне маладой былі тры „бальшанкі" — першая, другая й трэцяя. Першую бальшанку часам называлі „большая бальшанка". Яна за сталом сядзела ля маладой і праз усё вясельле асыставала маладую. У даўнейшыя гады, да першых гадоў XX ст., была яшчэ й „зязюлька", гэта меншая сястра маладой ці дзяўчына з радні 15-17 гадоў. Якія яна мела абавязкі ня ведаю, мабыць толькі наглядала й прывучалася да вясельных звычаяў і парадкаў.

Калі малады з дружынай прыедзе да маладой, дык самі ў хату ня ідуць, а чакаюць, каб іх папрасілі. Гаспадар ці гаспадыня выходзе й просе: „Проша, сватове, у хату!" Калі малады з дружынай прыходзе ў хату да маладой, дык яе ў хаце няма — яе бальшанкі нейдзе ў каморцы ці клеці прыбіраюць, і яна ў хату прыходзе з бальшанкамі пасьля. У старасьвецкія гады, каля соткі гадоў таму, дык маладая мусіла хавацца й яе трэба было шукаць. Як відаць, гэты звычай захаваўся з тых спрадвечных часоў, калі дружына наехаўшы хапала дзевак за жонак гвалтам.

Калі маладая з бальшанкамі прыходзіць у хату, дык бальшанкі прышываюць кветкі маладому й ягонай дружыне ды закосьнікам, а маладая захрыстае сватоў ручнікамі, зь якімі сваты ходзяць праз усё вясельле. Дружыну маладога садзяць за стол. Напокуць садзяць маладога, ля яго маршалка й свацьцю. На другой лаве садзяць дружыну маладой. Але на „блаславеньні" маладой ля маладога садзяць не маладую, але бальшанку, маладую-ж за бальшанкамі.

Тут я мушу ўспомніць адзін выпадак, што здарыўся на вясельлі Тамаша Рамановіча нашай вёскі каля 1870 году. Бацька Тамашу дазволіў жаніцца. Ён пайшоў на кірмаш і нагледзеў сабе харошую дзяўчыну Кляру Шаршунішку зь вёскі Грамніцы. Яна была высокая, стройная й з твару прыгожая. Бацька із сватам паехалі й яе запілі.

У назначаную нядзелю Тамаш з дружынай паехаў да Кляры. Яго з дружынай пасадзілі за стол, а пасьля сталі саджаць бальшанак. Ля яго пасадзілі бальшанку маленькую тоўсьценкую дзяўчыну. Ён знаў, што праз ўсё вясельле маладая сядзіць ля маладога, а што перад шлюбам маладой не садзяць ля маладога, ён гэтага ня ведаў. Ён падумаў, што яго ашукалі, што яму падсунулі іншую маладую, а ня тую Кляру, якую ён нагледзіў на кірмашы, дык ён выскачыў з-за стала й закрычаў: „Дружына — дамоў! Кляра ня тая!"



Сват вылез з-за стала да яго ды пачаў ціха ўгаварываць: „Ціха, што там такое?". А ён ізноў: „Дружына дамоў! Кляра ня тая! Пасадзілі нейкую сьвінку за Кляру!" Тамаш толькі тады ўспакоіўся, як прывялі Кляру ды яму ўталмачылі, што перад шлюбам маладой не саджаюць ля маладога. Кляра памерла ў 1924 годзе, Тамаш ў 1929, але да самай сьмерці Тамаша дражнілі: „Дружына дамоў! Кляра ня тая!"

З спрадвечных часоў маладую да шлюбу, а таксама й дома ў часе вясельля, прыбіралі ў касьнікі розных колераў. Было гэтак да 1885 году. Па гэтых касьніках варажылі на будучых дзяцей гэтай маладой. Калі колеры касьнікоў раўнамерна перамешаныя на вясельлі на галаве маладой, дык у яе пасьля замужжа будуць дзеці, хлопчыкі зь дзяўчаткамі, чаргавацца. Я помню адна жанчына наракала на бальшанак, што на вясельлі ёй не пасартавалі раўнамерна колераў касьнікоў, дык у яе радзіліся толькі хлопчыкі, а дзяўчатак ня было.

Пасьля нейкі час маладой на вясельлі накладалі вянкі або з жывых кветак, або з штучных, а на стыку XIX — XX ст. сталі ўводзіцца купленыя вянкі й веліны. У першай палове XIX ст., маладому прышывалі кветку з чырвонага касьніка да шапкі, і ён мусіў у гэтай шапцы ўсё вясельле й за сталом сядзець. Пасьля, як маладому, гэтак і дружыне, прышывалі да грудзей штучныя кветкі, а ўрэшце купленыя з крамы.

Калі ў маладой садзілі за стол дружыну, дык садзілі й гасьцей, якія былі запрошаныя з другіх вёсак, а таксама садзілі й запрошаных суседзяў. Даўней на сьнеданьне на вясельлі суседзяў запрашаў „булачка", ці іншы хлапчук гадоў 14-15. Ён для большай павагі браў у руку палачку, ці прыгожы кіёчак. Прыйшоўшы ў хату, ён прамаўляў: „Прасіў Янка (імя гаспадара) на хлеб, на соль, на вясёлы стол, і я прашу — не абаўляйцеся!"

Калі дружына, госьці й суседзі пачаставаліся, дык падыймаліся ад стала й пачыналася „блаславеньне". Сват запрашаў на „блаславеньне" словамі:

— Гдзе тут ёсьць Бог-бацька, войцец, матка, суседзі, прыяцелі блізкія й далёкія, нявыборна, усіх пакорна прашу баславіць, маладых на пасад садзіць, і да шлюбу выправіць!

— Няхай Бог баславіць! — адказваюць усе грамадой.

І гэткія запросіны паўтараюцца тры разы.

У гэты час маладая ходзе па хаце, кажнаму кланяецца, старэйшых цалуе ў руку, дзяўчат ці маладых маладзіц цалуе, а дзяцюкам толькі кланяецца, ды пры гэтым плача.

Як толькі дружына маладога прыяжджае з званкамі да маладой, дык падлеткі, бабы, а навет і мужчыны, ідуць на вясельле, і іх бывае поўная хата, і навет шмат замінаюць, але ніхто й слова ня скажа, бо „На тое-ж вясельле!" У часе сьне-

даньня й блаславеньня музыкі іграюць блаславеньне, а бабыпяюхі, што прыйшлі ня прошаныя, пяюць розныя песьні. Пасьля маладых садзяць на „пасад".

Пасадам былі дзежкі накрытыя кажухамі ды засланыя коўдрамі. Тут-жа маладой расплятаді косы й „застрыгалі". „Застрыгаць" — знача ўзяць каслаўку валасоў ля вуха ды адпаліць на васковай сьвячы. Гэтую работу прараблялa маладая жанчына з радні маладой. Два хлопцы з дружыны маладой зваліся „закосьнікамі". Яны вялі маладую на пасад і ў старасьвецкія гады расплятаді ёй косы, пасьля чаго яе „застрыгалі". А яшчэ даўней маладой зусім стрыглі валасы. Вось за гэта іх і завуць „закосьнікамі". У другой палове XIX ст., пры шлюбе жанчын ня стрыглі, але ім ня можна было заплятаць касаў. Яны закручвалі валасы каля галавы ды шчыльна завязвалі хустку, каб ня было відаць валасоў.

Як ужо ўспаміналася, калі малады прыяжджае да маладой, дык сходзяцца ня прошаныя людзі й адразу пачынаюць пяяць. На кажную вясельную нагоду былі адмысловыя песьні. Прыкладам, калі малады з дружынай прыяжджае на двор, дык пяюць: „Ці ня шум, ці ня шум, ці ня полымя к нам на двор. Наехала туркаў, баяркаў повен двор". Калі маладых садзяць за стол, калі на блаславеньне просяць, калі маладая сірата, — на ўсё былі асобныя песьні з адумысьнымі жаласнымі мэлёдыямі.

Калі на пасад садзілі, дык пяялі: „Пастаньце, баяры, усе ў рад, ідзе наша Ганначка на пасад . . .", „Брат сястру на пасад вядзе", „Татарын, братка, татарын, прадаў сястру за таляр . . ." Калі да шлюбу выяжджаюць: „Да дубу, зязюлька, да дубу. Час табе, Ганулька, да шлюбу . . ." Першая частка вясельля ў нядзелю перад шлюбам называлася „блаславеньне", і яна мела асобную мэлёдыю й для музыкаў, і для песьняў. Да шлюбу ехалі з званкамі, з музыкамі. Калі ехалі да шлюбу, дык маладую й бальшанак вязьлі закосьнікі.

Вёз ад шлюбу маладых маршалак. Пры праезьдзе праз вёску моладзь часта загараджвала дарогу, каб дастаць гасьцінца ад маладога. Маладыя яшчэ ня прыехалі, а людзей ужо назьбіралася шмат і на дварэ, і на вуліцы. Калі толькі маладыя прыяжджаюць на двор, дык спатыкаюць іх зь песьнямі. Адна з гэткіх песьняў: „Ехала Ганулька ад вянца, зламала бярозку зь верхаўца". Калі вясельле прыехала ад шлюбу, дык дружыну садзяць за сталом. Цяпер на куце сядзіць малады з маладой, а бальшанкі з другога боку маладой: першая, другая й трэйцяя. З боку маладога пірожнік і свацьця. Музыкі іграюць вясельле. Дружына, папалуднаваўшы, ідзе ў іншую хату, дзе музыкі іграюць, а моладзь як з свае вёскі, гэтак і тая, што прыйшла з другіх вёсак, ды моладзь вясельнае дружыны, танцуе.



Позна вечарам усе тыя суседзі, якіх рана прасілі на сьнеданьне, прыходзяць і на вячэру. Гаспадыня загадзя рыхтуе міску пірагоў, ці купленых, ці свае работы, намочаных у тварагу з сьмятанай, ці ў топленым масьле, ці смажаныя налесьнікі, або міску яешні, ці квашаніны. Але што-б ні было ў гэтай місцы, на версе павінны быць два ці тры праснакі.

Вечарам, каля 9 гадзіны, садзяць на вячэру ўсю вясельную дружыну, гасьцей і суседзяў. Пасьля вячэры музыкі ізноў ідуць у тую хату, дзе танцуюць. Там ёсьць шмат сабранае моладзі з навакольных вёсак, якая танцуе, а часам п'яныя хлопцы й б'юцца, бо й прыказка зложылася: „Вясельле — чортава прысельле, а хрэсьбінкі-рады — дай Божа кожныя гады". На хрэсьбінах хоць і п'яныя, але ня б'юцца.

У нядзелю вечарам, пасьля таго, як папалуднуе дружына ды пойдзе ў тую хату, дзе танцуюць, бацькі маладога прысылаюць на вясельле да маладой „свашак". Гэта 3-4, а то й 5 маладых жанчын. Калі гэтыя свашкі зь іншае вёскі, дык калі яны пад'яжджаюць да вёскі дзе вясельле, пачынаюць пяяць і пяюць аж пакуль на двор ня прыедуць ды ў хату ўвойдуць. З гэтага часу, як яны прыехалі, яны частка вясельнае дружыны.

У панядзелак раніцай склікаюць на сьнеданьне дружыну, гасьцей і суседзяў. Суседзяў на сьнеданьне запрашаў пасланец. Пасьнедаўшы, музыкі, дружына, госьці й моладзь вёскі ішлі ў тую хату, дзе танцавалі, і там гулялі да паўдня. Паўднём ішлі на полудзень, а пасьля полудня дарылі маладую. Маладая, малады й уся дружына сядзелі за сталом на сваіх мясцох. Сват запрашаў на падарунак словамі: „Проша на падарунак!" Перад маладой стаяла талерка засланая хустачкай. Гэтаксама стаяла на стале пляшка гарэлкі, чарка й талерка з закускай. Хто падора, дык сват наліваў яму чарку гарэлкі. Ён мог піць і закусваць той ежай, што стаяла на талерцы. Некаторыя недапітую гарэлку лілі з чаркі на стол. Я забыўся, што значыў гэты звычай.

Першымі дарылі бацька й матка, а потым браты й сёстры, сваякі, дружына й суседзі. Нарэшце сват у голас лічыў грошы, завязваў у хустачку й аддаваў маладой. Жанчыны часта дарылі кавалкі палатна. Некаторыя гаспадары дарылі авечку ці парасё, але толькі словамі, а аддавалі пасьля. У часе „падарунку" музыкі ігралі, а жанчыны пяялі адпаведныя песьні, прыкладам: „Казалі ў моры вадзіцы многа, як пайшлі браці, німа нічога. Казалі, што ў Марылькі радзінкі многа, як пайшлі дарыці, німа нікога . . ." „Дарылі, дарылі, нямнога здарылі: сто коп і чатыры . . ."

Пасьля падарунку садзілі за стол дружыну на падвячорак, а пасьля гэтага рыхтаваліся да ад'езду, і на гэтую нагоду сьпявалі адпаведныя песьні, прыкладам: „Выкацілі, выкацілі мядовую бочку, выкруцілі, выкруцілі ў Сымона доч-

ку...", „Паскакаў вірабей па латачку, дзякуй табе, Матавушка, за дачку..." (Часамі заместа „дзякуй" вымаўлялі нас..." або „Праз хату ішла, трэйчы п..., вось табе татачка за тваё гадаваньнійка..." Калі маладая была сірата, ці так бедная, дык падарунак адбываўся зараз пасьля блаславеньня перад выездам да шлюбу.

Калі ў панядзелак надвечар вясельле пераяжджала ад маладой да маладога, дык гэтаксама з званкамі, музыкамі ды песьнямі. Калі вясельле прыяжджала на панадворак да маладога, дык бацькі маладога выходзілі спатыкаць маладых з хлебам і віном, і звалі іх у хату. У панядзелак вечарам і ў ваўторак рана і падарунак маладога адбываўся гэткім самым парадкам, як падарунак маладой.

Па нейкім часе пасьля ад'езду вясельля выяжджалі ад маладой да маладога „прыданкі" й „кубельнік" з „кублам", ці, на стыку XIX і XX ст., з „куфрам" ці „іскрыняй". Прыданкаў пасылалася 5-7, а то й 10. Яны ўсю дарогу пяялі. У песьнях яны ўсхвалялі маладую, ейных бацькоў, і паніжалі сваіх „сватоў", бацькоў маладога, прыкладам: „А ў нашага свата зь явару хата, калінкай абсаджона, дунаем абвядзёна, ні клеці, ні павеці — негдзе кубла дзеці".

Даўней, на стыку XIX і XX ст., часамі ганаровы сват „пазываў карагод". У ваўторак, калі пасьнедалі ў маладога ды трохі паскакалі, сват усю дружыну вясельля з маладымі пазываў да сябе дамоў на пачастунак. Пабаляваўшы ў свата, варочаліся да маладога, дзе пачынаўся падарунак маладога. Пасьля падарунку вясельле канчалася.

Гэтак, як тут апісаны, адбываўся парадак вясельля каля 1910 году. Але каля сярэдзіны й трэйцяй чверці XIX ст., вясельныя звычаі й абрадавасьць былі болей складаныя. У тыя часы як у маладой, гэтак і ў маладога, вясельле скакалі толькі ў таку, ці летам, ці зімой. Тады ад маладой патрабавалася надта шмат падаркаў. У тыя часы, калі дзеўка рыхтавалася выходзіць замуж, дык яна мусіла ўзапасіць каля соткі паясоў на падарунак. Калі яна прыходзіла ў хату маладога, дык там усім мужчынам і хлопцам гэтай сям'і дарыла паясы.

Калі пасьля падвячорка прыехалі да маладога ды ішлі ў ток скакаць, дык маладыя павінны былі ісьці наперад. А перад гэтым ужо хлопцы-падлеткі прыходзілі ў ток, адны пабраўшы цапы малацілі, іншыя адтрасалі. Ім маладая павінна была даць па пояску. А іншы каля шулы поркаўся, ён уяўляў сябе бортнікам, дык і яму маладая дарыла пояс. Калі маладая прыйшла ў ток, а нехта браў мятлу ток замятаць, дык і яму маладая давала пояс. Калі нехта ў хаце, на дварэ ці ў гумне рабіў выгляд, што нейкую гаспадарскую работу робе, дык кажнаму маладая мусіла пояс падараваць.



Калі ў нядзелю вечарам ехалі свашкі ад маладога да маладой, дык зь імі ехаў адзін сталы мужчына, якога называлі „цісецкі".

У этнаграфічных зборніках аб беларускіх вясельлях часта пішацца пра праверку беззаганнага дзявоцтва маладой. Гэтай тэме адводзілася ўвага й у мастацкай літаратуры — у рамане Ц. Гартнага „Сокі цаліны", у апавяданьні Я. Коласа „Дрыгва". У даўнейшыя часы й у нашай мясцовасьці на гэта зьвярталася ўвага.

Калі ў нядзелю ў вечар пасьля шлюбу кончыцца вячэра, каля дзясятай гадзіны музыкі й моладзь ішлі ізноў у ток, ці назначаную хату, для танцаў, маладых вялі спаць у камору, клець, а калі зімой, дык часта ў восець. Назаўтра раніцай бабы, здаецца свашкі, нясьлі маладым ваду мыцца й забіралі маладой сарочку. Калі выявілася, што маладая мела беззаганнае дзявоцтва, дык пілі на вясельлі салодкую гарэлку й бабы з гэтай сарочкай скакалі па лавах і пелі песьні на ўсхваленьне маладой і ейнай маткі. Калі-ж выявілася, што маладая перад шлюбам страціла дзявоцтва, дык тады пелі абразьлівыя песьні, выказваючы, што маладая адна за вуглом выпіла салодкую гарэлку. Адна з гэткіх жартаўлівых абразьлівых песьняў: „А ехалі каля елі расставіўшы калені..." і па неасьцярожнасьці маладой ёй бяды нарабіў сухі яловы сук.

Калі дзеўка ня мела беззаганнага дзявоцтва, дык яна ня мела права сядаць на пасадзе, але мусіла ля пасаду стаць на калені. А калі яна няпраўна села на пасадзе, дык нейкае здарыцца няшчасьце на гэтую хату. Гэткія патрабаваньні да маладой вымагаліся, здаецца, па ўсёй Беларусі.

Калі я быў на вайсковай службе, дык жаўнеры зь Севершчыны казалі, што там на вясельлі, калі маладая мела беззаганнае дзявоцтва, дык на варотах чырвоны сьцяг вешалі, а калі не, дык на комін хаты хамут накладалі, а гэтаксама закосьніку на шыю хамут накладалі. Ён мусіў з гэтым хамутом за сталом сядзець і танцаваць. За закосьніка бралі звычайнага старэйшага дзяцюка з радні ці сям'і.

Калі бацька для свайго сына сватаў дзяўчыну за жонку, дык ён стараўся выбраць дзяўчыну з добрай радні, каб да свае радні ня ўзяць чалавека з фізычнымі ці разумовымі недахопамі. Мне казаў стары Сярога, з Смаленшчыны, што ягоны дзед і бацька, калі жаніў сыноў, дык нявестку падбіралі з добрай радні й добрай натуры, каб яна была й з твару, і з выгляду прыгожая, бо калі ўзяць няпрыгожую, дык яму народзіць дзяўчат, якіх ніхто не захоча замуж браць.

У Барысаўшчыне, у Бычанскай воласьці, быў вясельны звычай такі, што калі выявілася, што маладая мела беззаганную дзявочасьць, дык на вясельлі ў панядзелак зраньня

яна надзявала шапку маладога, у ёй хадзіла ў ёй ехала да маладога, а маладому бабы завязвалі на галаву жаночую хустку. Ён у гэтай хустцы ехаў зь вясельлем дамоў да бацькоў. Т. Клімковіч казаў, што ягоная дзеўка была далёка, дык яму ў гэтай хустцы прыйшлося ехаць праз колькі вёсак. Вясельле ехала празь вёску зь песьнямі, дык на вуліцу выходзілі людзі, а яму было сорамна, што быў у жаночай хустцы.

### WEDDING CUSTOMS IN THE REGION OF ŁAHOJSK

**by Adam Varłyha**

**Summary:** A description of Byelorussian wedding customs and rituals as the author observed them at the end of the 19th and the beginning of the 20th centuries in the villages of the Łahojsk region which lies in the northern part of today's Minsk Oblast.

---

Жывая галіна жыцьця беларускага народу, галіна зьвязаная зь ягонай жыцьцёвай сілай, зь ягоным узнаўленьнем, зь ягонай непахіснай воляй да свабоды й самастойнасьці існаваньня, выступае перад намі ўва ўсёй сваёй беспасярэднасьці зь беларускае вясельнае абрадавасьці.

**М. М. Нікольскі**

(„Происхождение и история белорусской свадебной обрядности", 1956 г., б. 27).

---



# ГАЗЭТА „ГОМАН"

**Кветка Вітан (Ю. Дубейкаўская)**

Пасьля таго, як „Наша ніва" ад пачатку нямецкае акупацыі Вільні ў 1915 годзе замоўкла, беларусы места апынуліся без свайго друкаванага слова. Справа выдаваньня беларускае газэты краналася ціраз на паседжаньнях Беларускага Камітэту, але камітэт ня меў на гэта грошай ды ня мог лічыць на большую платную падпіску зь вёскі, бо ў краі панавала агульная галіта.

У Вільні немцы мелі „Ўстанову друку" (Прэсэнштэльле), якая выдавала дзьве нямецкія газэты — „Вільнэр Цайтунг", як мясцовы орган, і „Цайтунг дэр X Армэ" для вайсковых. У гэтых газэтах падавалі шмат артыкулаў зь гісторыі, этнаграфіі й геаграфіі акупаваных земляў. Працаўнікі гэтых газэтаў вельмі часта зварачваліся да Івана Луцкевіча, як да знаўцы краю, па парады й матар'ялы для гэтых артыкулаў. Праз гэтыя знаёмствы зь нямецкімі працаўнікамі друку Іван Луцкевіч дасягнуў таго, што „Прэсэнштэльле" пайшла на спатканьне Беларускаму Камітэту ў выдаваньні беларускага друкаванага органу. „Прэсэнштэльле" згадзілася пакрываць выдаткі на паперу й друк беларускай газэты.

Зразумелая рэч, што ўсе сябры камітэту былі задаволеныя з гэтае здабычы, бо цяпер можна было ўзяцца за выдаваньне свайго органу. Увесь краёвы друк падлягаў нямецкай ваеннай цэнзуры. Трэба было таксама зьмяшчаць нямецкія распараджэньні, загады й абвесткі, але нікому навет і ў дум ня прыйшло, каб вымагаць ад мясцовага друку якіхсьці пранямецкіх артыкулаў. Усе сябры камітэту ўважалі, што галоўным заданьнем беларускай газэты — пашыраньне беларускае нацыянальнае сьведамасьці, інфармацыя пра агульныя падзеі й беларускае жыцьцё, ды абарона беларускіх інтарэсаў у родным краі.

Пры гэткіх вось абставінах паўстала ў Вільні новая беларуская газэта „Гоман". Выходзіла яна два разы на тыдзень — спачатку толькі кірыліцай, а пасьля й лацінкай, якая была даступнейшая беларусам-каталіком. Гэткім парадкам калішнія чытачы „Нашай нівы", што апынуліся пад нямецкай акупацыяй, ізноў мелі сваю газэту, у якой працавалі, як фактычныя рэдактары, тыя-ж самыя браты Луцкевічы.

Хто быў за афіцыйнага рэдактара — я ня памятаю, але добра ведаю, што фактычным рэдактарам быў Антон Луцке-

віч. Яму я на пачатку памагала перакладаць „Вэрмахтсбэрыхтэ" (весткі Галоўнага Штабу) ды розныя нямецкія паведамленьні, пакуль ён сам не набыў у гэтым практыкі. Ён рыхтаваў усю газэту. З братам Іванам раіўся, што падаваць, а што выкінуць. Калі трэба было напісаць больш паважны артыкул палітычнага зьместу, дык плян яго апрацоўваў Іван Луцкевіч, а брат ягоны Антон пісаў артыкул паводля гэтага пляну.

Літаратурны аддзел запаўнялі Вацлаў Ластоўскі й Францішак Аляхновіч, апошні апрача таго апрацоўваў мясцовую хроніку. Супрацоўнікам нічога не плацілася, — Камітэт ня меў на гэта грошаў, — яны працавалі ідэйна, дарма. Карэкту рабіў той-жа Антон Луцкевіч.

Калі „Гоман" пачаў выдавацца й лацінкай, тады зьявілася патрэба другога карэктара на лацінку, бо сам Антон Луцкевіч ня мог даць рады з усёй газэтай, з карэктай ды яшчэ й з дадатковай карэктай на лацінку. Карэкту лацінкі тады пачаў рабіць Ф. Аляхновіч, за што яму плацілі 75 нямецкіх марак на месяц. На ягонай галаве ляжаў таксама беларускі тэатр у Вільні з частымі паказамі, якія тады сталіся даволі папулярнымі ў Вільні. Але за працу ў тэатральных паказах Аляхновіч нічога не даставаў і ня меў з чаго жыць. Вось-жа аплата за карэкту сталася крыніцай ягонага ўтрыманьня. Я наўмысьля падаю гэтыя падрабязнасьці, каб высьвятліць хто й дзе працаваў, ды як выдавалася газэта „Гоман". І гэтак было праз увесь час нямецкае акупацыі.

„Прэсэнштэльле", на загад акупацыйных уладаў, вызначыла як афіцыйнага цэнзара для газэты „Гоман" нямецкага жаўнера Зуземіля, які разумеў беларускую мову, бо перад вайной працаваў за настаўніка ў Пінску. Гэта выклікала страшэннае незадаваленьне ў братоў Луцкевічаў, бо Зуземіль быў вялікім тормазам у працы. Але яны нічога не маглі зрабіць, змушаныя былі пагадзіцца з гэтым і газэта выходзіла далей.

Палітычныя ворагі беларусаў, асабліва з польскага шавіністычнага боку, пашыралі зласьлівы паклёп пра газэту „Гоман". Яны цьвердзілі быццам браты Луцкевічы бралі грошы ад немцаў, ім запрадаліся й г. д. Тут я магу сказаць з чыстым сумленьнем, што ўсё гэта было зласьлівай хлусьнёй, сьціраванай на тое, каб ачарніць ахвярную беларускую працу братоў Луцкевічаў ды іншых супрацоўнікаў. Тут вельмі падыходзіць француская прыказка: "Colomniez, colomniez, il en restera toujour quelque chose". (Лайце іх, лайце іх, заўсёды нешта з гэтага прыліпне).

Браты Луцкевічы, да якіх я стаяла вельмі блізка, пакрывалі свае асабістыя выдаткі выключна з продажы антыкварных рэчаў Іванам Луцкевічам, які з гэтае крыніцы ціраз выдаваў грошы й на сваю палітычную працу. З другога боку, трэба сьцьвердзіць, што жылі яны вельмі ашчадна. За ўсе гэтыя гады (1915 — 1919) яны нічога навет сабе з вопраткі не спраўлялі. Калі хворы Іван Луцкевіч у 1919 годзе выяжджаў у санаторыю ў Закапанае, яму трэба было пазычаць больш людзкое пальто.

Усе грошы, якія прыходзілі ў Беларускі Камітэт — ці то сяброўскія складкі, ці то заработак зь беларускага аддзелу „Арбайтштубэн" (Дом Працы, у якім кажны нацыянальны камітэт меў свой аддзел ды прадаваў мясцовыя вырабы), ішлі на дапамогу ўцекачом і на грамадзкую працу. Іван Луцкевіч, які пачаў хварэць на сухоты, не згадзіўся-б прыняць ні граша з грамадзкіх грошай. Больш таго, Беларускі Камітэт карыстаўся задарма памешканьнем братоў Луцкевічаў на Віленскай 33. У грашовых справах як Іван, гэтак і Антон Луцкевічы былі наагул вельмі сумленнымі.

Калі ўлетку 1918 году Антон езьдзіў у Кіеў і атрымаў ад тагачаснага ўкраінскага ўраду значную пазыку ў чырванцох, дык гэтыя грошы былі вымененыя ў Вільні на нямецкія маркі й здэпанаваныя, як запасны грамадзкі капітал. Толькі ў лютым 1919 году, калі Антон, хаваючыся ад бальшавікоў, выехаў замежы, каб там заміж хворага Івана бараніць на міжнародным форуме справу незалежнасьці Белрусі, ён узяў з сабой гэтыя грошы, пакідаючы 500 царскіх рублёў на лячэньне Івана. Але й з гэтых грошай Іван ня ўзяў нічога. Юльляна Мэнкэ, якая апекавалася хворым Іванам ды пахавала яго ў Закапаным, вярнула гэтыя 500 рублёў у верасьні 1919 году ў грамадзкі фонд на рукі Антона Луцкевіча, які вярнуўся з Парыжа.

Ад лютага 1919 году Іван Луцкевіч меў настаўніцкую пэньсію зь Беларускае гімназіі, якую ён-жа з колькімі сябрамі камітэту заснаваў ды якая была перанятая Камісарыятам асьветы. З гэтае пэньсіі Іван Луцкевіч апошнія свае месяцы жыў, лячыўся, ёю былі аплачаныя й ягоныя паховіны. Іван Луцкевіч ахвяраваў беларускай справе ня толькі ўвесь свой час і здольнасьці, але й сваё здароўе ды жыцьцё.

Трэба сказаць, што ўся беларуская дзейнасьць у Вільні ад 1906 да 1919 году была цесна зьвязаная з ахвярнай працай Івана Луцкевіча.

Нюрнбэрг, 3 лютага 1956 г.

**THE NEWSPAPER, 'HOMAN' by Kvietka Vitan (J. Dubiejkaŭskaja).**

**Summary:** These are recollections about the Byelorussian semi-weekly, **'Homan'** (Clamor), published in Vilnia under the German occupation in 1916-1918. The newspaper was initially established through the efforts of Ivan Łuckievič and was edited by his brother Anton, Its principal contributors were the writers Francišak Alachnovič and Vaclau Łastouski. Łastouski later took over the editing.

# ДРУКАРНЯ ЦЯПІНСКАГА

## Да 400-годзьдзя дзейнасьці

### Вітаўт Тумаш

Дакладны час друкаваньня Васілём Цяпінскім евангельля свайго перакладу належыць да ня высьсьненых яшчэ пытаньняў гісторыі беларускага кнігадруку. Вестак і пра самога Цяпінскага маем вельмі мала. Ведама, што ён быў ураджэнцам Полаччыны, небагатым шляхцічам. Непадалёк ад Лепеля меў невялікі радавы маёнтак Цяпіна, ад назову якога выводзіцца й прозьвішча. Ужываў ён і прозьвішча падвойнае — Амельяновіч-Цяпінскі.

Год нараджэньня Васіля Цяпінскага няведаем. У сьпісе коннай роты, які 1 чырвеня 1567 году зрабіў аршанскі стараста Філон Кміта-Чарнабыльскі, пададзена: „Товарыш Василей Тяпин на шесть кони. На нем панцер, шишак, шабля, гаркабуз, кончер, секирка, под ним дрыкгант сив". Калі, як відаць з гэтага запісу, у 1567 годзе Васіль Цяпінскі быў яшчэ маладым ваякам, дык нарадзіўся ён, трэба думаць, між гадамі 1530 — 1540.

І час сьмерці Васіля Цяпінскага вызначыць можна толькі шляхам пасярэднім з таго, што на самым пачатку 1604 году за падзел „старое садибы небошчыка отца", за Цяпіна, судзіліся ягоныя два сыны. З гэтага вынікае, што памёр Цяпінскі не пазьней 1603 году.

Цяпінскі быў прыяцелем ведамага выдатнага дзеяча Рэфармацыі арыяніна Сымона Буднага. Па сацыяльных і рэлігійных паглядах Цяпінскі быў аднадумцам Буднага. У доме Цяпінскага адбываліся зьезды братоў арыянаў для абмеркаваньня ды ўзгодненьня маральна-веравызнаўчых і сацыяльна-грамадзкіх паглядаў. Будны ў вадным з сваіх твораў успамінае, што арыянскі сынод 1574 году адбываўся ў доме „брата мілага Васіля Цяпінскага".

Здабыць, як Будны, вышэйшую ўнівэрсытэцкую адукацыю Цяпінскі дзеля незаможнасьці ня меў магчымасьці. Але быў ён чалавекам шырака начытаным і таму чуўся на сілах узяцца й за гэткае нялёгкае заданьне, як пераклад, камэнтаваньне ды друк евангельля. Як і ягоны суродзіч з Полаччыны, доктар Франьцішак Скарына, Цяпінскі востра адчуваў патрэбу асьветы для народу. Дзеля гэтага за свой маральны й нацыянальны абавязак ён уважаў выдаваньне кнігаў роднай народу мовай. Для гэтага „з убогае свае маетности" Цяпінскі заснаваў і невялікую друкарню.

Адзіны ведамы сяньня друк Цяпінскага — ягонае „Евангеліе". Для моваведаў цікавае й важнае яно гэтым, што Цяпінскі паралельна надрукаваў два тэксты евангельля: царкоўнаславянскі, ды, свайго перакладу, беларускі. Мова перакладу Цяпінскага бліжэйшая да тагачаснае беларускае гутарковае мовы за мову перакладаў Скарыны, у якой пакінута шмат царкоўнаславянскага. Ёсьць у ёй затое паважны лік палянізмаў, якія ў Скарыны здараюцца рэдка.

Для гісторыкаў друку „Евангельле" Цяпінскага цікавае як прыклад працягваньня скарынінскіх друкарска-выдавецкіх традыцыяў. Шрыфты друкарні Цяпінскага створаныя, бясспрэчна, на ўзор літараў Скарынавых выданьняў. Дзеля гэтага друк Цяпінскага мае „скарынінскі" выгляд.

Скарынінскія, бясспрэчна, і патрыятычна-ідэйныя матывы Цяпінскага ў ягонай працы над перакладам і друкам кнігаў „моему народу". Добра гэта відаць зь ягоных выказваньняў у прадмове, што за пераклад і друк Новага Запавету ўзяўся ён „з зычливости ку моей отчызне", або, што „з убогое свое маетности народу моему услугую". Патрыятызм, любоў роднага краю, народу, яго мовы Цяпінскі выказвае ў сваёй прадмове вельмі палка, з драматычным ціраз патасам. Як адзначыў яшчэ ў 1899 годзе гісторык Мітрафан Доўнар-Запольскі, прадмова Цяпінскага „вельмі выдатная памятка палітычнае літаратуры таго часу".[1]

Час друкаваньня Цяпінскім евангельля не ўстаноўлены, бо друк кнігі ня быў даведзены да канца й таму ніякіх выхадных дадзеных у ёй няма. У бібліяграфічнай літаратуры ведамыя толькі два захаваныя экзэмпляры „Евангелія" Цяпінскага й абодва некамплетныя. Адзін зь іх знаходзіцца ў Ленінградзкай Публічнай Бібліятэцы. Гэты экзэмпляр евангельля беларускага арыяніна калісьці перахоўвалі ў сваёй бібліятэцы манахі Супрасьльскага, што пад Беластокам, манастыра. Паколькі з гэтым экзэмплярам кнігі сшытая й рукапісная прадмова Васіля Цяпінскага да „Евангелія", з гэтага можна меркаваць, што ў Супрасьльскі манастыр трапіў экзэмпляр самога Васіля Цяпінскага, гэта відавочна была ягоная „аўтарская" адбітка набору кнігі.

Выглядае, што пасьля пачатку працы над наборам і друкам кнігі паўсталі нейкія паважныя перашкоды, і Цяпінскі таму наважыўся выдаць ня ўсё евангельле адразу, але спачатку толькі „першую часьць", якая, як кажацца ў рукапіснай прадмове, мела абыймаць „писанія святога Матфея и святога Марка и початок Лоуки". Ды ў ведамых цяпер захаваных двух экзэмплярах кнігі няма й гэтага. У экзэмпляры ленінградзкім ёсьць толькі евангельле першае, ды частка, да

пачатку 14 разьдзелу, евангельля сьвятога Марка. Надрукаваны іх тэкст займае разам 63 бalонкі (126 бачынаў) друку.

Некамплетнасьць кнігі, і зусім не надрукаваная, бо ведамая ў рукапісным толькі выглядзе, прадмова, паказваюць на тое, што друк і „першае часткі" евангельля зь нейкіх прычынаў быў абарваны. З гэтага-ж вынікае, што гаварыць можна толькі пра **час друкаваньня** „Евангелія" Цяпінскага, але не пра год яго **выхаду,** бо з друку кніга ніколі не паказалася.

Яшчэ ад мінулага стагодзьдзя час друкаваньня „Евангелія" рознымі аўтарамі вызначаецца вельмі розна й толькі прыблізна. Ведамы аўтарытэтны бібліяграф кірылічных старадрукаў, Іван Каратаеў, у 1883 годзе час гэты падаў словамі: „каля 1580 году".[2] Гэткага пагляду трымаўся пазьней і Аўхім Карскі ды М. Доўнар-Запольскі. Аднак архімандрыт Леанід, які ў 1884 годзе рэцэнзаваў бібліяграфію Каратаева, выказаўся, што евангельле Цяпінскага магло друкавацца толькі ў гадох 1560 — 1570.[3] Падобнае думкі быў і А. Я. Віктараў, які час друку азначыў гадамі 1560 — 1580.

У міжваенных гадох В. Ластоўскі час друку „Евангелія" падаў словамі: „каля 1570 году".[4] Гэтае самае прыблізнае даты ў часе ўжо паваенным трымаліся й аўтары „Хрэстаматыі беларускай мовы"[5] ды Г. Я. Галенчанка, які ў 1968 годзе пісаў: „можна было-б датаваць „Евангельле" В. Цяпінскага пачаткам 70-х гадоў XVI ст.".[6] Але А. Ф. Коршунаў дапушчае шмат шырэйшы адрэзак часу: „Васіль Цяпінскі ў 70-80 гадах XVI ст. прыступіў да перакладу й надрукаваньня на беларускай мове Евангельля".[7]

Як бачым, і па сяньня існуе вялікая няпэўнасьць што да часу друкаваньня Цяпінскім евангельля. І гэта не зважаючы на тое, што ад даўжэйшага часу маем паказаньне, якое пазваляе ўдакладніць час друкаваньня Цяпінскім евангельля ды працу ягонае „ўбогае" друкарні зусім канкрэтным годам.

Справа ў тым, што 60 гадоў таму, у 1915 годзе, беларускі бібліяфіл Рамуальд Зямкевіч знайшоў няведамы раней дрэварытны партрэт Васіля Цяпінскага. Публікуючы ў 1919 годзе ў віленскім часапісе „Беларускае жыцьцё" артыкул пра Цяпінскага, Зямкевіч зьмясьціў і рэпрадукцыю выяўленага ім партрэту. Пра абставіны яго знаходу даў ён тады гэткую даведку:

> Вельмі цікавы партрэт Васіля Цяпінскага, які тутака даём, у рэпрадукцыі зьяўляецца першы раз. Партрэт Цяпінскага знайшоў ніжэй падпісаны ў 1915 годзе ў бібліятэцы пана Канстанціна Сьвятаполк-Завадзкага ў мястэчку Крошыне Навагрудзкага павету. Партрэт быў паміж парванымі карткамі Берасьцейскай кальвінскай Бібліі, выдадзенай Мікалаем Радзівілам Чорным.






**ВАСІЛЬ ЦЯПІНСКІ.** Дрэварыт з 1576 году.

Бібліятэка Сьвятаполк-Мірскага ў часе вайны ўся зьнішчожаная расейскімі салдатамі. З партрэту засталася адно копія, зробленая алоўкам на папяроснай паперы, з каторай перарысаваны дакладна партрэт знаходзіцца ў калекцыі аўтара гэтае стацьці.[3]

Гэткая, паводле Зямкевіча, гісторыя знаходу цікавага партрэту беларускага рэлігійна-грамадзкага дзеяча пары Рэфармацыі ў Беларусі, партрэту, арыгінал якога, — праўдападобна адзіны захаваны экзэмпляр — загінуў, нажаль беспаваротна.

З падазенае ведамкі найперш вынікае, што рэпрадукаваны цяпер часта ў друку, выяўлены Рамуальдам Зямкевічам, партрэт Цяпінскага, гэта не рэпрадукцыя арыгіналу, але толькі зробленае ручною перарысоўкай алавіком „па папяроснай паперы" яго копіі. Паясьняе гэта нам тую няпэўнасьць ды няўклюднасьць штрыхоўкі партрэту, што даецца заўважыць асабліва на рукавох. Гэта, выяўляецца, не арыгінальная штрыхоўка мастака, як з кампазыцыі ды агульнага выкананьня партрэту відаць дазнанага майстры справы, але толькі вынік прымітыўнае тэхнікі капіяваньня — „алоўкам па папяроснай паперы".

Як ужо згадвалася, на перакладной ды выдавецкай дзейнасьці Цяпінскага, на выказаных у ягонай прадмове патрыятычна-асьветніцкіх ідэйных мэтах выданьня, і навет на выглядзе друку, на шрыфтох, вычуваецца моцны ўплыў выданьняў Скарыны. Гэта-ж пацьвярджае й знойдзены Зямкевічам партрэт. За прыкладам выўна Скарыны, і Васіль Цяпінскі падрыхтаваў дрэварыт свайго партрэту на тое, каб зьмясьціць яго ў евангельлі свайго перакладу й друку. Скарына свой дрэварытны партрэт даў, як ведама, аж у колькіх кнігах Бібліі свайго выданьня.

Што пры выкананьні партрэту Цяпінскага за ўзор быў узяты партрэт Скарыны зь ягонае Бібліі, на гэта паказваюць некаторыя супольныя абодвум партрэтам дэталі. Гэтак, на партрэце Цяпінскага, як і на партэце доктара Скарыны, дадзенае імя й прозьвішча паказанае на партрэце асобы: **Василь Тяпинский.** На партрэце Цяпінскага, як і на партрэце доктара Скарыны, кірылічнымі цыфрамі даецца год выкананьня партрэту. На Скарынавым партрэце, як ведама, пастаўлены год 1517, на партрэце-ж Цяпінскага — год 1576.

Вось год выкананьня партрэту Васіля Цяпінскага — **1576** — важная вельмі арыентацыйная дата для азначэньня часу друкаваньня ім „Евангелія", калі мець на ўвеце, што рысунак партрэту ды дрэварытная яго кліша, былі, відавочна, падрыхтаваныя для зьмяшчэньня, — за прыкладам Скарыны, — у друкаванай якраз кнізе, у „Евангеліі". Гэткім вось шляхам, на падставе ведамага году выкананьня партрэту, даходзім да часу дзейнасьці друкарні Васіля Цяпінскага — **1576 год.**

Дык, калі датаваць час выхаду „Евангелія" Цяпінскага, як вышэй было выясьнена, немагчыма дзеля тае простае прычыны, што з друку яно як кніга, ніколі не паказалася, бо друк ня быў закончаны, дык можна затое зь вялікай цяпер пэўнасьцяй падаць час яе друкаваньня — **1576 год.**

З пастаўленае на партрэце даты — 1576 год — можна дагадвацца, што ў гэтым якраз годзе Цяпінскі спадзяваўся закончыць друк свайго „Евангельля". Гэта аднак-жа ня значыць, што ў гэтым годзе быў пачаты й набор ды друк кнігі. Закончыць захады над уладжаньнем свае друкарні ды пачаць друкаваньне ў ёй кнігі Цяпінскі мог і на год, ці й болей, перад гэтым. Паколькі ведаем пра друкаваньне Цяпінскім аднае толькі кнігі, толькі „Евангельля", з гэтага вынікае, што заказаны ў мастака й ужо аддрукаваны дрэварытны партрэт быў задуманы да зьмяшчэньня ў гэтай якраз кнізе.

Выяўленьне году друкаваньня Цяпінскім евангельля важнае гэтым, што гэты год пазваляе вызначыць урэшце храналягічнае месца друкарні Цяпінскага ў чарадзе паўставаньня й дзейнасьці друкарняў XVI стагодзьдзя на беларускіх землях. Выяўляецца, што пасьля Скарынавай, пасьля друкарняў нясьвіскай, заблудаўскай ды віленскай друкарні Мсьціслаўца, друкарня Цяпінскага была з чаргі пятаю.

Выяўлены год друкаваньня кнігі важны й для будучага ўстанаўленьня няведамае пакульшто крыніцы царкоўнаславянскага тэксту „Евангелія" Цяпінскага. Дата „1576 год" дазваляе адкінуць як крыніцу передруку ўсе тэксты, што зьявіліся пасьля 1576 году, прыкладам тэкст Новага Запавету 1580 году друкарні астроскай. На ўвагу затое, як магчымую крыніцу, браць ужо трэба віленскае Мсьціслаўцава Евангельле, што з друку паказалася ў сакавіку 1575 году, ды ўсе іншыя тэксты евангельляў, што паўсталі перад 1576 годам.

**THE PRINTING HOUSE OF CIAPINSKI by Vitaut Tumash**

**Summary:** It has been established that the approximate period of activity of Vasil Ciapinski's printing house was some time between 1560 and 1580. Ciapinski was a petty nobleman of the Połacak (Polotsk) region who published his Byelorussian translation of the Gospels in the 16th century. In 1918, Ramuald Ziamkievič found the woodcut of a portrait of Vasil Ciapinski dated 1576 which was apparently prepared by him for inclusion in the

Gospel-book he was printing — following in the footsteps of Francis Skaryna who published a woodcut portrait of himself in his Prague edition of the Bible. The year 1576 inscribed on Ciapinski's portrait is solid evidence that he was printing his translation of the Gospels in that year and that his printing house was active then.

---

1 М. Довнар-Запольский. В. Н. Тяпинский, переводчик евангелия на белорусское наречие (Известия Отделения русского языка и словесности Имп. Академии наук, т. IV, кн. 3. С.-Петербург, 1899, б. 1034) Перадрук тэксту прадмовы Цяпінскага да „Евангелія" можна знайсьці: В. Ластоўскі. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926, б. 410-415; таксама: Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры, склаў А. Ф. Коршунаў. АН БССР. Мінск, 1959, б. 197-201.

2 И. Каратаев. Описание славяно-русских книг напечатаных кирилловскими буквами, т. 1, с 1491 по 1652 год (Сборник Отделения русского языка и словесности. Имп. Академии наук, т. XXXIV, 2. С.-Петербург, 1883, б. 201).

3 Журнал Министерства народного просвещения. С.-Петербург, 5, 1884, б. 44.

4 В. Ластоўскі. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі, б. 406.

5 Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы, ч. I. АН БССР. Мінск, 1961, б. 161.

6 Г. Я. Галенчанка. Васіль Цяпінскі — пасьлядоўнік скарынінскай справы (450 год беларускага кнігадрукаваньня. АН БССР. Мінск, 1968, б. 175).

7 Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры, склаў А. Ф. Коршунаў. АН БССР. Мінск, 1959, б. 196.

8 Romuald Ziemkiewič. Wasil Ciapinski ("Biełaruskaje žyćcio", Wilnia, 14 lipnia 1919 h., b. 5).



# СПРЭЧКА ПРА ДАКУМЭНТЫ ЯКІХ НІКОЛІ НЯ БЫЛО

**Рыгор Максімовіч**

Гістарычныя вытокі ды нацыянальная істота Вялікага Княства Літоўскага належаць да праблемаў, насьвятленьне якіх у гістарычнай літаратуры дзеля розных прычынаў асабліва супярэчлівае. Даводзіцца, цірааз яшчэ й цяпер, сустракацца й зь меркаваньнямі ў гэтых пытаньнях фантастычнымі, на канкрэтных фактах неабапертымі. Прыкладам памылковых высноваў, што паўсталі зь неправераных ведамак, служыць можа й узьнятая гадоў пару таму спрэчка пра справу ў навуковай літаратуры, здавалася-б, даўно ўжо высьветленую — пра ўрадавую мову Вялікага Княства Літоўскага.

Віктар Сукяньніцкі, былы студэнт, пасьля-ж і прафэсар віленскага міжваеннае пары польскага ўнівэрсытэту, ці бо ўнівэрсытэту колішняе сталіцы Вялікага Княства, у 1972 годзе ў парыскім польскім месячніку „Культура" зьмясьціў артыкул, у якім пісаў:

> Адным з апошніх дакумэнтаў Рэчыпаспалітай у літоўскай мове была справаздача дэлегатаў Вялікага Княства, што былі высланыя да Белай Царквы на перамовы з Хмяльніцкім".[1]

На ўвеце аўтар меў выяўна дакумэнт з паловы XVII стагодзьдзя, з году 1651-га, бо ў гэтым гэта годзе адбываліся ў Белай Царкве перамовы з Багданам Хмяльніцкім. Сваю інфармацыю аб дакумэньце, што быццам напісаны мовай „літоўскай", у значаньні лятувіска-жамойцкай, В. Сукяньніцкі паўтарыў і ў артыкуле, што быў надрукаваны ў польскім лёнданскім зборніку „Паментнік Віленьскі". Там ён дадаў, што падае гэта паводле кнігі М. Ромэра „Літва".[2]

У згаданай кнізе, якая з друку выйшла ў годзе 1908-м, Міхал Ромэр пра гэта пісаў:

> Бадай ці не апошні афіцыйны дакумэнт напісаны ў мове літоўскай, гэта ліст, што быў пісаны зь Белай Царквы прадстаўнікамі Літвы, якія зьехаліся там для перамоваў з прадстаўнікамі Хмяльніцкага; аўтарамі гэтага ліста былі: Адам Кісель, ваявода кіеўскі, Юры Глябовіч, ваявода Смаленскі, Вінцэнты Гансеўскі, стольнік В. К. Літоўскага, і Міхал Касакоўскі, падсудак брацлаўскі.[3]

Падаючы гэтую зацемку ў зносцы свае кнігі М. Ромэр як на яе крыніцу паклікаўся на лятувіскі часапіс 1907 году „Летувіс". З гэтага вынікае, што самога дакумэнту, ці хоць-бы перадрукаванага арыгінальнага яго тэксту, аўтар ня бачыў.

На заяву В. Сукяньніцкага пра справаздачу зь Белай Царквы дэлегатаў Вялікага Княства як пра „адзін з апошніх дакумэнтаў Рэчыпаспалітай у літоўскай мове", зарэагаваў лістом, што быў надрукаваны ў той самай „Культуры", З. С. Сямашка. Ён пісаў:

Не пярэчу, што гэтак было, ды мне здаецца, што гэты дакумэнт трэ было-б назваць хутчэй першым дакумэнтам Рэчыпаспалітай у мове літоўскай, а не апошнім, бо-ж моўай урадавай В. К. Літоўскага як перад, гэтак і ў пачаткавай пары ўгоды з Польшчаю, былэ ня мова літоўская, а г. зв. руская, папярэдніца цяперашняе беларускае...

Пратэстантызм ды заніканьне лацінскае мовы... прычыніліся да ажыўленьня мовы літоўскай... і гэтым хіба можна тлумачыць зьяўленьне першага дакумэнту Рэчыпаспалітай — справаздачы зь перамоваў з Хмяльніцкім — у гэтай мове ў XVII стагодзьдзі.[6]

У навуковай гістарычнай літаратуры высьнена даўно, што ніякіх — і ніводнага — пісаных жамойцка-лятувіскай моваю афіцыйных дакумэнтаў Вялікага Княства Літоўскага, пра што цяпер спрэчку завялі польскія аўтары, ніколі ня было. Дыскусія пра гэта ўзьнімаецца сяньня, хоць пытаньне гэтае, як і сама канкрэтна справа мовы ліста зь Белай Царквы, аўтарытэтна былі выясьненыя даўно, а на пачатку гэтага стагодзьдзя між іншага й вучоным гэткае шырокае ды грунтоўнае гістарычнае веды, як Аляксандар Брукнэр.

Выдатны польскі моваед, адначасны гісторык літаратуры й дасканальны знаўца старое культуры Рэчыпаспалітай, аўтар шматтомных манумэнтальных выданьняў у гэтай галіне „Старапольская энцыкляпэдыя" ды „Гісторыя польскай культуры", А. Брукнэр пра старую беларускую мову ў 1918 годзе пісаў:

Гэтая беларуская мова мае сваю шмат ранейшую й слаўнейшую прошласьць чым маларуская ці вялікаруская, ды пад чужым літоўскім назовам яна ў ёй скрываецца. Была-ж яна моваю ўрадавай на ўсёй Ліцьве. Па-„літоўску", г. зн. пабеларуску, пісаліся акты, летапісы, літоўскія статуты. Яна першая зьявілася ў друку, адным часам з мовай польскай, у Бібліі доктара Скарыны ў Празе ды Вільні каля 1520 году... Гэтым пісьменствам у 16 і 17 стагодзьдзях жыла ўся Русь...

На загаловачных балонках маскоўскіх кнігаў ціраз прачытаеш: перакладзеная зь „літоўскага" (г. зн. беларускага). Сяньняшні літваман гатоў падумаць, што гутарка тут пра ягоную жамойцкую гаворку. Навет палякі, прыкладам Ромэр, даваліся зьвесьці голаму назову ды ў „літоўскім" лісьце Кісяля дашукваліся памяткі жамойцкае мовы, пра якую ні Кісялю, ды й нікому іншаму, тады й ня сьнілася. Словы аднаго гучаньня як-жа-ж рознае могуць мець значаньне.[5]



Гадоў дзесяць пазьней, у сваей працы аб пісаным пабеларуску рукапісе 1510 году, тую самую гістарычную праўду А. Брукнэр яшчэ раз коратка выказаў словамі:

Увесь час кажам „літоўскі, ліцьвін", але гэта толькі заміж „беларускі, беларус", бо ў 1510 годзе пра запраўдную этнаграфічную Літву ніхто й ня сьніў; Рэй яшчэ ў 1562 годзе ліцьвіном беларуса называў, а ў Маскве і ў XVII стагодзьдзі „литовский" тое самае, што „беларускі".[6]

Ды ня толькі ў надрукаваных у Маскве кнігах перакладзеных зь беларускае мовы сустракаем азначэньне гэтае мовы „літоўская". Тое самае можна знайсьці й на тысячах дакумэнтаў тае пары датычных да Вялікага Княства Літоўскага, што ляжаць у старасховах Масквы. Дык у Маскоўшчыне XVI — XVII стагодзьдзяў беларускае „літоўскае" мовы з моваю балцкай, жамойцкай, ня блыталі, як цяпер, колькі стагодзьдзяў пасьля, здараецца гэта зь некаторымі польскімі аўтарамі.

Ды ня толькі на ўсходзе Эўропы, у Маскоўшчыне, але й на захадзе шмат хто тае ды й ранейшае пары пад мовай „літоўскай" разумеў мову славянскую, ці бо беларускую. Энэй Сыльві Пікалямініі (пазьнейшы папа Пій II, 1458-1464) пісаў: „Літва... мяжуе з Польшчаю ад усходу... мова народу славянская (Sermo gentis Sclavonicus)".[7] Гартман Шэдэль, аўтар слаўнае ў сваю пару нюрнбэрскае „Хронікі сьвету", што тысячнымі тыражамі ды шмат разоў перавыдавалася ў мовах лацінскай, нямецкай ды іншых, у гэтай, выдадзенай у 1493 годзе кнізе, пры вопісе Літвы падаваў: „Мова гэтага народу вэндыйская (Das gezueng diss volks is Windisch)".[8] Славянаў на захадзе тады часта называлі агульным назовам „вэнды", іхную-ж мову „вэндыйскай". Тое самае падаваў у 1511 годзе й Ян Коклес Норык у кнізе, што была выдадзеная ў Нюрнбэргу, калі пра ліцьвіноў пісаў: „Мову ўжываюць славянскую (Lingua utuntur Sclavonica)".[9] Ян Багемскі ў 1538 годзе, пры вопісе Літвы, чытачом паясьняў, што „Мова народу, як і палякоў, славянская (Sermo gentis, ut Polonis, Sclavonicus)".[10]

Пазьней, у літаратуры стагодзьдзя XIX-га, назоў „літоўская" пераносіцца з мовы беларускае на мову лятувіска-жамойцкую, ды за ёю й замацоўваецца. Вось неўсьведамленьне зьмены значаньня пайма „літоўская мова" й даводзіць нека-

торых да хвальшывае ўявы пра нацыянальную істоту ўрадавае мовы Вялікага Княства Літоўскага. Карыстаючыся поймамі XIX-XX стагодзьдзяў немагчыма раскрыць правільна ды належна зразумець зьявы й падзеі колькі стагодзьдзяў ранейшыя, часоў тых, калі ў гэтыя поймы ўкладаўся зусім іншы зьмест.

На разважаньні ў сучасным друку пра „лятувіскую" бьццам мову афіцыйных дакумэнтаў Вялікага Княства Літоўскага можна было-б і не зьвяртаць увагі, як на зьяву прыпадковую. Ды ў каранёх падобных паглядаў ляжыць пашыраная сярод гісторыкаў польскіх яшчэ й сяньня ўява, што вядучую ды кіраўнічую ў Вялікім Княстве Літоўскім XV — XVII стагодзьдзяў, дзяржавы з жыхарствам у ня менш 80% славянскім, была не славянская беларуская (пазьней паланізаваная) шляхоцкая ды магнацкая сацыяльная верахавіна, але балцкае мовы лятувіскія „фэўдалы". Аўтары з падобнымі памылковымі ўяўленьнямі ці ня ведаюць, ці сьведама заплюшчваюць вочы на навуковыя працы да гэтага пытаньня тых польскіх і няпольскіх гісторыкаў, якія, як А. Брукнэр, беспадстаўнасьць гэтага даўно ўсьведамлялі ды высьнілі.

Бярэ дзіва, што й аўтары, якія пра гісторыю Вялікага Княства шмат пісалі ды гадамі яе й з унівэрсытэцкіх катэдраў выкладалі, нейк не зьвяртаюць увагі, ігнаруюць, сьветчаньні здавалася-б гэткіх аўтарытэтных XVI стагодзьдзя тагачасьнікаў, як хоць-бы ведамага выдатнага дзяржаўнага мужа, вялікага канцлера літоўскага Льва Сапегі, які ў прадмове да напісанага пабеларуску ды ў 1588 годзе выдадзенага Статуту Вялікага Княства Літоўскага пісаў:

> А есьлі каторому народу стыд праў сваіх ня ўмеці, пагатоўю нам, каторыя ня обчым якім языком, але сваім уласным правы сьпісаныя маем і кожнага часу чаго нам патрэба ку адпору ўсякае крыўды ведаці можам.

Дык законы Вялікага Княства ўкладалі, афіцыйныя граматы, акты, дакумэнты пісалі людзі таго народу, для якога беларуская мова Літоўскага Статуту была яго „языком уласным". Сацыяльна й палітычна пануючая кляса гэтага гэта народу рупілася пра справы й патрэбы дзяржавы, была яе гаспадаром, ёю кіравала.

Вось да падобных аўтэнтычных аўтарытэтных сьветчаньняў тагачасьнікаў ды памятак-дакумэнтаў гэткае першараднае гістарычнае вагі, як Літоўскія Статуты, як летапісы Вялікага Княства Літоўскага, як колькісот тамоў пісанае пабеларуску Літоўскае Мэтрыкі, сотняў тысячаў захаваных дакумэнтаў і актаў зьвяртацца трэба для належнага асэнсаваньня этнічна-народнае базы й нацыянальнае істоты Вялікага



Княства Літоўскага ды для ўсьведамляньня пануючае ў ім культуры й мовы, а ня шукаць адказаў на гэтыя пытаньні ў лятувіскіх ці іншых палітычных часапісах нашага стагодзьдзя.

## DISPUTE OVER NON-EXISTENT DOCUMENTS by Ryhor Maksimovich

**Summary:** Several years ago a discussion took place in a Polish journal "Kultura" centering on official documents from the 17th-century Grand Duchy of Lithuania, written allegedly in the Lithuanian language. It is well known among scholars that Byelorussian (and not Lithuanian) was the official language in the Grand Duchy of Lithuania. The discussion among the Polish authors arose from ignoring the fact that in the 17th century the Byelorussian language, especially in Muscovy, was quite often called "Lithuanian". This misconception demonstrates the importance of being aware of semantic changes in historical terms and concepts.

---

[1] Wiktor Sukiennicki. "Rara avis" czyli o Litwinach mówiących po polsku ("Kultura", Paryź, Nr. 12, 1972, b. 47).

[2] Wiktor Sukiennicki. Pomiędzy Niemcami a Rosją (Pamiętnik Wileński. Londyn, 1972, b. 148).

[3] Michał Römer. Litwa. Lwów, 1908, b. 19.

[4] Z. S. Siemaszko. List do Redakcji ("Kultura", Paryź, Nr. 3, 1973, b. 154).

[5] Aleksander Brückner. Z niwy białoruskiej. Kraków, 1918, b. 3-5.

[6] Aleksander Brückner. Rusko-polski rękopis z r. 1510 ("Slavia", VII, Praha, 1928, b. 10-11).

[7] Pii Pontificis Maximi Historia Rerum ubique Gestarum cum Locorum descriptione. Parhisiiss, 1509, b. 109v-110.

[8] Hartman Schedel. Das buch der chroniken und geschichten. Nürnberg, 1493, b. CCLXXVIII.

[9] Jo. Coclei Norici Decastichon. In librum. Norinburgae, 1511, b. Kv-K. II.

[10] Omnium Gentium Mores, Leges et Ritus. Ex multis clarissimis rerum scriptoribus a Joanne Boemo Aubano Teutonico nuper collecti et novissime recogniti. Antverpiae, 1538. b. 80v-81.

# РОЗДУМ ПРА МУЗЫКУ

## З нагоды зборніка Э. Зубковіч „Край мой васільковы"*

### Дзімітры Верасаў

У васнове беларускага музычнага фальклёру (як і ўсіх блізу славянскіх народаў) ляжыць натуральны мажорны або мінорны лад, прычым у Беларусаў другі пераважае над першым. Апрача гэтага існуюць асаблівасьці пасьледаваньня мэлёдыі й гарманічных ступеняў, што вырозьніваюць беларускую народную музыку ад музыкі іншых славянаў, скажам, расейцаў ці ўкраінцаў.

Натуральныя лады зарадзіліся яшчэ за сівой даўнінай, калі нашыя прашчуры сьпявалі песьні пабудаваныя на сямёх асноўных гуках, задоўга яшчэ да таго, як з Захаду (зь Італіі й Нямеччыны) прыйшоў да нас больш дасканальны храматычны гукарад, што карэнным парадкам зьмяніў увесь характар музыкі. Натуральныя лады не найстаравечнейшыя. Яшчэ задоўга да пачатку нашае эры існавала г. зв. „пэнтатонная" сыстэма, што дасюль захавалася ў ар'ентальных народаў, прыкладам, у кітайцаў. Як відаць із слова „пэнтатонная", мэлёдыі складаліся толькі зь пяцёх гукаў. Узаемадачыненьні між імі можна адтварыць, ужываючы адны чорныя клявішы раялю (ёсьць і іншыя спосабы). Мэлёдыі, заснаваныя на „пэнтатонным" ладзе, вельмі характэрныя й лёгка распазнаюцца.

Пасьля зьявіліся грэцкія дыятанічныя лады, заснаваныя на сямёх гуках дыятанічнага гукараду. Яны маюць розныя назовы ў залежнасьці ад таго, які тон бярэцца за асноўны. Іх можна адтварыць, ужываючы адны белыя клявішы раялю. Гэтых ладоў сем: дарыйскі, фрыгійскі, лідыйскі, міксалідыйскі, эолійскі, лёкрыйскі ды іянійскі. Усе яны ўвайшлі ў ужытак праваслаўнае царквы і затым часта завуцца „царкоўнымі" ладамі. Шмат якія заходнія й расейскія кампазытары, нат у XIX стагодзьдзі, карысталіся гэтымі ладамі для стварэньня характэрных інтанацыяў (Брамс, Мусаргскі).

* Э. Зубковіч. Край мой васільковы. 12 песьняў на сярэдні голас з фартэпіянам. Ню Ёрк, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, 1972 г.



Натуральныя лады, ад якіх мы пачалі гутарку, зусім супадаюць з двума „царкоўнымі" ладамі, гэта зь іянійскім (мажорным) і эолійскім (мінорным). У пяяньні яны найбольш дасканальныя й выгодныя. У далейшай эвалюцыі музыкі, з выяўленьнем паўтонаў, зьявіўся храматычны гукарад з 12-ёх гукаў, што ўжываецца ўва ўсёй клясычнай музыцы. У працэсе далейшае „мадэрнізацыі" ў XX стагодзьдзі зьявілася „атанальна"-абстрактная гармонія (Шоэнбэрг, Айуз), што падпарадкаваная ня гэтулькі звыкламу да артадаксальнае музыкі вуху, колькі матэматыцы.

Пазьнейшы пэрыяд, пачынаючы ад 1930--1940-ых гадоў, музыка „авангарду", якая, паводля ейнага заснавальніка Э. Варэса, нат не завецца музыкай, а „арганізаванымі" гукамі, што часта камбінуюцца цяпер пры дапамозе кампютэра.

Я не магу адмаўляць прагрэсу ў музыцы, але павінен адзначыць, што із зьяўленьнем „храматызму", зь якім мы гэтак звыкліся і ў опэры і ў царкоўнай музыцы, дый проста ў песьнях, пачынаецца зьніканьне тых калярытаў (трапнае для гэтага ангельскае слова "flavor"), што былі ўласьцівыя народнаму творству. Упаасобку, ужываньне ўводных тонаў **дэнацыяналізуе** беларускую музыку.

Няма ўжо чаго й казаць пра „атанальную" музыку. Тут ня можа быць і мовы ня тое, каб пра нацыянальнасьць, але й пра натуральныя людзкія эмоцыі. Музыка стаецца або якбы „высушанай" або бязупынна занадта напружанай. Звычайны слухач успрыймае яе адно тады, як глядзіць адначасна кінафільм пра міжплянэтныя падарожжы або „фільм із зданямі" ("Spooky pictures").

Дысанансавыя спалучэньні, звычайна патрэбныя ў клясычнай гармоніі для выразнасьці й для пераходу да асьвяжальнага адпружаньня, у „атанальнай" гармоніі набываюць самаважкага значаньня: яны нагрувашчаныя адно на адно й трымаюць слухача ў сталым напружаньні. Для правільнага ўспрыйманьня гэткае музыкі трэба вялізарная практыка, але няпрызвычаенаму слухачу яна выдаецца гэткай-жа дзікой і недарэчнай, як чалавеку, што жыў у XVIII стагодзьдзі, музыка Моцарта, якая на той час была занадта „мадэрнай".

Народная музыка ня можа захавацца, калі яна не застанецца да пэўнае ступені кансэрватыўнай. Але гэта ня значыць, ведама, што кампазытар, які піша беларускую песьню, строга трымаючыся дыятанічнага ладу, абмежаны ў сваіх мэлядычных і гарманічных рэсурсах. Магчымасьцяў для стварэньня новых і разнаякіх мэлёдыяў і гармоніяў безьліч; акорд кажнае зь сямёх ступеняў дыятанічнага ладу, апрача свайго асноўнага выгляду, мае прынамся яшчэ два звароты. Іх можна пераводзіць (мадуляваць) у якую хаця з 12-ёх танальнасьцяў храматычнага гукараду (ня ўводзячы храматызму ў самыя акорды).

Памножыўшы тры звароты акордаў на сем ступеняў ладу, а тады на дванаццаць магчымых танальнасьцяў, мы атрымваем (3 x 7 x 12 = ) 252 акорды, зь якіх можна стварыць безьліч камбінацыяў. Мяняючы рытм, тэмпы, нюансы й аркестраваньне, можна стварыць цэлыя народныя опэры й сымфоніі, а ня толькі невялічкія песьні.

Таленавіты кампазытар, што ўмела выкарыстоўвае ўсе гэтыя сродкі, творыць новы, сьвежы, паўнакроўны музычны твор, а галоўнае — ахварбаваны ў беларускія колеры. Гэткія сьмелыя й зыркія прыклады мы знойдзем у якім хаця творы Міколы Равенскага, аднаго зь лепшых беларускіх кампазытараў.

***

Зборнік „Край мой васільковы", музыка Э. Зубковіч, выданы Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва, я прааналізаваў зь вялікай цікавасьцяй. Вонкавы выгляд зборніка прыемны воку, але пераклад загалоўку ў ангельскую мову (Golden Land of Mine) можа ўвесьці ў блуд хоць якога амэрыканца, нат і таго, што ведае беларускую мову.

У ўводным артыкуле Алесь Карповіч, добры знавец беларускае музыкі, каротка прасачыў эвалюцыю гэтак званае „Міса", прычым прыемна адзначыць, што ён згадаў імя Вольфа, якога звычайна „не заўважаюць"; а якраз ён, Вольф, надаў асабістага сэнсу фартапіяннаму суправаджэньню, зрабіўшы яго ўжо не суправаджэньнем, а непадпарадкаваным раўнапраўным партнэрам людзкога голасу. Грэх адно, што А. Карповіч не згадаў чамусьці М. Мусаргскага, а абмежыўся адно да немцаў і аўстрыйцаў.

Мы ведаем шмат таленавітых жанчынаў-музыкаў: сьпявачак, скрыпачак, піяністак. Але вельмі няшмат жанчынаў-кампазытараў. Дый тых, каго мы ведаем (Кляра Шуман, А. Пахмутава ды інш.), да ліку вялікіх ніяк ня прыпішаш. Дык творчасьць Э. Зубковіч, жанчыны-кампазытара, ужо сама сабой усьцешная зьява: яна паказвае ня толькі ейны талент, але й бясспрэчнае веданьне кампазытарскае тэхнікі (чым ня могуць пахваліцца некаторыя беларускія кампазытары — „вылучэнцы" й „самавылучэнцы", незаслужана шанаваныя некаторымі кіраўнікамі беларускае грамадзкасьці).

Не магу поўнасьцяй згадзіцца з А. Карповічам у тым, што інтанацыйная пабудова песьні Э. Зубковіч блізкая да народнае песьні (вынятак „Дарога"), але можна з поўнасьцяй адзначыць, што Э. Зубковіч дасканальна валодае рознымі гарманічнымі прыхваткамі ды нат арыгінальна стварае сваю собскую музычную мову (шэсьць заключных тактаў „Дарогі" напісаныя памайстроўску, тут кампазытар выяўляе сваю індывідуальнасьць).



Я думаю, што **„Дарога"** найлепшая рэч у зборніку. Трэ было-б, праўда, кампазытару ўсьцерагацца, наколькі мага, ад ужываньня ўводнага тону до-дыез у некаторых месцах мэлёдыі й адпаведным акампаніямэньце; і песьня гучэла-б у натуральным міноры больш пабеларуску.

**„О, край родны"** — вельмі прыгожа гарманізаваная, хоць і з налётам некаторых нямецкіх песьняў паваеннага пэрыяду (1945 — 1948). Асабліва гэта знаць на ўступе (Gerhard Winkler, "Sterne über Florenc").

**„Восень"** — лірычная песьня з адценьнямі восенскае мэлянхоліі ў духу Чайкоўскага.

**„Мроя"** — напісаная зь вялікім пачуцьцём, дасканальна гарманізаваная, цалком адказвае настрою паэзіі (Н. Арсеньнева).

**„Вясновы вечар"** — даволі цяжкая да выкананьня, але гарманізацыя найбольш нязвычайная з усіх твораў зборніка. Э. Зубковіч не баіцца сьмелых мадуляцыяў у ваддалены строй (зь мі-мінору ў фа-дыез мажор), а гэта стварае асьвяжальную атмасфэру й станоўка адкідае прэч рутыннасьць у музыцы. Асабліва добрыя мамэнтальныя дысануючыя сустрэчы гукаў сі й до (у мі-мінорны), што ствараюць пакутліва-палкі, хвалюючы, якраз „вячорны" настрой. (Гэткім прыхваткам я сам, грэшны, карыстаюся часьцяком, не магу ад яго адмовіцца; ён стаўся істотнай часткай, паважуся гэтак сказаць — майго „стылю"). Побач з „Дарагой" „Вясновы вечар" — залатая крупінка зборніка.

**„Знае сэрца"** — прыемная музыка зь некаторым адценьнем раньняга „вагнэрызму". У заключных акордах спакойна-прасьветлена два разы праходзіць павялічанае трыгучча (рэ-фа-дыез, сі-бэмоль), што заклікальна замірае ў піяніссыма.

Э. Зубковіч заўсёды ўдаецца лірычная музыка. Дуэт **„Асеньняя песьня"** змрочна лірычны й просты, як старасьвецкі раманс. Тэкст у канцы песьні, аднак, крыху зааптымістычны як на самую мэлёдыю.

**„Родны край"** — просты без прэтэнсіяў на арыгінальнасьць з плаўным суправаджэньнем. Песьняў у гэткім духу шмат сустракаецца ў расейскім (але не беларускім) фальклёры („Ах ты, доля, мая доля"). Сваёй звычайнасьцяй вялікага ўражаньня яна ня робіць. У гармоніі цікава адзначыць аднач асное гучэньне тонікі й дамінанты: ля-мажорнае гучэньне на басавым остынато (намагальным паўторы) гуку рэ. Выходзіць прыгожа!

Цяпер застаецца адно „паспрачацца" з А. Карповічам і адзначыць слабыя (на маю думку, ведама) рэчы зборніка. Не зважаючы на некаторую арыгінальнасьць мэлёдыі й гармоніі, **„Ветру"** я ўважаю за адну зь няўдалых рэчаў. Песьня трымае выканальніцу ў вузкіх рамках барджджэй альтовае,

а ня мэцца-сапранавае тэсытуры. Паколькі (як я здагадваюся) песьня прызначаная для выкананьня сп-няй Лізай Маркоўскай, гэтая таленавітая з чароўным голасам сьпявачка ня здолее паказаць сябе тут ува ўсёй паўніні.

**„Я душу нявыгойна параніў"** — слабая рэч і музыкай і тэкстам; яна нагадвае банальныя мяшчанскія рамансы. Кампазытарскага натхненьня ня вычуваецца.

**„Ой, ты край мой залаты"** — хоць напісаная ўмелаю рукою, але рэч пасярэдня-звычайная.

І нарэшце **„Кальыханка"** — пад яе дзіцё не засьне. Тут, здавалася-б, больш за ўсё павінна вычувацца беспасярэднясьць і „беларускасьць", якіх няма ў песьні. Бязумоўна, што тут, як нідзе, патрэбен натуральны лад (мажорны або мінорны).

Музыку можа тварыць той, хто валодае трыма канечна патрэбнымі кампазытару якасьцямі: талентам, ведамі, і, галоўнае, пачуцьцём шчырасьці ў дачыненьні да сябе й да іншых. Без наяўнасьці іх лепш ня пісаць, нічога добрага ня выйдзе! Э. Зубковіч носіць у розуме й сэрцы ўсе гэтыя тры элемэнты, і затым ейная музыка будзе жыць.

Гісторыя музыкі знае прыклады, калі шчырасьць кампазытара прыводзіць яго да боскіх узвышшаў тварэньня (ня толькі ў вузка рэлігійным разуменьні). Але часам той-жа самы музыка, як гэта ні парадаксальна, аддаецца пад уладу страху за сваё быцьцё, або, яшчэ горш, кіруючыся кар'ерыстычнымі мэтамі, дагаджае пануючым уладам, забіваючы гэтым мастацтва ў самым зародку. Прыклад гэткіх мэтамарфозаў — Д. Шастаковіч: то ўзлёт да нябёсаў, то ўпадак у плюгаўства. Нашыя кампазытары на эміграцыі ня знаюць палітычнага страху, але часамі паддаюцца падхалімнаму ілжэ-патрыятызму. І музыка іхная благая. Іншыя-ж, зь некаторымі здольнасьцямі, ня маюць нат элемэнтарных ведаў.

Дзякаваць Богу, Э. Зубковіч усім гэтым ня грэшыць!

**THOUGHTS ON MUSIC by Dzimitry Vierasau**

Reflection on the character of Byelorussian music and a critical appraisal of the musical compositions of Elsa Subkovich published as a collection of songs, **Golden Land of Mine.**



# УСТАЎНЫЯ ГРАМАТЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

**Янка Запруднік**

Працягваючы публікаваньне дакумэнтаў і матар'ялаў да гісторыі Беларускае Народнае Рэспублікі (БНР)*, ніжэй зьмяшчаем у арыгінале й ангельскім перакладзе тэксты трох Устаўных Граматаў Рады БНР, у якіх сьцісла выкладзеная праграма нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў 1917-1918 гадох. Ад 1921 году тэксты гэтых граматаў у СССР ніколі не перадрукоўваліся, згодна з практыкай савецкае гістарыяграфіі, паводле якое партыйная інтэрпрэтацыя падзеяў важнейшая за дакумэнты, што гэныя падзеі адлюстроўваюць, і затым тэксты дакумэнтаў непажаданых да ведама народу не падаюцца. Гэтак сталася й з Устаўнымі Граматамі Рады БНР.

Тэксты ўсіх трох граматаў друкаваліся ў кнізе С. Канчара „Белорусский вопрос" (Петроград, 1919, б.б. 76-82), у кнізе Ф. Турука „Белорусское национальное движение" (Москва, 1921, б.б. 110-116), у нарысе гісторыі Беларусі Я. Найдзюка „Беларусь учора й сяньня" (Менск, 1943, б.б. 166-171), ды ў брашуры Н. Недасека „1918-1948" (выд. Бацькаўшчына", Остэргофэн, 1948).

У кнізе Канчара дзьве першыя граматы пададзеныя парасейску, трэйцяя — пабеларуску. У Турука толькі першая парасейску (з зазначэньнем, што яна „падаецца ў тым выглядзе, у якім выдрукаваная ў Канчара"), дзьве наступныя — пабеларуску. У Найдзюка й Недасека ўсе тры — пабеларуску, але з пэўнымі розьніцамі супраць беларускіх тэкстаў у Турука. Міжсобку, аднак, тэксты Найдзюка й Недасека ня розьняцца.

Зьмешчаныя ніжэй тэксты граматаў падаюцца ў васноўным паводле Турука. Беларускі-ж тэкст першае граматы, што розьніцца ад Канчаравага й Туруковага расейскага варыянту, падаецца паводле Найдзюка (адкуль узяў тэкст Най-

* Дакумэнты й матар'ялы да гісторыі Першага Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 году й Рады Беларускае Народнае Рэспублікі гл. у „Запісах" кн. 2 (1963), 181-204, кн. 3 (1964), 131-176 і кн. 4 (1966), 217-246.

дзюк, устанавіць не ўдалося). Ангельскі пераклад першае граматы зроблены зь беларускага тэксту. Розьніцы ў варыянтах тэкстаў усіх трох граматаў адзначаныя ў зносках.

У сучаснай савецкай гістарыяграфіі тэма БНР апрацоўваецца не дзеля ейнае гістарычнае важнасьці, а як рэакцыя на тое, што пра БНР пішацца ў замежжы. А гэта партыйныя гісторыкі сочаць вельмі пільна, трымаючы вока й на тым, што публікуецца Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва. Гэтак, прыкладам, Вадзім Круталевіч, які спэцыялізуецца на тэме БНР-БССР, адзначыў быў у 1972 годзе: „Ужыцьцёўленьне нацыянальнае палітыкі і, упаасобку, нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва — цэнтральная тэма ў ‚навуковай' прадукцыі гэтак званага Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку" (В. А. Круталевич. Фальсификация истории создания БССР — одно из направлений антисоветизма. Материал в помощь лектору, Минск, 1972, бб. 2-3).

У таго-ж Круталевіча ёсьць цэлы шэраг артыкулаў на тэму нацыянальнае палітыкі партыі на Беларусі ў 1917-1922 гадох. У адным зь іх, азагалоўленым „Ходам гісторыі" („Полымя", 1972, №7), раўнуючы шмат месца прысьвечана тром Устаўным Граматам (бб. 185-196). Тэкстаў, зразумела, Круталевіч не падае, — гэта было-б супярэчна з духам партыйнае „аб'ектыўнасьці" — як не падалі іх і рэдактары вялікага дакумэнтальнага зборніка „Из истории установлеия советской власти в Белоруссии и образования БССР" (Минск, 1954).

Трымаючы пад забаронай тэксты непажаданых сабе дакумэнтаў ды іншыя першакрынічныя матар'ялы, партыйным гісторыкам лягчэй даваць рады зь іхнай „інтэрпрэтацыяй". Гісторыю тварэньня БНР яны няўхільна зьвязваюць зь нямецкай акупацыяй. Паводля „Беларускае Савецкае Энцыкляпэдыі", БНР была абвешчаная „ва ўмовах акупацыі Беларусі нямецкімі войскамі" (**БелСЭ**, т. 2, б. 227). Тое самое кажацца і ў трэйцім выданьні „Большой Советской Энциклопедии" (Москва, 1970, б. 127): „З дазволу нямецкага камандаваньня Беларуская Рада стварыла марыянэтачны ўрад Беларускае Народнае Рэспублікі".

Тымчасам Усебеларускі Кангрэс 1917 году, ад якога бярэ свой арганізацыйны пачатак БНР, быў скліканы ў Менску якраз пад бальшавікамі, і гэта яны збройнай сілаю разагналі ў канцы сьнежаня 1917 году гэны Кангрэс. Пра тое, што ўрад БНР быў створаны яшчэ да прыходу немцаў у Менск, сьветчыць таксама першая Ўстаўная Грамата, датаваная 21-м лютага 1918 году. Грамата гэтая пачыналася словамі: „Родная старонка наша апынулася ў новым цяжкім стане. Дзе цяпер улада, што была тут, няведама, мы стаімо перад тым, што наш край можа быць заняты нямецкімі войскамі". І калі немцы занялі Менск, палітыка Рады БНР у духу „поўнага самавызначэньня" ад гэтага не зьмянілася. Яна пайшла ўпоперак зь нямецкімі акупацыйнымі інтарэсамі, чым і тлумачыцца перасьлед ўраду БНР немцамі.



У кнізе савецкага аўтара А. Малашкі „К вопросу об оформлении однопартийной системы в СССР" (Минск, 1969, б. 93) чытаем: „Трэба сказаць, што ў пляны нямецкіх акупантаў не ўваходзіла стварэньне самастойнае беларускае буржуазнае дзяржавы. Ужо 25 лютага (1918 г.) германскі камандант сілай заняў будынак ‚Народнага Сакратарыяту', скінуў беларускі сьцяг і правёў у памешканьні ператрус, у выніку якога былі забраныя грошы й разагнаныя службоўцы". Факт гэты ў злагоджаным сфармуляваньні сьцьвердзіла й „Беларуская Савецкая Энцыклляпэдыя" (т. 2, б. 227): „Кіраўнікі БНР . . . па розных прычынах не атрымалі прызнаньня ні ад Германіі, ні ад Польшчы, ні ад краін Антанты".

Няпрызнаньне кайзэраўскай Нямеччынай Беларускае Народнае Рэспублікі ня было толькі пасыўным актам, абыякавым стаўленьнем да жаданьня беларусаў, а цягнула за сабою актыўны перасьлед тых, хто прабаваў ужыцяўляць нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва ў духу трох Устаўных Граматаў. Красамоўнае сьветчаньне гэтага можам знайсьці ў газэце „Известия" таго часу, якое аніяк нельга западозрыць у пра-БНР-аўскіх сымпатыях.

„У вакупаваным Заходнім краі, — пісала гэтая газэта, — немцы стварылі адзінаўладзтва, г. зн. узялі ўладу выключна ў свае рукі, апрача трыкутніка Асіпавічы-Рагачоў-Жлобін, дзе немцы супольна з палякамі . . . Палякі-ж зусім ня лічацца з жыхарствам. Ніякіх іншых прадстаўніцтваў немцы ўжо зусім ня цярпяць. Беларускую Раду яны разагналі з 8 кулямётамі, а менскі Савет з 2-ма" (Известия", 29. III. 1918).

Разгон немцамі Рады БНР, гэтак як і разгон бальшавікамі Ўсебеларускага Кангрэсу, не зьмяніў аднак незалежніцкае палітыкі ўраду Беларусі, што ішла ўпоперак плянаў нямецкіх акупацыйных уладаў ды іхных польскіх саюзьнікаў. Няпоўныя два тыдні пасьля вышэй пададзенага паведамленьня газэта „Известия" інфармавала ізноў: „У ‚Газэце Польскай' зь Менску паведамляюць, што нямецкімі ўладамі зачынены Беларускі Сакратарыят. Прычынамі зачыненьня сталіся: 1. Прызначэньне Сакратарыятам спэцыяльнага камісара для ваенных справаў; 2. Стварэньне беларускага каманднага складу; 3. Узброеньне грамадзянаў" („Известия", 10. IV. 1918).

Забарона дзейнасьці ўраду БНР суправаджалася далей сыстэматычным перасьледам жыхарства беларускае сталіцы, як пра гэта колькі дзён пасьля ізноў пісалі „Известия": „Немцы палююць на людзей, ловяць пагалоўна ўсіх у дамох і на вуліцах. У горадзе паніка. Жыхарства тэрарызаванае" (Известия", 24. IV. 1918).

Нямецкая палітыка на Беларусі ў 1918 годзе робіцца больш зразумелай, калі ўчытацца ў сэнс трох Устаўных Граматаў Рады БНР, у іхную незалежніцка-дэмакратычную ськіванасьць. Беларускі народ заклікаўся першай Устаўной Граматай „узяць свой лёс ва ўласныя рукі". Другая грамата абвяшчала „вольнасьць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; бязумоўную вольнасьць сумленьня, незачэпнасьць асобы і памешканьня". Ня менш важны й іншы мамэнт: „У рубяжох БНР, — дэкляравала другая Устаўная Грамата, — права прыватнае ўласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Лясы, вазёры і нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасьцю Беларускае Народнае Рэспублікі". Гэта канкрэтныя даводы, што будавалася рэспубліка ня „буржуазная", як хвальшыва ўгаворвае сваім чытачом савецкі друк, але народная, дэмакратычная. Дзеля гэтага вось друкаваць тэксты граматаў, падаць праўду, савецкаму друку пры ягоным прынцыпе „партыйнае аб'ектыўнасьці", не пад сілу.

Сам-жа факт, што другая й трэйцяя Устаўныя Граматы былі выдадзеныя пры нямецкай акупацыі Менску — довад таго, што Рада БНР трактавала нямецкую ўладу як часовую ваенную зьяву. Гарантаваньне-ж у граматах асноўных дэмакратычных свабодаў пры адначасным абвешчаньні свабоды нацыянальнае, дзяржаўнае сувэрэннасьці беларускага народу, хоць, б'ючы па ідэі чужое ўлады на Беларусі, у прынцыпе было сьціраванае супраць кажнага гвалтаўніка волі беларускага народу, практычна біла перш-наперш па нямецкай акупацыйнай уладзе, што ў гэным часе знаходзілася ў сталічным Менску ды акупавала вялікую частку беларускае тэрыторыі. Гэтае палітычнае значаньне Устаўных Граматаў БНР кайзэраўскі ўрад і нямецкія акупацыйныя ўлады на Беларусі добра разумелі й дзеля гэтага варожа паставіліся да дзейнасьці ўраду БНР, перасьледавалі яго.

Устаўныя Граматы Рады БНР — адно частка вялікага дакумэнтальнага матар'ялу, ад публікаваньня якога пасьлядоўна ўхіляюцца кантраляваныя Кампартыяй гісторыкі савецкае Беларусі. Гісторыю БНР-БССР яны пішуць не на аснове дакумэнтаў, а кіруючыся г. зв. „ленінскай мэтадалёгіяй" ды пастановамі ЦК КПСС і ЦК КПБ. Калі-ж даваць веры гэтым пастановам, дык Кампартыя фармулявала й разьвязвала нацыянальнае пытаньне на Беларусі згодна зь ленінскай нацыянальнай праграмай ды інтарэсамі беларускага народу. Дакумэнты-ж паказваюць, што нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва на Беларусі ў духу абароны інтарэсаў народу, ягонае нацыянальнае сувэрэннасьці, ішло паперадзе бальшавіцкага трактаваньня „белорусского вопроса" і храналягічна і праграмава. Нацыянальная-ж палітыка бальшавікоў на Беларусі была нічым іншым, як рэакцыяй на дзейнасьць Рады БНР.

Своеасаблівы водгук гэтага зафіксаваны ў сучаснай канстытуцыі БССР, другі артыкул якое кажа, што савецкая ўлада замацавалася на Беларусі ў выніку „разгрому беларускае нацыяналістычнае контррэвалюцыі". Вынікам, аднак, гэнага „разгрому" — разгрому БНР — сталася БССР, пераапраненая ў савецкую фікцыю ідэя дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі. Значаньне трох Устаўных Граматаў БНР, такім парадкам, заключаецца ня толькі ў палітычным аспэкце — у тым, што ў іх сфармуляваныя асноўныя палітычныя ідэалы беларускае нацыянальнае рэвалюцыі — але і ў аспэкце гістарычным: ведаць іхны арыгінальны тэкст трэба затым, што яны сталіся аднэй з важных прычынаў стварэньня БССР.

## ТЭКСТЫ ЎСТАЎНЫХ ГРАМАТАЎ

### 1-я Уставная Грамота к народам Белоруссии

Новый грозный момент переживает наша родина. Бывшая в крае власть бесследно ушла. Ныне мы стоим перед возможным занятием края немецкими армиями.

Вы должны взять свою судьбу в собственные руки. Белорусский народ должен осуществить свое неот'емлемое право на полное самоопределение, а национальные меньшинства — на национально-персональную автономию.

Право наций должно найти свое осуществление путем созыва на демократических началах учредительного собрания.

Но и до созыва последнего вся власть в Белоруссии должна принадлежать населяющим ее народам.

Исполнительный Комитет Совета 1-го Всебелорусского С'езда, пополненный представителями революционной демократии национальных меньшинств, осуществляя задачу, возложенную на него С'ездом, об'являет себя временной властью Белоруссии, приступающей к управлению краем и к скорейшему созыву Всебелорусского Учредительного Собрания на основе всеобщего, прямого, равного, тайного и пропорционального избирательного права для всего взрослого населения без различия национальности, вероисповедания и пола.

Временную народную власть в крае, ставящую себе задачей защиту и укрепление завоеваний революции, будет осуществлять созданный нами Народный Секретариат Белоруссии, каковой с сего числа вступил в исправление своих обязанностей.

Дана в Минске-Белорусском, 21 (8) февраля 1918 г.

**Исполнительный Комитет Совета 1-го Всебелорусского С'езда.**

# 1-я Ўстаўная Грамата да народаў Беларусі

Родная старонка наша апынулася ў новым цяжкім стане. Дзе цяпер улада, што была тут, няведама, мы стаімо перад тым, што наш край можа быць заняты нямецкімі войскамі.

Мы павінны ўзяць свой лёс ва ўласныя рукі. Беларускі народ павінен зьдзейсьніць сваё права на поўнае самаазначэньне, а нацыянальныя меншасьці на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію.

Правы нацыі павінны знайсьці сваё зьдзейсьненьне шляхам скліканьня на дэмакратычных асновах Устаноўчага Сойму.

Але і да скліканьня Ўстаноўчага Сойму ўся ўлада на Беларусі павінна належаць тым народам, якія на ёй жывуць.

Выканаўчы Камітэт Рады першага Ўсебеларускага Зьезду, папоўнены прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меншасьцяў, зьдзяйсьняючы мэты Зьезду, абвяшчае сябе часовай уладай на Беларусі для кіраваньня краем і скліканьня, як можна хутчэй, Усебеларускага Ўстаноўчага Сойму на аснове агульнага права для ўсякага дарослага, ня лічучыся з нацыянальнасьцю, вызнаньнем і родам.

Часовую народную ўладу краю, якая ставіць сабе мэтай абарону і зацьверджаньне заваяваньняў рэвалюцыі, будзе зьдзейсьневаць створаны намі Народны Сакратарыят Беларусі, які ад гэтага дня пачаў выконваць свае абавязкі. Пэрсанальны склад Сакратарыяту будзе апублікаваны пасьля.

Дадзена ў Менску-Беларускім 21 (8) лютага 1918 г.

**Выканаўчы Камітэт Рады**
**Ўсебеларускага Зьезду.**

# 2-я Ўстаўная Грамата да народаў Беларусі

У часе сусьветнай вайны, што бурыць адны моцныя дзяржавы і аслабаняе другія, абудзілася Беларусь да дзяржаўнага жыцьця. Пасьля трох з паловаю вякоў няволі ізноў на ўвесь сьвет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць. Вялікі Народны Збор — Усебеларускі Зьезд 5—17 сьнежня 1917 року, дбаючы аб долі Беларусі, зацьвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад. Выпаўняючы волю Зьезду і бароначы дзяржаўныя правы народу, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду гэтак пастанаўляе аб дзяржаўным устроі Беларусі і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і народаў:

1. Беларусь у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнай Рэспублікай.

2. Асноўныя законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацьвердзіць Устаноўчы Сойм Беларусі, скліканы на асновах агульнага, роўнага, простага, патаёмнага і прапарцыянальнага выбарчага права, не зважаючы на род, народнасьць[1] і рэлігію.

3. Да часу, пакуль зьбярэцца Ўстаноўчы Сойм Беларусі, заканадаўчая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Ўсебеларускага Зьезду, дапоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў Беларусі.

4. Спаўняючая і адміністрацыйная ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю Зьезду і перад ёю трымае адказ[2].

5.[3] У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчаецца вольнасьць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; бязумоўная вольнасьць сумленьня, незачэпнасьць асобы і памешканьня.

6. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію; абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі.

7. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі права прыватнае ўласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Лясы, вазёры і нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі.

8. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўстанаўляецца найбольшы 8-гадзінны рабочы дзень.

Абвяшчаючы ўсе гэтыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларускай Народнай Рэспублікі, мы, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду, абавязуемся пілнаваць законнага парадку жыцьця ў Рэспубліцы[4], сьцерагчы інтарэсаў усіх грамадзян і народаў Рэспублікі і захаваць[5] правы і вольнасьці працоўнага люду. А таксама дaложым усіх сілаў, каб склікаць у найбліжэйшым часе Ўстаноўчы Сойм Беларусі.

Усіх верных сыноў Беларускай зямлі клічам памагчы нам у цяжкой і адказнай[6] нашай працы.

**Спаўняючы Камітэт Рады 1-га Ўсебеларускага Зьезду.**
Выдана ў Менску-Беларускім 9 сакавіка 1918 року.

# 3-я Ўстаўная Грамата Рады Беларускае Народнае Рэспублікі

Год таму назад народы Беларусі разам з народамі Расеі ськінулі ярмо расейскага царызму, які найцяжэй прыцісьнуў быў Беларусь; ня пытаючыся народу, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, ськідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная

Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай. Самі народы Беларусі у васобе Ўстаноўчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.

На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі. На моцы гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсьці ў зносіны з зацікаўленымі старанамі, прапануючы ім перагледзець тую часьціну Берасьцейскага трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць мірную ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілеўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродненшчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных часьцяў суседніх губэрняў, заселеных беларусамі.

Беларуская Народная Рэспубліка зацьвярджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаныя Ўстаўной Граматай ад 9 сакавіка 1918 року.

Абвяшчаючы аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы.

**Рада Беларускай Народнай Рэспублікі**

Дана ў Менску-Беларускім
24[7] сакавіка 1918 року.

---

[1] у Канчара — „национальность".

[2] у Турука — „атвет"; у Канчара — „и перед ею ответственному".

[3] у Канчара ўвесь гэты пункт прапушчаны.

[4] у Канчара — „обязуемся быть на страже закона и порядка в Республике".

[5] у Канчара — „и охранять".

[6] у Турука — „атветнай".

[7] Паседжаньне Рады БНР для прыняцьця пастановы аб незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі было скліканае 24 сакавіка й таму трэйцяя Устаўная Грамата датаваная 24 сакавіком 1918 году. Само прыняцьцё канчатковага тэксту трэйцяе граматы адбылося аднак-жа, пасьля ўсяночных абмяркоўваньняў і спрэчак, ужо на сьвітаньні 25 сакавіка. 25 сакавік дзеля гэтага, а ня 24 сакавік быў запраўдным днём абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.



# CONSTITUENT CHARTERS

## of the Council (Rada) of the Byelorussian Democratic Republic (Feb. 21 — March 24, 1918)

Translated by Thomas E. Bird and Jan Zaprudnik

**The First Constituent Charter.*
Directed to the Peoples of Byelorussia.**

Our native land has found itself in a new and difficult situation. The fate of the regime that was here previously is not known. We face the possible occupation of our land by German troops.

We must take our fate into our own hands. The Byelorussian people must assert their right to full self-determination, and the national minorities their right to national and personal autonomy.

The rights of nation should find realization by means of a Constituent Assembly convened on democratic principles.

However, even before convening the Constituent Assembly, all power in Byelorussia should belong to the peoples residing therein.

The Executive Committee of the Council (Rada) of the First All-Byelorussian Congress, supplemented by representatives of the revolutionary democracy of the national minorities and fulfilling the goals imposed upon it by the Congress, declares itself to be the Provisional Authority in Byelorussia to govern the land and to convene as soon as possible an All-Byelorussian Constituent Assembly based on universal voting rights for the entire adult population without distinction of nationality, religion, or sex.

The Provisional National Authority in the land, having assumed the tasks of defending and strengthening the revolutionary achievements, will carry out these tasks through the National Secretariat of Byelorussia, which has been established and which, from this date on, has assumed the exercise of its responsibilities. The names of the members of the Secretariat will be published later.

Given in Byelorussian Miensk (Minsk), February 21 (8), 1917.

**The Executive Committee of the Council
of the First All-Byelorussian Congress**

---

* Translation from the Byelorussian original which differs slightly from its Russian version.

**The Second Constituent Charter.**
**Directed to the Peoples of Byelorussia.**

During this World War in which some powerful states have been destroyed and others liberated, Byelorussia has awakened to national life. After three and a half centuries of subjugation, the Byelorussian nation again declares to the entire world that it is alive and will remain alive. The Great National Assembly — the All-Byelorussian Congress of December 5-17, 1917, concerned about the fate of Byelorussia, confirmed a republican government within its territory. Carrying out the will of the Congress and defending the national rights of the people, the Executive Committee of the Council (Rada) of the Congress, decrees the following concerning the political structure of Byelorussia and the rights and freedoms of her citizens and peoples:

1. Byelorussia, within the borders of the numerical majority of the Byelorussian people, is declared to be a Democratic Republic.

2. The fundamental laws of the Byelorussian Democratic Republic will be confirmed by the Constituent Assembly of Byelorussia, convened on the principles of a universal, equal, direct, secret, and proportional voting law without regard to sex, nationality, or religion.

3. Until such time as the Constituent Assembly of Byelorussia convenes, the legislative authority in the Byelorussian Democratic Republic shall belong to the Council of the All-Byelorussian Congress, augmented by representatives of the national minorities of Byelorussia.

4. The executive and administrative authority in the Byelorussian Democratic Republic shall belong to the National Secretariat of Byelorussia which shall be appointed by the Council of the Congress and be responsible thereto.

5. Within the borders of the Byelorussian Democratic Republic freedom of speech, press, assembly, and the right to strike and organize unions are proclaimed; as well as unconditional freedom of conscience, and the inviolability of the individual and of residence.

6. Within the borders of the Byelorussian Democratic Republic all peoples have the right to national and personal autonomy; and equal rights for all the languages of the peoples of Byelorussia are proclaimed.

7. Within the borders of the Byelorussian Democratic Republic the right to private ownership of land is abolished. The land is to be given over without payment to those who till it. Forests, lakes, and natural resources are declared to be the property of the Byelorussian Democratic Republic.



8. Within the borders of the Byelorussian Democratic Republic a working day of a maximum of eight hours is established.

Proclaiming all these rights and freedoms for the citizens and peoples of the Byelorussian Democratic Republic, we, the Executive Committee of the Council of the Congress pledge to guard the legal order of life in the Republic, ensure the interests of all the citizens and peoples of the Republic, and preserve the rights and freedoms of the working people. We shall also apply all our strength to convene the Constituent Assembly of Byelorussia in the very near future.

We call on all faithful sons of the Byelorussian land to assist us in our difficult and responsible labors.

**The Executive Committee of the Council**
**of the First All-Byelorussian Congress**

Given in Byelorussian Miensk (Minsk), March 9, 1918.

**The Third Constituent Charter of the Council (Rada)**
**of the Byelorussian Democratic Republic.**

A year ago the peoples of Byelorussia, together with the peoples of Russia, threw off the yoke of Russian tsarism, which had oppressed Byelorussia most of all and, without asking the people, precipitated our land into the conflagration of war which totally destroyed Byelorussian cities and villages. Now we, the Council (Rada) of the Byelorussian Democratic Republic, have cast off from our native land the last vestige of national dependence which the Russian tsars imposed by force upon our free and independent land. From this time on, the Byelorussian Democratic Republic is proclaimed an independent and free state. The peoples of Byelorussia themselves, under the aegis of their Constituent Assembly, shall determine the future national relations of Byelorussia.

By virtue of this, all former national relations lose their force — relations which made it possible for a foreign government to sign the Treaty of Brest for Byelorussia, thus destroying the Byelorussian people by partitioning their land.

By virtue of this, the government of the Byelorussian Democratic Republik will establish relations with interested parties by proposing to them a review of that part of the Treaty of Brest which concerns Byelorussia and the signing of peace treaties with all belligerent states.

The Byelorussian Democratic Republic should include all those lands where the Byelorussian people constitute a numerical majority, namely: the Mahileú (Mogilev) region, the Byelorussian

parts of the regions of Miensk (Minsk), Horadnia (Grodno) (including the cities of Horadnia, Biełastok, and others), Vilnia, Viciebsk (Vitebsk), Smalensk, and Čarnihaŭ (Chernigov), as well as adjacent parts of neighboring **gubernias**, inhabited by Byelorussians.

The Byelorussians Democratic Republic confirms all those rights and freedoms of the citizens and peoples of Byelorussia which were proclaimed by the Constituent Charter of March 9, 1918.

Proclaiming the independence of the Byelorussian Democratic Republic, its Council expresses the hope that all freedom-loving peoples will assist the Byelorussian people to achieve fully their political and national ideals.

**The Council (Rada) of the Byelorussian Democratic Republic**

Given in Byelorussian Miensk (Minsk)
March 24, 1918.

## CONSTITUENT CHARTERS OF THE BYELORUSSIAN DEMOCRATIC REPUBLIC by Jan Zaprudnik

**Summary:** The establishment of the Byelorussian Democratic Republic in 1917-1918 is treated with increased frequency by Soviet historiography while the documentation pertaining to the problem continues to be withheld. Among the seminal documents unavailable to most researchers are the three constituent charters of the Council (Rada) of the Byelorussian Democratic Republic, published here in the original and in English translation.



# ДЫПЛЯМАТЫЧНЫ ПАШПАРТ
## УРАДУ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

**Янка Запрудзік**

Дзяржаўныя дакумэнты й акты Беларускае Народнае Рэспублікі сяньня ў архівах Беларускай ССР пад замкамі, недаступныя навет і гісторыкам. Дзеля гэтага тут даецца вопіс дыпляматычнага пашпарту ўраду Беларускае Народнае Рэспублікі ды зьмешчаная фатарэпрадукцыя аднае яго бачыны, як цікавага дакумэнтальнага сьветчаньня зь дзейнасьці ўраду БНР.

Пашпарт выстаўлены 19 красавіка 1919 году ў Горадні для аташэ Беларускага Пасольства на Украіне Аляксандры Галавінскага ды з подпісам тагачаснага старшыні Рады Міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі Антона Луцкевіча.

Пашпарт вялікага фармату, 22 цм. на 33 цм., мае чатыры бачыны. На бачыне першай надрукаваны ў мовах беларускай, францускай і нямецкай загаловачны напіс:

**Дыплёматычны пашпарт**
**Passeport Diplomatique**
**Diplomatischer Pass**

Угары, зь левага боку, наклееная фатаграфія аташэ А. Галавінскага з прыкладзенай на ёй круглаю пячаткай Міністэрства Заграпічных справаў БНР.

На другой бачыне, зь левага боку ўгары, нумар пашпарту — 81, а ніжэй надрукаваны беларускі тэкст з дапіскамі рукою каму, дзе, калі ды на які час пашпарт выстаўлены.

Тэкст усяе другое бачыны, друкаваны й пісаны рукою, гэткі:

**Мы,**
**Урад Беларускай Народнай Рэспублікі**
**і м е н е м Б е л а р у с к а г а Н а р о д у,**

просімо ўсе ваенныя і цывільныя ўстановы чужаземных Дзяржаў і загадваемо ўсім прыслухаючым нам ваенным і цывільным уласьцям, каму гэты пашпарт будзе паказаны, дазволіць свабодны

праезд атташэ Беларускага Пасольства на Ўкраіне Аляксандру Галавінскаму і даваць яму ў патрэбе усялякую дапамогу.

Выданы ў Горадні
19 красавіка 1919 г.

Старшыня Рады Народных Міністраў
(—) Ант. Луцкевіч

(Круглая пячатка з Пагоняй у сярэдзіне ды напісам на аточыне):
БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА
Міністэрства Загранічных Спраў

(Дзеля слаба адціснутае на пашпарце пячаткі на фатарэпрадукцыі яе ня відаць).

Пашпарт мае моц
да 19-X-1919 г.

(Унізе рукой дапісана):
Пашпарт прадоўжаны да 10. X. 20 году.

(Круглая пячатка з Пагоняй у сярэдзіне ды напісам на аточыне пабеларуску й пафранцуску):

ПАСОЛЬСТВА БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ
НА УКРАІНЕ

На другой бачыне развароту надрукаваны францускі пераклад вышэй прыведзенага беларускага тэксту:

№. 81 Traduction.

**Nous,**
**le Gouvernement de la République Démocratique Blanche-Ruthénienne,**
**au nom du Peuple Blanc-Ruthénien,**

requérons toutes le Autorités militaires et civiles établies dans les autres pays, et ordonnons á toutes les Autorités militaires et civiles placées sous nos ordres auxquelles le présent Passeport sera produit de laisser passer en tout liberté Attaché á la Légation Blanche-Ruthénienne en Ukraine Alexander Golovinskij, et de lui preter, en cas de besoin, toute aide et assistance.

Fait à Grodno, le 19 — IV — 1919.

**Le Président du Conseil des Ministres**
**(—) Antoine de Loutckewitch**

**(пячатка)**
Passeport valable pour 19. X. 1919.



№ 81.

...ení jeho hranic. «

V Praze, dne 2. června 1920



Děčín n. L.
6. VI. 20.
Odjezd.

Мы,

**Урад Беларускай Народнай Рэспублікі,**

**іменем Беларускага Народу,**

просімо ўсе ваенныя і цывільныя установы чужаземных Дзяржаў і загадываемо ўсім прыслухаючым нам ваенным і цывільным уласьцям, каму гэты пашпарт будзе паказаны, дазволіць свабодны праезд атташэ Беларускага Пасольства на Украіне Аляксандру Галавінскаму

і даваць яму у патрэбе усялякую дапамогу.

Выданы у Горадні,
19 красавіка 1919 г.

**Старшыня Рады Народных Міністраў:**

Пашпарт мае моц
да 19 - X - 1919 г.



(Унізе дапіска пафранцуску рукой беларускага пасла на Ўкраіне аб прадоўжаньні пашпарту да 19. X. 1920 г. зь ягоным подпісам і пячаткай пасольства).

На чацьвертай бачыне надрукаваны нямецкі тэкст пашпарту:

№ 81. Uebersetzung.

**Wir,**

die Regierung der Weissruthenischen Volksrepublik,

**im Namen des Weissruthenischen Volkes**

ersuchen hiermit alle Militär- und Zivilbehörden der anderen Staaten, sämtlichen uns untergebenen Militär- und Civilbehörden aber befehlen wir ausdrücklich, auf Vorzeigung dieses Attaché bei der Weissruthenischen Gesandschaft in der Ukraina Alexander Golowinski frei und ungehindert reisen, auch notigenfalls in Shutz und Beistand angedeihen zu lassen.

Gegeben Grodno, den 19-IV-1919

**Der President des Ministerrates**
**(—) Anton v. Lutzkewitsch**

(пячатка)

Reisepass gültig auf 19. X. 1919.

(Унізе дапіска рукой панямецку беларускага пасла на Ўкраіне аб прадоўжаньні пашпарту да 19. X. 1920 г. зь ягоным подпісам і пячаткай пасольства).

На бялюгох усіх чатырох бачынаў пашпарту адбітыя ў гадох 1919-1920 візы, пячаткі, штэмпялі зь пісанымі рукою анатацыямі розных міністэрстваў замежных справаў, консулятаў, вайсковых і паліцыйных уладаў ды ўзьмежных станцыяў Лацьвіі, Летувы, Польшчы, Нямеччыны, Аўстрыі, Чэхаславаччыны, Украіны.

Паколькі для візаў і праездных штэмпялёў на бачынах пашпарту не хапіла месца, дык да пашпарту даклеяная дадатковая балонка, уся першая бачына якой ды палавіна бачыны другое, задрукаваная пячаткамі й штэмпялямі. Усіх пячатак і штэмпялёў на пашпарце каля 50-ці. Адбітыя яны ў Рызе, Коўні, Варшаве, Бэрліне, Празе, Сухадоле, Дэчыне, Казятках, Эйткунах, Вірбалях, Мажэйках ды колькі іншых месцах назовы якіх цяжка расчытаць. Ёсьць на пашпарце й штэмпель Стацыйнае Каманды Галіцкага Корпусу ды дазвол Чэскага Прамысловага Банку на перавоз 2000 марак.



На некаторых візах падаецца й мэта падарожжа. Прыкладам, на візе 5 жніўня 1920 году Лацьвійскае Легацыі ў Коўні адзначана, што яна выстаўленая на выезд да Рыгі „на Балтыйскую канфэрэнцыю".

Вялікі лік візаў на пашпарце аташэ БНР А. Галавінскага паказвае, што дыпляматычныя пашпарты ўраду Беларускае Народнае Рэспублікі прызнаваліся й ушаноўваліся ўрадамі й уладамі розных краёў Эўропы. Гэта-ж довад таго, што ў гадох 1919-1920 дзяржавы цэнтральнае й заходняе Эўропы прызнавалі Беларускую Народную Рэспубліку й ейны ўрад „дэ факто". Ведама, што шмат дзяржаваў прызнавала іх тады й „дэ юрэ".

Пасьля абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі яна была прызнаная больш як дванаццацьма дзяржавамі, а ў замежных сталіцах былі заснаваныя прадстаўніцтвы й кансуляты БНР. [1] Дзейнасьць гэтых прадстаўніцтваў зь вялікім нездаваленьнем адзначае савецкі прапагандысты М. Сташкевіч. Ён піша: „У гэты час нацыяналісты мелі ў Бэрліне Беларускую місію (выдавала на нямецкай мове ‚Весьці Беларускага прэс-бюро', газэту ‚З роднага краю'), у Рызе — Ваенна-дыпляматычную місію ў Латвіі й Эстоніі, у Празе — ‚Раду беларускай калёніі', у Парыжы — дыпляматычную місію. Празь іх лідэры нацыяналізму настойліва прапагандавалі ідэю ‚нацыянальнай незалежнасьці' Беларусі". [2]

**Я. Запруднік**

**THE DIPLOMATIC PASSPORT OF THE BYELORUSSIAN DEMOCRATIC REPUBLIC by Jan Zaprudnik**

**Summary:** Description of the Diplomatic Passport issued in 1919 to Alexander Hałavinski, an attaché of the Government of the Byelorussian Democratic Republic, accredited to the Government of the Ukrainian Democratic Republic in Kiev.

---

[1] M. Abramchik. Belorussia. Reprinted from the Symposium "Captive Nations in USSR". Munich, 1963, p. 9.

[2] М. Сташкевіч. Непазбежнае банкруцтва. Мінск, 1974, б. 91.

# КНІГАПІС

**Гравюры Францыска Скарыны. Уступны артыкул, сістэматызацыя гравюр і мастацтвазнаўчы аналіз Л. Баразны. Фотарэпрадукцыі і фотарэстаўрацыя П. Захарэнкі. Мінск, выдав. „Беларусь", 1972, 12+148 б. (ненумараваных).**

На камплетны перадрук дрэварытаў усіх выданьняў доктара Франьцішка Скарыны чакалі даўно ўсе тыя, што ягоную мастацка-графічную спадчыну цэняць, яе вывучаюць, а зь іх у першую чаргу мастацтвазнаўцы ды гісторыкі друку. Зрэалізаванае яно магло быць толькі ў СССР, бо толькі там, у кнігасховах Масквы ды Ленінграду, знайсьці можна Скарынавы кнігі ў прыблізнай камплетнасьці. Цяпер гэткае выданьне ўрэшце зьявілася.

Вялікая, фармату фоліё, кніга зьмяшчае — у арыгінальнай вялічыні — рэпрадукцыі каля 50 Скарынавых дрэварытаў, больш за 30 заставіцаў, каля 160 вялікіх і малых ініцыялаў, адбіткі блізу ўсіх бачынаў загаловачных ды некаторых, цікавейшых сваім графічным афармленьнем і ломкай, бачынаў тэксту. Артыкул уводны, „мастацтвазнаўчы аналіз" дрэварытаў ды камэнтары да іх дадзеныя ў мовах беларускай і расейскай.

Хоць папера кнігі звычайная крэйдавая, для рэпрадукцыі мастацка каштоўных твораў неадпаведная, бо малатрывалая, ды сам перадрук выкананы дбайліва. Прызнаньне за гэта належыцца працаўніком менскага паліграфічнага камбінату ў якім альбом друкаваўся, мастаком У. і М. Басалыгам, якія кнігу мастацка афармлялі, фатаграфу П. Захарэнку, што не шкадаваў часу й захадаў, каб дрэварыты зь вялікай рупнасьцяй перафатаграфаваць, арыгінальны іх выгляд як найдакладней перадаць, да гэтага-ж, вялікім лікам дадзеных у павялічэньні дэталяў зьвярнуць увагу на асаблівасьці тэхнікі рысунку ды майстроўства рэзкі ў дрэве. Адзначыць трэба ўкладзеную вялікую рупнасьць выдавецтва „Беларусь', каб пры адведзеных на гэта сьціплых матар'яльных ды тэхнічных магчымасьцях належна выдаць знакамітую мастацкую спадчыну выдатнага дзеяча беларускае культуры пары Рэнэсансу.

Рэпрадукаваць мастацка-графічную спадчыну выдатнага вучонага-гуманісты ў поўнай камплетнасьці выдаўцы ўсё-ж не далі рады. Няма, прыкладам, цікавае загаловачнае бачыны Скарынавага Часаслоўца. Непаказаныя некаторыя



ініцыялы вялікія ды колькідзесят меншых. Загаловачная-ж бачына „ва ўсю Біблію" рэпрадукаваная з моцна пашкоджанае балонкі — лепшае, відавочна, знайсьці не ўдалося. З трох варыянтаў партрэту доктара Скарыны, што зьмешчаныя ў кнігах ягонае Бібліі, варыянт кнігі ЦАРСТВАЎ (№ 34) узяты з экзэмпляра кнігі, у якой частка балонкі з партрэтам адарваная. Гэты варыянт захаваўся ў добрым стане ў экзэмпляры кнігі ЦАРСТВАЎ Брытанскага Музэю. Быў ён ужо й рэпрадукаваны.[1] Партрэт КНІГІ ЦАРСТВАЎ цікавы гэтым, што ўнізе на ім няма пчалы, а ў левым рагу няма манаграмы мастака. На рэпрадукцыі ў альбоме гэтага ня відаць, бо частка з манаграмай паказанага там дрэварыту адарваная.

Варыянт другі гэтага-ж партрэту, пад № 33, як кажацца ў даведцы да яго, паходзіць быццам з кнігі СЫРАХА. У запраўднасьці-ж гэта рэпрадукцыя не арыгіналу, але няўдалае перарысоўкі гравёра Ал. Флорава, што была зробленая ў 30-х гадох мінулага стагодзьдзя, ці бо тады, калі фататэхніка яшчэ не існавала.[2] Як Скарынаў твар на гэтай ручной копіі здэфармаваны можна бачыць, калі прыраўнаць яе да рэпрадукцыі таго самага варыянту партрэту выкананай спосабам тэхнічным, што зьмешчаная ў ведамай 1888 году манаграфіі П. В. Валадзімірава „Доктар Франциск Скорина".

Пра трэйці варыянт, № 35, сказана, што ўзяты ён з кнігі БЫЦЦЯ. А. Няміроўскі ўважае, што ў кнізе БЫЦЦЯ Скарынавага партрэту наагул няма: „праз памылку за запраўдны водціск прынятая вельмі блізкая да арыгіналу рэпрадукцыя выкананая рукою, найхутчэй у XIX стагодзьдзі, ды ўклеяная між першай і другой балонкай экзэмпляра што знаходзіцца ў Дзяржаўнай Публічнай Бібліятэцы імя М. Е. Салтыкова-Шчадрына".[3] Ды гэткі самы дакладна варыянт, як рэпрадукаваны ў альбоме, у 1926 годзе рэпрадукаваў ды апісаў, з даведкай, што партрэт узяты якраз з кнігі БЫЦЦЯ, гэткі выдатны знавец Скарынавых дрэварытаў, як Мікола Шчакаціхін.[4] Дык ён напэўна існуе, хоць мо й ня у тым экзэмпляры кнігі, які аглядаў Няміроўскі.

Прыраўнаўшы ідэнтычныя рэпрадукцыі і ў Шчакаціхіна і ў альбоме, да рэпрадукцыі дадзенае Валадзіміравым ды таксама партрэту з кнігі ЦАРСТВАЎ, можна бачыць, што рэпрадукаваны пад № 35 партрэт напэўна ня з копіі ручной, а што гэта фатакопія з арыгіналу. Перадаць гэтак дакладна ў кажнай дэталі своеасаблівасьці рысунку арыгіналу ручная копія ня ў стане. Калі-б пасьля праверкі выявілася, што рэпрадукцыя і Шчакаціхіна, і тая, што ў альбоме, запраўды ўзятыя з уклеянае ў кнігу копіі, дык копія гэтая зробленая з арыгіналу спосабам тэхнічным, а ня ручной перарысоўкай, і зьмяшчэньне яе ў альбоме ніякая загана. Застаецца тады толькі ўстанавіць зь якое Скарынавае кнігі паходзіць арыгінал.

Хоць у альбоме даюцца табліцы складзеных альфабэтным парадкам Скарынавых ініцыялаў, ды, нажаль, няма там для дасьледнікаў гісторыі друку вельмі важных альфабэтных табліцаў самых малых і вялікіх літараў Скарынавага праскага ды віленскага шрыфтоў. Вялікую патрэбу гэткіх табліцаў для дасьледнікаў гісторыі кірылічнага кнігадруку ўсьведамляў ужо ў XIX ст. І. Сахараў, які іх і даў у сваім альбоме 1849 году „Образцы славянорусского книгопечатания с 1491 года".

Ды шрыфты ў Сахарава капіяваныя ручным спосабам і таму формы Скарынавых літараў перададзеныя ня з гэткай дакладнасьцяй, як іх цяпер перадае фатарэпрадукцыя ды якая канечная для дасьледнай працы навукоўцаў над старадрукамі. Без альфабэтных табліцаў усіх літараў усіх шрыфтоў Скарынавых праскае й віленскае друкарняў, пры адначасным пропуску аж колькідзесяцёх ініцыялаў Скарынавых выданьняў, навуковая ўжытковасьць альбому, як аўтарытэтнага даведніка дасьледнікам старадрукаў, сваёй некамплетнасьцяй моцна абмежаваная.

З выданьня можна бачыць, што ўкладальнік кнігі, мастак Лявон Баразна, мастацкую спадчыну доктара Скарыны зьбіраў ды да друку рыхтаваў з асаблівай рупнасьцяй. Ягоная трагічная сьмерць перад надрукаваньнем кнігі хіба адна з прычынаў вышэй адзначаных ейных недахопаў. Відавочна гэтым паясьняецца й некаторая недапрацаванасьць артыкулаў уступнога ды камэнтарнага, якія робяць уражаньне сырых накідаў. Таму, бадай, няма ў кнізе й бібліяграфіі літаратуры пра мастацкую спадчыну доктара Скарыны. У кнізе згадваюцца толькі тры працы — П. В. Валадзімірава, М. Шчакаціхіна ды В. Стасава.

Няма ў альбоме й важных дасьледнікам даведак, зь якога экзэмпляра кнігі ды якога кнігазбору паасобныя дрэварыты рэпрадукаваныя. Інфармацыі абмяжоўваюцца толькі паказаньнем, зь якога Скарынавага выданьня дадзены дрэварыт паходзіць, што для навуковых мэтаў выяўна недастаткова. Шкада, што гэтых важных даведак не парупіліся даць тыя, каму каштоўную працу Л. Баразны пасьля ягонае сьмерці давялося завяршаць, яе рэдагаваць ды друкаваць. Як „навуковыя рэдактары" ў кнізе названыя А. І. Жураўскі, П. В. Масьленікаў і Г. В. Штыхаў.

Паважную засьцярогу даводзіцца зрабіць і пра спосаб разьмяшчэньня дрэварытаў у альбоме. У камэнтарох Л. Баразна спробваў, за прыкладам М. Шчакаціхіна, даць сваю сюжэтна-мастацкую „сыстэматызацыю" дрэварытаў Скарынавых выданьняў, ды, „для лепшага іх успрыйманьня й аналізу", падзяліў дрэварыты аж на пяць групаў. Наколькі гэты падзел штучны меркаваць можна зь ягоных-жа словаў: „Фактычна паміж другой і трэцяй групамі гравюр істотнай розьніцы няма . . . да трэцяй групы можна аднесьці тыя, дзе асноўная дзея перанесеная з цэнтру ў левы куток".



Кажны аўтар пры разглядзе дрэварытаў, пэўна-ж, можа іх адвольна сабе групаваць, „сыстэматызаваць" пасвойму. Бяда гэтым разам тая, што Л. Баразна дрэварыты на свой лад перагрупаваў ня толькі ў сваім разглядзе, але й зьмяшчаючы іх у альбоме. Гэтым тая аўтэнтычная чароднасьць, у якой дрэварыты зьяўляліся ў выданьнях Скарыны й у якой яны хіба-ж і паўставалі, разбураная. У выніку, дрэварыты што друкаваліся найпазьней — віленскія 1522 году з МАЛОЙ ПАДАРОЖНАЙ КНІЖКІ — апынуліся пасярэдзіне дрэварытаў праскае 1517-1519 гадоў Біблії. І дрэварыты праскія татальнаператасаваныя, без аніякае ўвагі на чароднасьць зьяўленьня іх у друку, а значыцца й паўстаньня.

Гэткае пераблытаньне арыгінальнае чароднасьці напэўна нікому не дапаможа ў „лепшым успрыйманьні й аналізе" дрэварытаў, як дарма спадзяваўся ўкладальнік альбому. Куды лягчэй было-б прасачыць эвалюцыю прыёмаў рысаваньня мастака якраз пры строга захаванай чароднасьці зьяўленьня дрэварытаў, ды, асабліва, не перамешваючы праскія зь віленскімі.

Спрэчны таксама вельмі пагляд Баразны, што мастаком, які рысаваў усе праскія дрэварыты Скарынавых выданьняў, колькідзесят іх заставіцаў ды соткі аздобных ініцыялаў, гэта сам доктар Скарына. Думку гэткую ціраз выказвалі, яшчэ ад мінулага стагодзьдзя, і аўтары іншыя, хоць ніякіх канкрэтных на гэта довадаў ніхто ніколі ня прывёў. У кардынальнай супярэчнасьці з гэткім паглядам стаіць факт, што ў левым ніжнім куце Скарынавага партрэту зь ягонае Біблії дадзеная манаграма, якую звычайна адчытваюць як складзеную зь літараў МЗ, хоць у запраўднасьці ў ёй тры літары — МТЗ. Гэта выяўна манаграма таго мастака, які партрэт рысаваў.

Паколькі тымсамым стылем і манерай, як партрэт Скарыны, выкананая й большыня іншых дрэварытаў праскае Біблії, з гэтага вынікае, што МТЗ, ці МЗ, і быў ці адзіным, ці, найменш, галоўным мастаком друкаваных у Біблії дрэварытаў ды заставіцаў. Хто, які мастак схаваны пад літарамі манаграмы — ніхто яшчэ не раскрыў, хоць спробу выясьніць гэта рабіў у 1888 ужо годзе Валадзіміраў. Ды фактам ёсьць, што манаграма складаецца ня зь першых літараў імя й прозьвішча доктара Францішка Скарыны, а, значыцца, ня ён аўтар і свайго партрэту, і ўсіх іншых, ці, найменш, большыні дрэварытаў праскае Біблії.

Супярэчнасьць тэзы пра Скарынавае аўтарства дрэварытаў Біблії з дадзенай на адным з гэтых дрэварытаў не ягонай манаграмай, Л. Баразна намагаўся давесьці да нейкае

суладнасьці тым, што манаграму збыў словамі: „вэнзель зь літар М і З", які, паводля ягонае дагадкі можа азначаць „Малеванне зделал" або „Малевание зиждитель". Дадзены-ж пад партрэтам напіс вязьзю „Доктар Франциско Скорина" Л. Баразна назваў „подпісам мастака". Напіс гэты, тымчасам, толькі звычайнае, гэнымі часамі часта мастакамі на партрэтах падаванае, паясьненьне, хто, якая асоба на рысунку прадстаўленая. Дык гэта ніякі „подпіс мастака". Цяпер падобныя напісы даюцца звычайна не на самых партрэтах, але друкам пад імі.

Калі ўзяць на ўвет з аднаго боку лік дрэварытаў у Бібліі, больш 40, яе колькідзесят заставіцаў ды соткі дрэварытных ініцыялаў, а з другога даволі кароткі час друку 23 біблійных кнігаў у Празе — два з паловай толькі гадоў, — трэба прызнаць, што праектаваць, рысаваць ды й рэзаць у дрэве гравюры самому Скарыну, пры ўсёй вялікай адміністрацыйнай і рэдакцыйна-выдавецкай працы, было бадай не пад сілу. Ляжалі-ж на ім адказныя ды працаёмкія іншыя абавязкі — перакладаньне тэкстаў біблійных кнігаў, пісаньне прадмоваў ды камэнтароў, чытаньне карэкты шпарка друкаваных кнігаў, падрыхтова друкарні ды дагляд усяго працэсу друкаваньня. Для чалавека аднаго, навет і вельмі здольнага ды працавітага, як доктар Скарына, займацца пры ўсім гэтым яшчэ й праектаваньнем, рысаваньнем ды выразаньнем дрэварытаў, дрэварытаў часта зь вельмі складанымі масавымі сцэнамі, было-б station... 

У сваёй кампазыцыі, рысунку, выкананьні дрэварыты праскае Бібліі трактаваныя з асабліва вялікай увагай да кажнае дэталі, кажнага штрыха. Гэта-ж сказаць трэба й пра заставіцы ды ініцыялы. З гэтага відаць, што выкананыя яны прафэсійным мастаком, мастаком, які меў за сабой добрую школу ды шмат гадоў практычнага дазнаньня ў галіне кніжнае ілюстрацыі. Каб доктар Скарына, які спачатку студыяваў „навукі вызваленыя", пасьля-ж мэдыцыну, меў час і магчымасьць гэтак грунтоўна авалодаць яшчэ й майстроўства дрэварытнага мастацтва, ягоны жыцьцяпіс ніякіх паказаньняў на гэта не дае.

Калі ўжо дапушчаць, што доктар Скарына быў і ілюстратарам сваіх выданьняў, дык можна было-б прыпісваць яму аўтарства дрэварытаў віленскіх, і толькі мо некаторых, але ня ўсіх, праскіх. Хоць і на падмацаваньне здогаду пра Скарынавае аўтарства віленскіх дрэварытаў ніякіх канкрэтных довадаў няма, ды з такім паглядам не стаіць і ў супярэчнасьці манаграма МТЗ, ці МЗ, бо на віленскіх дрэварытах ніякае манаграмы мастака няма. Да гэтага віленскія дрэварыты — і ілюстрацыі, і заставіцы, і ініцыялы, — маюць крыху іншы характар як праскія. Істоту адрознасьці азначыць можна ня гэтак яскрава ў іх выражанымі, як у дрэварытах праскіх, рэнэсансавымі прыкметамі. Вось з гэтых меркаваньняў Скарынавае аўтарства віленскіх дрэварытаў, ды мо й некаторых праскіх, магчымае. Пытаньне, што ў сваіх выданьнях рысаваў сам Скарына стаіць яшчэ да высьвятленьня дасьледнікам Скарынавае выдавецкае спадчыны.

Не зважаючы на ўсе хібы, недагляды ды выказаныя і ў уводным артыкуле, і ў камэнтарох вельмі спрэчныя пагляды, кніга — паважны ўклад у скарынаведу. Найбольшая яе каштоўнасьць — самыя рэпрадукцыі дрэварытаў. Сабраная урэшце ў блізу камплетнай паўніні ды выдадзеная тыражом 5000 экземпляраў, мастацка-графічная спадчына доктара Скарыны стае цяпер даступнаю ўсім, і галоўна — шырокім колам мастацтвазнаўцаў і дасьледнікаў гісторыі друку.

З высокаякаснага выкананьня дрэварытаў праскае Бібліі меркаваць можна, што мастак, які іх стварыў, напэўна шмат рысаваў ужо й перад гэтым. Ня спынілася хіба-ж ягоная мастацкая дзейнасьць і з ад'ездам доктара Скарыны з Прагі. Дык сьляды ягонае творчае працы павінны быць нейдзе ў Чэхіі, Нямеччыне, ці нейкім іншым краі. Трэба за імі толькі добра разгледзецца, трэба іх адшукаць.

Вось кніга Скарынавых дрэварытаў, калі трапіць у рукі гісторыкаў-адмыслоўцаў кніжнае ілюстрацыі заходу Эўропы першае паловіны XVI ст., можа дапамагчы да высьвятленьня, хто скрыты пад манаграмай МТЗ. Дасьледнікі Скарынавае выдавецкае спадчыны чакаюць даўно на выяўленьне імя таго таленавітага мастака, які стварыў гэткія выдатныя гравюры, і між імі знакаміты партрэт выдатнага вучонага Беларусі — доктара навукаў вызваленых і мэдыцыны, Франьцішка Скарыны „з слаўнага града Полацка".

**С. Брага**

---

[1] Сымон Брага. Партрэты доктара Скарыны („Конадні", кн. 7. Ню Ёрк — Мюнхен, 1963, б. 144).

[2] Палеографические снимки шрифтов. Москва, 1836, табл. III, № 4.

[3] Е. Немировский. Альбом старопечатных гравюр („В мире книг", № 2. Москва, 1973, б. 74).

[4] Мікола Шчакаціхін. Гравюры і кніжныя аздобы ў выданьнях Францішка Скарыны (У зборніку: Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1525-1925. Інстытут беларускае культуры. Менск, 1926, б. 195).

**Грамоти XIV ст. Упорядковання, вступна стаття, коментарі і словники-покажчики. М. М. Пещак Академія наук УРСР. Пам'ятки української мови. Київ, Видавн. „Наукова думка", 1974, 256 б.**

Мэта выданьня, як кажацца ў прадмове, даць для моваведных патрэбаў зборнік тэкстаў тых граматаў XIV ст. усходнясьлавянскіх ды сумежных зь імі земляў", у якіх „выражаныя азнакі ўкраінскае мовы". Пра прынцыпы, якімі кіраваўся ўкладальнік зборніка пры падборы граматаў для перадруку, у прадмове сказана:

> XIV стагодзьдзе пакінула цімала граматаў розных усходнясьлавянскіх ды сумежных зь імі земляў. У гэтым выданьні зьмешчана іх 84. За падставу для вызначэньня дакумэнту як памяткі з больш ці менш выражанымі азнакамі ўкраінскае мовы паслужылі гістарычныя й моваведныя навуковыя працы ў якіх ёсьць на гэта аргумэнты. Зразумела, што гэтыя аргумэнты ня можна ўважаць раўнавартаснымі, таму што яны ня маюць аднолькавых прынцыпаў, а часта й дастатковае пераконлівасьці. Але, паколькі выданьне памятак яшчэ не разьвязвае адпаведных тэарытычных праблемаў зь гісторыі ўкраінскае мовы (яно толькі дасьць пэўны матар'ял для дасьледваньняў), нам выдавалася дамэтным выкарыстаць і найменшыя довады як падставу для таго, каб залічыць той ці іншы дакумэнт да памятак украінскае мовы.

З вышэй сказанага бачым, што падбіраліся граматы для кнігі бязь нейкае крытычнае моваведнае праверкі, каб сьцьвердзіць ці й запраўды „азнакі ўкраінскае мовы" ў іх ёсьць. Зборнік складаўся спосабам мэханічным: зьмяшчаліся ўсе тыя граматы, пра якія нехта калісьці напісаў, што ў іх ёсьць украінскія асаблівасьці, навет калі гэта было напісана й не моваведам ды без „дастатковае пераконлівасьці". Для ўкладальніка даволі было навет „найменшых довадаў", каб грамату залічыць да „памятак украінскае мовы".

Перагляд граматаў кнігі паказвае вынік гэткага ня крытычна-моваведнага, але рэгістрацыйна-мэханічнага падбору тэкстаў. Кідаецца найперш у вочы, што бальшыня граматаў зборніка паходзіць наагул ня зь земляў украінскіх, але з краёў сумежных ды часта з прастораў ад Украіны вельмі далёкіх. З 84 усіх граматаў кнігі больш за 30 напісана на землях беларускіх, каля 20 у Польшчы, Малдавіі ды іншых краёх, і толькі 34 граматы паходзяць зь земляў украінскіх.

Граматы кнігі беларускага прастору пісаныя ў Лаўрышаве й Нягневічах пад Наваградкам, у Горадні, Троках, Вільні, Маладэчне, Менску, Полацку ды мясцох іншых, ці бо на ўсёй беларускай тэрыторыі. Калі-ж браць на ўвагу мясцовасьці, справы якіх у граматах кранаюцца, ды асобаў, ад імя якіх яны выстаўленыя, дык у кнізе знойдзем граматы князёў полацкіх выстаўленыя полацкім манастыром (68, 74, 76), граматы князёў смаленскіх і мсьціслаўскіх, запісныя граматы Лаўрышаўскаму манастыру, што каля Наваградка (13, 35, 84, 85).

Ммат у кнізе граматаў вялікіх князёў літоўскіх. Князі-ж гэтыя, як ведама, узгадоўваліся ў традыцыях беларускай культуры й у сваіх канцылярыях мелі беларускіх пісцоў, якія ім рэдагавалі й пісалі граматы. Таму мова граматаў гэтых князёў, калі іх яны выстаўлялі ня ў Вільні й навет і вонках беларускай тэрыторыі, тагачасная беларускае пісьмовая мова. Прыклад гэтага — выстаўленыя ў Кракаве граматы князя Ягайлы, або пісаныя ў Луцку граматы князя Вітаўта.

Бальшыня граматаў кнігі сваім зьместам да земляў украінскіх ніякага, навет і пасярэдняга дачыненьня ня мае. Прыклады: полацкая грамата 1399 году князя Вітаўта выстаўленая купцом Рыгі ў справе гандлю з купцамі Полацку; Вітаўтавыя граматы выдадзеныя віленскаму біскупу, ды шмат іншых. У кнізе зьмешчаная й угода Кейстута ды іншых князёў літоўскіх з польскім каралём Казімерам; угода Альгерда, Кейстута й князя смаленскага з князямі бранскім ды цьверскім; пісаная ў Вільні ўгода Ягайлы з князем смаленскім, ды падобныя.

Наколькі граматы перадрукаваныя без „дастатковае пераконлівасьці", што яны ўкраінскія сваёй моваю, меркаваць можна з таго, што ў зборнік трапіў і вялікі лік граматаў, якія гэткі выдатны знаўца беларускае мовы, як Аўхім Карскі, уважаў за памяткі якраз мовы беларускай ды зь іх браў прыклады старое беларускае пісьмовае мовы калі пісаў сваіх „Беларусаў".

Стагодзьдзе XIV для земляў украінскіх пара вельмі цяжкая. Зьнішчаны, заняпалы Кіеў 122 гадоў знаходзіўся пад татарамі, пакуль у 1362 годзе яго ня вызваліў князь Альгерд ды не далучыў да Вялікага Княства Літоўскага. Землі Галіцкія зь Львовам у палавіне XIV ст. захапіла Польшча. Спустошаныя на вялікіх прасторах татарскімі няспыннымі рабаўнічымі наездамі ўкраінскія землі перажывалі тады пару асабліва цяжкога эканамічнага й палітычна-культурнага заняпаду. Таму ня дзіва, што ўкладальнік зборніка стаяў перад цяжкім заданьнем — скуль узяць украінскія граматы, каб запоўніць бачыны невялікае навет кнігі.

Давялося ў зборнік улучыць, на падставе „найменшых довадаў", вялікі лік граматаў і дакумэнтаў пісаных на землях не ўкраінскіх, не ўкраінскаю моваю, ды асабліва шмат граматаў беларускіх і месцам паходжаньня, і моваю. Вось

гэтак у выданьні Акадэміі навук Украінскае ССР зьявілася кніга, на якой зь ня меншым абгрунтаваньнем можна было-б паставіць і загаловак „Памяткі беларускае мовы". Ня шмат зь перадрукаваных у зборніку граматаў, калі ня лічыць каля 20 галіцкіх, не падыходзіла-б пад гэткі загаловак кнігі.

**Р. Максімовіч**

### George Y. Shevelov. Belorussian versus Ukrainian: Delimitation of Texts before A.D. 1569 (The Journal of Byelorussian Studies. London, vol. III, №2, 1974. pp. 145-156).

Аўтар — ведамы мовавед, прафэсар славянскіх моваў Калюмбійскага ўнівэрсытэту ў Ню Ёрку. Апрача публікацыяў агульных з славянскае філялёгіі, Г. Ю. Шэвялёў, які паходзіць з Украіны, выдрукаваў і шмат працаў, што кранаюць розныя праблемы ўкраінскае мовы. Мае ён і колькі важных публікацыяў з галіны мовы беларускай. Кніжным выданьнем у 1953 годзе выйшла ягоная праца The Problems in the Formation of Belorussian. Лінгвістычна шырокі навуковы кругагляд з глыбокім уніканьнем у праблемы гістарычнага разьвіцьця моваў славянскіх, і асабліва ўсходнеславянскіх, пры адначаснай добрай ведзе моваў украінскай і беларускай, дае аўтару ўсе дадзеныя канечныя для аўтарытэтнага разгляду складанага пытаньня пра спосаб разьмежаваньня старых беларускіх і ўкраінскіх пісьмовых памятак.

Спрэчкі, як разьмежаваць беларускія й украінскія тэксты часу ад канца XIV й да XVII стагодзьдзя, вядуцца ўжо блізу сто гадоў і, тымчасам, бяз выніку. Як кажа аўтар, у дыскусіі выказваліся А. Карскі, П. Жытэцкі, В. Ластоўскі, Н. Амельчанка, Е. Тымчанка, І. Агіенка, А. Жураўскі, Л. Шакун, Л. Гумецкая, Б. Струмінскі, П. Плюшч, Ф. Жылка, А. Мартэль, Х. Станг, М. Жаўтабрух, П. Тымашэнка ды іншыя.

> Даходзяць да гэтага тыя, што ўдзел у дыскусіі бралі пасярэдня, вызначаючы той ці іншы тэкст як беларускі або ўкраінскі — справа сама сабой быццам бязьвінная, калі робіцца гэта мімаходзь, ды яна можа мець паважныя кансэквэнцыі, калі пры верыгоднай публікацыі мова тэксту вызначаецца першы раз. Прыклады гэтага: граматы XIV-XV стагодзьдзяў, якія выдаў В. Розаў — „Українскі грамоти" (Кіеў, 1928) — ці ўсе яны ўкраінскія? І. Агіенка ўвёў у навуковы зварот Апостала ды Пасланьні з Крэхіва, публікуючы вялікую кнігу пад загалоўкам „Українська літературна мова XVI ст., І. Крехівський Апостол 1560-х рр." (Варшава, 1930) — ці гэты тэкст запраўды ўкраінскі? „Граматика словенска" І. Ужэвіча ўлучаная І. Біладідам у сэрыю „Пам'ятки української літературної мови XVII ст." (Кіеў, 1970), ды выданая як „перша граматика власне української мови". Ці яна гэткая? Дашкевіч апублікаваў турэцкія дыпляматычныя лісты гадоў 1541-1543 як быццам-бы напісаныя ўкраінскаю мовай. Яны безь ніякіх сумлеваньняў беларускія. Як ведама, зь беларускага боку падобныя прэтэнсіі меў Ластоўскі.
>
> Гэткія „анэксіі" тым, хто іх чыніць, праўдападобна здаюцца важнымі для ўзьвялічаньня культурных традыцыяў дадзенага народу, хоць у істоце яны пазбаўляюць гэты народ свае запраўднае гісторыі, бо пад цяжарам чужых элемэнтаў ейная будыніна ўгінаецца ды навет развальваецца. Гэта вось сталася з раньняй гісторыяй расейскае мовы: яна вельмі здэфармаваная ды як навуковая цэласьць блізу ня існуе дзеля масавага ўлучэньня ў яе нерасейскіх дадзеных. Трымаецца яна як бяскрытычна прыняты падбор супярэчлівых у істоце штампаў, якія трымае разам сіла пазанавуковага ціску. Падобны стан можа лёгка зайснаваць і ў гісторыі ўкраінскае ды беларускае моваў і літаратураў сярэдняга пэрыяду, калі нацыяналістычная пражэрлівасьць ня будзе раскрытая як адзін зь сямёх сьмяротных грахоў. Самаабдароўваньне коштам суседа больш небясьпечнае за dona Danaorum.
>
> Небясьпека анархіі ў гісторыі сярэдня-ўкраінскае ды сярэдня-беларускае моваў накладае абавязак вярнуцца да стагадовае дыскусіі ды спрабаваць глянуць нанова на яе й на ейную праблему. Выглядае, што апрача добрае волі, якая, трэба дапушчаць, існуе па абодвух баках, патрэбная ня нейкая рэвалюцыя ў падыходзе да пытаньня, але толькі большая прэцызійнасьць у вызначаньні розных аспэктаў праблемы. Пры разьмяжоўваньні беларускіх ды ўкраінскіх тэкстаў сярэдняга пэрыяду існуюць найменш тры магчымыя падыходы, і важна вельмі іх ня блытаць. Тэксты можна азначаць і клясыфікаваць з гледзішча гісторыі літаратуры, гісторыі стандартнае мовы ды гісторыі мовы гутаркавай (б. 145-6).

Літаратурныя праблемы пары кранутыя ў артыкуле коратка. Аўтар уважае, што гаварыць трэба пра „адзіны літаратурны працэс" дадзенага пэрыяду для абодвух краёў, паколькі:

> ...беларусы ды бальшыня ўкраінцаў (усе, за выняткам Букавіны й Закарпацьця), жылі ў істоце ў вадным краі, належалі да тае самае веры з гэтай самай царкоўнаславянскай мовай, і мелі супольныя інтарэсы ды супольных ворагаў (і нішто гэтак не адзіночыць, як супольныя ворагі!). Ня было ніякіх перашкодаў у вольнай цыркуляцыі ідэяў, кнігаў, людзей... (146).

Літаратурны працэс пэрыяду можна было-б найбольш здавальняюча прадставіць як гісторыю гэткіх павязаных міжсобку культурных цэнтраў як Вільня, Заблудава, Астрог-Дэрмань, Львоў, пазьней Ворша-Куцейн ды іншыя (147).

Аўтар уважае, што справа падобная, хоць і больш складаная, і з стандартнаю моваю, ці, дакладней, стандартнымі мовамі: царкоўнаю ды сьвецкаю. Царкоўнаю моваю засталася ў істоце царкоўнаславянская ня толькі ў літургічных кнігах, але таксама і ў арыгінальных творах. Мясцовыя асаблівасьці прасякалі ў гэтыя тэксты, але нясьведама. Калі-ж ход пра сьвецкую мову, дык Г. Ю. Шэвялёў уважае, што:

Калі заставацца ў межах пары, што канчаецца 1577 годам, ды калі пакінуць з боку вонкавыя ўплывы, пераважна лексычныя й сынтаксычныя паланізмы, — азначэньне Карскім гэтае мовы як беларускае (зробленае ў 1893 годзе!) прынцыпова правільнае. Ісьці можна навет і далей ды казаць пра ейную паўночна-цэнтральную беларускую дыялектную аснову...

Пагляд, быццам беларуская ды ўкраінская мовы былі ў гэтай стандартнай мове сьведама сынтэзаваныя, неадпаведны. У віленскай вялікакняскай канцылярыі, дзе гэтая мова фармавалася, для гэтакага сынтэзу ня было ўмоваў. Парафразуючы папулярную прымаўку, тарнавалася тут правіла Cuius caput eius lingua. Да гэтага ды куды важнейшым было тое, што ў часе, пра які тут ход, за выняткам першых дзесяцігодзьдзяў фармаваньня гэтае мовы, у тэкстах, што напісаныя ў Вільні й ейных ваколіцах, украінскіх асаблівасьцяў няма.

У беларускую стандартную мову ўкраінцы, калі ёю карысталіся, час-часом уводзілі некаторыя ўкраінскія асаблівасьці, дакладна таксама, як было гэта й з мовай царкоўнаславянскай. У гэткіх выпадках можна гаварыць пра ўкраінізмы ў гэтай мове... (147-8). ... (Мова гэтая) была супольнаю мовай для беларусаў і ўкраінцаў так, як царкоўнаславянская мова была іхнаю стандартнаю моваю царкоўнаю... У гісторыі беларускае ды ўкраінскае літаратурных моваў уважаць яе трэба за **адну** мову, мову, што сфармавалася ў паўночна-цэнтральнай Беларусі... Калі нехта гаворыць пра ўкраінскую літаратурную мову XVI стагодзьдзя (разгляданага пэрыяду), сьведама ці нясьведама ўжывае двусэнсавы тэрмін. Гэта правільна, калі разумеецца пад гэтым мова, якую ўжывалі ўкраінцы; памылкова, калі разумеецца стандартная мова, заснаваная на ўкраінскіх дыялектах ды сфармаваная ўкраінцамі для свайго карыстаньня. Гэткае ўкраінскае літаратурнае мовы ў гэным часе ня было (149).

У вадваротнасьць да адзінства стандартнае пісьмовае мовы, бязь ніякіх сумляваньняў ня было адзінства ў мове гутарка-



вай. І ня была яна таксама нейкім толькі зборам рэгіянальных дыялектаў. Гэткія дыялекты, пэўна-ж, існавалі, ды яны выяўна падпарадкаваліся больш агульным узорам... Гісторыка фаналёгіі, сынтаксу ды лексыкі гэтых моваў не павінна ўводзіць у блуд рэлятыўная аднароднасьць пісьмовае мовы...

Сяньня мы ня ў стане правесьці разьмежаваньня тэкстаў, абапіраючыся на розьніцы ў слоўніку. Але немагчыма згадзіцца й з Жураўскім, калі ён кажа, што поўнае разьмежаваньне будзе магчымае толькі пасьля выхаду старабеларускага ды стараўкраінскага гістарычных слоўнікаў. Гэта стаўляньне возу перад канём. Каб мець гэткія слоўнікі, трэба найперш ведаць, якія тэксты для якога скарыстаць. Разьмежаваньне бясспрэчна мусіць папераджаць укладаньне...

На шчасьце, разьмежаваньне тэкстаў сяньня ў прынцыпе магчымае. Для вялікага ліку тэкстаў яно можа быць праведзенае на аснове фанэтычных ды правапісных асаблівасьцяў... (149-50).

Для разьмежаваньня беларускіх ды ўкраінскіх тэкстаў пэрыяду Г. Ю. Шэвялёў суліць браць на ўвет дзевяць адзнакаў-заменаў у пісьмовай мове ды шэсьць найчасьцей сустраканых у ёй водхінаў-памылак. **Замены** аўтар падае гэткія:

1) Замена літары **ѣ** на **е** ўва ўсіх становішчах сьветчыць пра беларускасьць паходжаньня тэксту, захаваньне літары **ѣ** ўва ўсіх становішчах — пра ўкраінскасьць, захаваньне **ѣ** толькі ў становішчах пад націскам пры замене яе на **е** не пад націскам — пра паходжаньне з тэрыторыі палескіх гаворак, пераходных ад беларускае да ўкраінскае мовы.

2) Замена старых злучэньняў **ръ** і **рь на ры** ў становішчы паміж зычнымі сьветчыць пра беларускасьць або палескасьць паходжаньня тэксту, замена іх на **р** — пра ўкраінскасьць.

3) Рэфлекс старога **э** насавога (як польскае **ę**) як літара **е** сьветчыць пра беларускасьць або палескасьць, як літара **я** — пра ўкраінскасьць.

4) Замена літары **ѣ** на **и** (і) ў укосных склонах займеньніка **(у)весь** сьветчыць пра беларускасьць або палескасьць, захаваньне **ѣ** — пра ўкраінскасьць.

5) Заканчэньні некаторых прыслоўяў на **-куле/-куль, -туле/-туль** (зь літарай **у**) сьветчыць пра беларускасьць (або, магчыма, палескасьць), а на **-коле/-коль, -толе/-толь** — пра ўкраінскасьць.

6) Часьцейшае ўжываньне літары **о** пасьля зазубных („шыпячых") больш сьветчыць на карысьць беларускасьці паходжаньня тэксту, часьцейшае ўжываньне літары **е** — на карысьць украінскасьці **(жона — жена).**

7) Дыспалятызацыя (зацьвярдзеньне) **р** у напісаньнях **ръ, ры, ра, ру** заміж **рь, ри, ря, рю** сьветчыць больш на ка-

рысьць беларускасьці або палескасьці паходжаньня тэксту й менш — на карысьць украінскасьці (**урад — уряд**).

8) Дысапалятызацыя зазубных больш сьветчыць на карысьць беларускасьці або палескасьці.

9) Канчатак роднага склону множнага ліку заўсёды ў выглядзе **-ей** больш сьветчыць на карысьць беларускасьці, ужываньне канчатку **-ый** побач зь **-ей** — на карысьць украінскасьці.

Замены 1-6 праводзіліся больш рэгулярна, як замены 7-9. У вадрознасьць ад заменаў, **водхіны** ад традыцыйнага правапісу ніколі не стасаваліся сыстэматычна, ды й зьяўляліся яны ў тэкстах ня сьведама, але як незнарочны адбітак запраўднае вымовы. Зьвяртаць трэба ўвагу на гэткія водхіны:

1) Аканьне ў тэкстах беларускага паходжаньня пры ня--аканьні ў тэкстах паходжаньня ўкраінскага або палескага.

2) Адрозьніваньне літараў **и** ды **ы** ў тэкстах беларускага паходжаньня, блытаньне іх у тэкстах паходжаньня ўкраінскага й часткава палескага.

3) Канчатак **-е** ў зборных назоўніках ніякага роду ў тэкстах беларускага або палескага паходжаньня пры канчатку **-я** ў тэкстах паходжаньня ўкраінскага.

4) Прыстаўное **в** у тэкстах беларускага паходжаньня.

5) Большы нахіл замяняць літару **и** на **ы** на пачатку словаў пасьля прыназоўнікаў у тэкстах беларускага паходжаньня.

6) Замена **л** на **в** пасьля **о** з **ъ** і перад зычнымі (і ў мужчынскім родзе адзіночнага ліку прошлага часу) у тэкстах раньняе пары дадзенага пэрыяду сьветчыць на карысьць беларускасьці іхнага паходжаньня.

Аўтар уважае, што пры дапамозе вышэй пададзеных заменаў ды водхінаў вызначэньне беларускасьці або ўкраінскасьці тэкстаў дадзенае пары магчымае ды часта зусім ня цяжкае. Г. Ю. Шэвялёў кажа:

> У супаставе зь імі ня можа бадай быць сумляваньняў што да беларускага характару гэткіх аповесьцяў, як Трыстан, Ґвідон, Атыла, Троя, Страсьці Хрыстовы, Пра Трох Каралёў, О умучаньні Пана нашага Есу Крыста, ды бальшыні твораў жыдоўствуючых (з выняткам магчыма Шэстакрылу, Тайная тайных ды Кнігі Эстэры). Гэтыя тэксты ў істоце вольныя ад якіхколечы ўкраінскіх заменаў ці водхінаў.
>
> З другога боку існуюць тэксты бясспрэчна ўкраінскія, як Перасопніцкае Евангельле 1556-1561 гадоў ці Евангельле 1560 году зь Вербы. Але чыста ўкраінскія тэксты рэдкія; часьцей даводзіцца мець справу з тэкстамі, якія спалучаюць украінскія й беларускія асаблівасьці. Гэткія тэксты паходзяць звычайна, хоць не заўсёды, з Украіны . . . (152).



> Для часу да 1569 году характэрна, што ўкраінскіх копіяў зь беларускіх арыгіналаў больш як наадварот дзеля вядучае палітычнае ды культурнае ролі якую мела перад Люблінскай вуніяй паўночная, беларуская частка Вялікага Княства Літоўскага.
>
> Дарма было-б весьці спрэчкі пра тое, якімі — беларускімі ці ўкраінскімі — наклейкамі пазначыць, выходзячы зь гістарычнае фаналёгіі, марфалёгіі ці сынтаксу, тэксты моўна мяшаныя. Давядзецца прызнаць іхны мяшаны характар ды выкарыстоўваць іхныя украінізмы для гісторыі ўкраінскае мовы, іхныя-ж беларусызмы для гісторыі беларускае мовы . . . (153).
>
> Справа ясная, што канкрэтныя сьпісы ўкраінскіх ды беларускіх тэкстаў XIV й XV стагодзьдзяў сяньня ўсё яшчэ толькі ў сфэры жаданьняў. Гэта заданьне ня лёгкае, і ў гэтых сьпісах будуць, дый мусяць быць, — дзеля мяшаных тэкстаў, — некаторыя паўторы. Ды гэткае разьмежаваньне правесьці мы цяпер у стане. Для гэтага нарасла ўжо выстачальная колькасьць веды. Патрэбная толькі стрыманнасьць ды дысцыпліна (154).

Вось гэткія галоўныя думкі Г. Ю. Шэвялёва пра разгляданую ім праблему. Калі ход пра літартурны працэс часу да 1569 году, які аўтар уважае за адзіны для земляў беларускіх і ўкраінскіх, дык нельга забывацца пра дамінуючую ў ім ролю культурна-духовых цэнтраў Беларусі. Літаратурная актыўнасьць на землях украінскіх да 1569 году была вельмі-ж сьціплая. У вагульным літаратурным працэсе ейная роля была невялікая, пэрыфэрыйная, „украінная".

Згаданы аўтарам Астрог-Дэрман як літаратурна-духовы асяродак выявіўся адно пасьля заснаваньня ў 1570-х гадох князем Астроскім астроскае школы. Тагачасны-ж Кіеў гістарычнымі абставінамі быў зьведзены да ролі памежнага „ўкраіннага" абароннага замку Вялікага Княства Літоўскага для стрымваньня татарскіх наскокаў і жыў пад бязупыннай загрозай.

Яшчэ ў 1482 годзе татары захапілі й сам Кіеў, зрабавалі ды спалілі места й замак, жыхароў пагналі ў няволю ды страшэнна спустошылі вялікія прасторы навакольных земляў. І пазьней, блізу кажны год і аж да палавіны XVI ст., татары рабаўнічымі наездамі нясупынна пустошылі паўдзённыя ўкраінныя землі Вялікага Княства. Пра разьвіцьцё ў гэткіх абставінах у Кіеве нейкага паважнейшага культурна-духовага жыцьця не магло быць і гутаркі.

Калі-ж ход пра Львоў, які ад палавіны XIV ст. знаходзіўся ў валоданьні Польшчы, пра яго вось што кажа М. Грушэўскі: „Львоўская ‚сталічная' Русь . . . у XIV і XV ст. была цалком незначною вялічынёй". Паводле складу жыхароў,

прызнае Грушэўскі, места тады ня было і ўкраінскім. Украінцы ў Львове жылі толькі:

> ... у праваслаўным ґетто, малым „рускім раёне", у які замкнула русінаў — у суседзтве ґетто жыдоўскага — прывілеяванае каталіцкае мяшчанства, ня пушчаючы на „рынак"... Складаўся ён з кароткае вуліцы, што вяла ад рынку на ўсход ды дагэтуль захавала назоў „Рускай", і яшчэ кароткай пярэчнай, што цяпер завецца Бляхарскай... [1]

Пра самое літаратурнае творства таго часу на ўкраінскіх землях М. Грушэўскі выказваецца гэтак:

> З гледзішча кніжнае прадукцыі... стагодзьдзі XIV, XV і першая палавіна XVI, усё яшчэ сьцелецца перад вачыма дасьледніка гэткаю пустою бясплоднай пустыняй, што ён бянтэжыцца, стае, баючыся пушчацца ў пазбаўленую ўсякіх ар'ентацыйных знакаў пустэчу.[2]

Дык ня дзіва, што вялікую частку тому 5-га свае „Гісторыі ўкраінскае літаратуры", тому, які абыймае час XV-XVI ст., М. Грушэўскі быў змушаны запоўніць разглядам літаратурных твораў, што паўсталі на беларускіх землях, былі напісаныя беларускімі аўтарамі ды беларускаю моваю. Разглядае ён іх як „тыповыя" ды „характэрныя" й для літаратурна-духовых працэсаў таго часу на ўкраінскіх землях. У томе шмат месца адведзена гэткім ведамым аўтарам зь гісторыі старое беларускае літаратуры, як Скарына, Будны, Цяпінскі, Кміта-Чарнабыльскі, Рымша, Мялешка ды іншыя. Разглядаюцца ў ім і летапісы Вялікага Княства Літоўскага, а таксама аповесьці аб Трыстане, Троі, Трох Каралёх ды іншыя, якія Г. Ю. Шэвялёў уважае якраз за бясспрэчна беларускія.

Істотная зьмена зайшла толькі пасьля 1569 году. Калі ход пра Львоў, дык у выніку захопу Польшчаю ўкраінскіх земляў Вялікага Княства Літоўскага ў часе Люблінскае вуні, дастаў ён на поўначы ды ўсходзе вялізнае прастораю ўкраінскае „заплечча". З далучаных да Польшчы земляў львоўскае ўкраінскае духавенства й мяшчанства мела цяпер вялікае эканамічнае, рэлігійнае й нацыянальна-палітычнае падтрыманьне, першым чынам ад гаспадарска магутных, палітычна ўплывовых праваслаўных магнатаў новадалучаных земляў. У выніку, пасьля Люблінскае вуніі Львоў хутка ўзьняўся да пазыцыі гістарычна важнага рэлігійнага й культурна-асьветнага ўкраінскага асяродку. Да году-ж 1569 гэта — „нязначная вялічыня".

Пераходзячы да закранутых аўтарам пытаньняў мовы, найперш трэба адзначыць правільнасьць заўвагі пра нямэтазгоднасьць чакаць для „поўнага разьмежаваньня" тэкстаў на выхад старабеларускага ды стараўкраінскага гістарычных слоўнікаў, як раіць А. Жураўскі. Пры існуючай тэндэнцыі ня толькі паасобных украінскіх аўтараў, але й Акадэміі навук Украінскае ССР у „памяткі ўкраінскае мовы" улучаць шляхам „анэксіі" выяўна беларускія граматы, граматыку Ўжэвіча ды шмат іншых бясспрэчна беларускіх тэкстаў, лёгка здагадацца, што складзены на іхнай аснове „стараўкраінскі" слоўнік разам з запраўды ўкраінскай лексыкай, дасьць бадай усю лексыку й мовы старабеларускае. Гэткі слоўнік для разьмежаваньня тэкстаў быў-бы, зразумела, зусім няпрыдатны. У супаставе з такім слоўнікам усе тэксты выглядалі-б на ўкраінскія, беларускіх не засталося-б, „разьмяжоўваць" ня было-б і чаго.

У цэлым, праблема разьмежаваньня тэкстаў пастаўленая аўтарам у роўніцу, у якой яна й павінна быць — строга моваведную, бяз тых ці іншых нацыянальна-патрыятычных меркаваньняў. Разгледжаная яна хоць і коратка, але ўнікліва й фахова, выходзячы з моваведных дадзеных ды культурна-гістарычных абставінаў пары. Важны асабліва запрапанаваны аўтарам падбор тых 15 важнейшых фанэтычна-правапісных адзнакаў, абапіраючыся на якія разьмежаваньне тэкстаў можа быць праведзенае.

Назначаны аўтарытэтным славістам-моваведам канкрэтны спосаб дзеяньня, спадзяёмся, будзе выдатнаю дапамогаю пры разблытваньні таго пытаньня, дыскусія аб якім вядзецца ўжо сто гадоў.

**Р. Максімовіч**

---

[1] Михайло Грушевськїй. Історія української літератури, т. V. Українська академія наук. Київ, 1926, б. 151-152.

[2] Тамсама, б. 3.



**Aleksandra Bergman. Antoni Łuckiewicz (1884-1946). Szkic biograficzny. („Przegląd historyczny", Warszawa, zesz. 4. 1974, 667-685).**

Зь беларускім палітычна-грамадзкім жыцьцём пад Польшчай міжваенных гадоў А. Бэрґман мела блізкую беспасярэднюю сутычнасьць, бо ад 1925 году была сябрам Камуністычнае Партыі Заходняй Беларусі. У розных польскіх і беларускіх выданьнях Польшчы яна апошнімі гадамі надрукавала колькі цікавых артыкулаў зь гісторыі беларускага палітычнага руху XX ст. Ейныя нарысы пра „Нашу ніву",

пра Браніслава Тарашкевіча, пра Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду, пра Камуністычную Партыю Заходняй Беларусі, адзначаючца багацьцем фактаў зачэрпнутых і з архіўных, і з публікаваных матар'ялаў.

І біяграфічны нарыс пра Антона Луцкевіча напісаны з шырокім выкарыстаньнем дадзеных з архіваў Вільні, Варшавы, Масквы, вестак узятых з пэрыядычнага друку, інфармацыяў сабраных ад радні Луцкевічаў ды грунтоўнага прагляду публіцыстычнае спадчыны А. Луцкевіча.

Пасьля кароткіх даведак аб родзе Луцкевічаў ды пра школьную й унівэрсытэцкую адукацыю братоў Івана й Антона, аўтарка пераходзіць да палітычна-грамадзкае дзейнасьці Луцкевіча Антона. Дзейнасьць гэтая пачалася ў веку 18 гадоў з заснаваньнем у 1902 годзе Беларускае Рэвалюцыйнае Грамады (перайменаванае праз год на Беларускую Сацыялістычную Грамаду), ды, асабліва, пасьля зьяўленьня ад 1906 году „Нашае нівы", галоўным рэдактарам і публіцыстым якое быў ён.

Матар'ялы Антона Луцкевіча, вельмі рознага характару й зьместу, друкаваліся пад рознымі псэўдонімамі, крыптонімамі й бязь іх у кажным нумары „Нашае нівы". На бачынах тыднёвіка выступаў Антон Луцкевіч — найчасьцей пад псэўдонімам Антон Навіна — і як унікліві літаратурны крытык. Талент А. Луцкевіча і як публіцысты, і як літаратурнага крытыка, высака цанілі Максім Багдановіч і Максім Гарэцкі.

„Нашаніўскі" час аўтарка ўважае за найвыдатнейшую й найслаўнейшую пару нацыянальна-грамадзкае дзейнасьці А. Луцкевіча. Пазнаёміўшыся зь ягонай публіцыстычнай спадчынай тае пары, яна адкідае як памылковыя зьвінавачаньні савецкіх аўтараў А. Луцкевіча ў „буржуазным-нацыяналізьме". Ягоныя пагляды былі народныя, сацыялістычныя й ніколі не „буржуазныя". Не „буржуазным", але народна-дэмакратычным быў і галоўны ідэйны кірунак „Нашае нівы".

А. Бэрґман зьвяртае ўвагу на асаблівыя мэтады некаторых аўтараў БССР, якія, калі даюць цытаты з артыкулаў „Нашае нівы" на довад ейнае радыкальнасьці, не раскрываюць псэўдонімаў А. Луцкевіча, іхнага аўтара; калі-ж знаходзяць у гэтых артыкулах нейкі „нацыяналізм", тады псэўдонімы раскрываюць.

Аналягічную зьяву адзначае А. Бэрґман і ў выданьнях савецкіх навуковых установаў. Пры перавыданьні Акадэміяй навук БССР твораў Максіма Багдановіча імя Антона Луцкевіча, дзе яно сустракаецца, або замененае імём Луцкевіча Івана, або зусім выпушчанае. Прыкладам, у вершы Багдановіча, што прысьвечаны „пану Антону Навіне", гэтае імя й прозьвішча пры передруку рэдактары выпусьцілі (М. Багдановіч. Збор твораў, т. І. Мінск, Акадэмія навук БССР, 1969, б. 228 і 489).

У біяграфічным нарысе адцемленая нязвычайна шпаркая ў ходзе бурных падзеяў гісторыі эвалюцыя палітычных паглядаў А. Луцкевіча ды й іншых беларускіх дзеячоў тае пары. Эвалюцыя гэтая ішла ад патрабаваньня для Беларусі спачатку мясцовага самакіраўніцтва, пасьля — аўтаноміі, і ўрэшце — праз канцэпцыю фэдэрацыі — поўнае дзяржаўнае незалежнасьці. Эвалюцыя гэтая адбылася на працягу 15 толькі гадоў ды завяршылася абвешчаньнем 25 сакавіка 1918 году ў Менску незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

Даволі шырака разгледжаныя ў нарысе дачыненьні польскага ўраду й уладаў, ды асабліва Ю. Пілсудзкага, да ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі, заўсёды няшчырыя, крывадушныя, з скрытаю мэтай зьліквідаваць яго як перашкоду ў наважанай анэксіі заходнябеларускіх земляў. Тагачасны прэзыдэнт Польшчы, І. Падэрэўскі, каб спыніць непажаданую польскаму ўраду дыпляматычную акцыю А. Луцкевіча ў Парыжы ў пару падрыхтовы Вэрсальскае канфэрэнцыі, у жніўні 1919 году запрасіў яго, як прэм'ера ды міністра замежных справаў БНР, да Варшавы на афіцыйныя перамовы. Калі-ж А. Луцкевіч да Варшавы прыехаў, сам І. Падэрэўскі на другі дзень выехаў да Парыжа, з Луцкевічам навет не прывітаўшыся. Польскія-ж улады не далі А. Луцкевічу візы для павароту да Парыжа, хоць у Польшчу прыехаў ён на запросіны галавы дзяржавы, з дыпляматычным пашпартам Беларускай Народнай Рэспублікі ды з польскай дыпляматычнай візай. Тэкст ліста А. Луцкевіча ў гэтай справе да І. Падэрэўскага, узяты з архіву Падэрэўскага, надрукаваны пры канцы артыкулу.

Нарыс выясьняе таксама пазыцыю А. Луцкевіча ў справе камуністычнае інфільтрацыі кіраўніцтва Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. Ён станоўка быў супраць гэтага ды пратэставаў, калі ў цэнтральную рэдакцыю выданьняў Грамады быў уведзены агент Масквы Ян Бабровіч; называў яго „насланым камісарам". Дзеля разыходжаньня з правадырамі Грамады ў справе допуску ў ейнае кіраўніцтва камуністых, А. Луцкевіч у Грамаду й не запісаўся. Паводля аўтарытэтнага сьветчаньня ў гэтай справе Тарашкевіча, якое знаходзіцца ў ягонай 1933 году рукапіснай аўтабіяграфіі, А. Луцкевіч працаваў толькі ў выданьнях Грамады, як прафэсійны журналіст, сябрам-жа Грамады ён ніколі ня быў. Тарашкевіч кажа, што А. Луцкевіч „сяброўскага білету Грамады не хацеў браць і ня ўзяў".

Агульная ацэна А. Бэрґман Антона Луцкевіча й як грамадзкага дзеяча, і як чалавека, пазытыўная. Паводля яе

> А. Луцкевіч сфармаваўся на пачатку стагодзьдзя найперш як дзеяч нацыянальны, дэмакрат, тыповы прадстаўнік асьветніцкага руху; гэткім ён застаўся й праз усё жыцьцё... За найбольшы скарб народу ўважаў ён культуру, а сваё заданьне бачыў перш за ўсё ў тварэньні й ахове культурных вартасьцяў... Дзейнасьць ягоную можна трактаваць як тыповую для беларускай сацыялдэмакратыі" (б. 690).

Цікавы пагляд А. Бэрґман на сучасныя зьвінавачваньні савецкіх аўтараў А. Луцкевіча ў „нацыяналізьме". Яна кажа:

> Чытач крыху знаёмы з праблемамі беларускага руху ведае, што ў прэсе левага кірунку на працягу дзесяцігодзьдзяў Луцкевіча трактавалі як нацыяналістычнага дзеяча. Таму можа дзівіць, што ўва ўсёй гэтай працы я старанна высьцерагалася гэткага азначэньня. Уважаю, што ўжываньне такога тэрміну спалучаецца з залічаньнем да сацыяльна правых колаў, Луцкевіч-жа да правых ніколі не належаў. Быў ён нацыяналістым у тым сэньсе, што справу беларускую, ці бо нацыянальную, ставіў над усе іншыя, у гэтым і над справу клясавую" (б. 691).

Свой нарыс пра А. Луцкевіча аўтарка канчае словамі:

> ягоныя заслугі для беларускага адраджэнскага руху, для беларускае культуры, выдатныя й бясспрэчныя. Хіба ніхто сяньня не стаіць на перашкодзе, каб гэта сьцьвердзіць (б. 692).

Як ведама, для падобнай справядлівай ацэны вялікіх заслугаў А. Луцкевіча перад беларускім народам у Беларускай ССР „перашкоды" ня толькі існуюць, але месца ім у савецкім друку наагул няма.

Прызнаць трэба, што хоць і з прабеламі, часткова дзеля нястачы патрэбных матар'ялаў, біяграфічны нарыс напісаны зь вялікім укладам дасьледнае працы, а ў паасобных пытаньнях і з рэдкай у публікацыях камуністычнага сьвету аб'ектыўнасьцяй. Калі паўстае адначасна й цімала засьцярогаў што да правільнасьці інтэрпрэтацыі ў нарысе прычыннае ўзаемасувязі падзеяў і фактаў, або матываў пастунаньня А. Луцкевіча, дык вытлумачыць іх лёгка бяручы на ўвагу абавязак аўтаркі трымацца ўстаноўленых партыйных схемаў і штампаў.

Як заважылі партыйныя штампы на рэдакцыі артыкулу відаць хоць-бы з падобных прыкладаў, калі арышт ды зьнішчэньне ў канцлягерох А. Луцкевіча збываецца кароткім трафарэтным савецкім эўфэмізмам — „быў інтэрнаваны" (б. 689), або калі аўтарка кажа, што „беларускі эміграцыйны ўрад у 1925 годзе ў Бэрліне разьвязаўся" (б. 682). Урад ня мог у Бэрліне „разьвязацца' дзеля тае простае прычыны,



што сябры ўраду, якія ў Бэрлін ехалі з тым, каб выехаць у БССР, свае міністэрскія мандаты афіцыйна перад гэтым 4. 10. 1925 склалі на рукі старшыні Рады БНР Пётры Крэчэўскага й таму на „бэрлінскай канфэрэнцыі" Ўраду БНР яны не рэпрэзэнтавалі.

Неабгрунтаваны зусім і закід А. Луцкевічу, чаму ён „ня мог зразумець", што займаючы на працэсе Грамады антыкамуністычнае становішча ды запярэчваючы сваю прыналежнасьць да Грамады, гэтым пазьней быццам „у вялікай меры аблягчыў санацыі расправу з усім беларускім рухам" (б. 685). Расправа гэтая зусім не залежыла ад тае ці іншае палітычнае пазыцыі А. Луцкевіча, але шмат ад таго, што зразу-ж пасьля разгрому Грамады ў Польшчы, у БССР быў пачаты крывавы прасьлед усяго беларускага нацыянальнага актыву, уключна з камуністымі. Адначасна ішло безаглядлнае нішчэньне ўсіх праяваў беларускае нацыянальнае культуры, пра што вельмі-ж далікатна згадвае й А. Бэрґман, называючы гэта ізноў-жа тыповым для партыі эўфэмізмам — „заціраньне некаторых рысаў беларускае традыцыі" (б. 687).

У працэсе гэтага „заціраньня некаторых рысаў" загінула тымчасам соткі беларускіх пісьменьнікаў, навукоўцаў, мастакоў, дзесяткі тысячаў беларускае інтэлігенцыі, крыху-ж пазьней і ўсе правадыры Грамады, што апынуліся ў СССР — Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Бурсэвіч. Пры масавай крывавай расправе Масквы над беларускай інтэлігенцыяй у беларускай-жа рэспубліцы, санацыйны ўрад Польшчы пачуўся свабодным прыступіць да падобнае ліквідацыі ўсякае беларускае культурна-нацыянальнае дзейнасьці й на землях Заходняе Беларусі.

Дык па абодвух бакох рыскае мяжы ішла тады, сынхранізавана ды на выперадкі, жорсткая расправа над беларускім народам двух абнаглелых каляніяльных нацыяналізмаў, што пачуліся абое загрожанымі ў сваіх вялікадзяржаўных інтарэсах раптоўным ростам беларускага палітычна-нацыянальнага руху ды творчымі дасягненьнямі беларускае культуры. А. Бэрґман тымчасам віну за расправу над беларускім народам па польскім боку былое рыскае мяжы неспадзявана перакінула на адну, ды зусім нявінную асобу — на А. Луцкевіча!

Парадоксам гучыць і пастаўлены закід А. Луцкевічу, чаму ў гадох 1918-1920 ён „прыняў памылковую празаходнюю ар'ентацыю" (б. 691). Ведама, што „правільную" ар'ентацыю „праўсходнюю" меў тады пісьменьнік Цішка Гартны, старшына першага ўраду БССР, і з тым канчальным вынікам, што зьнішчаны ён быў у савецкіх турмах колькі гадоў перад гэтым як загінуў у іх А. Луцкевіч. Дакор А. Луцкевічу пра „памылковы выбар" у гэткім гістарычным кантэксьце

нагадвае партыйную „дыялектычную лёгіку” сталінскае пары.

На завяршэньне зьвярнуць можна ўвагу на адзін яскравы прыклад асэнсоўваньня аўтаркай ходу гістарычных падзеяў з савецкіх партыйных пазыцыяў. А. Бэрґман кажа, што А. Луцкевіч

> неабгрунтавана пры кажнай нагодзе хваліўся, што той ці іншы ход савецкае ўлады быў вымушаны націскам беларускіх незалежнікаў... Уважаў, прыкладам, стварэньне БССР за пабочны вынік акту незалежнасьці 25 сакавіка 1918 году (б. 682).

Як сама А. Бэрґман тымчасам падае (у зносцы на б. 675), кіраўнікі бальшавіцкае партыі на землях Беларусі (па нацыянальнасьці, як правіла, не беларусы), аж да канца 1918 году й слухаць не хацелі пра патрэбу стварэньня ня то што беларускай рэспублікі, але хоць якое адміністрацыйнае тэрытар'яльнае адзінкі пад беларускім назовам. Аж да восені 1918 году ў дачыненьні да земляў Беларусі яны настырліва трымаліся вялікадзяржаўніцкага назову „Западная Область”, якую 25 кастрычніка таго-ж году перайменавалі на „Западную Комуну”. І толькі пад націскам з цэнтру партыі, з Масквы, выяўна зробленым дзеля абвешчаньня ў Менску Беларускае Народнае Рэспублікі ды дзейнасьці ейнага ўраду, 1. I. 1919 году ў Смаленску была ўрэшце абвешчаная Беларуская ССР.

Дык факты й дакумэнты даводзяць, што пагляд А. Луцкевіча быў правільны: без БНР не дайшло-б і да стварэньня БССР. Абвешчаньне ў Смаленску й пазьнейшае стварэньне БССР, было бясспрэчна палітычна вымушанаю рэакцыяй на блізу гадовае ўжо існаваньне й дзейнасьць ураду Беларускае Народнае Рэспублікі.

Гісторыкам мець важна таксама на ўвеце, што акт незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 году быў канкрэтным вынікам беларускае нацыянальна-адраджэнскае працы папярэдняе „нашаніўскае” пары, галоўнымі ідэйнымі ініцыятарамі ды правадырамі якое былі якраз браты Іван і Антон Луцкевічы. Як пастулят самое лёгікі стуль вынікае й тэза, што й само паўстаньне БССР было абумоўленае, між іншага, і папярэдняй дзейнасьцяй братоў Луцкевічаў. Бязь іхнае „нашаніўскае” працы БССР сяньня ня было-б, а толькі — „Западная область” РСФСР.

**А. Багровіч**



**Czesław Madajczyk. Dokumenty w sprawie polityki narodowościowej władz polskich po przewrocie majowym ("Dzieje najnowsze", Wrocław-Warszawa-Kraków-Gdańsk, Instytut Historii Polskiej Akademii Nauk, rocznik IV, № 3, 1972, 137-169).**

Аўтар апублікаваў, з уводным артыкулам ды камэнтарамі, два пратаколы з нарадаў польскіх уладаў міжваеннае пары ў справе палітыкі да г. зв. „нацыянальных мяншыняў” — беларусаў, украінцаў, жыдоў, немцаў, лятувісаў. Дакумэнт першы, гэта пратакол паседжаньня 1926 году першага санацыйнага ўраду. Другі — пратакол канфэрэнцыі ў 1929 годзе ў Луцку „крэсовых” ваяводаў.

Асыміляцыйная палітыка ўрадаў Польшчы міжваеннае пары ў дачыненьні да жыхароў няпольскае нацыянальнасьці, якое станавіла каля 40% усяго жыхарства дзяржавы, добра ведамая. Існуе пра гэта й багатая літаратура. Хто з „нацыянальных мяншыняў” жыў тады ў межах польскай дзяржавы, той ведае, што мэта адміністрацыі ўсіх урадаў Польшчы — санацыйных і не санацыйных, — была тады адна: магчыма хуткая дэнацыяналізацыя ды палянізацыя ўсіх жыхароў ня польскае нацыянальнасьці. Зьмены палітыкі ў гэтай галіне паасобных урадаў былі зьменамі толькі спосабаў дэнацыяналізацыі, а ня вызначанае ёй канчатковае генасыднае мэты.

Пацьвярджаюць гэта й апублікаваныя Мадайчыкам дакумэнты, якія цікавыя тым, што раскрываюць матывацыю асыміляцыйнае палітыкі ды ацэну яе вынікаў на ўрадава-адміністрацыйных верхавінах Польшчы. Ніжэй прыводзяцца некаторыя выказваньні ў часе гэтых нарадаў польскіх міністраў і ваяводаў, што датычаць да беларускага жыхарства.

Першы дакумэнт, гэта пратакол паседжаньня рады міністраў Польшчы, якое адбылося 18. 8. 1926 году, ці бо тры месяцы пасьля „маёвага перавароту” Пілсудзкага. На паседжаньні былі прысутныя ўсе 12 міністраў, улучна зь Юзэфам Пілсудзкім, які ў урадзе займаў тады становішча міністра вайсковых справаў. Вёў нараду прэм'ер К. Бартэль, які, адкрываючы паседжаньне, выказаў свой агульны пагляд на стан нацыянальнага пытаньня ў дзяржаве. Галоўныя думкі прэм'ера былі гэткія:

> Справу паставіць трэба практычна. Адкідаючы ідэю асыміляцыі нацыянальнай, трэба стварыць абставіны для асыміляцыі дзяржаўнай. У галіне рэлігійнай прэм'ер адзначыў, што праваслаўныя духоўнікі маюць уроджанае пачуцьцё лаяльнасьці да ўлады, але не знаходзяць падтрыманьня ад улады польскай. Ствараецца небясьпека, што калі дзяржава не заапякуецца праваслаўнай царквой і духавенствам, дык гэтае духавенства можа перайсьці да палітычнага абозу беларускае й украінскае мяншыняў.

Калянізацыя непажаданая. Тое, што было зроблена ў гэтай галіне да гэтага часу, абярнулася супроць дзяржавы. Насаджваньне асадніцтва мясцовае жыхарства ўважае сабе за крыўду. Дык калянізацыі крэсаў ня трэба браць на ўлік да часу, калі будуць спарадкаваныя аграрныя дачыненьні, а заведзены лад ды парадак створаць на гэтых землях адпаведныя ёй умовы.

Ідэю асыміляцыі нацыянальнай, якая выражаецца найперш мерапрыемствамі экстэрмінацыйнымі, трэба ўважаць за няўдалую. Але ня можна прызнаць за адпаведнае й прысьпяшаньне працэсу нацыянальнага ўсьведамленьня. Трэба задумацца, як стварыць грунт для асыміляцыі дзяржаўнай, якая можа ўрэшце стацца натуральным памостам да асыміляцыі культурнай, а за ёю — і нацыянальнай.

Міністар справаў вайсковых, Юзэф Пілсудзкі, раіў не перабольшваць значаньня праблемы нацыянальных меншыняў. Пры яе парадкаваньні дзяржава ня можа адсоўваць на другі плян сваіх асноўных інтарэсаў. Кардынальны пастулят польскае рацыі стану, гэта загарантаваньне належных правоў польскай мове. Мову польскую трэба вучыць ува ўсіх школах на тэрыторыі дзяржавы; у польскай мове мусіць вясьціся ўсякая дзяржаўная праца; суды, урадаваньне адміністрацыйнае, самаўрады павінны весьціся ў польскай мове. Сьмелая заява, што існуе адна дзяржаўная мова... ня ёсьць несправядлівасьцяй у дачыненьні да меншыняў, і, наадварот, нястача станоўкае палітыкі ў гэтым кірунку была-б крыўдаю для польскае бальшыні. Асадніцтва на крэсах ня ёсьць няўдачаю.

Характарыстыка беларусаў у прапанове міністра нутраных справаў (Казімера Младзяноўскага — А. Б.) правільная, казаў Пілсудзкі. Мова іхная гэткая цяжкая й неразьвітая, што ня можа быць моваю школаў і ўрадаў. Падсумоўваючы свае заўвагі, міністар вайсковых справаў яшчэ раз падчыркнуў, як дзяржаўную й нацыянальную канечнасьць, патрэбу загарантаваньня справядлівых правоў мове польскай.

Міністар зямельнае рэформы, Вітальд Станевіч, між іншага заявіў, што аграрная палітыка на „крэсах" вялася ня з гледзішча патрэбаў усходніх земляў, але эксплятатацыі гэтага краю.

Міністар веравызнаньняў і асьветы, Антон Суйкоўскі, прыгадаўшы, што перапіс жыхарства дзяржавы 1921 году выявіў 69% палякаў, сказаў, што лік гэты за высокі, калі ўзяць на ўвагу, што семсот колькідзесят тысячаў жыдоў ды 505 тысячаў праваслаўных падчас перапісу было залічана ў палякі. Калі-ж ход пра тэрыторыю, дык беларуская стыхія займае 14%, украінская 22.7% агульнае паверхні дзяржавы. Можна прыпушчаць, што 39% тэрыторыі дзяржавы мае няпольскую бальшыню.



Утраквістычная (двумоўная — А. Б.) школьная сыстэма прыносіць найгоршыя вынікі. Праваслаўнага жыхарства ў Польшчы 11.3%, з чаго расейцаў толькі пяцьдзесят тысячаў. Не зважаючы на гэткі мінімальны лік, расейцы маюць у Польшчы 13 прыватных гімназіяў, у якіх русыфікуюць беларусаў і ўкраінцаў.

Праваслаўнае духавенства на Валыні й Палесьсі паходзіць зь мясцовага жыхарства, на поўначы-ж 2/3 складаецца з прыбылых з Расеі. Што да беларускага жыхарства, міністар веравызнаньняў і асьветы выказваецца за стварэньне для яго свайго ўласнага школьніцтва, у якім польская мова была-б аднак-жа моцна пастаўленая, каб гэтак зрабіць лягчэйшым пашырэньне ўплываў польскае культуры.

Другі апублікаваны Мадайчыкам дакумэнт, гэта пратакол канфэрэнцыі ваяводаў з „Крэсаў Усходніх", што адбылася ў Луцку на Валыні 2-3 сьнежаня 1929 году, ці бо два з паловай гады пасьля „маёвага" перавароту. Прысутнымі былі: ваяводы віленскі Ўладыслаў Рачкевіч, наваградзкі Зыгмунт Бэчковіч, палескі Ян Крагельскі, валынскі Гэнрык Юзэфскі, дзевяць вышэйшых урадоўцаў ды начальнік аддзелу міністэрства нутраных справаў з Варшавы. Ваяводы беластоцкага ня было, бо гэтае ваяводзтва, хоць было заселенае пераважна беларускім жыхарствам, польскі ўрад не залічаў да „Крэсаў", але да „цэнтральнае Польшчы".

На нарадзе абмяркоўвалася галоўна нацыянальная палітыка адміністрацыі на Валыні. Пра палітыку ў дачыненьні да беларусаў больш канкрэтна выказаўся наваградзкі ваявода Бэчковіч, які заявіў:

Беларускі рух у наваградзкім ваяводзтве дзеля большае сьведамасьці сярод масаў ды блізіні да Менску, шмат мацнейшы чым на Віленшчыне. Дзеля гэтага неабходна як найхутчэй навязаць кантакт з цьвярозымі дзейнікамі беларускага грамадзтва. Гэткім пачаткам арганізацыі (відавочна памылка пры перадруку, заміж „ар'ентацыі" — А. Б.) беларусаў на Варшаву мае быць таварыства беларускае бурсы, што будуецца (у Наваградку — А. Б.). Утраквізацыя школаў і сярод беларусаў, і сярод палякоў непапулярная. Трэ было-б бадай імкнуцца да моцнае рывалізацыі лепшай польскай школы з горшай беларускай, і гэткім спосабам старацца дасягнуць павольнага зьнікненьня гэтае апошняе.

Школьны візытатар, Юліян Панятоўскі, асьцярагаў перад занадта павярхоўнымі ці мэханічнымі мэтадамі асыміляцыі ды перад залішне гвалтоўнай ліквідацыяй школаў украінскіх ці беларускіх, пакуль выпрабаваны тып школы двукультурнай не загарантуе дзяржаўнай думцы ўдачу ў асьветнай палітыцы на „Крэсах Усходніх".

На заканчэньне канфэрэнцыі было прынята колькі агульных пастановаў. Апошняя зь іх, „Спэцыяльная паста-

нова трох ваяводаў", датычыла да беларускае праблемы. Даслоўны тэкст гэтае пастановы ў перакладзе гэткі:

> Тры прысутныя на зьездзе ў Луцку ваяводы крэсаў усходніх, а менавіта віленскі, навагрудзкі й палескі, з выняткам ваяводы валынскага, пастанаўляюць зьвярнуцца да ўраду, каб узяў пад развагу, ці ня трэ было-б завесьці ў беларускія школьныя падручнікі заміж „гражданкі" лацінскі альфабэт, асабліва таму, што прапагандныя падручнікі, якія выдаюцца на тэрыторыі савецкай, паслугоўваюцца ўжо гэтым якраз альфабэтам для агітацыйных мэтаў сярод беларускага жыхарства.

У апублікаваных дакумэнтах зьвяртаюць найперш увагу выказаныя пагляды Юзэфа Пілсудзкага, фактычнага тады дыктатара Польшчы, бо яны перш за ўсё вызначалі нацыянальную палітыку санацыйных урадаў. Выяўляецца, што з усіх сяброў ураду, што выказваліся ў часе нарады, Юзэф Пілсудзкі стаяў на пазыцыях найбольш безагляднае палянізацыі. Для „загарантаваньня належных правоў польскай мовы" на ня польскіх, ціраз у 80-90%, землях, ён ставіў катэгарычнае дамаганьне, каб у урадах, у самаўрадах, у судох як мова ўрадаваньня дапушчалася там толькі польская мова. Гэта практычна значыла, што беларускі селянін і ў судзе, і у валасьці, і з польскім паліцыянтам быў забавязаны гаварыць моваю, якое ён, як правіла, ня знаў. Зь міністраў адзін толькі Пілсудзкі бараніў ды апраўдваў і насаджваньне на „крэсах" польскага асадніцтва.

Завостраная санацыйным урадам палянізацыйная палітыка праявілася хутка ўва ўсіх галінах жыцьця ня польскага жыхарства дзяржавы. Як падае Ч. Мадайчык, лік беларускіх школаў, які з 514 у 1920/21 годзе, ужо ў годзе 1922/23 быў сагнаны да 22, у 1926/27 быў зьведзены да 3-х. Таму аднакжа, што пачалі паўставаць беларускія тайныя школы, у 1927/28 годзе ўрад быў змушаны лік беларускіх школаў ізноў павялічыць да 23-х. Столькі-ж было адкрыта й школаў утраквістычных, польска-беларускіх. Дадаць тут трэба, што колькі гадоў пазьней і гэтыя ўсе 46 школаў былі ізноў зьліквідаваныя. Закрытыя паступова былі й усе беларускія сярэднія школы, што яшчэ існавалі — 4 гімназіі ды заснаваная ў першыя гады санацыйных урадаў дзяржаўная настаўніцкая сэмінарыя.

І на прасторах з украінскаю бальшынёй жыхарства, дзе яшчэ ў 1926/27 годзе было 920 пачаткавых школаў з украінскай мовай навучаньня, у 1930/31 годзе, для „загарантаваньня належных правоў польскай мове", было пакінута іх ўжо толькі 139. За часамі аўстрыйскімі (у 1910/11 годзе) на гэтым-жа прастооры, але без Валыні, украінскіх школаў было 2450.



Гэткі-ж лёс, як беларускіх школаў, быў і той беларускай „бурсы" ў Навагрудку, пра якую ваявода Бэчковіч казаў, што таварыства яе пабудовы мае быцц „пачаткам ар'ентацыі беларусаў на Варшаву". На прыабяцаную дзяржаўную дапамогу на пабудову будынку для вучняў Навагрдзкае Беларускае Гімназіі, зразу-ж заснаваўся будаўляны камітэт, які, нечакаючы на дапамогу, сваімі сіламі ды ахвярнаю працай вучняў гімназіі і іхных бацькоў, пачаў звозіць патрэбныя будаўляныя матар'ялы, выкапаў равы пад фундамэнт. Калі польскі сойм урэшце прызнаў 250.000 злотых на пабудову, будынак хутка быў пастаўлены, накрыты, заставалася толькі закончыць яго ў сярэдзіне.

Тымчасам у сувязі з антыбеларускім курсам Масквы ды масавымі прасьледамі ў БССР, завастраецца й палітыка санацыйных уладаў да беларусаў пад Польшчай. У Навагрудак на месца Бэчковіча ваяводаю назначаецца слаўны пазьней арганізатар канцэнтрацыйнага лягеру ў Картускай Бярозе Костэк-Бернацкі. Далейшая выплата для будаўлянага камітэту соймавае дапамогі стрымліваецца. Паўстае пагроза перадачы будынку крэдытарам за параблёныя на конта спадзяваных сумаў соймавае дапамогі даўгі. Адміністрацыя абяцае выплаціць рэшту сумы на пабудову толькі тады, калі будынак будзе перададзены ў распараджэньне магістрату. Магістрат-жа, калі за атрыманыя грошы будынак выканчыў, перадаў яго ня згодна з зацьверджаным пастановаю сойму прызначэньнем, не для вучняў беларускае гімназіі, але пад школу польскую. Дык будынак, а разам і ўся ўкладзеная ў яго пабудову ахвярная праца беларускіх бацькоў і вучняў, былі забраныя пад установу для палянізацыі беларускіх дзяцей.

Калі на паседжаньні рады міністраў В. Станевіч наракаў на аграрную палітыку эксплятацыі „крэсаў", дык таму, што ён добра знаў, як гэтая палітыка біла балюча ня толькі па беларускай вёсцы, але й па польскіх дварох, пра інтарэсы якіх, як сам абшарнік зь Віленшчыны, ён, зразумела, у першую чаргу дбаў.

Да як нізкога жыцьцёвага стандарту былі зьведзеныя тады жыхары ўсходніх „крэсаў", дае прыклады й Ч. Мадайчык. У ваяводзтвах, што прастораю займалі 1/3 тэрыторыі дзяржавы, ці бо ў тых трох ваяводзтвах беларускіх ды Валынскім, ваяводы якіх у 1929 годзе раіліся ў Луцку, было толькі 4% усіх прамысловых прадпрыемстваў дзяржавы, на іх зужываўся толькі 1% усяе электрычнае энэргіі. Заработная плата мясцовага работніка дасягала толькі 35-45% вышыні заработнае платы на землях польскіх.

У выніку, знайшліся дасужыя прадпрыемцы, якія наважыліся эксплятаваць і сам факт нізкое платы работніка, ды нажываць гэтак сабе капіталы. Колькі гадоў перад вайной яны для гэтага заклалі на беларускіх землях дзьве большыя

мадэрныя хвабрыкі. Дзякуючы вельмі нізкой плаце работнікам інвэстыцыя капіталу давала ім добрыя прыбыткі не зважаючы й на тое, што хвабрыкі працавалі галоўна на прывознай сыравіне. Была гэта хвабрыка гумовых вырабаў „Ардаль" у Лідзе ды хвабрыка радыёапаратаў „Электрыт" у Вільні.

Да пачатку вайны санацыйныя ўлады зьліквідавалі татальна ня толькі ўсё беларускае пачаткавае й сярэдняе школьніцтва, але адміністрацыйнымі загадамі пазакрывалі і ўсе масавыя культурна-асьветныя ды нацыянальна-грамадзкія беларускія арганізацыі. Забароненае было выдаваньне й важнейшых палітычна-грамадзкіх газэтаў й часапісаў, уключна з органамі Беларускае Хрысьціянскае Дэмакратыі.

Апошнімі перад вайной гадамі дайшло й да гэтага, што больш актыўныя беларускія грамадзкія дзеячы адміністрацыйна-паліцыйнымі загадамі прымусова высяляліся з „крэсовых" ваяводзтваў. Вынікам гэткае эканамічна-культурнае й нацыянальнае палітыкі было тое, што спадзяваньні беларускага жыхарства як на адзіны магчымы ратунак усё больш кіраваліся на ўсход, на беларускую там рэспубліку, на Саветы. У сваёй масе яно не ўсьведамляла, што й там гэта быў якраз час безагляднага масавага партыйнага тэрору ў якім загінулі мільёны нявіннага жыхарства.

Нацыянальная палітыка польскіх уладаў міжваеннае пары дасягнула гэтага, што зь беларускага палітычнага жыцьця шчэзьлі зусім прапольскія кірункі й ар'ентацыі, якія існавалі ў часе Першае Сусьветнае вайны ды колькі гадоў яшчэ й пасьля. Сярод беларусаў былое Заходняе Беларусі польскае 20-гадовае панаваньне выкараніла дазваньня ўсе прапольскія сымпатыі. Ня існуюць яны сяньня й сярод раськіданай на трох кантынэнтах сьвету беларускай палітычнай эміграцыі, зьвінавачаньне ў палянафільстве сярод якое тарнуецца цяпер часам толькі як дэмагагічная прыхватка ў спробе дыскрэдытаваць непажаданых сабе палітычных супрацоўнікаў.

**А. Багровіч**

### М. Я. Гринблат. Белорусы. Очерки происхождения и этнической истории. АН БССР. Минск, 1968, 288 б.

Аўтар энтограф і цікавейшыя таму канцавыя разьдзелы ягонае кнігі, дзе даецца вопіс паасобных этнічна-нацыянальных асаблівасьцяў матарыяльнае й духовае культуры беларусаў. На пачатку-ж разглядаюцца пытаньні што выходзяць далёка за межы этнаграфіі — пытаньні этнагенэзу беларускага народу. У гэтай галіне разважаньні аўтара не самастойныя. Ён намагаецца толькі абгрунтаваць узьведзеную да рангі партыйнае догмы старую вялікадзяржаўную канцэпцыю Масквы пра паўстаньне беларускага, расейскага ды ўкраінскага народаў з „аднаго караня" — з „народнасьці стараруское".

Грынблят прызнае, што пагляд пра існаваньне пары „рускага адзінства" зьявіўся ў гісторыкаў царскае самаўладнае Расеі ня гэтак і даўно, бо толькі ў першай палавіне мінулага стагодзьдзя, найперш у К. Калайдовіча. Гэта, паводля аўтара, было „вельмі важным дасягненьнем расейскае гістарыяграфіі" (б. 21). Прызнаньне ў 1930-х гадох і савецкімі гісторыкамі гіпатэзы пра пару „рускага адзінства" Грынблят адзначае як асабліва выдатную падзею, бо гэта „нанясло зьнішчальны ўдар па буржуазна-нацыяналістычных тэорыях" (б. 36).

Дык зварот савецкіх аўтараў пары сталінскага дэспатызму да вялікадзяржаўных канцэпцыяў расейскіх „буржуазных" гісторыкаў часоў царскага самаўладзтва Грынблят услаўляе як эпахальнае навуковае дасягненьне. Вось з падобных, чыста палітычных, пазыцыяў Грынблят і вядзе свой разгляд паасобных пытаньняў этнагенэзу беларускага народу.

„Адзіная народнасьць стараруская", як кажа аўтар, склалася на аснове ўсходнеславянскіх плямёнаў ужо ад XI стагодзьдзя. Праіснавала-ж яна, быццам, да стагодзьдзя XIII, і толькі ў стагодзьдзі наступным на яе базе пачалі фармавацца тры асобныя — беларуская, расейская ды ўкраінская — „народнасьці".

Гэткі пагляд стаіць у кардынальнай супярэчнасьці з сьветчаньнямі старых летапісаў ды фактамі гісторыі. Нестар, першы ведамы ўсходнеславянскі летапісец, што жыў у другой палавіне XI ды пачатку XII стагодзьдзя, знаў на ўсходзе Эўропы толькі славянскія плямёны ды іхныя палітычна-дзяржаўныя цэнтры, гарады і княствы, а ня нейкую адну „народнасьць". У сваім летапісе ён плямёны гэтыя назваў ды падаў прыблізнае месца іх пасяленьня.

Нестар таксама адзначыў, і цірaз, што славянаў усходу Эўропы „Русяй" калісьці не называлі. Гэтак, паводле яго, называліся спачатна толькі тыя нарманы-варагі, якія запанавалі найперш у Ноўгародзе, а пасьля ў Кіеве. Каб ня было сумлеваў, што варагі-Русы не славяне, Нестар адцеміў, што на славянскіх землях яны былі чужынцамі, „находнікамі", ды што толькі пазьней, у выніку даўжэйшага іх панаваньня, „ад гэтых варагаў празвалася Руская зямля" — землі Кіеўшчыны.

Дык нейкае адзінае „стараруское народнасьці" летапісец ня знаў. А ён-жа гістарычную запраўднасьць часу свайго й блізкое сабе пары папярэдняе напэўна ведаў лепш за сучаснага прапагатара партыйных вялікадзяржаўных канцэпцыяў

Грынблята. Агульна ведама, што й заходнія, і паўдзённыя славянскія народы склаліся на папярэдняй пляменнай базе шляхам яднаньня блізкіх сабе па мове ды звычаях плямёнаў суседніх. У іх ніколі ня было нейкіх часовых „супольнасьцяў" — славянскае заходняе ці паўдзённае „адзіннае народнасьці". Гэткіх пераходных этнагенэтычных фармацыяў гісторыя там ня знае. Ня было чагосьці падобнага і ў славянаў усходніх. Дык „стараруская народнасьць" XI-XIII стагодзьдзяў ня факт гісторыі, але габінэтны твор ідэялёгаў вялікадзяржаўя.

Пастаўленае ў кнізе заданьне — раскрыцьцё важнейшых этнічна-нацыянальных рысаў беларускага народу ў працэсе гістарычнага іх узьнікненьня, ды разьвіцьця — лягічна вымагала-б накіраваньня ўвагі найперш на асаблівасьці найбольш для народу характэрныя, ад суседзяў адрозныя. Грынблят тымчасам наадварот — сваю ўвагу кіруе найперш на гіпатэтычную „супольнасьць" і мала месца прызначае на выяўленьне ды вопіс розьніцаў. У выніку, паасобныя старавечныя рысы беларускае этнічна-нацыянальнае самабытнасьці ён больш затушоўвае, як раскрывае.

Хоць увесь ужо пачатак кнігі заняты разглядам усходнязлавянскага „адзінства", далей дадзены яшчэ й адмысловы разьдзел „Некаторыя рысы супольнасьці ў культуры ўсходніх славянаў". Ход сваіх разважаньняў тут аўтар вядзе прыблізна гэткім спосабам: продкі й беларусоў, і ўкраінцаў, і расейцаў калісьці сахой аралі, бараной баранавалі, касой касілі, вудай ды невадамі рыбу лавілі, з сабакамі на паляваньне хадзілі, на ваўкоў капалі воўчыя ямы — з гэтага ясна, што „общерусское единство" было! Гэткім дасужым мэтадам лёгка, пэўна-ж, давесьці „адзінство" з народам расейскім кажнага народу Эўропы, ад Пірэнэйскіх да Уральскіх гораў, ды й за імі.

Каб ня было сумляваньняў пра „общерусскую" супольнасьць беларусоў з расейцамі, Грынблят маўчком пераходзіць над тым важным этнічным фактарам этнагенэзу народу расейскага, які адрозьнівае яго кардынальна ад народу беларускага — над вялізным ўграфінскім яго субстратам. З тых самых меркаваньняў пра важную ролю субстрату балцкага ў этнагенэзе народу беларускага аўтар абмяжоўваецца кароткаю заўвагай, што „Славянізацыя балцкіх плямёнаў, якія жылі ў старажытнасьці на паўночным захадзе й у сярэдняй паласе цяперашняй тэрыторыі Беларусі, зьяўляецца фактам аугльнапрынятым у гістарычнай навуцы" (б. 116). Важных этнагенэтычных гэтага кансэквэнцыяў Грынблят аднак ня толькі не разглядае, але пра іх навет і не ўспамінае. Наадварот, ён разоў колькі ўпікае маскоўскага археалёга В. В. Сядова, чаму ды нашто той ролю балцкага субстрату ў станаўленьні беларускага народу раскрывае ды „выпучвае".



Ледзь ня цэлы разьдзел кнігі адведзены затое аўтарам справе вельмі абмежанага значаньня — магчымага зьбеларушчаньня лятувіскага жыхарства вузкое, сумежнае зь беларусамі, паўночна-заходняе паласы. Гэта ўжо Грынблят „выпучвае", бо да лятувісаў беспадстаўна далучае яцьвягаў, латыгальцаў, ды іншыя балтамоўныя плямёны, лятувісамі якія ніколі ня былі.

І замоўчваньне этнагенэтычнае ролі балцкага субстрату, і непамернае выпучваньне значаньня ды вагі маргінальнае тэрытарыяльнае зьявы — магчымае асыміляцыі некаторых сумежных лятувіскіх валасьцяў, — абумоўленыя, зразумела, патрэбаю датарнавацца да вымаганьняў савецкае афіцыйнае гістарыяграфіі, якая імкнецца Вялікае Княства Літоўскае прадставіць як дзяржаву лятувіскую, што беларусаў падбівала, няволіла, нацыянальна прыгнятала. Гэткая тэза Маскве канечна патрэбная зь меркаваньняў вялікадзяржаўнае прапаганды, каб захопніцкія крывавыя войны, якія на працягу колькіх стагодзьдзяў вялі маскоўскія князі й цары для падбою земляў Беларусі, сяньня прадстаўляць як „брацкае вызваленьне" расейскім народам народу беларускага ад „чужанацыянальнага" панаваньня ды ўціску.

Ня толькі паважныя гісторыкі, але й гэткія карыфэі марксызму, як Маркс ды Энгельс, добра ведалі, пра гэта ціраз і пісалі, што Вялікае Княства Літоўскае, у адваротнасьць Княству Маскоўскаму, у магутную дзяржаву вырасла ня столькі шляхам агрэсіі ды падбояў, колькі мірным узьяднаньнем сумежных прастораў, ды што па сваім этнічна-нацыянальным складзе была гэта на 80% славянская дзяржава, зь беларускаю мовай як урадавай на ўсіх, навет і неславянскіх, прасторах княства.

Хоць гадоў сто ўжо таму Маркс ды Энгельс Вялікае Княства Літоўскае ўважалі за дзяржаву славянскую, да гэтае гістарычнае праўды й сяньня ніяк ня можа дайсьці Грынблят. У выніку ён і апынуўся ў сытуацыі парадаксальнай: „марксысты", што стаіць на пазыцыях ня Маркса, але расейскага царскага й савецкага вялікадзяржаўя — на пазыцыях антымарксавых.

Канкрэтная вартасьць кніжкі Грынблята абмежаная да збору й пераліку — далёка ня поўнага ды аднабаковага — зьяваў і фактаў з галіны беларускае этнаграфіі. Карысная яна й як наглядны прыклад спосабу, якім савецкі аўтар намагаецца ўбудаваць канкрэтныя факты беларускае гісторыі й этнаграфіі ў супярэчныя ім схэмы сучаснае партыйнае гістарыяграфіі.

Нейкіх самастойных высноваў у паважнейшых пытаньнях у кнізе няма. Прыкладам, пагляд аўтара на этнагенэз беларускага народу ведаць можна й ня чытаючы ягонае кніжкі. У „чыстым" выглядзе ён пададзены ў адпаведных „тэзісах"

ЦК КПСС, якія аўтар увесь час паўтарае, якія цытуе, на якія, як на абсалютную дагматычную праўду, паклікаецца (прыкладам б. 174).

Ведама, што схалястыкі сярэднявечча абмяжоўваліся да бяскрытычных паясьненьняў непахісных дагматычных праўдаў Бібліі. Тысячу гадоў пасьля й аўтар XX стагодзьдзя сваё „навуковае" заданьне зводзіць да камэнтаваньня толькі ды „даводжаньня" абсалютнае правільнасьці партыйных догмаў. І таму кніжка добры таксама прыклад і ведамае яскравае да ідэнтычнасьці аналёгіі сучаснага аўтарытарнага савецкага марксыцкага мысленьня з дагматычным мысьленьнем сярэднявяковых хрысьціянскіх тэалёгаў.

**А. Багровіч**

**Colours of the Native Country: Stories by Byelorussian Writers. Minsk, "Byelarus" Publishers, 1972, 272 pp.**

У гэтым зборніку прадстаўленыя 18 беларускіх савецкіх пісьменьнікаў[1] гэтулькімі-ж апавяданьнямі, напісанымі ў часе ад 1927 па 1964 год. Апавяданьні гэтыя пераклалі ў гладкую гутаркавую ангельскую мову (з агульным брытанскім адценьнем і правапісам ды сям-там із шкоцкімі выразамі!) Р. Ліпатаў (8 апавяданьняў), М. Мінц (4) і А. Уайс (7).

На сямёх бачынах уступу, пад загалоўкам „Сага зялёнага лесу", доктар філялягічных навукаў праф. Алег Лойка дае агляд слаўных мамэнтаў гісторыі Беларусі ад часоў „Слова аб палку Ігаравым", аўтар якога, як думае Лойка, нарадзіўся на Беларусі, аж да часоў па Другой Сусьветнай вайне. Не абыходзіцца пры гэтым ён без гэтакіх неабгрунтаваных цьверджаньняў, як: „ад канца XIII стагодзьдзя Белая Русь (ці нат „Расея" — White Russia) трапіла ў рукі літоўскіх князёў . . . на працягу цэлага пэрыяду ад XV да XVIII стагодзьдзя ніжэйшыя клясы народу былі адарваныя сілаю ад нацыі тае самае рэлігіі й паходжаньня, ад расейскага народу . . . толькі перамога Вялікае Кастрычніцкае Рэвалюцыі адчыніла магчымасьці для сацыяльнага, эканамічнага й культурнага поступу, Белая Русь ("White Russia") сталася запраўды свабоднай" . . .

„Беларуская літаратура, — піша Лойка, — раўнуючы маладая. Першы арыгінальны зборнік вершаў Францішка Багушэвіча[2], нашага клясычнага пісьменьніка XIX стагодзьдзя, быў выданы ў 1891 годзе". Дык неабазнаны чытач можа падумаць, што беларуская літаратура пачынаецца толькі ад 1891 году (г. зн. ад даты выхаду „Дудкі беларускае", Францішка Багушэвіча), хоць бадай ці сам прафэсар Лойка думае гэтак. Аўтар уступу, між іншага, адзначыў таксама, што „кажны чацьверты беларус загінуў" у Другой сусьветнай вайне ды што ў „Партызанскай Беларусі, як наш край завецца цяпер, за чатыры гады акупацыі гэтулькі фашыстых страцілі жыцьцё, як пад Сталінградам і Курскам, разам узятымі".

Лойка цьвердзіць, што беларускае апавяданьне дасягнула сваё мастацкае дасканальнасьці ды тэматычнае й стылёвае разнастайнасьці адно па вайне. Ён запэўняе чытача, што дадзеная анталёгія, зьмяшчаючы ў сабе творы „поўныя трагізму й драматызму, далікатнага лірызму й тонкае паэзіі", дае збалянсаванае ўяўленьне аб мастацкай арыгінальнасьці, якую можна знайсьці ў сучаснай беларускай літаратуры". Бадай што другое апавяданьне ў анталёгіі, піша Лойка, „пра лясы, пра лясныя вазёры й рэкі". Літаратура народу, што жыве сярод лесу, кажа, канчаючы свой агляд Лойка, „не магла ня стацца сагаю зялёных лясоў".

Калі глянуць на даты напісаньня апавяданьняў у зборніку, дык зварачае на сябе ўвагу беспасярэдні ўплыў гістарычных падзеяў на літаратуру Савецкае Беларусі. Кідаецца ў вочы зыркая дыспрапорцыя ў рэпрэзэнтацыі паасобных пэрыядаў, што красамоўна сьветчыць, як цяжка мець дачыненьне зь літаратурнай творчасьцяй у высака спалітызаванай атмасфэры такое ўскраіннае савецкае рэспублікі, як Беларусь. Твораў дасавецкага пэрыяду ў зборніку зусім няма, хоць у падзагалоўку ён пазначаны як „Апавяданьні **беларускіх** пісьменьнікаў" наагул, а не **савецкіх** беларускіх пісьменьнікаў (тым-жа часам, дзе тая „сага зялёнага лесу" паданая найлепш, як не ў вапавяданьні Максіма Гарэцкага „Патаёмнае" з 1916-18 гадоў? Але ні Максіма Гарэцкага, ні іншых клясыкаў беларускага апавяданьня як Ядвігін Ш., або Зьмітрок Бядуля, у зборніку наагул няма).

Усяго два апавяданьні з цэлага трыццацігадовага адрэзку савецкага ўжо часу — ад 1917 па 1947 году: адно з 1927 году (Кузьмы Чорнага) й адно з 1928 году (Міхася Лынькова). 1930-я гады — пара разгрому „нацдэмаўшчыны", „узвышэнства", не прадстаўленыя ў зборніку ніводным апавяданьнем. Ніякага таксама матар'ялу з часоў вайны. Два апавяданьні з 1947 году — Алены Васілевіч і Піліпа Пестрака — ды апавяданьне Івана Навуменкі з 1957 году („Вэраніка" зь ейнай неспадзяванай канцоўкай) разварушваюць раны вайны.

Пяцьдзесятыя гады прадстаўленыя васьма апавяданьнямі (Коласа, Мележа, Брыля, Быкава, Скрыгана, Навуменкі, Лупсякова, Стральцова), шэсьцьдзесятыя — шасьцьма (Шамякіна, Кулакоўскага, Караткевіча, Пташнікава, Чыгрынава, Сачанкі).

Найстарэйшы з аўтараў у зборніку — Якуб Колас (1882-1957), прадстаўлены адною із сваіх позных „казак жыцьця" (з 1955 г.), свайго роду пераапрацаванаю народнаю казкаю;[2] наймалодшы — Міхась Стральцоў (нар. у 1937 г.), апавяданьне якога — гісторыя неадудзячанага каханьня.

Як няўхільна, бадай, у гэткім зборніку, якасьць зьмешчаных у ім апавяданьняў няроўная. Колькі зь іх, але ня шмат, на мой густ, вельмі добрыя, як апавяданьні Міхася Лынькова, Аляксея Кулакоўскага ды Васіля Быкава (найлепш мне спадабалася, аднак, мастацкая пэрліна Янкі Скрыгана „Сьлепата" — Veritatis simplex oratio est).

Апавяданьні пра вайну, бадай, найлепшыя. Хоць і наіўнаватыя, яны выдаюцца мне праўдзівымі. Гэткае, прыкладам, апавяданьне Івана Шамякіна.

Апавяданьні зборніка, за выняткам некаторых, адзначаюцца выразным беларускім калярытам і беларускім асяродзьдзем; у шмат якіх — таксама выразна нацыянальны зьмест, гэта значыцца, падзеі, пачуцьці, рэакцыі, апісваныя ў іх, адбываюцца ці набываюць сваю спэцыфічную форму ці то затым, што дзейныя асобы беларусы, ці то ў моц таго, што успамінамі й культурным падкладам яны зьвязаныя зь беларушчынай.

Колькасьць выдаваных у Беларускай ССР кніжак паважная, але нямаведама, колькі зь іх — творы беларускае мастацкае літаратуры ў беларускай мове. Паводля найсьвяжэйшых, што ў нас ёсьць, дадзеных, у 1973 годзе ў БССР выйшла 2.636 кніжных выданьняў. Нажаль, адно 463 з гэтага агульнага ліку ў беларускай мове. Прычым, цяжка сказаць, колькі зь іх належыць да мастацкае літаратуры.

За папярэднія гады ў беларускіх перакладах зьявілася цімала твораў зь літаратурай іншых народаў СССР і сусьветнае літаратуры. Асабліва высокі мастацкі ўзровень перакладаў Уладзімера Дубоўкі, Юркі Гаўрука й Язэпа Семяжона. Паколькі мне ведама, рэцэнзаваны тут зборнік — гэта першая спроба савецкага выдавецтва даць анталёгію зь беларускае мастацкае прозы ў ангельскай мове. З гэтага гледзішча й трэба вітаць гэтае выданьне.

**Томас Э. Бэрд**
Квінскі Каледж Ньюёркаўскага
Гарадзкога Ўнівэрсытэту

[1] Якуб Колас, Кузьма Чорны, Міхась Лынькоў, Іван Шамякін, Іван Мележ, Янка Брыль, Піліп Пестрак, Аляксей Кулакоўскі, Васіль Быкаў, Янка Скрыган, Іван Навуменка, Мікола Лупсякоў, Уладзімер Караткевіч, Алена Васілевіч, Іван Пташнікаў, Міхась Стральцоў, Іван Чыгрынаў, Барыс Сачанка.

[2] Хоць у кнізе імі, прозьвішчы й псэўданімы, агулам бяручы, перадаюцца паангельску ў васноўным у вадпаведнасьці зь беларускім напісаньнем і вымаўленьнем, літара „г" перапісваецца ў іх не праз "h", а праз "g", г. зн. у расейскай літаратурнай вымове гэтае літары (Aleg, Bagushevich, Skrygan, Chigrinau).



**Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569-1795). Яков Н. Мараш. Минск, издат. „Вышэйшая школа", 1971. 272 б.**

Доктар гістарычных навукаў Якаў Мараш на працягу дваццацёх гадоў кіруе гістарычны сэмінар Горадзенскага пэдагагічнага інстытуту. Асаблівую нястомнасьць выяўляе ён у дасьледваньні розных аспэктаў рэлігійнага пытаньня на Беларусі й сяньня стаўся ў Савецкім Саюзе адным зь вядучых дасьледнікаў у гэтай галіне, спэцыялізуючыся ў ватыканістыцы. Ён ведамы найбольш як аўтар манаграфіі „Из истории борьбы народных масс Белоруссии против экспансии католической церкви" (Минск, 1969) ды артыкулаў: Роль Ватикана в подготовке и утверждении Брестской унии 1596 г., у кн. „Вопросы истории религии и атеизма" (т. 11, Москва, 1963); Из истории идеологической экспансии католической церкви в Белоруссии в XVIII в., у кн. „Исследования по истории и философии Гродно" (1966); ды інш.

Разгляданая тут Марашава кніга складаецца з чатырох разьдзелаў і пяцёх бачынаў высноваў. Кажучы аўтаравымі словамі, калі „дагэтуль у працах і савецкіх і замежных гісторыкаў-марксыстых у галіне ватыканістыкі разглядаліся галоўна дачыненьні палітычныя, ... у дадзеным дасьледваньні ў васнову пакладзены гістарычна-эканамічны аспэкт" (б. 4). І. Мараш засярэджваецца на цэлым шэрагу пытаньняў аграрнае тэматыкі, гэткіх, як фармаваньне вялікага фэўдальнага землеўладаньня Каталіцкае Царквы на Беларусі, стан сялянства на ейных абшырных валоданьнях і структуры прыбыткаў. Тэма гэтая дасьледуецца ў пэрыядзе 225 гадоў, г. зн. ад Люблінскае вуніі (1569 г.) да трэйцяга падзелу Рэчы Паспалітае (1795 г.).

Мараш разглядае Каталіцкую Царкву, як ён кажа, „у двух абліччах: і як ідэялёгію і як установу". Ягоны дасьлед абапёрты на ўсебаковым і крапатлівым вывучэньні адпаведных друкаваных матар'ялаў. Аўтар выказвае жаль, што „шмат якія архіўныя дакумэнты да дасьледванае тэмы былі зьнішчаныя" немцамі ў 1941-44 гадох ды што „стан крыніцаў для тэмы не дазваляе з вычарпальнай паўнінёю высьвятліць усе ўзьнятыя пытаньні", так што побач з архіўнымі матар'яламі ён „шырака выкарыстаў і апублікаваныя крыніцы ў расейскай, беларускай, польскай і лацінскай (ды, мяркуючы зь ягоных зносак, літоўскай, нямецкай і ўкраінскай — Т. Б.) мовах: творы публіцыстыкі, летапісы, зборнікі даку-

мэнтаў, і г. д." (б. 5). Гэта дало яму магчымасьць у пэўнай сыстэме раскрыць зьмест дасьледаванае тэмы.

Выкарыстаны аўтарам матар'ял даволі багаты й раўнуючы мала дасюль быў распрацаваны. Апрача гэтага, Мараш добра азнаёмлены з рознымі выданьнямі Ватыкану.

Як і можна было спадзявацца, галоўны націск у кнізе зроблены на бескампраміснае асуджэньне Ватыкану, каталіцкіх цэркваў, кляштараў і езуітаў.

Шкада, што пры вялікім ліку навуковых працаў, якія выдаюцца ў Савецкім Саюзе, навет напісаных, як у гэтым выпадку, паважнымі дасьледнікамі, не даецца паказьнікаў, ані бібліяграфіі.

Найбольш цікавыя мясьціны ў рэцэнзаванай тут кнізе прысьвечаныя пэрыядызацыі вуніі (бб. 54-100). Найвартасьнейшы, аднак, у ёй — грунтоўны, хоць і мясьцінамі палемічны, нарыс гістарыяграфіі, які займае большую частку першага разьдзелу (бб. 20-38). Нарэшце, заслугоўваюць на тое, каб іх згадаць, пяць надзвычайна вартасных табліцаў, ня толькі дзеля зьмешчаных у іх цікавых і важных дадзеных, але й затым, што пра іх няма ані згадкі ў „Зьмесьце" кнігі. Вось яны:

Каталіцкія плебаніі на Беларусі (за 1653, 1673 і 1790 гг.) — б. 101.
Калегіі езуітаў на Беларусі — б. 103.
Дымы ў езуіцкіх валоданьнях (дадзеныя попісу 1970 г.) — б. 135.
Зьмена колькасьці сялянскіх дымоў у валоданьнях Каталіцкае Царквы на Беларусі за пэрыяд 1653-1673 гг. — б. 148.
Царкоўныя дымы ў Вялікім Княстве Літоўскім (паводля дадзеных 1790 г.) — б. 150.

У самых апошніх радкох свае працы Мараш паўтарае стандартны хвальш, што „неўзабаве па заканчэньні другое сусьветнае вайны царкоўны сабор у Львове (1946 г.) абвесьціў вунію скасаванай" (б. 247). Уолтэр Коляж сказаў пра гэта проста й ясна ў сваёй грунтоўнай працы "Religion in the Soviet Union" (Лёндан, 1961 г.): „самазваны Сынод у Львове... быў вынікам афіцыйнага тэрору й шантажу" ды прадстаўляў „менш за дзесяць працэнтаў агульнага ліку (вуніяцкага) духавенства Галіччыны". Ніводзін праваслаўны хрысьціянін, шануючы сябе, ня будзе апраўдваць гэтае трагічнае падзеі, гэтак-жа, як ніводзін каталік, шануючы сябе, ня будзе апраўдваць сілы й гвалту, якіх ужывалі польскія каталіцкія ўлады ў Заходняй Беларусі супраць праваслаўнага духавенства й вернікаў. Маючы дачыненьне з гэткімі зьвінавачаньнямі й галаслоўнымі цьверджаньнямі, як у Марашавай кнізе, заходняму чытачу найлепш карыстацца знакамітай Сьпінозавай формулай: Не сьмяяцца, не наракаць, не злавацца, а разумець.

Хоць кніга й пазначаная аўтаравымі недахопамі — тэндэнцыйнасьцяй і нястачай збалянсаванасьці ў меркаваньнях, яна надзвычайна карысная, і гэтага ня трэба недацаняць.

**Томас Э. Бэрд**
Квінскі Каледж Ньюёркаўскага
Гарадзкога Ўнівэрсытэту

**Аўген Калубовіч. Мова ў гісторыі беларускага пісьменства, І. Уводзіны: Лёс помнікаў старога беларускага пісьменства (Рукапіснага й друкаванага). Мюнхэн-Лёндан, 1974-1975, 86 б. (Адбітка із час. „Божым шляхам", Лёндан, 1974 г., № 1/139 — 4/143).**

Зьяўленьне новае, навуковага зьместу, кніжкі на сьціплым кніжным рынку беларускага замежжа трэба шчыра вітаць. І на погляд мой, паводля працоўнага стажу бібліятэчнага працаўніка, асабліва вітаць трэба зьяўленьне кніжкі бібліяграфічна-даведнага тыпу, бо, папершае, па вялічыні ўкладзенае працы мала што можна прыраўняць да бібліяграфіі, а, падругое, тэматычныя бібліяграфіі ў беларусаведнай галіне вельмі нялічныя, аднак-жа вельмі патрэбныя.

Матар'ял кніжкі пададзены ў гэткіх шасьцёх разьдзелах: Пісьмовыя сьветчаньні пра беларускія бібліятэкі й архівы XII — XVIII ст. ст.; Сьветчаньні пра гібель помнікаў пісьменства; Вывазы помнікаў пісьменства зь Беларусі; Нішчэньне помнікаў пісьменства; Спробы звароту ў Беларусь помнікаў беларускага пісьменства; Дзе цяпер помнікі пісьменства X — XVIII ст. ст.

Разгляданая кніжка, гэта рэгістрацыйна-крытычны й бібліяграфічны агляд літаратуры пра памяткі пісьменства, пра бібліятэкі й архівы Беларусі ды іхны лёс. У працах гэткага профілю будуць заўсёды недасканаласьці, пропускі, некамплетнасьць. Праблемы будуць асабліва ў працах беларускае накіраванасьці й дзеля спэцыфікі праблемы, і дзеля адсутнасьці кнігасховаў, дзе-б канцэнтравалася **уся** беларуская й беларусаведная літаратура. Ня дзіва таму, што недахопы сустракаюцца і ў разгляданай працы. Мэта майго агляду — зьвярнуць увагу на больш важныя, у кнізе неахопленыя, дадатковыя матар'ялы, і толькі ў меншай меры аналізаваць сыстэматыку й мэтодыку кампіляваньня.

Перш-наперш — справа азначэньня зьместу кніжкі. Загаловак „Мова ў гісторыі беларускага пісьменства" вельмі-ж агульны й не аддае істоты зьместу выдадзенае кніжыцы,

ход у якой найменш якраз пра мову. Толькі перагарнуўшы загаловачную балонку знаходзім загаловак другі—„Лёс помнікаў старога беларускага пісьменства". І ён не паказвае на бібліяграфічны перш за ўсё зьмест кніжыцы. Дзеля гэтага, пры каталягаваньні кніжкі ў бібліятэках, ні на картках каталёгаў, ні на дадатковых дапаможных картках, ня будзе паказаны ейны галоўны зьмест — беларусаведна важны багаты бібліяграфічны матар'ял пра старое беларускае пісьменства. У бібліяграфічныя паказьнікі каталёгаў бібліятэкаў яна таму, як правіла, ня трапіць.

Шмат выйграла-б кніжка, калі-б яна мела хоць невялікі паясьняльны ўступ пра засяг ахопленага ўлікам памятак пісьменства часу й прасторы, пра мэтодыку ды ў якой меры пры ўкладзе былі выкарыстаныя першакрыніцы, а наколькі давялося браць матар'ялы з другое рукі, пра тарнаваную сыстэму зносак, пра плянаваны засяг усяе, шырока, выглядае, задуманае працы, асабліва таму, што пад загалоўкам пастаўленая рымская адзінка, і ня ясна, ці яна паказвае на першы разьдзел, ці першую частку, ці навет першы том нямаведама колькітамовае ўсяе працы.

Пропускі ў разгляданай працы, як бачыць можна зь ніжэй пададзеных прыкладаў, даволі, нажаль, паважныя. У галіне працаў пра лёс бібліятэкаў і архіваў Беларусі ня ўзятая, прыкладам, зусім на ўвагу праца Пётры Крэчэўскага „Гісторыя беларускае кнігі", якая была апублікаваная ў зборніку "Congrés International des Bibliothécaires et des amis du livre tenu á Prague du 28 Juin au 3 Juillet 1926. Proces Verbaux et Mémoires, t. II. Prague, 1926, pp. 283-294. Гэтая праца была адначасна надрукаваная і ў зборніку „Замежная Беларусь", кн. I. (Прага, 1926, 99-116). У ёй дадзены даволі дэтальны агляд гісторыі рукапіснае й друкаванае кнігі ў Беларусі й яе кнігасховаў, прыведзена шмат статыстычных лікаў пра бібліятэкі, дадзеныя інфармацыі пра іхны лёс у часе расейскага панаваньня, пра нішчэньне беларускіх кнігаў і бібліятэкаў, прыводзіцца багатая бібліяграфія.

Карысныя дапаўненьні да зьместу кніжыцы дала-б і праца Ул. Пічэты „Пытаньне аб вышэйшай школе на Беларусі ў мінулым" (Працы Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту, № 19, 1928, б. 4-6). Там важны матар'ял пра бібліятэку Віленскай Акадэміі ды ейны лёс падчас швэдскае акупацыі Беларусі. Пічэта дае ў ёй і цікавыя дадзеныя пра Biblioteca Sapiehiana — калекцыю Льва Сапегі, — якую ў 1644 годзе для Віленскай Акадэміі передаў ягоны сын, падканцлер літоўскі, Казімер-Леў Сапега.

Пры вопісе збораў Беларускага музэю імя Івана Луцкевіча ў Вільні (б. 74-76, зноскі 306, 307) ня выкарыстаная й зусім ня прыводзіцца асноўная інфармацыйная крыніца: Антон Луцкевіч: „Беларускі Музэй імя Івана Луцкевіча" (Гадавік Беларускага Навуковага Таварыства, кн. I. Вільня, 1933, б. 176-182). Падобна й пры вопісе збораў А. Ельскага (б. 48, зноскі 208, 209, 210, 212), зробленага без выкарыстаньня асноўнае даведнае інфармацыі, якая дадзеная ў біяграфіі А. Ельскага Польскага біяграфічнага слоўніка (Polski słownik biograficzny, t. XI. 1964-65, s. 148-150).

Важны вельмі прабел, гэта нявыкарыстаньне вялікага ліку матар'ялаў датычных Беларусі ў грунтоўнай працы Edward Chwalewik. Zbiory polskie, archiwa, biblioteki, tom I-II. Warszawa, 1926, 1927. Там інфармацыі пра колькідзесят бібліятэкаў, архіваў, музэяў на беларускіх землях. Пры згадцы пра зборы Храбтовіча ня ўзятая на ўвет важная праца Н. Эрнста „Библиотека графов Хребтовичей" (Русский Библиофил", Петроград, 1914, б. 16-21). Ёсьць у ёй і статыстычныя дадзеныя.

Ня выкарыстаныя й не паказаныя найважнейшыя матар'ялы пра крыж сьвятое Афрасіні Полацкае (б. 65), як, прыкладам, вопіс крыжа зроблены ў XIX ст. М. Дуброўскім (П. Н. Батюшков. Белоруссия и Литва. С.-Петербург, 1890. Об'яснения к рисункам, б. 39-42), а з навейшых працаў: Л. В. Алексеев. Лазарь Богша — Мастер ювелир XII в. („Советская археология". Москва, 1957, 3, б. 219-244).

Пры вопісе беларускіх матар'ялаў у архівах за межамі БССР важна было-б падаць дзьве вялікія паваенныя публікацыі: „Описание инвентарей феодальных владений в Литве. Академия наук ЛССР. Центральная Библиотека. Вильнюс, 1963" ды „Собрание рукописей. Краткое обозрение рукописных фондов XI-XX вв. Центральная Библиотека Академии наук ЛССР. Вильнюс, 1963". У вапошняй кнізе ёсьць, між іншага, і вопіс фонду рукапісаў былога Беларускага Музэю імя Івана Луцкевіча.

Шкада, што выпушчаная зь віду „Бібліяграфія Скарыніяны" („Запісы", кн. 5. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхен, 1970). У ёй першы друкаваны ўлік архіўных матар'ялаў пра доктара Скарыну ды таксама шмат ведамак пра пашырэньне ды перахоўваньне выданьняў Скарыны й рукапісных іх водпісаў.

Калі на б. 8-20 кніжыцы аўтар называе ведамыя яму бібліятэкі Беларусі XII-XVIII ст. прыватных асобаў, пра якія існуюць хоць нейкія, часам і ўскосныя толькі, паказаньні, шкада, што не названая там бібліятэка гэткае выдатнае постаці гісторыі культуры Беларусі, як доктар Францішак Скарына. Сьветчаньне пра гэтую бібліятэку, з паказаньнем навет ейнага выгляду, дае дрэварыт зь Бібліі Скарыны, на якім ягоны партрэт.

Ведамы часткова й склад бібліятэкі Скарыны. Ужо П. В. Валадзіміраў у сваёй манаграфіі 1888 году пра Ф. Скарыну высьніў, што калі Скарына ў Празе пераклада ды выда-

ваў кнігі Бібліі, пад рукамі ў яго была чэская 1506 году Біблія, лацінская „Вульгата", лацінскія камэнтары да Бібліі Міколы Лірана, „Хроніка сьвету" 1493 году Гартмана Шэдэля; з царкоўнаславянскіх-жа рукапісных тэкстаў — Псалтыр, Кніга Быцьця, Кніга Ёва, Эклезіяст, Прыслоўі Салямона ды больш дзесяці кнігаў іншых.

Загана асабліва вялікая працы, што ў ёй выпушчаныя зусім зь віду вельмі важныя, унікальныя для старога беларускага пісьменства, памяткі пісаныя арабіцай. Уражае гэта асабліва таму, што існуе знакамітая публікацыя А. К. Антановіча, у якой дадзены ўлік ды грунтоўны вопіс больш дваццаці напісаных пабеларуску арабіцай рукапісных кнігаў. Дадзеныя там узоры пісьма, мовы, паказаныя месцы паўстаньня, перахоўваньня рукапісаў ды бібліятэчныя іх нумары (А. К. Антонович. Белорусские тексты, писаные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. Вильнюс, 1968, 418 б. + 28 ілюстрацыяў).

Улік ды вопіс Антановіча беларускіх пісьмовых памятак арабіцай дапоўнены ўжо й новымі знаходкамі напісаных пабеларуску арабіцай кнігаў бібліятэкі Брытанскага Музэю, пра што ў "The Byelorussian Tartars and their Writings", by G. M. Meredith-Owens and Alexander Nadson (The Journal of Byelorussian Studies. Vol. II, № 2. London, 1970, pp. 141-176).

У разгляданай кнізе ніякага наагул успаміну пра само існаваньне пісаных арабіцай памятак беларускага пісьменства. Ня згаданы навет і даўно ведамы ды дакладней апісаны беларускі „Ай Кітаб" з Сорак Татараў былога Беларускага Музэю імя Івана Луцкевіча ў Вільні.

З драбнейшых хібаў працы зьвярнуць трэба ўвагу на няўдалыя таўталягіныя выражэньні „пісьменства ў **нацыянальнай** беларускай мове" (б. 49, 63). Мова кажнага народу ягоная „нацыянальная" мова. Калі мова беларуская, дык яна само сабой і „нацыянальная". Вельмі няўдалы пераклад царкоўнаславянскага назову ведамае багаслужэбнае кнігі „Тріодь цветная", якую аўтар пабеларуску называе „Трыодзь каляровая" (б. 31, 74). Моляцца ў праваслаўных сьвятынях пэўна-ж, не па „каляровых" літургічных кнігах.

У кніжцы крапатліваю працаю гадоў сабраны ды кампактна пададзены багаты інфармацыйна-бібліяграфічны матар'ял пра былыя й існуючыя памяткі старога беларускага пісьменства, пра архівы, пра бібліятэкі. Вялікая шкода, што кніжка ня мае канечных ў выданьнях гэткага зьместу паказьнікаў — асабовага, геаграфічнага, прадметнага. Зь імі яна магла-б служыць каштоўным падручным даведнікам для зацікаўленых памяткамі беларускага пісьменства дасьледнікаў. Без паказьнікаў-жа карыстацца ёю як даведнікам вельмі цяжка, бо каб знайсьці, што пра тую ці іншую кніжку, бібліятэку ці архіў у кнізе сказана, і ці яны там наагул узятыя на ўвагу, даводзілася-б кажны раз перагортваць усю кніжку.



Ня шмат хіба зможа паправіць гэты важны недастатак і тое, калі нейкія паказьнікі будуць дадзеныя пры канцы ўсяе — выглядае вельмі шырока, у колькіх частках, задуманае працы, — бо матар'ялы часткі першае будуць тады губляцца ў масе розных іншых матар'ялаў.

Усё-ж, не зважаючы на ўсе няўлікі, на важныя пропускі ды на іншыя недастаткі, праца аўтара піянерская, як першая спроба ўліку, дакумэнтацыі ды арганізацыі матр'ялаў пра памяткі старога беларускага пісьменства, пра бібліятэкі, пра архівы, яна бясспрэчна будзе карыснаю пры далейшай працы над іх выяўленьнем, паўнейшым улікам, дакладнейшым вопісам.

**В. Кіпель**

**Вопросы истории. История СССР и БССР. Всеобщая история. Межвузовский сборник. Выпуск первый. Издательство БГУ им. В. И. Ленина, Минск, 1974. 256 стр. 2300 экз.**

**Вопросы истории. История СССР и БССР. Межвузовский сборник. Выпуск второй. Издательство БГУ им. В. И. Ленина, Минск, 1975. 224 стр. 800 экз.**

**Рэдкалегія:** Н. В. Каменская — гал. рэд., В. М. Фамін — заст. гал. рэд. Л. Р. Казлоў — адказны сакратар, Л. С. Абэцэдарскі, А. Бэнэдыктаў, Г. І. Ваўчок, Н. Д. Коўшараў, Ф. М. Нячай, П. З. Савачкін, Л. М. Шнеерсон, Б. М. Фіх.

Перад беларускай гістарычнай навукай гадамі ўжо стаіць вoйстрае пытаньне наладжаньня свайго прафэсійнага пэрыядычнага выданьня. Адмысловага гістарычнага часапісу, аднак, не зважаючы на дамаганьні гісторыкаў і грамадзкасьці Беларусі, партыя тымчасам не дазваляе. Кадры-ж гісторыкаў у міжчасе паступова растуць. У Беларускай ССР цяпер налічваецца дзесьці больш за тысячу „працаўнікоў гістарычных навукаў"[1]

Тым ня менш, у сэньсе магчымасьцяў друкавацца стан не зьмяніўся на лепшае з 1962 году, калі на ўсесаюзнай нарадзе гісторыкаў у Маскве прадстаўнік Інстытуту гісторыі АН СБСР І. Краўчанка жаліўся: „Мы, прыкладам, у сябе зрыхтавалі колькі тамоў дакумэнтаў і матар'ялаў, вельмі цікавых для навукі, але апублікаваць іх пазбаўленыя магчымасьці".[2]

Пэўнай спробай пашырыць друкаваную плошчу для гісторыкаў Беларусі мае быць новая сэрыя міжвузаўскіх зборнікаў-гадавікоў „Вопросы истории", што пачалі выходзіць у 1974 годзе ў выдавецтве Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсы-

тэту. Выдаюцца яны, аднак, пад грыфам Мінскага ордэну працоўнага Чырвонага сьцягу Дзяржаўнага пэдагагічнага інстытуту імя Горкага, дзе працуе й бальшыня аўтараў, што зьмясьцілі свае артыкулы ў агляданых тут двух зборніках. Апрача працаўнікоў пэдінстытуту, у зборніках апублікавалі свае працы таксама выкладчыкі Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту імя Леніна, Гомельскага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту, Горадзенскага пэдагагічнага інстытуту імя Янкі Купалы ды Магілеўскага пэдагагічнага інстытуту. У гэткай чароднасьці ў кажным із зборнікаў і зьмешчаньня працы выкладчыкаў названых ВНУ. Артыкулы-ж аўтараў з аднае й тае самае ўстановы ў кажным зборніку зьмешчаньня адзін за адным паводля альфабэтнага парадку аўтаравых прозьвішчаў, не зважаючы на тое, — хто якой тэмай займаецца. Гэты дзівосны прынцып, які ідзе, відаць, ад завойстранага ўсьведамленьня акадэмічнага статусу (каб не падумалі хаця, што хто ў зборніку першы, той лепшы), пацягнуў за сабою вельмі хаатычнае разьмеркаваньне матар'ялу: заміж нармальнае ў гэткіх выпадках храналягічнае пасьлядоўнасьці, ці разьмяшчэньня артыкулаў паводля якога-небудзь іншага аб'яднальнага прынцыпу, атрымалася альфабэтная трасянка. Вось, прыкладам, якімі загалоўкамі пачынаецца (ды падобна й канчаецца) другі зборнік:

Мануфактурная вытворчасьць гарадоў Беларусі ў 30-ых — 50-ых гадох XIX ст.

Аднаўленьне й далейшае разьвіцьцё агульнаадукацыйных школаў у БССР у чацьвертай пяцігодцы (1946-1950 гг.).

Клясавы й палітычны характар „нищелюбия" старажытнарускіх князёў.

Рост творчае актыўнасьці машынабудаўнікоў і мэталяапрацоўнікаў БССР у паваенных гадох (1945-1950 гг.).

Зь гісторыі змаганьня зь няпісьменнасьцяй у Беларусі першымі гадамі савецкае ўлады (1917-1920 гг.), і г. д.

Уражаньне храналягічнае й тэматычнае трасянкі ўзмацняецца яшчэ й тым, што артыкулы ў зборніках кароценькія (таксама паказальнік „голаду" на друкаваную плошчу). У першым зборніку на 22-х аўтараў у сярэднім прыпадае па 11 старонак на артыкул, у другім — 25-х аўтараў — па 9 старонак.

Цікава, што ў другім зборніку зь ягонага загалоўку выпушчаная ўжо „всеобщая история"; засталася, такім парадкам, „история СССР и БССР". Разьдзел-жа агульнае гісторыі ў першым зборніку складаўся з трох атрыкулаў (бб. 216-254): 1. пра савецка-францускія дачыненьні ў 1966-1977 гг.; 2. пра пазыцыю эгіпецкага ўраду ў пытаньні абвешчаньня вайны Нямеччыне (верасень 1939 г.); і 3. пра некаторыя пытаньні вывучэньня гісторыі работніцкага руху ў разьвітых капіталістычных краінах у сьвятле пастановаў XXIV зьезду КПСС.



Кідаецца ў вочы таксама розьніца тыражу першага зборніка супраць другога: 2300 экз. і 800 экз... Меншы другі зборнік і лікам балонак.

У другім зборніку, аднак, больш збалянсаваная прапорцыя рэвалюцыйна-савецкае тэматыкі й дарэвалюцыйнае: у першым зборніку з усіх 22-х артыкулаў толькі адзін быў прысьвечаны дасавецкаму пэрыяду („Польскія навукоўцы пра Беларусь. Першая палавіна XIX ст."); у другім — з 25-х артыкулаў 7 на тэмы дасавецкага пэрыяду.

Гэтак менш-больш выглядаюць „вонкава" два першыя зборнікі з новае сэрыі „Вопросы истории. История СССР и БССР".

Да вонкавага аспэкту, праўда, належыць таксама й мова выданьня — расейская — яшчэ адзін довад напорнае русыфікацыі, на замацоўваньне якое пастаўленая й гістарычная навука на Беларусі.

Што да самога зьместу абодвых зборнікаў, дык у вялікай меры запоўненыя яны партыйна-палітычнай, эканамічна-вытворчай і партыйна-адукацыйнай тэматыкай. Нічога канцэптуальна новага артыкулы гэтае катэгорыі не даюць; наадварот — яны зьведзеныя ў асноўным да сухога мэханічнага пераліку датаў партыйна-урадавых пастановаў ды афіцыйнае статыстыкі партыйцаў, калгасаў, брыгадаў, рублёў, працэнтаў, трактароў, ільнацерабілак, кароваў, авец, і г. д. Ніводзін з аўтараў, пры гэтым, ані словам не паставіў пад сумлеў верагоднасьці сваіх статыстычных даных. Савецкая статыстыка, разам зь іншымі партыйнымі догмамі, сумлевам не падлягае!

Тым актуальней гучыць у канцы другога зборніка, як свайго роду абагульненьне ўсяе статыстыкі ў зборніках, выказваньне Фэлікса Дзяржынскага з 1926 году: „Я цьверджу, што лікі, якія даюць нам трэсты, разьдзьмуханыя, што яны фантастычныя. Гэтая справаздачнасьць, якую мы зьбіраем, гэта фантастыка, кваліфікаваная хлусьня. Рэч у тым, што ў нас няма адказнасьці за лікі" (б. 222).

Пытаньне верагоднасьці афіцыйнае статыстыкі ў беларускіх савецкіх гісторыкаў вычэрпваецца тымчасам сьцьверджаньнем правільнага назіраньня, якое зрабіў Я. Трашчонак у сваім артыкуле пра асноўныя прынцыпы гістарычнае крытыкі (II, 215-222): „Нутраная крытыка масавых дакумэнтальных крыніцаў — найменш распрацаваная галіна крыніцаведы савецкае эпохі" (б. 222).

„Няма адказнасьці" ў артыкулах абодвых зборнікаў ня толькі за лікі, але й за іншыя рэчы. У шмат якіх артыкулах, прыкладам, апісваюцца падзеі й разьвіцьцё ў савецкай Беларусі 1930-х — 1940-х гадоў, (I: 96-109; 149-158; 200-215. II:

114-125; 174-184; 191-197). Але ані Сталіна ані нат „культу асобы Сталіна" ў гэтых апісаньнях і заваду няма. На Беларусі, як вынікае з артыкулу Шастакова пра міжнародныя сувязі БССР 1930-мі гадамі, сацыялізм будаваўся „при благоприятных условиях" (II, 115). Ужываныя некаторымі аўтарамі гэткія выразы як „не зважаючы ня цяжкасьці й нястачы", як правіла, ніякіх далейшых тлумачэньняў ня маюць: разгляд „цяжкасьцяў і нястачаў" савецкага пэрыяду ў кампэтэнцыю гісторыкаў не ўваходзіць (гл. II, 197).

Інэрцыя бяскрытычнага ўспрыйманьня партыйна-прапагандавых шаблёнаў дзеіць і ў некаторых іншых выпадках. Гэтак, прыкладам, у моц догмы пра рэакцыйнасьць рэлігіі, Паўлючэнка ў сваім артыкуле „Да пытаньня пра рэакцыйную ролю праваслаўнае царквы ў Беларусі ў пэрыядзе рэвалюцыі 1905-1907 гг." піша: „Праваслаўная й каталіцкая, магамэтанская й юдэйская, лютэранская рэлігіі — усе былі адзіныя ў змаганьні з рэвалюцыйным рухам" (II, 190). У Паўлючэнкавым пераліку цэркваў „каталіцкая" датычыцца, пэўна-ж, перш-наперш да польскае каталіцкае царквы, якая, як ведама, адыграла выдатную ролю ў гісторыі аднаўленьня польскае дзяржаўнасьці й польскага рэвалюцыйнага руху ў царскай Расеі.

Пра рэвалюцыйна-дэмакратычны-ж характар польскае нацыянальна-вызвольнае справы ціраз выказваліся й „клясыкі марксызму-ленінізму", аб чым, бадай, ведама й Паўлючэнку, бо ў тым-жа самым зборніку, у якім зьмешчаны ягоны артыкул, у артыкуле Палонскага пра сацыяльна-эканамічную палітыку царызму на Беларусі ў XIX ст. чытаем: „К. Маркс, Ф. Энгельс, В. І. Ленін выказваліся пра Польшчу таго часу як пра вогнішча ўсходняэўрапейскае аграрнае дэмакратыі — адзіна магчымае формы вызваленьня ўсіх славянскіх народаў" (II, 82).

Дык польскі нацыянальна-вызвольны рух ня згубіў свайго рэвалюцыйна-дэмакратычнага характару і ў часох рэвалюцыі 1905-1907 гадоў; ня згубіла свае цэнтральнае ролі ў гэтым руху й польская каталіцкая царква (тое, што царква гэтая ўважала сябе за карэнную на Беларусі, гэта пытаньне асобнае, і гэта аніяк не зьмяншала рэвалюцыйнае ролі польскае каталіцкае царквы ў межах царскае імпэрыі; гэткім-жа рэвалюцыйна-дэмакратычным фактам была й лятувіская каталіцкая царква). Ставіць, гэтак як робіць Паўлючэнка, каталіцкую царкву ўпоравень зь дзяржаўнай, упрывілеяванай расейскай праваслаўнай царквой як рэактыйную антырэвалюцыйную сілу — гэта зыркі прыклад мэханічнага прыкладаньня да мінуўшчыны вымогаў сучаснае атэістычна-прапагандавае кампаніі савецкае ўлады, жалюгодная „навуковасьць", да якое прыводзіць партыйнасьць у гістарыяграфіі.



Паднявольная залежнасьць ад маскоўскага партыйнага цэнтру беларускіх гісторыкаў у іхным распрацоўваньні тэмаў, што выходзяць за тэрытарыяльныя межы рэспублікі, відавочная з прыкладу артыкулаў Казлова й Шнеерсона ў першым зборніку на тэмы ўсеагульнае гісторыі ды артыкулу Шастаковае ў другім зборніку на тэму міжнародных сувязяў БССР. У ніводным зь іх няма спасылак на дакумэнтальныя першакрыніцы тых краёў, пра якія ідзе гутарка — Францыю, Вялікабрытанію, Чэхаславаччыну, Амэрыку. Пазнаваць іхную мінуўшчыну й дачыненьні Беларусі да гэнае мінуўшчыны сучасны гісторык на Беларусі можа толькі з савецкага партыйнага друку; блізу ніякага доступу да замежных першакрыніцаў артыкулы абодвых зборнікаў не здраджаюць.

Пры ўсіх мэтадалягічных заганах і тэматычнай абмежаванасьці, некаторыя артыкулы, аднак, маюць сваю пазнавальную вартасьць. Да ліку гэткіх належыць, прыкладам, артыкул В. Чапко ў другім зборніку пра эканамічныя сувязі Беларусі й Украіны ў першай палавіне XIX ст. або артыкул Каменскае ў тым-жа зборніку пра змаганьне зь няпісьменнасьцяй на Беларусі ў 1917-1920 гадох ды некаторыя іншыя матар'ялы гэтага зборніка.

У першай кнізе сюды трэба залічыць перш-наперш артыкул Чыкалава „Склад пэдагагічных кадраў школаў БССР у гады восьмае пяцігодкі" (87-96). Падаваная аўтарам статыстыка выкладчыкаў беларускае мовы й літаратуры ды расейскае мовы й літаратуры, а таксама некаторыя іншыя дадзеныя пра стан пэдагагічных кадраў, даюць пэўныя магчымасьці ўгляду ў засакрэчванае савецкаю ўладаю пытаньне ролі беларускае мовы й беларускамоўных школаў у адукацыйнай сыстэме БССР. Артыкулаў гэткіх, аднак, ня шмат і не яны характарызуюць першыя два зборнікі новае сэрыі. Асноўнае, пра што гэтыя зборнікі сьветчаць, гэта пра дасьледніцкую скованасьць беларускае гістарычнае навукі й ейную палітычна-прапагандовую функцыю.

**Я. Запруднік**

---

[1] У 1970 годзе, паводля даведніка Цэнтральнага статыстычнага ўпраўленьня пры СМ СССР „Народное образование, наука и культура в СССР", выд. „Статистика", Москва, 1971, стр. 256-257 у БССР было 989 „працаўнікоў гістарычных навукаў".

[2] Е. М. Жуков, і інш., рэд. „Всесоюзное совещание о мерах улучшения подготовки научно-педагогических кадров по историческим наукам. 18-21 декабря 1962 г.", выд. „Наука", Москва, 1964, стр. 95.

**Мікалай Сташкевіч. Непазбежнае банкруцтва (З гісторыі палітычнага краху нацыяналістычных партый у Беларусі. 1917-1925 гг.). Бібліятэчка газэты „Голас Радзімы". Мінск, 1974, 140 б.**

У сваёй кніжыцы М. Сташкевіч даў стандартную партыйную вэрсію палітычных падзеяў 1917-25 гг. і ўзяўся запярэчыць „тэзіс" аб „штучнасьці савецкае ўлады на Беларусі". Аўтар даволі часта спасылаецца на друкаваныя й архіўныя крыніцы. Зь іх, аднак, ён падбірае толькі тое, што пасуе да схемы сучаснай партыйнай прапагандную схэму мінуўшчыны. Усё-ж некаторыя факты заслугоўваюць на ўвагу. Прыкладам, лік бежанцаў зь Беларусі на 1 лютага 1917 году: 3.200.512. Усіх жыхароў беларускіх губэрняў паводле перапісу 1897 г. было 8.518.248. Значыцца больш траціны жыхарства Беларусі, калі там устанаўлялася бальшавіцкая ўлада, была вонках свайго краю. Факт гэты трэба асэнсоўваць зь іншым лікам: больш за паўтара міліёна расейскага войска на Беларусі ў 1917-18 гадох, якое й было вырашальным фактарам у ходзе далейшых падзеяў.

У 1925 годзе Вільгельм Кнорын, бальшавіцкі дзеяч на Беларусі, пісаў: „Заснавальніцай і творцай камуністычнай арганізацыі была старая бальшавіцкая гвардыя, закінутая на Беларусь вайною зь Ленінграду, Масквы, Іванава". У 1951 годзе міністар нутраных справаў БССР Л. Цанава паясьняў Кнорына: „Перамогу савецкай улады на Беларусі ў значнай меры забясьпечыла тая акалічнасьць, што тут праходзіў заходні фронт, на якім былі сканцэнтраваныя масы работнікаў і сялянаў цэнтральных раёнаў Расеі, апранутых у жаўнерскія шынэлі" (гл. артыкул Я. Менскага: „Чаму ды як была ўтвораная БССР?" у „Беларускім зборніку", Мюнхэн, 1955, кн. I, б. 13).

Замоўчваючы масу важных фактаў, Сташкевіч блытаецца маніпулюючы іншымі ў падмацаваньне свае „тэзы" пра масавае, быццам-бы, падтрымваньне беларусамі бальшавікоў. Гэтак, прыкладам, пішучы пра Беларускую Сацыялістычную Грамаду, ён прызнае, што „к восені 1917 году ў яе радох налічвалася 5 тысяч членаў" (б. 13). У іншым-жа месцы аўтар падае, што ў чырвені 1918 году на акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі — каля 80% тэрыторыі сучаснае БССР — было 4.400 камуністаў (б. 44). Інтэрпрэтацыя гэтых лікаў у Сташкевіча тыпова партыйная: палітычны кірунак Беларускае Сацыялістычнае Грамады ня меў народнага падтрыманьня, а вось бальшавіцкі — меў! Агульна ведама, што ўмацаваліся бальшавікі ў Беларусі ня ў выніку падтрыманьня іх беларускім народам — яго яны ня мелі. На беларускія землі савецкая ўлада была прынесеная з усходу на штыкох расейскіх войскаў.

Я. Запруднік





## ДНІ БЕЛАРУСАВЕДНЫХ СТУДЫЯЎ У АТАВЕ

Ад 19 да 27 красавіка 1975 году на Ўнівэрсытэце Атавы, сталіцы Канады, былі наладжаныя „Дні Беларускіх Студыяў". Агульная тэма дзён студыяў была: „Прысутнасьць Беларусі на Паўночна-Амэрыканскім кантынэнце". Арганізавалі дні студыяў Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Канадзе.

На праграму дзён студыяў склаліся: выстаўка беларускага народнага мастацтва, аўтарскі вечар Натальлі Арсеньневай, двудзённая навуковая канфэрэнцыя з банкетам у чэсьць яе ўдзельнікаў і з прамоваю прадстаўніка канадыйскага фэдэральнага ўраду.

### Аўтарскі вечар Натальлі Арсеньневай

Вечар паэзіі Натальлі Арсеньневай адбыўся ў праграме Дзён Беларускіх Студыяў на Ўнівэрсытэце Атавы ў пятніцу, 25 красавіка 1975 году. Прысутных было каля ста чалавек, сярод якіх можна было бачыць прадстаўнікоў абодвух атаўскіх унівэрсытэтаў, дзяржаўнага дэпартамэнту фэдэральнага ўраду, культурна-грамадзкіх этнічных арганізацыяў Канады, студэнтаў і шматлікіх прадстаўнікоў беларускага грамадзтва.

Вечар, і адначасна дні беларусаведных студыяў, адчыніла сп-ня Івонка Сурвілла, старшыня Інстытуту, вітаючы й паэтку, і ўсіх прысутных. У сваёй прамове яна казала:

„Гэтыя Дні Беларусаведных Студыяў вынік захадаў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе, Славянскага Аддзелу Атаўскага Ўнівэрсытэту, сяброў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў ЗША, Нацыянальных Музэяў Канады, зь якіх Нацыянальны Музэй Чалавека наладзіў выстаўку беларускага народнага мастацтва, а таксама Праграмы Шматкультур'я Дзяржаўнага Дэпартаманту, без дапамогі якога нам цяжка было-б справіцца з коштамі спалучанымі з наладжаньнем дзён студыяў. Ад імя Беларускага Інстытуту складаю падзяку ўсім установам, арганізацыям і асобам, якія

прынялі ўдзел у арганізацыі Дзён Беларускіх Студыяў. Асаблівую падзяку выказваю сп-ні Натальлі Арсеньневай, якая згадзілася прыехаць да Атавы, каб прыняць удзел у вечары сваё паэзіі й у тыдні студыяў".

Ад Унівэрсытэту Атавы й паэтку, і ўдзельнікаў вечару прывітаў дырэктар Славянскага Аддзелу ўнівэрсытэту праф. др. Канстантын Біда, які ў сваёй прамове, міжіншага, сказаў:

„Мы вельмі радыя, што гэтая культурна-навуковая падзея адбываецца на Ўнівэрсытэце Атавы. Не зважаючы на ўсе перамены ды крытычныя поры гісторыі, беларускі народ застаўся пры сваіх нацыянальных імкненьнях, захаваў сваю нацыянальную жыцьцёвасьць ды сваю культурную самабытнасьць. Беларусь засталася краем вялікіх паэтаў, пісьменьнікаў ды выдатных вучоных... Мы горача вітаем прадстаўнікоў беларускага грамадзтва зь іхнай працай, іхнымі дасягненьнямі, і жадаем удачы ў гэтай канфэрэнцыі".

Уводзіны ў мастацкую істоту паэтычнае творчасьці Натальлі Арсеньневай даў прысутным прафэсар Славянскага Аддзелу ўнівэрсытэту др. Багдан Пляскач. Далейшую праграму вечару вёў праф. Антон Адамовіч. Апрача самое паэткі, вершы ейныя чыталі праф. А. Адамовіч, сп-чня Ева Пашкевічанка, сп-ня Вера Бартуль, др. Вольга Арэхва, др. Янка Запруднік. Прафэсар Унівэрсытэту Альбэрты, ведамы ўкраінскі паэта Яр Славутыч, адчытаў адзін верш Арсеньневай у ўкраінскім перакладзе, які ён зрабіў 30 гадоў таму.

Пасьля закончанага чытаньня вершаў букет красак паэтцы ўручылі Юльянка Грыцук ды Ганя Сурвілла з словамі: „У Вашых вершах Вы аддалі нам Вашае сэрца, з гэтымі кветкамі мы аддаём Вам нашы". Аўтарскі вечар беларускае паэткі адзначыла на сваіх бачынах і атаўская прэса. Газэта „Le Droit" зьмясьціла пры гэтым і фатаграфію паэткі.

## Беларусаведная канфэрэнцыя

Беларусаведная канфэрэнцыя адбывалася 26-27 красавіка 1975 году. Было прачытана на канфэрэнцыі, у ангельскай мове, 12 рэфэратаў. Старшынямі трох сэсіяў канфэрэнцыі былі па чарзе др. Янка Запруднік, др. Барыс Рагуля й др. Багдан Пляскач. Прачытаныя на канфэрэнцыі рэфэраты:

Праф. Сьцяпан Горак, выкладчык гісторыі Ўсходня-Айльнойскага Ўнівэрсытэту, ЗША: „Пытаньні пэрыядызацыі й тэрміналёгіі гісторыі Беларусі".

Др. Вітаўт Кіпель, заступнік дырэктара навукова-тэхнічнага аддзелу Публічнае Бібліятэкі Ню Ёрку, ЗША: „Раньнія беларускія іміграньты ды некаторыя статыстычныя дадзеныя пра беларусаў Паўночнай Амэрыкі".

Мгр. Алесь Грыцук, сакратар Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе, бібліятэкар Квійнс Унівэрсытэту ў Кінгстане: „Ідэялягічныя ды сацыялягічныя асновы беларускага арганізаванага жыцьця ў Канадзе".

Мгр. Раіса Станкевіч, старшыня галоўнае ўправы Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі: „Беларуская моладзь у Паўночнай Амэрыцы, яе дзейнасьць і дасягненьні".

Др. Вітаўт Тумаш, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў ЗША: „Беларусаведныя дасьледваньні й публікацыі ў ЗША".

Мгр. Фрэнк Сысын, Украінскі Дасьледны Інстытут ў Гарвардзе: „Пэрспэктывы разьвіцьця ўкраінаведы й беларусаведы ў Паўночнай Амэрыцы".

Др. Раіса Жук-Грышкевіч, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Кнадзе, райца Канадзкае Кансультатыўнае Рады Шматкультур'я: „Беларусы ў шматкультурнай Канадзе".

Праф. др. Янка Запруднік, выкладчык гісторыі на Квійнс Коледжы Гарадзкога Ўнівэрсытэту Ню Ёрку: „Савецкая рэакцыя на дзейнасьць беларусаў у Паўночнай Амэрыцы".

Праф. Антон Адамовіч, віцэстаршыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў ЗША: „Беларускія пісьменьнікі на Паўночна-Амэрыканскім кантынэньце".

Праф. Яр. Славутыч, выкладчык славістыкі на Ўнівэрсытэце Альбэрты, Канада: „Новы Сьвет бачаны беларусам — апавяданьні Ўладзімера Глыбіннага".

Праф. др. Вольга Арэхва, выкладчык славістыкі ў Паўдзённа-Айльнойскім Унівэрсытэце ЗША: „Вобраз восені ў вершах Натальлі Арсеньневай".

Др. Станіслаў Станкевіч, рэдактар газэты „Беларус", ЗША: „Беларускія савецкія пісьменьнікі ў Амэрыцы й пра Амэрыку".

Падчас канфэрэнцыі мастацка-выдавецкі клюб „Пагоня" наладзіў выстаўку беларускіх і беларусаведных выданьняў. У сыботу вечарам, 26 красавіка, быў зладжаны ў чэсьць удзельнікаў канфэрэнцыі банкет, з прамоваю на якім пра істоту ды мэты палітыкі шматкультур'я канадыйскага фэдэральнага ўраду выступіў дырэктар урадавае Праграмы Шматкультур'я сп. М. Андрассі. Пры нагодзе банкету ўдзельнікаў канфэрэнцыі прывітаў рэктар Атаўскага Ўнівэрсытэту праф. др. Рожэ Гіндон (Roger Guindon).

Працы беларусаведнае канфэрэнцыі ў Атаве будуць апублікаваныя ў выданьні Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе.

### Выстаўка беларускага народнага мастацтва

Выстаўка на Ўнівэрсытэце Атавы была адкрытая ад 19 да 27 красавіка 1975 году. Арганізаваў выстаўку Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў судзейнасьці з Канадыйскім Нацыянальным Музэем Чалавека, — які пераняў на сябе тэхнічны бок арганізацыі, — ды з Унівэрсытэтам Атавы. Жыхароў сталічнае Атавы аб выстаўцы паведамлялі каляровыя плякаты з узорам беларускага народнага арнамэнту ды тэкстамі ў мовах францускай і ангельскай, а таксама інфармацыі й абвесткі ў атаўскай прэсе.

Адкрыцьцё выстаўкі адбылося ў сыботу 19 красавіка ў прысутнасьці прадстаўнікоў Нацыянальнага Музэю Чалавека, Атаўскага Ўнівэрсытэту, Дзяржаўнага Сакратар'яту, урадоўцаў фэдэральных міністэрстваў ды прадстаўнікоў этнічных групаў. Адчыняючы выстаўку сп-ня Івонка Сурвілла, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе, казала:

„У праграму дзён нашых студыяў мы пастанавілі ўлучыць выстаўку беларускага народнага мастацтва дзеля важнасьці гэтае формы мастацкае выявы ў жыцьці і канадыйцаў беларускага паходжаньня, і беларусаў наагул. Балшыня паказаных тут рэчаў перад іх набыцьцём Нацыянальным Музэем Чалавека была собскасьцяй беларускіх сем'яў Новага Кантынэнту, некаторыя застаюцца іхнымі й цяпер. Прывезьлі яны іх зь Беларусі не зважаючы ціраз на вялізарныя цяжкасьці. Яны імі гордыя, уважаюць іх за свой бясцэнны скарб, ды далей іх і тут памнажаюць і гэтым даводзяць, што ход тут не пра штосьці аджыўшае, але што мастацтва гэтае далей разьвіваецца ды ўпрыгожвае жыцьцё тысячаў жыхароў Канады".

Ад Нацыянальнага Музэю Чалавека прамаўляў др. Р. Клімаш, які, міжіншага, казаў:

„Мы ганарымся, што нам дадзеная была нагода прыймаць удзел у арганізацыі гэтай гістарычнай першай выстаўкі беларускага народнага мастацтва ў Атаве. Музэй Чалавека мае калекцыю беларускага народнага мастацтва, што запачаткаваная была пяць гадоў таму, і якая ўсьцяж папаўняецца ды расьце".

На выстаўцы паказаныя былі экспанаты з галіны ткацтва, народнае вопраткі, вышываньня, вязаньня, інкрустацыі саломкай, цырамікі. Быў тут таксама вясельны каравай, смургонскія абаранкі, вялікодныя бабкі. У шасьці вітрынах разьмешчаныя былі меншыя рэчы. Большыя-ж, як дываны, посьцілкі, некаторыя вышываныя ды вязаныя рэчы, былі разьвешаныя на сьценах залі. Тэксты ў мовах францускай ды ангельскай паясьнялі кажны экспанат. Наведвальнікі пры ўваходзе на выстаўку маглі прачытаць дадзеную ў дзвёх афіцыйных мовах Канады, ангельскай ды францускай, кароткую даведку пра Беларусь, беларускі народ, беларускую мову, культуру, традыцыйнае народнае мастацтва.

Інфармацыі пра выстаўку й пра Дні Беларускіх Студыяў, разам зь беларускімі народнымі песьнямі й музыкай, перадаваліся шмат разоў у дзень праз унівэрсытэцкае радыя, гаіасьнікі якога былі інсталяваныя і ў залі выстаўкі. Інтэрв'ю пра выстаўку ды беларускае народнае мастацтва дала для радыя сп-чня Ева Пашкевічанка. Паведамленьні й справаздачы з выстаўкі былі зьмешчаныя ў атаўскай прэсе — "The Ottawa Journal", "The Ottawa Citizen", "Le Droit" ды іншых.

**В. Кіпель**

## БЕЛАРУСКАЯ ЭМІГРАЦЫЙНАЯ ЛІТАРАТУРА

### Сымпозіюм на Ўнівэрсытэце Нью Ёрку

Факультэт славянскіх моваў Квінскага Коледжу Гарадзкого Ўнівэрсытэту Нью Ёрку ў 1973/74 навучальным годзе даў сэрыю лекцыяў пра замежную беларускую літаратуру ды некаторыя іншыя аспэкты беларускае культуры.

Першаю была лекцыя др. **Вітаўта Кіпеля** пра беларускія ды беларусаведныя калекцыі бібліятэкаў ЗША. Разгледзіўшы амэрыканскія даведныя, навуковыя, геаграфічныя, эканамічныя, гістарычныя ды архіўныя фонды беларусікі, даўжэй дакладчык спыніўся на калекцыях беларускае мастацкае літаратуры ды на паасобных беларускіх аўтарах-пісьменьніках, творы якіх можна знайсьці ў бібліятэках ЗША. Была таксама дадзеная характарыстыка таго амэрыканскага чытача, які беларускае кніжкі шукае ды ёю карыстаецца.

Лекцыя праф. **Антона Адамовіча** была прысьвечаная разгляду пачаткаў беларускае літатратуры на эміграцыі. Асабліва дэтальна быў прааналізаваны літаратурны профіль часапісу „Крывіч", 12 нумароў якога ў гадох 1923-1927 выйшла ў Коўні пад рэдакцыяй Вацлава Ластоўскага. У гэтым часапісе было надрукавана шмат твораў беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў замежжа.

Лекцыя праф. **Уладзімера Сядуры** з Палітэхнічнага Інстытуту Рэнсэлер у Трой, штат Нью Ёрк, прысьвечаная была разгляду беларускіх драматургічных твораў, што былі напісаныя на эміграцыі.

Праф. др. **Янка Запруднік** з Квінскага Коледжу Гарадзкога Унівэрсытэту даў агляд зборнікаў паэзіі й усяе паэтычнае творчасьці Рыгора Крушыны.

Творчасьць паэты Масея Сяднёва разгледзела ў сваёй лекцыі праф. **Зоя Юр'ева** з Гарадзкога Унівэрсытэту Ню Ёрку

Рыхтуецца да друку, пад рэдакцыяй праф. **Томаса Бэрда,** зборнік працаў сымпозіюма. Апрача вышэй названых рэфэратаў, у кнізе будуць надрукаваныя нарысы зь гісторыі беларускае замежнае літаратуры ды дадзеныя інфармацыі пра беларускія замежныя літаратурныя згуртаваньні ды пра замежныя літаратурныя часапісы — „Крывіч", „Шыпшына", „Пагоня", „Сакавік", „Наперад", „Конадні", „Віці", „Баявая ўскалось" ды іншыя. У зборніку мае быць таксама дадзены, у ангельскім перакладзе, перадрук важнейшых літаратурных праграмна-дэклярыцыйных артыкулаў і матар'ялаў.

Кніга будзе карыснаю ўсім літаратураведам, якія цікавяцца беларускаю літаратурай ды канечнаю ўсім тым бібліятэкам, што маюць славянскія калекцыі. Зборнік будзе называцца: Queens Slavic Papers, volume 3. Modern Byelorussian Writing: Essays and Documents. Edited by Thomas E. Bird. Flushing, Queens College Press, 1976.

**В. Кіпель**

## ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЕ ЛІТАРАТУРЫ ПААНГЕЛЬСКУ

У Эўропе друкуецца гісторыя беларускае літаратуры ў ангельскай мове прафэсара Лёнданскага Унівэрсытэту Арнольда Б. МкМілліна, ведамага аўтара выдадзенае ў 1972 годзе, таксама паангельску, кнігі „Лексыка беларускае літаратурнае мовы XIX стагодзьдзя".

Англамоўная гісторыя беларускае літаратуры МкМілліна зьявіцца ў Нямеччыне, у сэрыі публікацыяў з галіны славянскіх літаратураў — Bausteine zur Geschichte der Literatur bei den Slawen, — што выходзяць пад рэдакцыяй Г. В. Гардэра й Г. Ротэ. Кніга друкуецца ў Гісэне ў выдавецтве Шміц.

Ангельскі назоў кнігі А. Б. МкМілліна: A History of Byelorussian Literature: From its Origin to the Present Day. Кніга, у якой будзе каля 400 бачынаў друку, мае грунтоўную бібліяграфію ды паказьнікі літаратурных твораў і асабовы. У ёй узятая на ўвагу й творчасьць выдатнейшых беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў замежжа. На зьмест кнігі складаецца, апрача ўводнага артыкулу, 19 гэткіх разьдзелаў:

1. Рэлігійная літаратура XII-XV ст.; 2. Летапісы й мэмуарная літаратура; 3. Францішак Скарына; 4. Проза XVI-XVII ст.; 5. Паэзія ад Францішка Скарыны да Сымона Полацкага; 6. XVIII стагодзьдзе; 7. Адраджэньне беларускае літаратуры (першая палавіна XIX ст.); 8. Вінцук Дунін-Марцінкевіч; 9. Францішак Багушэвіч; 10. Багушэвічавы сучасьнікі; 11. Нашаніўская пара; 12. Максім Багдановіч; 13. Алесь Гарун; 14. Янка Купала; 15. Якуб Колас; 16. Ад рэвалюцыі да вайны (1917-1945); 17. Зьмітрок Бядуля; 18. Кузьма Чорны; 19. Паваенная літаратура.

Кніга А. Б. МкМілліна, гэта першая большых памераў і надрукаваная кніжным выданьнем гісторыя беларускае літаратуры напісаная ў мове Заходняга Сьвету.

**В. Кіпель**

## НА НАВУКОВЫХ КАНФЭРЭНЦЫЯХ

На канфэрэнцыі 24. 5. 1975 г. „Славяне штату Мэрылэнду" ў горадзе Балтыморы **др. Вітаўт Кіпель** прачытаў даклад „Славянскія этнічныя групы ЗША й літаратура пра іх у гарадзкіх бібліятэках ЗША". Канфэрэнцыю ладзілі Эсэкскі штатны каледж, Украінская адукацыйная асацыяцыя й Таварыства польскае спадчыны ў штаце Мэрылэнд.

На канфэрэнцыі Дэтройцкага ўнівэрсытэту „Нацыяналізм у СССР і Усходняй Эўропе" 3-4. 10. 1975 г. даклады чыталі **др. Янка Запруднік** „Агульнае разьвіцьцё на Беларусі ад 1964 году" і **др. Вітаўт Кіпель** „Праблемы эканамічнага разьвіцьця Беларусі ад 1964 году". Старшынём сэсіі, на якой абмяркоўваліся абодва даклады, быў **др. Янка Садоўскі.** Кніга матар'ялаў канфэрэнцыі рыхтуецца да друку.

На канфэрэнцыі Амэрыканскае Асацыяцыі для Поступу Славянаведы (AAASS), — American Association for the Advancement of Slavic Studies, — што адбылася ў горадзе Атланта, штат Джорджыя, 8-11. 10. 1975 г., **др. Янка Запруднік** прачытаў даклад „Праблемы тэрміналёгіі й пэрыядызацыі гісторыі Беларусі". Тэкст дакладу й камэнтары да яго апублікаваныя ў: Nationalities Papers. The Association for the Study of the Nationalities (U.S.S.R. and East Europe). Vol. III, № 2. Fall 1975, pp. 25-59.

**Я. Запруднік**

# ВЫПІСВАЦЬ МОЖНА КНІЖКІ

## ВЫДАНЬНІ БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ И МАСТАЦТВА

**Максім Багдановіч.** Вянок паэтычнае спадчыны. 1960, 294 б. $ 5.00
**Андрэй Багровіч.** Жыхарства Беларускае ССР у сьвятле перапісу 1959 году. 1962, 88 б. 2.00
**Сымон Брага.** Міцькевіч і беларуская плынь польскае літаратуры. 1957, 32 б. 1.00
**С. Брага.** Доктар Скарына ў Маскве. 1963, 32 б. 1.00
**С. Брага.** Лякалізацыя жыцьцяпісу доктара Скарыны. 1965, 32 б. 1.00
**С. Брага.** Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры. 1967, 40 б. 1.00
**Адам Варлыга.** Прыказкі Лагойшчыны. 1966. Разам з дадаткам 1972 г. 124 б. 3.00
**Алесь Гарун.** Край мой васількովы. 12 песьняў на сярэдні голас з фартэпіянам. 1972, 32 б. 3.00
**Мікола Куліковіч.** Беларуская музыка. Кароткі нарыс гісторыі беларускага музычнага мастацтва. 1953, 64 б. 2.00
**Янка Купала.** Спадчына. Выбар паэзіі. 1955, 564 б. 15.00
**Скарынінскія юбілейныя маркі да 450-х угодкаў друку** на беларускай зямлі, Вільня 1522 — 1972. Цана аркушу, на якім 20 марак ды інфармацыйныя даведкі пабеларуску й паангельску пра доктара Ф. Скарыну й угодкі, 2.00
**Станіслаў Станкевіч.** Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-х гадоў. 1967, 170 б. 5.00
**Паўла Урбан.** У сьвятле гістарычных фактаў. 1972, 130 б. 3.00
КОНАДНІ, літаратурна-мастацка-навуковы часапіс. Кнігі 1-7, гады 1954 — 1963. Разам 688 б. 15.00
ЗАПІСЫ Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Кнігі 1 - 6, Ню Ёрк, 1952 — 1954, разам 386 б. 10.00
ЗАПІСЫ. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Кнігі 1 - 4, Мюнхен, 1962 — 1966, разам 1012 б. 30.00
ЗАПІСЫ. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Кніга 5. Скарыніяна 1517 — 1967 (Скарынінскі ўгодкавы зборнік). Мюнхен, 1970, 268 б. 10.00
ЗАПІСЫ. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Кніга 12. Ню Ёрк, 1974, 160 б. 5.00
Кніга 13. Ню Ёрк, 1975, 160 б. 8.00

**Цэны разам з коштамі перасылкі. Выпісваць на адрыс:**
Byelorussian Institute of Arts and Sciences
3441 Tibbett Avenue
Bronx, New York, 10463, U.S.A.



## КНІГІ ІНШЫХ ВЫДАВЕЦТВАЎ

**Anthony Adamovich.** Oposition to Sovietization in Belorussian Literature (1917 — 1957). 1958, 204 p. $ 10.00
**Kastuś Akula.** Tomorrow is yesterday. Novel. 1968, 225 p. 5.00
**Кастусь Акула.** Змагарныя дарогі. Аповесьць. 1962, 582 б. 12.00
**К. Акула.** Гараватка. Раман. Частка 1-ая: Дзярлівая птушка. 1965, 180 б. 5.00
**К. Акула.** Гараватка. Раман. Частка 2-ая: Закрываўленае сонца. 1974, 286 б. 10.00
**Maksim Bahdanovič.** Weissruthenische Heimat-Lyrik. Ins Deutsche übertragen von Eugen Freiherrn von Engelhardt. 1949, 12 S. 0.50
Беларускія казкі. 1957, 216 б. 5.00
**Адам Варлыга.** Народныя казкі пра ведзьмаў і нячысьцікаў. 1967, 40 б. 1.00
**А. Варлыга.** Народныя казкі пра краіну Ярылы. 1969, 40 б. 1.00
**А. Варлыга.** Народныя казкі пра жыцьцё-быцьцё. 1972, 40 б. 1.00
**А. Варлыга.** Чатыры ўрачыстасьці. Беларускія абрады. 1970, 54 б. 2.00
**А. Варлыга.** Народныя забабоны. 1972, 16 б. 1.00
**Adam Varlyha.** Krajovy słounik Łahojščyny. 1970, 172 b. 5.00
**A. Varlyha.** Praktyčnyja naziraňni nad našaj žyvoj movaj. 1966, 40 b. 1.00
**J. H.** Lemantar — Лемантар. Для школаў і хатняга навучаньня 1964, 96 б. 2.00
**J. H.** Dla małych dzietak — Для малых дзетак. Дзіцячы фальклёр. 1965, 56 б. 2.00
Дудар. Зборнік народных песьняў з нотамі. Сабраў **Я. Г.** 1970, 72 б. 3.00
**Максім Гарэцкі.** Выбраныя творы, том 3-ці (Творы забароненыя ў СССР). 1975, 160 б. 5.00
**Уладзімер Глыбінны.** На берагох пад сонцам. Апавяданьні і аповесьці. 1964, 192 б. 5.00
**У. Глыбінны.** На сьвятой зямлі. 1972, 120 б. 3.00
**Лукаш Калюга.** Нядоля Заблоцкіх. Аповесьць. 1954, 128 б. 3.00
**Якуб Колас.** Новая зямля. Паэма. 1952, 278 б. 5.00
**Я. Колас.** Сымон музыка.. Паэма. 1955, 246 б. 5.00
**Я. Колас.** У палескай глушы. Повесьць. 1957, 160 б. 5.00
**Алесь Кулакоўскі.** Дабрасельцы. Аповесьць. 1959, 110 б. 3.00
**Янка Купала.** Тутэйшыя. Трагічна-сьмяшлівыя сцэны ў 4-х дзеях. (Твор забаронены ў СССР). 1953, 84 б. 3.00
**Я. Купала.** Раськіданае гняздо. Драма. 1953, 74 б. 2.00
**Рыгор Крушына.** Лебедзь чорная. Вершы. 1947, 64 б. 1.00
**Р. Крушына.** Выбраныя творы. Вершы. 1957, 178 б. 5.00
**Р. Крушына.** Вячорная лірыка. Вершы. 1963, 108 б. 3.00
**Р. Крушына.** Хвіліна роздуму. Вершы. 1968, 72 б. 3.00
**Р. Крушына.** Вясна ўвосень. Вершы. 1972, 128 б. 3.00
**Р. Крушына.** Дарогі. Вершы. 1974, 112 б. 3.00

**Р. Крушына.** Сны і мары. Вершы. 1975, 112 б. 3.00

**Вацлаў Ластоўскі (Власт).** Творы. Апавяданьні. 1956, 112 б. 3.00

Ля чужых берагоў. Альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў. 1955, 240 б. 10.00

**Язэп Малецкі.** Пад знакам Пагоні. Успаміны. 1976, 200 б. 5.00

**Андрэй Мрый.** Запіскі Самсона Самасуя. Аповесьць. 1953, 88 б. 2.00

**Н. Недасек.** 1918 — 1948. Да 30-х угодкаў найвызначнейшых падзеяў нацыянальнага руху. Да 25 Сакавіка. 1948, 24 б. 0.50

**Валентына Пашкевіч.** Першая чытанка пасьля лемантара. 1968, 130 б. 3.00

**В. Пашкевіч.** Беларуская мова, частка 1-я. Fundamental Byelorussian. 1974, 344 б. У мяккой вокладцы — 10.00

у цьвёрдай вокладцы — 15.00

**В. Пашкевіч.** Беларуская мова, частка 2-я (друкуецца).

У мяккой вокладцы — 10.00

у цьвёрдай вокладцы — 15.00

Падручнік дае кароткі, але поўны курс беларускае фанэтыкі й марфалёгіі ў мовах беларускай і ангельскай, беларускія ткcты для чытаньня, практыкаваньні ды беларуска-ангельскі й ангельска-беларускі слоўнікі.

**Васіль Рагуля.** Успаміны. 1957, 128 б. 3.00

САКАВІК. Літаратурна-грамадзкі часапіс. 1948, № 2, 3. Разам 88 б. 2.00

**Алесь Салавей.** Сіла гневу. Лірыка. 1948, 96 б. 1.00

**Юрий Стукалич. (Юрка Віцьбіч).** Мы дойдем! Очерки, статьи, фельетоны. 1975, 156 б. 5.00

**Масей Сяднёў.** Патушаныя зоры. Вершы. 1975, 280 б. 5.00

**Мікола Цэлеш.** Дзесяць апавяданьняў. 1965, 96 б. 3.00

**С. Юстапчык.** Каханы горад. Завязка раману. 1948, 82 б. 1.00



## ЗЬМЕСТ

## CONTENTS

ARTICLES



MEMOIRS



NOTES



DOCUMENTS





CHRONICLES